**Над нумарам працавалі:**

**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**
(redaktor/рэдактар)

**Tatsiana Kasataya / Тацяна Касатая**
(sekretarz redakcji/сакратар рэдакцыі)

**Maciej Wilczyński / Мацей Вільчыньскі**
(sekretarz techniczny/тэхнічны сакратар;
tłumaczenia białorusko-polskie/пераклады беларуска-польскія)

**Aliaksandr Perahudau i Jerzy Malicki / Аляксандр Перагудаў і Ежы Маліцкі** (projekt okładki/праект вокладкі)

**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**
(korekta tekstów białoruskich/карэктура беларускіх тэкстаў)

**Kinga Górka / Кінга Гурка**
(korekta tekstów polskich/карэктура польскіх тэкстаў)

**Bolesław Jaworski / Баляслаў Яворскі**
(tłumaczenia polsko-angielskie/пераклады польска-англійскія)

**Hubert Karasiewicz / Губерт Карасевіч**
(skład i łamanie/камп'ютарная вёрстка)

**Recenzenci / Рэцэнзенты:**

Prof. dr hab Eugieniusz Mironowicz; dr hab Oleg Łtyszonek prof UwB; docent dr Wital Hałubowicz; docent dr Albina Semianchuk; docent dr Siarhiej Snop / праф. др. габ. Яўген Міpановіч, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку; дацэнт к.г.н. Віталь Галубовіч; дацэнт к.г.н. Альбіна Семянчук; дацэнт к.ю.н. Сяргей Сноп






**Spis treści / Змест**

## Słowo wstępne dyrektora studium europy wchodniej

Mamy oto przed oczyma pierwszy tom nowego czasopisma naukowego – „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich"/"Hadawik Centra Bielaruskich Studyjau", który jest zbiorem tekstów badaczy białoruskich, którzy znaleźli swe miejsce w Centrum Studiów Białoruskich, nowo utworzonym przy Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego. Nie sposób wszakże zrozumieć – dlaczego takie pismo powstało?, – dlaczego takie Centrum powstało?, – dlaczego w Polsce?, – dlaczego właśnie przy Studium Europy Wschodniej? – jeżeli nie cofniemy się o lat dziesięć, aby przekazać tło obecnej sytuacji.

19 marca 2006 roku wybory prezydenckie na Białorusi doprowadziły do masowych protestów, a w związku z tym do aresztowań i represji wobec działaczy opozycyjnych oraz dużej fali relegowania ze studiów schwytanych na demonstracjach studentów. Reakcją Polski na te wydarzenie było uruchomienie „Programu Stypendialnego Rządu RP im. Konstantego Kalinowskiego pod Patronatem Prezesa Rady Ministrów RP".

Już 30 marca 2006 roku ówczesny premier Rządu RP Kazimierz Marcinkiewicz i Aleksander Milinkiewicz, ówczesny przedstawiciel Bloku Zjednoczonych Sił Demokratycznych na Białorusi oraz delegaci Konferencji Rektorów Uniwersytetów Polskich (KRUP) i Konferencji Rektorów Akademickich Szkół Polskich (KRASP) podpisali list intencyjny dotyczący powstania Programu na Uniwersytecie Warszawskim. Program został umieszczony przy Studium Europy Wschodniej UW. Jest największym w Europie programem pomocowym dla młodych Białorusinów nie mogących studiować na Białorusi ze względu na swoje poglądy polityczne. Dzięki tej inicjatywie powstała niespotykana dotąd możliwość wykształcenia w duchu demokratycznym i europejskim nowych elit białoruskich.

W roku 2016 Program będzie obchodził jubileusz 10 lat istnienia. Doczekał się 274 absolwentów. Corocznie Studium integruje środowisko skupione wokół Programu, organizując od 2012 r. coroczne „Zjazdy Studentów i Stypendystów".

Uruchomienie i działalność Programu im. Konstantego Kalinowskiego stała się początkiem coraz większego zaangażowania Studium w projekty związane z kształceniem studentów z Białorusi i wsparcia dla białoruskich naukowców. Poza stypendium na odbycie



## Уступнае слова дырэктара Студыюма Усходняй Еўропы

Перад нашымі вачыма першы том новага навуковага часопіса "Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў"/„Rocznik Centrum Studiów Białoruskich". Гэта збор тэкстаў беларускіх даследчыкаў, якія працуюць у Цэнтры Беларускіх Студыяў, створаным пры Студыюме Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта (SEW UW). Для таго каб зразумець, чаму паўстаў гэты часопіс, а таксама чаму паўстаў такі цэнтр, чаму ў Польшчы, чаму менавіта пры Студыюме Усходняй Еўропы, – трэба зірнуць на дзесяць гадоў назад, калі фармаваўся кантэкст сучаснай сітуацыі.

19 сакавіка 2006 года прэзідэнцкія выбары ў Беларусі прывялі да вялікай хвалі масавых пратэстаў, арыштаў і рэпрэсій супраць апазіцыйных дзеячоў, да адлічэнняў з ВНУ студэнтаў, якія прымалі ўдзел у дэманстрацыях. Рэакцыяй Польшчы на гэтыя здарэнні было з'яўленне "Стыпендыяльнай Праграмы Урада РП імя Кастуся Каліноўскага пад патранатам прэм'ер-міністра Урада РП".

Ужо 30 сакавіка 2006 года тагачасны прэмьер-міністр Казімеж Марцінкевіч і Аляксандр Мілінкевіч (тагачасны прадстаўнік Блока Аб'яднаных Дэмакратычных Сіл у Беларусі), а таксама дэлегаты Канферэнцыі Рэктараў Польскіх Універсітэтаў (Konferencji Rektorów Uniwersytetów Polskich (KRUP) і Канферэнцыі Рэктараў Польскіх Вышэйшых Школ (Konferencji Rektorów Akademickich Szkół Polskich (KRASP) падпісалі ліст аб намеры стварыць Праграму ў Варшаўскім універсітэце. Праграма размясцілася пры Студыюме Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Гэта самая вялікая ў Еўропе праграма дапамогі для маладых беларусаў, якія не маюць магчымасці вучыцца ў Беларусі з-за сваіх палітычных поглядаў. Дзякуючы гэтай ініцыятыве ўзнікла неверагодная магчымасць для новых беларускіх эліт атрымаць вышэйшую адукацыю ў дэмакратычным еўрапейскім духу.

У 2016 годзе Праграма адзначае 10-гадовы юбілей. 274 асобы атрымалі дыпломы, дзякуючы ёй. Штогод SEW UW збірае асяроддзе, аб'яднанае Праграмай, арганізуючы з 2012 года штогадовыя "З'езды студэнтаў і стыпендыятаў".

Заснаванне і дзейнасць Праграмы імя Кастуся Каліноўскага паклалі пачатак усё большага ўключэння SEW UW у праекты,

studiów licencjackich i magisterskich w Polsce stworzono również możliwość uczestnictwa w studiach doktoranckich, podyplomowych oraz stażach naukowych.

Kolejny impuls do działania na „polu białoruskim” (z pewnością nie z tym zamiarem) dały nam władze Uniwersytetu Grodzieńskiego im. Janki Kupały, które w 2012 r. podjęły decyzję o zwolnieniu młodego historyka, zresztą absolwenta „Studiów Wschodnich” SEW UW, Andreja Czarniakiewicza za współautorstwo książki „Grodoznawstwo” o historii Grodna. Za tym poszły kolejne zwolnienia naukowców, a także i rezygnacje z pracy na znak obrony i protestu.

Opisana powyżej sytuacja, jak również sukcesy Programu im. Konstantego Kalinowskiego, skłoniły Studium do pójścia o krok dalej i stworzenia na Uniwersytecie Warszawskim (przy SEW UW) Centrum Studiów Białoruskich (CSB). Celem powstania Centrum jest umożliwienie pracy i rozwoju w dwóch aspektach (dydaktycznym i badawczym), białoruskim naukowcom, których działalność ograniczono na Białorusi. W ramach CSB pracuje 11 białoruskich historyków, głównie z Grodna. To grupa osób zwolnionych z pracy z przyczyn politycznej, niezależnego prowadzenia badań, publikacji materiałów uznawanych przez Białoruskie władze za „niewłaściwe”, czy wręcz „szkodliwe”. Wszystkim tym osobom uniemożliwiono prowadzenie we własnym kraju niezależnych, uczciwych badań naukowych.

Pracownicy CSB będą prowadzić zajęcia ogólnouniwersyteckie na UW, jak również seminaria specjalistyczne dla stypendystów i absolwentów Programu im. Konstantego Kalinowskiego. Biorą aktywny udział w projektach badawczych dotyczących historii i współczesności Białorusi.

W skład Centrum włączyliśmy również działalność założonej przez Andreja Vardomatskiego (wcześniej naukowego stażysty Programu KK) „Białoruskiej Analitycznej Majsterni”. Zajmuje się ona badaniem społeczeństwa białoruskiego. Pod jej egidą wydawane są dwumiesięczne wyniki badań analitycznych. W ciągu 2013 i 2014 roku odbyło się 12 prezentacji prac grupy. Obecnie prace Majsterni skupiają się na wpływie sytuacji na Ukrainie na społeczeństwo białoruskie. Swoją działalność opiera ona na własnej, ogólnokrajowej siatce ankieterów.

Jedną z form aktywności Centrum Studiów Białoruskich miało być także w samym założeniu wydawanie czasopisma – rocznika, który zawierał będzie zarówno artykuły pracowników Centrum, stanowiące



звязаныя з навучаннем студэнтаў з Беларусі і падтрымкай беларускіх навукоўцаў. Акрамя стыпендый для навучання на ліцэнцыяцкіх і магістарскіх узроўнях у Польшчы, створана таксама магчымасць скончыць аспірантуру, атрымаць паслядыпломную адукацыю, навуковыя стажыроўкі.

Чарговы імпульс для дзейнасці на беларускай ніве (напэўна не маючы такога намеру) далі нам улады Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, якія ў 2012 г. прынялі рашэнне аб звальненні маладога гісторыка (зрэшты, выпускніка Усходніх Студыяў/„Studiów Wschodnich” SEW UW) Андрэя Чарнякевіча за сааўтарства ў кнізе аб гісторыі Гродна “Гродназнаўства”. За гэтым пачаліся чарговыя звальненні навукоўцаў, а таксама адмаўленні ад працы ў знак пратэсту і салідарнасці з калегамі.

Апісаная вышэй сітуацыя, як і поспехі Праграмы імя Кастуся Каліноўскага, схілілі SEW UW пайсці далей і стварыць у Варшаўскім універсітэце (пры SEW UW), перш за ўсё дзякуючы дапамозе і добразычлівасці МЗС, Цэнтр Беларускіх Студыяў (ЦБС). Мэтай Цэнтра з’яўляецца магчымасць працаваць і развівацца ў двух накірунках (дыдактычным і даследчыцкім) беларускім навукоўцам, дзейнасць якіх абмежавана ў Беларусі. У рамках ЦБС працуюць 11 беларускіх гісторыкаў, галоўным чынам з Гродна. Гэта група асоб, звольненых з працы па палітычных прычынах, а таксама за тое, што праводзілі незалежныя даследаванні, публікавалі матэрыялы, якія ўлады лічылі “непатрэбнымі” і нават “шкоднымі”. Усім гэтым асобам нельга весці ў сваёй краіне незалежныя навуковыя даследаванні.

Супрацоўнікі ЦБС будуць праводзіць агульнаўніверсітэцкія заняткі ў Варшаўскім універсітэце, а таксама спецыяльныя семінары для стыпендыятаў і выпускнікоў Праграмы імя Кастуся Каліноўскага. Яны прымаюць актыўны ўдзел у даследчых праектах, якія датычаць гісторыі і сучаснасці Беларусі.

У склад ЦБС мы ўключылі таксама створаную Андрэем Вардамацкім (ён раней праходзіў стажыроўку па Праграме Каліноўскага) „Беларускую Аналітычную Майстэрню”. Яна займаецца даследаваннем беларускага грамадства. Пад яе эгідай выдаюцца 2-месячныя вынікі аналітычных даследаванняў. На працягу 2013 і 2014 гадоў адбыліся 12 прэзентацый прац групы. Зараз супрацоўнікі Майстэрні засяроджаныя на вывучэнні ўплываў сітуацыі ва Украіне

owoce ich badań i zainteresowań ale również inne ciekawe teksty i prace dotyczące Białorusi.

Jest mi niezmiernie miło oddać w Państwa ręce pierwszy zeszyt „Rocznika Centrum Studiów Białoruskich" / „Hadawika Centra Bielaruskich Studyjau" – pierwszy owoc wspólnego wysiłku zespołu Centrum.

**Jan Malicki**



на беларускае грамадства. У сваёй дзейнасці яна абапіраецца на ўласную агульнабеларускую сетку анкецёраў.

Адной з форм дзейнасці ЦБС з моманту яго стварэння павінна было стаць заснаванне і выданне часопіса – гадавіка, які будзе ўтрымліваць артыкулы як супрацоўнікаў цэнтра, плён іх даследаванняў і зацікаўленняў, так і іншыя цікавыя тэксты і працы, датычныя Беларусі.

Я вельмі ўсцешаны, аддаючы ў рукі чытачоў першы сшытак „Rocznika Centrum Studiów Białoruskich" / „Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў", – першы вынік супольнага высілку калектыву цэнтра.

**Ян Маліцкі**

## Słowo wstępne kierownika Centrum Studiów Białoruskich

Centrum Studiów Białoruskich (CSB) zostało utworzone na Uniwersytecie Warszawskim w październiku 2015 r. dzięki inicjatywie i staraniom Konsula Generalnego RP w Grodnie Andrzeja Chodkiewicza i Dyrektora Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego Jana Malickiego. Idea Centrum powstała jako chęć pomocy białoruskim kolegom – historykom zwolnionym lub pozbawionym możliwości pracy, z przyczyn ideologicznych, na Państwowym Uniwersytecie Grodzieńskim im. Janki Kupały. Z tego powodu w Centrum zebrali się przede wszystkim historycy grodzieńscy, a do nich dołączyli również Hienadź Sahanowicz i socjolog Andrej Wardamacki. Skład personalny CSB na chwilę obecną znajduje się na etapie formowania.

CBS jest przede wszystkim dydaktyczną jednostką strukturalną w ramach Studium Europy Wschodniej. Członkowie Centrum są zatrudnieni jako wykładowcy i główną ich pracą jest prowadzenie zajęć ogólnouniwersyteckich, w tym również dla białoruskich studentów, którzy studiują na Uniwersytecie Warszawskim.

Wiadomo, że Centrum planuje prowadzić działalność naukową, na którą będzie składać się coroczna konferencja listopadowa, cokwartalne seminaria i czasopisma – „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich”. Pracownicy Centrum będą kontynuować badania zgodne z ich zainteresowaniami naukowymi, a że większość z nich jest historykami, to i tematyka będzie odpowiednia – różne aspekty historii Białorusi.

„Rocznik CSB” to czasopismo naukowe z obowiązkową recenzją przesyłanych artykułów. Do publikacji przyjmowane są teksty z najróżniejszych dziedzin nauk humanistycznych, poświęcone problematyce białoruskiej. Główne języki to białoruski, polski i angielski.

Pierwszy tom „Rocznika CSB” ma za zadanie zaświadczyć o naszej obecności i nastawieniu na płodną pracę. Jego treść składa się z materiałów pierwszej konferencji CSB, która odbyła się w Warszawie, 14 listopada 2015 r.

**Aliaksandr Kraucewicz**



## Уступнае слова кіраўніка Цэнтра Беларускіх Студыяў

Цэнтр Беларускіх Студыяў (ЦБС) створаны ў Варшаўскім універсітэце ў кастрычніку 2015 г. дзякуючы ініцыятыве і старанням Генеральнага Консула Рэспублікі Польшча ў Гродне Анджэя Хадкевіча і Дырэктара Студыяў Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта Яна Маліцкага. Ідэя цэнтра ўзнікла праз імкненне дапамагчы беларускім калегам-гісторыкам, па ідэалагічных прычынах звольненым ці пазбаўленым магчымасці працы ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце імя Янкі Купалы. Таму ў цэнтры сабраныя найперш гродзенскія гісторыкі, да якіх далучыліся Генадзь Сагановіч і сацыёлаг Андрэй Вардамацкі. Персанальны склад ЦБС пакуль знаходзіцца ў стадыі фармавання.

ЦБС з’яўляецца найперш дыдактычнай структурнай адзінкай у складзе Студыяў Усходняй Еўропы. Сябры цэнтра прынятыя на працу на пасады выкладчыкаў і асноўнай працай маюць вядзенне агульнаўніверсітэцкіх заняткаў-лекцый, у тым ліку для студэнтаў-беларусаў, якія навучаюцца ў Варшаўскім універсітэце.

Зразумела, цэнтр плануе весці навуковую дзейнасць, на якая будзе складацца са штогадовай лістападаўскай навуковай канферэнцыі, квартальных семінараў і выдання перыёдыка – «Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў». Працаўнікі цэнтра будуць працягваць даследаванні паводле сваіх навуковых інтарэсаў, а паколькі амаль усе яны гісторыкі, то і тэматыка будзе адпаведная – розныя аспекты гісторыі Беларусі.

«Гадавік ЦБС» – навуковае перыядычнае выданне з абавязковым рэцэнзаваннем дасланых артыкулаў. Да публікацыі прымаюцца тэксты з самых розных галін гуманітарных навук, прысвечаныя беларускай праблематыцы. Асноўныя мовы – беларуская, польская і англійская.

Першы том «Гадавіка ЦБС» мае мэтай засведчыць нашую прысутнасць і настрой на плённую працу. Яго змест складаюць матэрыялы першай канферэнцыі ЦБС, якая прайшла ў Варшаве 14 лістапада 2015 г.

**Аляксандр Краўцэвіч**

## Od redaktora

Naukowych wydawnictw w dziedzinie nauk humanistycznych nigdy nie jest za dużo. Sama istota humanistyki oraz rozpiętość i różnorodność przestrzeni badawczej zakłada powstawanie nowych projektów, które będę odpowiadały współczesnemu poziomowi myślenia i dyskursu historycznego. Powstanie Centrum Studiów Białoruskich przy Uniwersytecie Warszawskim, pojawienie się przy nim nowego wydawnictwa – „Rocznika Centrum Studiów Białoruskich" – jako organicznej i nieodłącznej jego części, pozwala zakładać, że zostanie zrobiony nowy krok w kierunku badań kompleksowych i multidyscyplinarnych.

Na łamach „Rocznika CSB" będą publikowane wszystkie główne gatunki tekstów naukowych bez ograniczeń tematycznych czy chronologicznych z dziedzin historycznych, socjologicznych, kulturoznawczych czy prawnych. Mogą to być artykuły tematyczne i raporty, przeglądy historyczne, źródła i materiały, wywiady i dyskusje, recenzje i opisy najnowszej literatury, jak również sprawozdania z działalności CSB z całego roku. Od samego początku planuje się szeroką dystrybucję nowego periodyku w Białorusi oraz w białoruskim środowisku naukowym i kulturowym. Dlatego też przeważa w nim język białoruski i tematyka białoruska. Osobne miejsce na łamach „Rocznika CSB" zajmą badania nad relacjami polsko–białoruskimi w przeszłości i teraźniejszości, jak kolwiek nie byłyby one skomplikowane.

Bieżący numer „Rocznika CSB" został przygotowywany w ograniczonym czasie. Opublikowane artykuły dobrze pokazują naukowe zainteresowania autorów. Odpowiedzialność za swoje teksty ponoszą właśnie oni, natomiast za błędy – redakcja. Mamy nadzieję, że prawdziwe oblicze zbioru, jego różnorodność i poziom naukowy, będzie wyznaczony w dużym stopniu przez naszych autorów – współpracowników CSB, jak również naukowców z Białorusi, Polski i innych krajów.

Wielkie znaczenie mają dla nas opinie naszych czytelników. Redakcja otwarta jest na krytykę i konstruktywne rozmowy, propozycje i inicjatywy. Państwa stanowisko będzie sprzyjało rozwojowi formy i wartościowemu wypełnieniu treścią „Rocznika Centrum Studiów Białoruskich". W drogę!

**Henadź Semianchuk**



## Ад рэдактара

Навуковых выданняў у гуманітарнай галіне ведаў ніколі не бывае зашмат. Сама сутнасць гуманістыкі, шырыня і разнастайнасць прастораў даследаванняў, прадугледжвае нараджэнне новых праектаў, якія будуць адпавядаць сучаснаму ўзроўню мыслення і гістарычнага дыскурсу. Паўстанне Цэнтра Беларускіх Студыяў пры Варшаўскім універсітэце, з'яўленне пры ім новага выдання – "Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў" – як арганічнай і неабходнай часткі, дазваляюць спадзявацца, што будзе зроблены новы крок у напрамку комплексных, мультыдысцыплінарных даследаванняў.

На старонках „Гадавіка ЦБС" прадугледжваюцца ўсе асноўныя жанры навуковых публікацый без храналагічнага і тэматычнага абмежавання па гістарычных, сацыялагічных, культуразнаўчых, правазнаўчых тэмах. Гэта могуць быць праблемныя артыкулы і паведамленні, гістарыяграфічныя агляды, крыніцы і матэрыялы, інтэрв'ю і дыскусіі, рэцэнзіі і анатацыі найноўшай літаратуры, а таксама справаздачы дзейнасці ЦБС за гадавыя перыяды. Ад пачатку новы перыёдык плануецца для шырокага распаўсюджвання на Беларусі, у беларускім навуковым і культурніцкім асяроддзі. Адсюль перавага беларускай мовы і беларусазнаўчай тэматыкі. Належнае месца на старонках "Гадавіка ЦБС" займуць таксама даследаванні польска-беларускіх адносін у мінулым і ў сучаснасці, якімі б складанымі яны ні былі.

Гэты нумар "Гадавіка ЦБС" рыхтаваўся ў абмежаваныя тэрміны. Артыкулы, апублікаваныя ў ім, добра прадстаўляюць індывідуальныя навуковыя зацікаўленасці аўтараў. Адказнасць за свае тэксты нясуць менавіта яны, а за памылкі – рэдакцыя. Мы маем надзею, што сапраўднае аблічча зборніка, яго разнастайнасць і навуковы ўзровень будуць у значнай ступені вызначацца публікацыямі нашых аўтараў – супрацоўнікаў ЦБС, а таксама навукоўцаў з Беларусі, Польшчы і іншых краін.

Вялікае значэнне для нас маюць меркаванні будучых чытачоў. Рэдакцыя адкрытая на крытыку і канструктыўныя размовы, прапановы і ініцыятывы. Ваша пазіцыя будзе спрыяць развіццю формы і якаснаму напаўненню зместу "Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў". У добры шлях!

**Генадзь Семянчук**

**Генадзь Семянчук**
**(Варшава/Гродна)**

## Пачаткі дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў IX – пачатку XI ст.[1]

У дадзеным даследаванні мы паставілі перад сабой задачу разгледзець інфармацыйныя магчымасці наяўных археалагічных і гістарычных крыніц па выяўленні ранніх дзяржаватворчых працэсаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, якія адбываліся ў апошніх стагоддзях I тысячагоддзя н. э. Сёння нас ужо не задавальняюць існуючыя ў навуцы інтэрпрэтацыі дадзеных працэсаў на тэрыторыі Усходняй Еўропы (і на беларускіх землях у прыватнасці) па прычыне іх ідэалагічнай заангажаванасці, тэарэтычнай і метадалагічнай састарэласці. Пры нават самым павярхоўным аналізе вылучаецца шэраг дамінуючых парадыгмаў, якія аб'ядноўваюць савецкіх, постсавецкіх і пераважную большасць сучасных расійскіх, беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў, і якія грунтоўна ўкараніліся ў навуковых дыскурсах названых нацыянальных гістарыяграфій.

Па-першае, "усходнеславянскі этнацэнтрызм". Паводле дадзенай тэорыі, дзяржаватворчыя працэсы на тэрыторыі Усходняй Еўропы да сярэдзіны XIII ст. адбываліся толькі ў асяроддзі такой навуковай абстракцыі, як "усходнія славяне", асабліва на ранніх стадыях (VI-X стст.). Яны быццам бы сваім прыкладам і практыкай сталі ўзорам і рухаючай сілай для суседніх фінскіх і балцкіх народаў. Толькі "ўсходнеславянскія племянныя княжанні", вядомыя з этнагенетычнага ўступу *Аповесці мінулых гадоў*, з'явіліся асновай будучых тэрытарыяльных княстваў, якія былі аб'яднаныя ў раннюю ўсходнеславянскую дзяржаву "Старажытная Русь" (чарговая навуковая фікцыя і абстракцыя): крывічы для Полацкага і Смаленскага, дрыгавічы для Тураўскага, паляне для Кіеўскага, севяране для Чарнігаўскага, славене для Наўгародскага, валыняне для Валынскага, вяцічы для Уладзімірска-Суздальскага.

1 Прапанаваны тэкст з'яўляецца скарочанай беларускамоўнай версіяй супольнага з праф. Алегам Латышонкам англамоўнага даклада, зробленага на World Congress on State Origins and Related Subjects, які адбыўся 8-13 верасня 2014 года ў Віграх (Польшча).



Па-другое, "эвалюцыянізм". Маецца на ўвазе, што генезіс дзяржаватворчых працэсаў у асяроддзі "усходніх славян" меў ад V-VI стст. характар павольнага, але прагрэсіўнага пераходу ад плямён (яшчэ адна навуковая абстракцыя) – праз племянныя княжанні і Кіеўскую Русь канца IX-X ст. – да Старажытнарускай дзяржавы. Дадзены погляд поўнасцю адмаўляе знешнія ўплывы, войны, захопы, дамовы з больш моцнымі і лепш арганізаванымі этнакультурнымі сіламі (у рэдкіх выпадках яны адзначаюцца як неістотная дробязь).

Па-трэцяе, "антынарманізм". Паводле дадзенай тэорыі, дзяржава "Русь", як адзіная на тэрыторыі Усходняй Еўропы, – гэта твор ўсходніх славян з невялічкімі дадаткамі іншых народаў, а нарманскія ўплывы – гэта малазначны фактар. Праўда, трэба прызнаць, што асобныя сучасныя расійскія і ўкраінскія даследчыкі, дзякуючы намаганням у першую чаргу археолагаў, усё больш эвалюцыянуюць у бок "нарманізму".

Па-чацьвёртае, "старажытнарускасць". Пад такой умоўнай дэфініцыяй мы разумеем погляд, паводле якога стварэнне дзяржавы "Старажытная Русь" нібыта было запраграмавана ў развіцці ўсходнеславянскага насельніцтва Ўсходняй Еўропы ў другой палове I тыс. н. э. Менавіта да гэтай вяршыні яно ўвесь час нібыта падымалася, і іншага выніку ў гісторыі народаў Усходняй Еўропы не было прадугледжана. Таму большасць даследчыкаў вывучае прычыны, шляхі, агульнае і асаблівае ў фармаванні прыдуманай імі Старажытнарускай дзяржавы, а не гістарычныя рэаліі, якія шмат у чым разыходзяцца з сучаснымі гістарыяграфічнымі разважаннямі.

У прасторавым вымярэнні тэматыка нашага даследавання ахоплівае тэрыторыю ад Заходняга Буга на захадзе да Дняпра і Пасожжа на ўсходзе, сярэдняга Падзвіння і сярэдняга Панёмання на поўначы да правых прытокаў Прыпяці і сярэдняга Падняпроўя на поўдні. Храналагічна мы будзем разглядаць адрэзак часу прыкладна ў 550 год – ад першых ускосных узгадак аб Усходняй Еўропе ў візантыйскіх аўтараў VI ст. да смерці ў 1015 годзе кіеўскага князя Уладзіміра Святаслававіча.

Праз беларускую тэрыторыю, як вядома, праходзіць галоўны водападзел еўрапейскіх рэк паміж басейнамі Балтыйскага і Чорнага мораў. Ён цягнецца ў дыяганальным накірунку з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, а канкрэтней – на

захадзе паміж Слонімам і Пінскам, на поўнач ад Мінска і Заслаўля, Барысава і Смаленска, на поўдзень ад Гжацка (Гагарына). Рэк, якія працякаюць праз беларускія землі, дастаткова шмат. Гэта перадусім Заходняя Дзвіна і Днепр, якія разам з Волгай маюць свае пачаткі ў летапісным Акоўскім лесе. Усе яны багатыя на прытокі, важнейшымі з якіх лічацца дняпроўскія Дзясна, Прыпяць, Бярэзіна і Сож. Вялікае значэнне ў заходняй Беларусі належала р. Нёман з прытокамі, а таксама часткова Заходняму Бугу. Рэкі ў старажытнасці былі асноўнымі шляхамі пераадолення прасторы і каланізацыі, вызначалі размяшчэнне паселішчаў, служылі крыніцай вады і пракорму.

Глебы беларускай тэрыторыі адносяцца збольшага да паўночнай альбо азёрнай геамарфалагічнай акругі. Яны ўзніклі на старажытных дэвонскіх адкладах і характарызуюцца дзярнова-падзолістасцю і адносна невялікай ураджайнасцю. Карысных выкапняў, якія былі даступныя чалавеку ў старажытнасці (балотныя руды, ганчарныя гліны, вапна), было няшмат, але дастаткова для мінімальнага задавальнення гаспадарчых патрэб. Раслiннасць у старажытнасці вылучалася багаццем лясных масіваў і пушчаў і невялікай па плошчы колькасцю лугоў. На падзолістых глебах звычайна рос змешаны лес: елка, сасна, бяроза, асіна, белая альха. Шырокія лясы і балоты падзялялі лакальныя папуляцыі на тэрыторыі Беларусі, але, дзякуючы мноству рэк і пратокаў, яны ніколі не былі цалкам непраходнымі рубяжамі для чалавека. Асновай вядзення гаспадаркі ў лясной зоне стала падсечна-агнявое земляробства ў спалучэнні з хатняй жывёлагадоўляй. Найбольш спрыяльны для збірання стабільнага ўраджаю клімат усталяваўся ў VIII–XI стст., на гэты час прыходзіцца паступовае пацяпленне і змяншэнне ападкаў[2]. Кліматычныя змены не проста сталі тым фонам, на якім адбываліся каланізацыя і сацыяльныя трансфармацыі ва Усходняй Еўропе, яны былі часткай гэтых працэсаў. Развіццё ўнутранай каланізацыі і пасяленчай структуры ў межах Беларусі непасрэдна залежала ад асаблівасцей ландшафту. Там, дзе зямля і рэльеф дазвалялі весці земляробства, узнікалі гнёзды паселішчаў, віравала гаспадарчая

2 Е. П. Борисенков, В. М. Пасецкий, *Экстремальные природные явления в русских летописях,* Ленинград 1983, с.75-91.



дзейнасць, у той час як неўрадлівыя, забалочаныя тэрыторыі заставаліся зонамі адчужэння і палявання.

З V па VIII стст., на працягу амаль 400 год, тэрыторыя Беларусі прадстаўляла сабой з археалагічнага пункту гледжання мазаіку, якая складалася з шэрагу археалагічных культур: пражская на поўдні, калочынская на ўсходзе і паўднёвым усходзе, смаленска-полацкіх доўгіх курганоў на паўночным усходзе, усходнелітоўскіх курганоў на паўночным захадзе, у цэнтры – банцараўская. На захадзе, і часткова ў цэнтры, назіраецца пэўная пустэча. На 1999 г. усіх помнікаў трэцяй чвэрці I тыс. н. э. выяўлена і картаграфавана 186[3]. Натуральна, мы разумеем, што малая колькасць, з аднаго боку, ёсць вынікам слабога вывучэння беларускай тэрыторыі археолагамі, з іншага боку, аб'ектыўным фактам з'яўляецца і малалікасць насельніцтва ў тыя часы. Важныя і цікавыя дыскусіі аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў пералічаных культур, а таксама іх генезіс пакінем на пэўны час у баку ад нашых разважанняў. У першую чаргу звернем увагу на сацыяльна-культурныя, сацыяльна-эканамічныя, палітычна-культурныя і ідэалагічныя змены.

Усе названыя археалагічныя культуры адносяцца да насельніцтва, якое адаптавалася да лясной жыццёвай прасторы з элементамі земляробства на даволі нізкім узроўні. Гэта дазваляе вылучыць шмат агульных рысаў у большасці названых археалагічных культур, прадставіць пэўную мадэль. Дамінуючым тыпам паселішчаў з'яўляюцца неўмацаваныя селішчы плошчай ад 0,7 да 2 га. Гарадзішчы з'яўляюцца выключэннем. У арэале пражскай культуры вывучаныя толькі тры помнікі дадзенай катэгорыі – Хотамель (раскапаны амаль поўнасцю), Харомск, Хільчыцы, якія маюць невялічкую плошчу каля 40 кв. м, з мінімальнымі культурнымі напластаваннямі, што датуюцца на падставе фрагментаў керамічнага посуду і адзінкавых прадметаў VII ст. На думку спецыялістаў, дадзеныя гарадзішчы не з'яўляліся месцамі сталага пражывання, а адыгрывалі ролю ўмацаванага сховішча, магчыма, цэнтраў грамадскага і рэлігійнага жыцця. Гэтак жа характарызуюцца гарадзішчы ў арэалах калочынскай (Калочын

3 *Археалогія Беларусі ў 4 т.*, т. 2, *Жалезны век і ранняе сярэднявечча,* рэд. В. І. Шадыра, В. С. Вяргей, Мінск 1999, раздзел 7, мал. 96.

I) і банцараўскай культур (Гарадзішча Мядзельскага р-на)[4]. У межах культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў і ўсходнелітоўскіх курганоў умацаваных паселішчаў увогуле не выяўлена.

Носьбіты пражскай, калочынскай і банцараўскай культур пераважна жылі ў паўзямлянках памерамі ад 6 да 24 кв. м з печкамі-каменкамі альбо іншымі прымітыўнымі сістэмамі ацяплення. На поўначы Беларусі сустракаюцца халупы слупавай канструкцыі. Суседнічаюць з жытламі гаспадарчыя ямы. Выяўленыя рэшткі матэрыяльнай культуры таксама не вылучаюцца багаццем і разнастайнасцю. Пераважаюць грубаляпныя гаршкі простых формаў амаль без арнаменту, якія падзяляюцца толькі на кухонны і сталовы (у меншай колькасці) посуд, а таксама тару. Прадметы побыту і гаспадарчай дзейнасці прадстаўленыя нешматлікімі нажамі, зробленымі з чорнага металу, фрагментамі сярпоў, сякер, рыбалоўнымі кручкамі і рэдкімі прадметамі ўзбраення ў выглядзе наканечнікаў стрэл. Большасць з іх выраблялася з мясцовых балотных рудаў. Існуе добрая калекцыя гліняных праселак – характэрных элементаў хатняга ткацтва. Прадметы імпарту сапраўды адзінкавыя, прадстаўленыя пераважна жаночымі ўпрыгожваннямі.

Пахавальная культура вельмі аднастайная: гэта грунтовыя могільнікі з ямнымі і урнавымі пахаваннямі па абрадзе трупаспалення. Пахавальны інвентар (па-за доўгімі курганамі) амаль адсутнічае, калі не лічыць нешматлікія керамічныя вырабы. Пералічаныя даследчыкамі курганы ў арэале пражскай і калочынскай культур з адпаведнымі матэрыяламі трэцяй чвэрці I тыс. н. э. з'яўляюцца выключэннем, і, праўду кажучы, патрабуюць больш дакладнай храналогіі.

Як бачым, усе культуры V-VIII стст. на тэрыторыі Беларусі маюць даволі сціплы, нават, можна сказаць, прымітыўны выгляд, характэрны для слаба сацыяльна дыферэнцыяванага грамадства. Упершыню на гэта звярнуў увагу польскі археолаг Казімеж Гадлоўскі[5], а грунтоўныя дадатковыя аргументы дадаў яго вучань Міхал Парчэўскі[6]. Праўда, на мяжы VII-VIII стст. у смаленскім і беларускім Падняпроўі адбываюцца падзеі, якія паўплывалі на лёс банцараўскай,

4 *Археалогія Беларусі,* т. 2, с. 223.

5 K. Godłowski, *Pierwotne siedziby Słowian,* Kraków 2000, s.11-130.

6 M. Parczewski, *Die Anfänge der frhüslawischen Kultur in Polen,* Wien 1993.



тушамлянскай і калочынскай археалагічных культур. Спачатку, з невядомых пакуль прычын, у гэты час у дадзеным рэгіёне ўзнікае шэраг добра ўмацаваных паселішчаў: Тушамля, Дзямідаўка, Акатава, Слабада-Глушыца, Блізнакі, Гарадок на р. Лучоса на Смаленшчыне; Нікадзімава, Чаркасава, Вежкі, Германы, Калочын на Беларусі. Менавіта яны ужо ў першай палове VIII ст. спыняюць сваё існаванне ў выніку спусташэнняў і разбурэнняў, сляды якіх зафіксаваныя падчас археалагічных даследаванняў[7]. У некаторых выпадках у пластах пажараў на гэтых гарадзішчах знойдзеныя стрэлы аварскіх тыпаў.

Адзначым, што ў сучаснай еўрапейскай гістарыяграфіі распаўсюджваецца погляд аб існаванні ў VI-VIII стст. складанага па структуры авара-славянскага "сімбіёза". Больш таго, заходнія вучоныя маюць агульную думку пра тое, што авары адыгралі галоўную ролю ў з'яўленні славян на гістарычнай арэне. У свой час выдатны ўкраінскі гісторык Омелян Пріцак напісаў, што на працягу існавання ў Цэнтральнай Еўропе "Аварскага пакса/свету" (558-796 гг.) мясцовае сялянскае насельніцтва, якое адрознівалася паміж сабою мовай і даляглядамі, якія не распаўсюджваліся далей за ўласныя паселішчы, было зрушанае з традыцыйных месцаў і аб'яднанае ў большыя грамадствы вайсковых калоній каля дунайскіх межаў Візантыйскай імперыі. Гэта паклала пачатак развіццю супольнай славянскай мовы, якая выявіла здольнасці пераўтварыцца ў сродак камунікацыі на значных тэрыторыях[8]. На думку Пшэмыслава Урбаньчыка, "імперыя" Авараў была своеасаблівай авара-славянскай супольнасцю, у якой палітычна і мілітарна дамінавалі качэўнікі, але гаспадарча і дэмаграфічна – аселыя земляробы, мова якіх магла выкарыстоўвацца як агульнаімперскі сродак камунікацыі. Славянамоўнае насельніцтва каганата выконвала ролю не толькі сялян-даннікаў, але і дапаможных вайсковых атрадаў. Больш таго, асаблівы палітычны і гаспадарчы

7 Е. А. Шмидт, *Верхнее Поднепровье и Подвинье в III-VII вв.н.э. Тушемлинская культура,* Смоленск 2003, С. 21-39; ён жа. *Кривичи Смоленского Поднепровья и Подвинья (в свете археологических данных),* Смоленск 2012, с.79-80; А. А. Седин, *Памятники третьей четверти I тысячелетия н.э. в междуречье Верхнего Сожа и Днепра,* [у:] *Гістарычныя лёсы Верхнега Падняпроўя,* частка I, *Археалогія,* Магілёў 1995, с.131-152; ён жа. *Никодимово – городище третьей четверти I –го тысячелетия н.э. в Восточной Беларуси,* [у:] *Край. Дыялог на сумежжы культур, Магілёўская даўніна,* Магілёў 2000, с. 35-43.

8 О. Пріцак, *Слов'яні та авариі,* [у:] О. Пріцак, *Походження Русі: Стародавні скандинавські саги і Стара Скандынавія,* Київ 2003, т. II, с. 810-811.

ўклад земляробчага насельніцтва на перыферыі каганата мог спрыяць яго знешняй экспансіі[9].

Праз усё VIII ст. на беларускіх землях назіраецца надалей нізкая гаспадарчая, сацыяльная і культурная актыўнасць. Толькі пачынаючы з IX ст. (не выключана, што з канца VIII ст.) археалогія адзначае радыкальныя змены ў культуры і сацыяльным жыцці насельнітва па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Працэс культурных і сацыяльных зменаў на беларускіх землях у IX-X стст. храналагічна не быў бесперапынным, "эвалюцыйным". Археалагічны матэрыял дазваляе вылучыць як мінімум два этапы: 1) IX ст. (магчыма канец VIII ст.); 2) канец IX – пачатак XI ст. І найважнейшае: беларускія землі з гэтага часу з'яўляюцца на старонках гістарычных крыніц, пачынаецца наша сапраўдная *historia rerum gestarum.*

На першым этапе фіксуецца з'яўленне пакуль нешматлікіх па колькасці ўмацаваных паселішчаў, але яны лакалізуюцца ўжо па ўсёй тэрыторыі Беларусі. На поўдні (на правабярэжжы Прыпяці) – Хотамель і Хільчыцы, а таксама Гарадзішча на р. Ясельдзе; на захадзе, у Сярэднім Панёманні, на левабярэжжы, таксама два гарадзішчы – Радагошча (каля Навагрудка) і Ласосна-Велька (каля Гродна); на поўначы, у басейне Заходняй Дзвіны, – Полацк (гарадзішча Рагвалода), Лукомль, Віцебск, Гарадзец на Мнюце (прыток Дзісны); на ўсходзе, у Пасожжы, – Калочын, Чачэрск, Прапошаск (сучасны Слаўгарад), Гомель[10].

Названыя гарадзішчы не маюць прамой генетычнай сувязі з папярэднімі, нават калі яны лакалізуюцца на тых самых месцах. У гэтым выпадку спецыялісты адзначаюць пясочныя праслойкі паміж ніжнімі і верхнімі культурнымі напластаваннямі, а таксама выразную розніцу ў раскапаных рэштках матэрыяльнай культуры, нават у такіх масавых катэгорыях, як керамічны посуд. Натуральна, мы ўяўляем умоўнасць існуючых датаванняў дадзеных археалагічных

9 P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski,* Wrocław 2008, s.48, 49-51.

10 *Археалогія Беларусі,* т.2, с.338; А. В. Іоў, В. С. Вяргей, *Старажытнае паселішча на Ясельдзе,* Мінск 2012, с.12-18; Э. М. Зайкоўскі, *Раскопкі каля Радагошчы,*"Гістарычна-археалагічны зборнік", Мінск 1997, № 7; Г. В. Штыхов, *Древний Полоцк IX-XIII вв.,* Минск 1975, с.21-33; Г. В. Штыхаў, *Гарадзішча Гарадзец на рацэ Мнюта*, [у:] *Помнікі культуры: Новыя адкрыцці,* Мінск 1985; Г. В. Штыхов, *Лукомль: Археологический комплекс железного века и средневековья,* Минск 2014, с.15-18; Д. У. Дук, *Полацк і палачане (IX-XVIII стст.),* Наваполацк 2010, с.32-33, 61; О. А. Макушников, *Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв. Социально-экономическое и этнокультурное развитие,* Гомель 2009, с.56-60.



помнікаў, зробленых на падставе керамікі і адзінкавых прадметаў побыту, узбраення альбо ўпрыгожванняў. Больш дакладныя даты магчыма будзе атрымаць пасля грунтоўных аналізаў выяўленага матэрыялу метадамі і магчымасцямі прыкладных навук, у першую чаргу дэндрахраналогіі драўляных канструкцый умацаванняў названых гарадзішчаў.

Для нашай тэмы найважнейшым з'яўляецца высвятленне шляхоў паўставання названых умацаваных паселішчаў на тэрыторыі Беларусі ў IX ст., што дазволіць акрэсліць іх функцыі. Абагульненая археалагічная характарыстыка названых гарадзішчаў не пацвярджае іх сталага засялення значнай папуляцыяй. Адсутнасць грунтоўных умацаванняў дазваляе сумнявацца ў іх важным мілітарна-стратэгічным значэнні, невялікія памеры выключаюць магчымасць штодзённага пражывання значных груп людзей. Не былі яны таксама ані сталымі цэнтрамі спецыялізаванай рамесніцкай вытворчасці, ані рынкамі абмену, якія бы мелі вялікае значэнне для большай папуляцыі.

Нам падаецца, што мы надалей маем дачыненне з самадастатковым аграрным грамадствам, якое яшчэ не карысталася дасканалымі прыладамі працы і не патрабавала спецыялізаваных паслуг, а таксама раскошных тавараў здалёк. Аднатыпная, слабаспецыялізаваная гаспадарка не магла прыносіць адчувальных прыбыткаў, якія патрабавалі б іх сталай аховы ад ваяўнічых суседзяў і дазволілі б утрымоўваць адмысловыя групы (уладныя і вайсковыя эліты), якія б гэтую ахову выконвалі. Аднак кожная камунікатыўная супольнасць на беларускіх землях, большая за лакальную, у той час (IX ст.) адчувала патрэбу ў сваёй ідэнтыфікацыі з нейкім сімвалічным цэнтрам. У гэтым пытанні мы далучаемся да меркаванняў тых даследчыкаў, якія бачаць у падобных умацаваных паселішчах цэнтральныя месцы з галоўнай функцыяй падтрымліваць грамадскі лад і наладжваць пачатковыя элементы ўладных структур[11]. Гэта

11 W. Syzmanski, *Baiträge zum Problem der Entstehung von Burgen bei den Slawen,*"Archaeologia Polona", 1983, t.21-22, s.98; Z. Kobyliński, *Early medieval hillforst in Polish lands in the 6th to the 8th centuries: Problems of origins, function and spatial organization,* [in:] *From the Baltic to the Black Sea.* Boston1990 s.150-154; M. Dulinicz, *Miejsca, które rodzą władze (najstarsze grody słowiańskie na wschód od Wisły),* [w:] *Człowiek, sacrum, środowisko. Miejsca kultu we wczesnym średniowieczu*, Wrocław, 2000, s.92-95; P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski,*s.115-117.

абсалютна не выключае адначасовага выкарыстоўвання названых гарадзішчаў як сакральных цэнтраў.

Археолагі таксама адзінагалосна сцвярджаюць, што на беларускіх землях з IX ст. назіраецца радыкальная змена ў пахавальнай культуры мясцовага насельніцтва (незалежна ад прыналежнасці да той ці іншай археалагічнай культуры). На змену грунтовым могільнікам на поўдні і ўсходзе, доўгім курганам на поўначы і паўночным усходзе, "таямнічым/невядомым" пахаванням у цэнтры і на захадзе, распаўсюджваюцца пахаванні ў паўсферычных курганах па абрадзе крэмацыі, каб у наступным, X ст., зрабіцца дамінуючай формай[12]. Падобная з'ява не магла быць вынікам эвалюцыйнага развіцця мясцовага насельніцтва, а, хутчэй за ўсё, адлюстроўвае эфект міграцыйных працэсаў. Зноў жа, гісторыкі, археолагі і этнолагі, з рэдкім для навукі паразуменнем, бачаць у "мігрантах" на беларускія землі "славян". З гэтым варта пагадзіцца, больш таго, гэта былі, умоўна кажучы, "новыя славяне", якія вярталіся ў лясную зону Усходняй Еўропы пасля працяглага кантакту з Візантыйскай імперыяй. Разам з новым насельніцтвам на беларускую тэрыторыю пранікаюць традыцыі ганчарнага кола, а таксама з'яўляюцца раней невядомыя прадметы ўзбраення і ўпрыгожванні, бліжэйшыя аналогіі якіх выяўляюцца ў паўднёвых рэгіёнах – Падунаўі і на Балканах, месцах ужо сталага пражывання носьбітаў славянскай мовы і свядомасці.

У сувязі з гэтым, сёння ўсё большае значэнне набывае дыскусія па пытанні: хто мігравау – фізічныя прадстаўнікі славянскага этнасу ці "славянская ідэя"? Археолагі і лінгвісты, прадстаўнікі розных нацыянальных гістарыяграфій у XX ст. прадстаўлялі рассяленне славянскіх земляробчых грамадстваў па тэрыторыі Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёвай Еўропы ў выглядзе фізічнага распаўсюджвання масы славянскага этнасу з невялікай прарадзімы з наступнай асіміляцыяй суседзяў[13]. Аднак апошнім часам агульнапрынятая канцэпцыя была моцна падкарэктаваная амерыканскім археолагам

12 Г. В. Штыхаў, *Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганаў у Паўночнай Беларусі,* Мінск 1992, с.41-53; Е. А. Шмидт *Кривичи Смоленского Поднепровья и Подвинья*, с. 67-71, 79-80; П. Ф. Лысенко, *Дреговичи,* Минск 1991, с.43-48; В. В. Богомольников, *Радимичи (по материалам курганов X-XII вв.): Монография,* Гомель 2004, с. 89-93; О. А. Макушников, *Гомельское Поднепровье в V – середине XIII вв.: социально-экономическое и этнокультурное развитие,* Гомель 2009, с.24-27.

13 В. В. Седов, *Славяне. Историко-археологическое исследование,* Москва 2002.



румынскага паходжання Флорынам Курта[14]. Ён на прыкладзе Ніжняга Падунаўя прадэманстраваў, што рухі насельніцтва ў перыяд "Вялікай міграцыі" былі значна меней маштабнымі, чым уяўлялася раней. Больш таго, услед за Омелянам Пріцакам, ён выказаў меркаванне, што славянская ідэнтычнасць фармавалася "у ценю крэпасцяў Юстыніяна, а не на багністых тэрыторыях басейна ракі Прыпяці". Новаствораныя этнічныя супольнасці на паўночных памежных тэрыторыях Візантыйскай імперыі (у першую чаргу іх эліты) у выніку зрабіліся славянамоўнымі. Хутчэй за ўсё, прычына была ў тым, што славянская мова як *lingua franca* на адным з этапаў свайго развіцця стала мовай "міжнародных" зносін розных груп унутры і на перыферыі Аварскага каганата ў другой палове VI – канцы VIII, пачатку IX ст.[15].

Якраз упадак Аварскага каганата з'явіўся геапалітычным штуршком для з'яўлення ў IX ст. на беларускіх землях новага насельніцтва, ідэалогіі, тэхналогій і культуры. На думку Пшэмыслава Ўрбаньчыка, менавіта славяне сталі адзінымі нашчадкамі аварскай "імперыі", бо не толькі распаўсюдзілі ў яе межах на значныя тэрыторыі "славянскую мову і ідэалогію", але паспяхова запоўнілі нішу ў цэнтральна- і ўсходнееўрапейскім геапалітычным раскладзе ў гэты час[16].

З канца IX ст. археалогія фіксуе чарговыя значныя сацыяльныя і этнакультурныя змены на беларускіх землях. З'яўляюцца новыя, яшчэ лепш умацаваныя паселішчы, новыя катэгорыі прадметаў узбраення, рыштунку вершніка і каня, упрыгожванні і прадметы быту; павялічваецца колькасць багатых прадметаў рэчава-грашовых скарбаў. І зноў адзначым, што няма ніякіх аргументаў казаць пра "ўнутраныя эвалюцыйныя працэсы" ў асяроддзі мясцовага "ўсходнеславянскага насельніцтва". Адзначаныя змены з'явіліся ў выніку выразнага знешняга ўмяшальніцтва. Тым разам гэтыя працэсы неабходна звязаць з актыўнасцю вікінгаў ("варагаў" рускіх летапісаў). Пра вікінгаў, іх сацыяльна-палітычнае жыццё і дзейнасць ва Усходняй Еўропе, традыцыі, матэрыяльную і духоўную

14 F. Curta, *The Making of the Slavs: History and Archaelogy of the Lower Danube Region c. 500-700,*Cambridge 2001; ён жа. *Tworzenie Słowian. Powrót do słowiańskiej etnogenezy,* [w:] *Nie-Słowianie o początkach Słowian,* Poznań-Warszawa 2006, s.27-55.

15 F. Curta, *The Making of the Slavs,* s. 350; ён жа, *Tworzenie Słowian,* s. 55.

16 P. Urbańczyk, *Władza i polityka we wczesnym średniowieczu,* Wrocław 2000, s. 90-91.

культуры апошнім часам грунтоўна напісалі Сайман Франклін разам з Джанатанам Шэпардам[17] і Уладыслаў Дучка[18].

Аналіз храналогіі і тапаграфіі скарбаў арабскіх срэбных манет – дырхемаў, а таксама колькасць і лакалізацыя скандынаўскіх вырабаў у басейне Заходняй Дзвіны па ўсёй даўжыні ракі паказвае, што на працягу VIII-IX стст. дадзены рэгіён быў у пэўным сэнсе "перыферыйным" у сістэме транзітнага агульнаеўрапейскага таварaабмену[19]. Нешматлікія скандынаўскія знаходкі з тэрыторыі Беларусі, за рэдкім выключэннем, датуюцца X – сярэдзінай XI ст. і прадстаўленыя пераважна элементамі ўзбраення[20]. На сённяшні дзень самую раннюю дату рэальнага знаходжання нарманаў на тэрыторыі Беларусі дае Брылеўскі грашова-рэчавы скарб з вярхоўяў р. Бярэзіны (правага прытока Дняпра). Ён утрымлівае каля 300 арабскіх дырхемаў і іх фрагментаў, 10 гірак-разнавагаў, фрагмент сярэбранай шыйнай грыўні, звернутай у спіраль, і 10 фрагментаў мяча каралінгскага тыпу. Валянцін Рабцэвіч вызначыў, што эмісія куфіцкіх дырхемаў са скарбу праводзілася паміж 742-743 і 890-891 гг. і на гэтай падставе датаваў яго на 890-892 гг.[21]

Яшчэ больш рэзкі скачок у сацыяльна-эканамічным і палітычным развіцці Беларускага Падзвіння назіраецца ў сярэдзіне X ст. Археалогія фіксуе значныя змены на Полацкім гарадзішчы, вядомым пад назвай «Гарадзішча Рагвалода». Там распачынаюцца інтэнсіўныя фартыфікацыйныя працы, якія дазволілі давесці магутнасць вала з унутранага боку да 3 м. У самым Полацку і бліжэйшых ваколіцах выяўлены шэраг сапраўды ўнікальных скарбаў. У першую чаргу гэта знойдзены ў 1984 г. на тэрыторыі так званага Полацкага Ніжняга замка рэчавы скарб, які складаўся з 6 залатых (проба 958) рэчаў: бранзалет з 4-граннага дроту; бранзалет з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі (разламаны альбо рассечаны на дзве часткі); бранзалет з круглага дроту; бранзалет (альбо частка грыўні), скручаны з 4 дратоў; фрагмент грыўні (скручаны з 4 дратоў)

17 S. Franklin, J. Shepard, *The Emergence of Rus 750-1200,* London-NewYork, 1996.
18 W. Duczko, *Viking Rus. Studies on the Presense of Scandinavians in Eastern Europe,* Leiden 2004.
19 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля,* [в:] *Русь в IX-X веках: Археологическая панорама,* Москва-Вологда 2012, с.276-279, 297.
20 С. А. Дернович, *Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси,* Минск 2006.
21 В. Н. Рабцэвіч, М. А. Плавінскі, А. В. Іоў, *Брылёўскі скарб,* Мінск 2011.



з часткай яе замка. Скарб быў схаваны ў трэцяй чвэрці X ст.[22] Каля 20 кг важыў скарб срэбраных арабскіх дырхемаў, знойдзены ў 1973 г. мясцовымі жыхарамі ў ваколіцах Полацка каля в. Каз'янкі[23]. Сёння колькасць манет з названага скарбу складае лічбу 7890, з іх на 7 манетах захаваліся выявы "сегнеравага кола" – сімвала готландскіх камянёў і серыі скандынаўскіх падвесак, а на 8 манетах выяўленыя літарападобныя знакі, якія атаясамліваюцца са скандынаўскімі рунамі. На думку спецыялістаў, Каз'янкаўскі скарб быў схаваны каля 940 г. Яшчэ адзін скарб арабскіх манет, блізкі па часе папярэднім (972/973 гг.), быў знойдзены ў 1888 г. у маёнтку Струнь амаль пад самым Полацкам[24]. Сёння ў Беларускім Падзвінні вядомыя таксама іншыя скарбы дырхемаў і асобныя знаходкі, звязаныя са скандынаўскай традыцыяй, якія датуюцца сярэдзінай X – першай паловай XI ст. Гэта сведчыць аб тым, што з сярэдзіны X ст. роля нарманаў у гэтым рэгіёне Беларусі становіцца больш заўважнай і значнай. Як вынік, у дадатак да Полацка паўстаюць добра ўмацаваныя паселішчы Віцебск, Лукомль, Гарадзец на Мнюце[25] (як пункты кантролю і дамінавання вікінгаў над мясцовым насельніцтвам).

Прыблізна з сярэдзіны X ст. (магчыма з 70-х гадоў) інфармацыя археалагічных крыніц дазваляе таксама заўважыць выразныя сацыяльныя і палітычныя змены ў іншых рэгіёнах сучаснай Беларусі. На захадзе, у басейне Нёмана і Прыпяці (яе заходняй часткі), з'яўляюцца ўмацаваныя паселішчы, у культурных напластаваннях якіх знойдзеныя скандынаўскія прадметы ўзбраення, побыту і ўпрыгожванні. Гэта гарадзішчы Кульбачына (басейн Котры), Муравельнік у Ваўкавыску (басейн Росі), Гарадзішча (басейн Ясельды), Франаполь (басейн Заходняга Бугу). Да названых трэба дадаць гарадзішча Каўкай з тэрыторыі Літвы (Алітускі раён, каля 80 км на поўнач ад Гродна). У Гродна і наваколлях Лішкявы (Літва, каля 40 км на поўнач ад Гродна, Варэнскі раён) былі выпадкова знойдзеныя мячы, датаваныя на IX–X ст. У самым цэнтры Беларусі, блізка сучаснага

22 Г. В. Штыхов, *Клад из Полоцка,* [в:] *Археологические открытия 1984,* Москва 1986, с.353-354; И.И. Еремеев, *Полоцкая земля,* с.293-295.
23 В. Н. Рябцевич, *Дирхемы арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX-X вв.),* [в:] *Славяне и их соседи (археология, нумизматики, этнология),* Минск 1998, с.72; Е. А. Мельникова, *Скандинавские рунические надписи,* Москва 2001, с.146-147.
24 В. Н. Рябцевич, *Дирхемы арабского халифата в денежном хозяйстве Полоцкой земли (IX-X вв.),* с.73.
25 Г. В. Штыхов, *Города Полоцкой земли (IX-XIII вв.),* Минск 1978, с.31-53.

Мінска, у вярхоўях ракі Пціч, прытока Свіслачы Дняпроўскага басейна, у першай палове – сярэдзіне Х ст. паўстае комплекс каля в. Гарадзішча на р. Менка. У яго склад уваходзілі ўмацаванае паселішча (складалася з малой і вялікай пляцовак, падзеленых валам) і адкрытае селішча плошчай каля 30 гектараў[26].

Усе гэтыя перамены звязаныя з фармаваннем і функцыянаваннем Нёманскай транзітнай камунікацыі, якая злучала самбійскі гандлёва-рамесны цэнтр Каўп на балтыйскім узбярэжжы (які існаваў з пачатку IX да першых дзесяцігоддзяў XI ст.) з Гарадзішчам на Ясельдзе, Гарадзішчам на Менцы, а далей — з Кіевам на Дняпры і Чэрвеньскімі гарадамі ў Пабужжы. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі канцэпцыя пецярбурскага даследчыка Аляксея Кібіня, які звязаў летапісных "яцьвягаў" канца Х – пачатку XII ст. з тымі вайсковымі і гандлёвымі групамі, якія кантралявалі і выкарыстоўвалі Нёманскую камунікацыю і прылеглыя тэрыторыі. На яго погляд, магчыма, "яцьвягамі" звалася змешаная па складзе ваенна-гандлёвая групоўка (ці некалькі груповак), якая дзейнічала ў Верхнім Панямонні, паўночным Палессі і, магчыма, частцы Пабужжа, і займалася, падобна на "калбягаў" у Прыладажжы, вайной, промысламі і забеспячэннем рачных шляхоў[27].

На паўднёвым усходзе Беларусі, каля в. Мохаў, у месцы ўпадзення ракі Сож у Днепр, на працягу Х ст. складваецца "адкрытае гандлёва-рамеснае паселішча", аналагічнае Гнёздаву (пад Смаленскам), Шаставіцы (пад Чарнігавам), Рурыкаву гарадзішчу (пад Ноўгарадам), Цімераву (пад Яраслаўлем). Навукоўцы згодныя ў тым, што падобны тып паселішчаў на тэрыторыі Усходняй Еўропы ўзнікае ў перыяд актывізацыі міжнародных гандлёвых камунікацый паміж Поўначчу і Поўднем з ініцыятывы вікінгаў і па сваіх функцыянальных і тыпалагічных рысах ён блізкі да скандынаўскіх "вікаў"[28]. Названыя паселішчы з'яўляліся своеасаблівымі лагістычнымі і эканамічнымі цэнтрамі, месцамі сезонных адпачынкаў на далёкіх шляхах,

26 А. С. Кибинь, *От Ятвязи до Литвы: Политические и социокультурные трансформации в бассейне Верхнего Немана в X-XIII вв.*, Москва 2012, с.56-59, 63.

27 А. С. Кибинь, *От Ятвязи до Литвы,* с. 53-54,70.

28 В. А. Булкин, И. В. Дубов, Г. С. Лебедев, *Археологические памятники Древней Руси 9-11 вв.*, Ленинград 1978, с. 139; Г. С. Лебедев, *Эпоха викингов в Северной Европе. Историко-археологические очерки,* Ленинград 1985, с.102-107.



адмысловымі могільнікамі, а з часам адміністрацыйна-вайсковымі, судовымі і фіскальнымі цэнтрамі. Тут канцэнтравалася рознаэтнічнае насельніцтва і фарміраваліся новыя формы сацыяльных супольнасцяў.

Мохаўскія помнікі складаюцца з могільніка (у канцы ХІХ ст. налічваў больш за 600 курганоў, на сённяшні дзень захавалася не менш за 250) і паселішча з рэшткамі мысавага гарадзішча, агульнай плошчай не менш 25 гектараў. Храналагічна і паселішча, і могільнік функцыянавалі на працягу Х – першай паловы ХІ ст., асабліва актыўна ў другой палове Х ст. Ужо папярэднія вынікі археалагічных даследаванняў дадзенага комплекса вылучаюць яго сярод суседніх паселішчаў і курганных могільнікаў. На думку Алега Макушнікава, мы маем адносіны з месцам пражывання, дзе сярод жыхароў пераважалі ваяры, шматнацыянальныя па свайму складу і этнічна іншыя адносна мясцовага насельніцтва[29]. Мохаўскі археалагічны комплекс – гэта пакуль адзіны сапраўдны шматфункцыянальны цэнтр на тэрыторыі Беларусі з тыповымі рысамі скандынаўскага "віка" альбо яго ўсходнееўрапейскай мадыфікацыі, вядомай як "адкрытае гандлёва-рамесніцкае паселішча". Ён узнік у пачатку Х ст. з ініцыятывы "русаў/ вікінгаў" з мэтай кантролю адпаведнага фрагмента камунікацыі "з Варагу Грэкі".

Аналіз археалагічнага матэрыялу адназначна сведчыць пра тое, што ўсе значныя перамены ў эканамічным і сацыяльным жыцці насельніцтва беларускіх зямель у IX – X стст. з'яўляюцца вынікам і адбываюцца пад уплывам знешніх сіл і тагачасных геапалітычных працэсаў. Міграцыя носьбітаў "новай славянскай ідэнтычнасці" (канец VIII – IX ст.) і актывізацыя скандынаўскіх народаў у басейнах галоўных рэк Усходняй Еўропы (канец IX – X ст.) былі тымі сіламі, якія разбурылі папярэдні патрыярхальны, больш калектывісцкі лад жыцця, і заклалі падмуркі пад новы аўтарытарны, больш дыферэнцыраваны.

Пацверджанне дадзенай выснове знаходзім у нешматлікіх, але вельмі важных паведамленнях пісьмовых крыніц. Ранняя гісторыя Беларусі (шырэй Усходняй і Цэнтральнай Еўропы) зафіксавана на старонках летапісаў, складзеных у пачатку XII ст. у Кіеве, (*Аповесць*

29 О. А. Макушников, *Между Гнездово и Киевом: Моховский археологический комплекс X-XI вв. на юго-востоке Беларуси*, "Гісторыка-археалагічны зборнік", 2006, № 22, с.130-138.

*мінулых гадоў)* і Ноўгарадзе (*Наўгародскі I летапіс малодшага ізвода)*. Падзеям і асобам, якія звязаныя з Беларусю IX – пачатку XI ст., у АМГ прысвечана 25 паведамленняў, з іх 6 – з недатаванай уступнай часткі. У другой наратыўнай крыніцы, *Наўгародскім I летапісе*, сустракаем 15 паведамленняў. Гістарычных сюжэтаў значна больш, бо спецыфічнай рысай старажытных летапісаў з'яўляецца аб'яднанне пад адной датай адразу некалькіх падзей. Звернем увагу на тыя паведамленні, якія праецыруюцца на тэрыторыю сучаснай Беларусі і дазваляюць заўважыць элементы і тэндэнцыі ранніх дзяржаватворчых працэсаў.

Гаворачы аб рассяленні славян на тэрыторыі Усходняй Еўропы, летапісец у недатаванай частцы *Аповесці мінулых гадоў* піша, што ў старажытныя часы славяне пасяліліся ў басейне Дуная, і ад гэтых славян некаторыя потым разышліся па зямлі і атрымалі свае імёны пераважна ад месцаў пражывання. Сярод мігрантаў з Падунаўя аўтар летапісу ўзгадвае і народы, якія апынуліся на тэрыторыі Беларусі: дрыгавічоў (паміж рэкамі Прыпяць і Заходняя Дзвіна) і палачан (у басейне сярэдняга цячэння Заходняй Дзвіны[30]). Аднак пра радзімічаў, якія пасяліліся на берагах Сажа, паведамляецца, што яны разам з вяцічамі прыйшлі ад ляхаў[31]. Самае галоўнае для нашай тэмы, гэта падкрэсліванне факта перасялення на тэрыторыю Усходняй Еўропы часткі вядомых аўтару *Аповесці мінулых гадоў* народаў, праўда, толькі славянскіх, з поўдня (Падунаўя) і захаду (ад Ляхаў). Адзначым, што ва ўступе да *АМГ*, які справядліва называюць "этнакультурнай характарыстыкай" Усходняй Еўропы, адлюстравана актуальная летапісцу сітуацыя пачатку XII ст., калі Нестар пісаў свой твор[32].

Апісваючы далей сацыяльную арганізацыю новапрыбыўшага славянскага насельніцтва ва Ўсходняй Еўропе, аўтар *Аповесці мінулых гадоў* паведамляе пра "родавыя княжэнні" ў палян, драўлян, дрыгавічоў, славенаў і палачан. Праўда, адсутнічаюць у дадзеным "спісе" крывічы і севяране. Больш таго, калі ў летапісе гаворыцца, што ўсе славянскія супольнасці "прышлі і селі", дык пра крывічоў паведамляецца, што яны толькі "сядзяць" на сваіх месцах, без

30 *Лаврентьевская летопись,* [в:] *Полное собрание русских летописей*, том 1, Москва 2001, 2-е издание, Слп.5-6.
31 *Лаврентьевская летопись,* слп.12.
32 H. Paszkiewicz, *Początki Rusi,* Kraków 1996, s.36-38.



"прышлі", дарэчы, як і пра іншыя неславянскія народы, – весь, меру, мурому, чэрамісаў, мардву[33]. Адзначым, што ў багатай гістарыяграфіі, прысвечанай гісторыі Усходняй Еўропы ў раннім сярэднявеччы, увага даследчыкаў была пераважна скіравана на сацыяльна-палітычную характарыстыку выключна славянскіх народаў, пералічаных ва ўступе *Аповесці мінулых гадоў*. А вось высвятленне і характарыстыка сацыяльнай арганізацыі неславянскіх народаў ("тутэйшых"), якія таксама пералічаны ў недатаванай частцы *АМГ*, амаль адсутнічае ў сучасных нарацыях. Такім чынам, пры канструяванні этнагенетычных і сацыяльна-палітычных працэсаў другой паловы I тыс. н. э. на абшарах Усходняй Еўропы атрымоўваецца моцны славянацэнтрычны ўхіл без уліку іншаэтнічных элементаў.

Аўтар *Аповесці мінулых гадоў* усё ў тым жа недатаваным уступе дае кароткую этнакультурную характарыстыку "славянскага" насельніцтва Усходняй Еўропы. Да апошніх ён залічвае палян, драўлян, наўгародцаў, палачан, дрыгавічоў, севяран, бужан *vel* валынян[34]. Аднак нават славян кіеўскі летапісец падзяляе, з аднаго боку, на "лепшых і маральных" – гэта паляне, а з іншага – на "горшых і дзікіх" (драўляне, радзімічы, вяцічы, севяране і крывічы). Маецца на ўвазе падрабязнае апісанне "язычніцкіх" звычаяў другіх, у параўнанні з "цнатлівасцю" першых[35]. Зразумела, што ў дадзенай інфармацыі зноў адлюстраваліся рэаліі пачатку XII ст., калі аўтар-хрысціянін асуджальнымі і моцна крытычнымі словамі насамрэч канстатаваў даволі абмежаваны ўзровень хрысціянізацыі на тэрыторыі Усходняй Еўропы ў той час.

Наступнай важнай для нашай тэмы інфармацыяй з'яўляецца паведамленне пад умоўным 859 г. пра абцяжарванне данінай славянскіх і фінскіх народаў на поўначы варагамі, а на поўдні – палян, севяран і вяцічаў (магчыма і радзімічаў) – хазарамі. Пры тым пра даніну, накладзеную вікінгамі, пішацца толькі агульна, у той час як хазарская падаецца канкрэтна: па сярэбранай манеце і белке ад дыма[36]. Гэта яскравае сведчанне пра моцны ўплыў на сацыяльнае жыццё мясцовага насельніцтва Усходняй Еўропы

33 *Лаврентьевская летопись,* слп.10-11.
34 *Лаврентьевская летопись,* слп.12-13.
35 *Лаврентьевская летопись,* слп.13-14.
36 *Лаврентьевская летопись,* слп.19.

з боку як Хазарскай дзяржавы, дамінуючай сілы ў рэгіёне, так і мабільных атрадаў скандынаваў. Прыярытэт Хазарскага каганата праяўляўся ў лепей арганізаванай і больш канкрэтнай форме збору даніны. Безумоўна, разнастайныя ўзаемаадносіны паміж вікінгамі і Хазарскай дзяржавай былі вызначальнымі ў гісторыі Усходняй Еўропы на працягу IX – X стст.

Першым датаваным летапісным паведамленнем, якое датычыцца беларускіх земляў, з'яўляюцца дзеянні конунга Рурыка, зафіксаваныя пад 864 г. Праз два гады пасля запрашэння славенамі, крывічамі, чуддзю і вессю ў 862 г. нарманскага народа "Русь", на чале якога быў Рурык і два яго браты Трувор і Сіневус, апошнія нібыта паміраюць. Рурык застаецца адзінаўладцам і ў гэтай сітуацыі накіроўвае сваіх прадстаўнікоў у Полацк, Растоў і на Белае возера. Пры гэтым аўтар летапісу спецыяльна адзначае, што "варагі" ў гэтых гарадах прышлыя ў параўнанні з мясцовымі славянскімі і фінскімі народамі[37]. Праўда, менавіта находнікам, а канкрэтней Рурыку, крыніцы аддаюць кіруючую ролю ў сацыяльна-палітычных і арганізацыйных працэсах.

Падобны міф аб прызванні ўладароў вельмі шырока распаўсюджаны ў літаратурнай і фальклёрнай творчасці еўрапейскіх (і не толькі) народаў, таму поўнасцю яму давяраць нельга. Сюжэт пра запрашэнне варагаў у *Аповесці мінулых гадоў* вельмі блізкі да адпаведнага матыву ў *Дзеяннях Саксаў* Відукінда Карвейскага, а таксама да фрагмента з *Першай кнігі Царстваў*, у якім апавядаецца пра няўдалае панаванне сыноў састарэлага прарока Самуіла, якім ён даверыў уладу над народам Ізраіля[38]. Мы таксама ўсведамляем, што першыя даты, пазначаныя ў *Аповесці мінулых гадоў*, штучныя і не адпавядаюць рэчаіснасці. Апошнім часам ранняй храналогіяй гісторыі Ўсходняй Еўропы даволі прадуктыўна і плённа займаўся

37 *Лаврентьевская летопись*, слп.20.

38 И. Н. Данилевский, *Повесть временных лет. Герменевтические основы изучения летописных текстов,* Москва 2004, с.118-120.



французскі гісторык Канстанцін Цукерман[39]. Для нас бясспрэчна тое, што першае фіктыўна датаванае паведамленне пра Полацк трэба разглядаць у кантэксце "запрашэння Рурыка з братамі" ў Ноўгарад, а саму легенду – як літаратурную нарацыю славяна-балта-фіна-скандынаўскіх узаемаадносін у цыркумбалтыйскім рэгіёне ў апошнія два стагоддзі I тыс. н. э., вядучая роля ў якіх належала апошнім – "варагам".

Нават без канкрэтнай храналогіі пералічаныя летапісныя паведамленні дазваляюць сцвярджаць, што на апошнім этапе існавання Аварскага каганата (мяжа VIII – IX стст.), аснову якога складаў авара-славянскі ўзаемадапаўняючы саюз, частка носьбітаў "славянскай мовы" пачала распаўсюджваць сацыяльныя, тэхналагічныя, культурныя формы і ідэі на лясную і лесастэпавую тэрыторыю Усходняй Еўропы. Яшчэ адной прычынай актывізацыі славянскага перасялення на поўнач ад Прыдунайскага і Прыкарпацкага рэгіёнаў быў ціск, верагодна, вугорцаў, якія ў гэты час распачалі свой шлях на захад. У выніку даволі хуткімі тэмпамі мясцовае насельніцтва пачынае арганізоўвацца ў надлакальныя сацыяльныя арганізмы, аб'ядноўваючыся з "умоўнай элітай" находнікаў і пераймаючы ад апошніх шматлікія навацыі ў грамадскім, вайсковым, гаспадарчым і культурным жыцці. Пры гэтым, хутчэй за ўсё, мясцовае насельніцтва ўзамен перадавала пануючай групе частку арганізацыйных і судовых функцый, за выкананне якіх мясцовыя добраахвотна дзяліліся пэўнай часткай сваіх прыбыткаў. Вайсковыя, культурныя і ідэалагічныя перавагі находнікаў над мясцовым насельніцтвам спрыялі даволі хуткаму працэсу "славянізацыі", што зазначыў аўтар летапісу пачатку XII ст. Вось гэтыя панадлакальныя супольнасці, якія знаходзіліся ў працэсе "славянізацыі", пералічваюцца

39 C. Zukerman, *On the Date of the Khazars' Conversion the Judaism and the Chronology of the Kings of the Rus Oleg and Igor. A Study of the Anonymous Khazar Letter from the Genizah of Cairo*, "Revue des etudes byzantines", Paris 1995, Nr 53; ён жа. *Deux etapes de la formation de l'ancien Etat russe,* [in:] *Les centres proto-urbains russes entre Scandinavie, Byzance et Orient,* "Realetes Byzantines", Paris 2000, Nr 7. А таксама пераклады вышэйназваных і іншых тэкстаў на рускую і ўкраінскую мовы: К. Цукерман, *Русь, Византия и Хазария в середине X века: проблемы хронологии,* [в:] *Греческий и славянский мир в средние века: Сборник статей к 70-летию академика Г. Г. Литаврина. Славяне и их соседи*. Вып. 6. Москва 1996; ён жа. *Два этапа формирования древнерусского государства,* "Славяноведение", 2001, № 4; ён жа. *Пра дату навернення хозар до іудаізму й хронологію князювання Олега та Игоря,* "Ruthenika", 2003, т. II; ён жа. *Перестройка древнейшей русской истории*, [в:] *У истоков русской государственности: Историко-археологический сборник,* Санкт-Петербург 2007, с.343-351.

ў “этнакультурным уступе” *Аповесці мінулых гадоў*, а ўжо даследчыкі прымацавалі да іх абстрактны лэйбл – “племя”. Пры гэтым “племя” разглядаецца і характарызуецца адназначна з метадалагічных пазіцый эвалюцыянізму, пазітывізму і марксізму, як стабільная палітычна-тэрытарыяльная арганізацыя, члены якой звязаныя агульнасцю паходжання і кроўнасваяцкімі сувязямі, распазнаюцца праз адназначныя ўласныя назвы і супольную этнічную свядомасць і валодаюць больш-менш агульнай матэрыяльнай і духоўнай культурай[40]. Менавіта “пляменная арганізацыя” абвяшчаецца адзінай формай сацыяльна-палітычнай арганізацыі ў перадддзяржаўны перыяд на тэрыторыі Усходняй Еўропы. А найбольш развітымі лічыліся і лічацца “славянскія плямёны”, ад якіх пазней пераймалі ўзоры грамадскага жыцця суседнія балцкія і фіна-угорскія народы.

Адкрытым пакуль застаецца пытанне формаў і інтэнсіўнасці ўзаемаадносін на беларускіх землях паміж славянізуючым мясцовым насельніцтвам, кіруючай славянскай элітай і нарманскімі находнікамі. З канца IX – пачатку X ст. працэсы стварэння раннесярэднявечных дзяржаўных структур на беларускіх землях становяцца незваротнымі і ўсё больш відавочнымі. Гэты працэс трэба разглядаць у шырокім дзяржаватворчым кантэксце дзейнасці нарманаў на міжнародных камунікацыях Усходняй Еўропы. Спачатку імі закладаліся сталыя месцы пражывання, якія, дзякуючы археолагам, прынята называць адкрытымі гандлёва-рамесніцкімі паселішчамі/вікамі, з функцыямі калі не цэнтральнага, дык аднаго з самых галоўных пунктаў пэўнага рэгіёна. Паступова нарманскія ўплывы распаўсюджваліся на ваколіцы, шчыльна заселеныя і зручныя ў лагістычным сэнсе. У гэтых месцах узнікаюць падпарадкаваныя галоўнаму паселішчу лакальныя цэнтры. Звычайна яны адрозніваліся ад шэраговых паселішчаў наяўнасцю лепшай абарончай сістэмы. Прапанаваная схема ідэальна прасочваецца ў Беларускім Падзвінні, праўда, на падставе толькі археалагічных дадзеных. У X ст. (хутчэй за ўсё ў 30-40-х гадах) галоўным цэнтрам канчаткова робіцца Полацк, а падпарадкаваныя яму рэгіянальныя цэнтры – гэта Лукомль, Гарадзец на Мнюце, Межава, магчыма, Браслаў і Віцебск. Менавіта тут выяўленыя ўмацаваныя паселішчы са слядамі невясковай культуры (элементамі ўзбраення, імпартнымі таварамі, вытанчанымі ўпрыгожваннямі), а ў бліжэйшых ваколіцах – скарбы арабскіх дырхемаў.

40 P. Urbańczyk, *Trudne początki Polski,* Wrocław 2008, s.69-75.



Як адзін з такіх галоўных цэнтраў ва Усходняй Еўропе Полацк узгадваецца ў летапісным паведамленні пра паход у 907 г. кіеўскага князя Алега на Візантыю. Ён пералічаны сярод іншых “градаў”, якія атрымалі частку кантрыбуцыі ад Візантыі, накладзенай на гэтую дзяржаву ў выніку названага паходу, бо ў Полацку знаходзіўся вялікі князь, які падпарадкоўваўся Алегу[41]. Аднак нас цікавіць тое, што ў паведамленні аўтар выкарыстоўвае лексіку, характэрную для раннесярэднявечнай дзяржаўнасці. Па-першае, сам вайсковы паход з мэтай узбагачэння і падтрымкі аўтарытэту пануючага слаю ўя з'яўляецца бясспрэчным фактам дзяржаватворчых працэсаў. Па-другое, інтэрнацыянальнасць складу войска Алега. Гэта значыць, што ідэі лёгкага, але небяспечнага шляху ўзбагачэння і набыцця больш значнага сацыяльнага статусу ў лакальных грамадствах, сталі папулярнымі ў мясцовага славянскага, славянізуючага і фінскага насельніцтва той часткі Усходняй Еўропы, якая апынулася ў межах варажскіх уплываў. Па-трэцяе, канкрэтна названыя цэнтральныя месцы, на якія абапіралася варажская ўлада (Кіеў, Чарнігаў, Пераяслаў, Полацк, Растоў, Любеч). Па-чацьвёртае, у гэтых месцах адзінаўладна панавалі вялікія князі/ярлы, якія знаходзіліся, праўдападобна, у рознай ступені залежнасці ад кіеўскага князя. Аднак усе яны прызнавалі вяршынства і аўтарытэт Алега, бо ён быў ініцыятарам і арганізатарам названага паходу на Візантыю.

Трэба прызнаць, што працэс стварэння дзяржаў у басейне галоўных рэк Усходняй Еўропы праходзіў даволі хутка. Мы свядома ўжываем форму множнага ліку адносна паняцця “дзяржава” ў названым рэгіёне. Справа ў тым, што гэтую ўпэўненасць надае нам уласна аўтар *Аповесці мінулых гадоў,* які апісвае існаванне на працягу X ст. некалькіх сацыяльна-палітычных утварэнняў, што добра характарызуюцца як раннесярэднявечныя “дзяржавы”, вядомыя больш як “княствы”. Сярод іх адна дзяржава звязаная непасрэдна з тэрыторыяй Беларусі – “княства Рагвалода” ў басейне беларускай часткі Заходняй Дзвіны.

41 *Лаврентьевская летопись,* слп.29-31.

Апавяданне аб полацкім князю Рагвалодзе і вайне паміж сынамі Святаслава Ігаравіча – Яраполкам, Алегам і Ўладзімірам – з’яўляецца сярод даследчыкаў адным з самых папулярных летапісных сюжэтаў з X ст. Падзеі ў летапісах пададзеныя пад 980 г. у форме легенды аб сватаўстве Уладзіміра да дачкі полацкага князя Рагнеды, яе адмове і трагічным фінале падзей[42]. Звяртае на сябе ўвагу падрабязнасць, з якой выкладзена інфармацыя, яе багатая сімвалічнасць, а таксама адсутнасць дакладнай храналогіі. Аднак паспрабуем высветліць прыкладны час з’яўлення Рагвалода ў Полацку.

У летапісах дадзенае паведамленне пададзена пад 980 г. і мае характар штучнай устаўкі летапісца, якая разрывае апавяданне аб вяртанні Уладзіміра з наёмнымі атрадамі нарманаў у Ноўгарад і яго пахода на брата Яраполка, князя кіеўскага. Вынікае, што разбурэнне Полацка адбылося пасля вяртання Уладзіміра ў Ноўгарад, але хутчэй за ўсё да пачатку міжусобнай вайны паміж сынамі Святаслава, якую распачаў Яраполк пасля смерці бацькі ў 972 г. Такім чынам, мы павінны пагадзіцца з папярэднікамі і прызнаць, што знішчэнне Полацка адбылося каля 970 года, у любым выпадку не раней смерці Святаслава Ігаравіча[43]. А гэта дазваляе нам пасунуць пачаткі княжання Рагвалода на 950-я гады[44].

Пацверджанне дадзенай храналагічнай высновы знаходзіцца ў археалагічным матэрыяле, пра што казалася раней: удасканальванне фартыфікацыйнай сістэмы полацкага “Гарадзішча Рагвалода”, з’яўленне новых умацаваных паселішчаў (Лукомль, Гарадзец на Мнюце, Віцебск), з’яўленне скарбаў срэбраных дырхемаў і залатых рэчаў. На карысць прапанаванага датавання можа сведчыць тое, што, перад пачаткам братазабойчай вайны за кіеўскі трон, Уладзімір і яго брат Яраполк жадалі мець Рагвалода сваім саюзнікам, абраўшы вельмі распаўсюджаную форму дынастычнай уніі. Такім чынам, яны прызнавалі магутнасць і значнасць “княства Рагвалода” як дзяржаўнага ўтварэння. А на будаванне магутнай дзяржавы, натуральна, патрэбны час і сродкі. Бясспрэчнасць існавання з сярэдзіны X ст. дзяржавы ў Беларускім Падзвінні з цэнтрам у Полацку зафіксавалі аўтары летапісаў, калі, гаворачы пра з’яўленне Рагвалода ў Полацку, яны ўжываюць наступныя выразы: *“імяше власть свою в Полотске”, “Рогволоже, князя Полотьского”*[45]. Нам падаецца, што падобныя словы ў пачатку XII ст. без прычыны не выкарыстоўвалі. Таксама мусім прызнаць (як і летапісец) варажскае паходжанне Рагвалода, праўда, прадпрынятыя спробы ідэнтыфікаваць Рагвалода са старонак *Аповесці мінулых гадоў* з рэальнай асобай скандынаўскай гісторыі пакуль маюць характар гіпотэзаў[46].

Якім чынам апынуўся Рагвалод у Полацку? На гвалтоўны захоп будучай тэрыторыі свайго княства нішто не ўказвае. Археалогія не фіксуе ніякіх знішчэнняў на адпаведных помніках (сяр. X ст.). Наадварот, на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, як мы ўжо не раз адзначалі, у гэты час з’яўляюцца новыя ўмацаваныя паселішчы, багатыя грашовыя і рэчавыя скарбы. Застаецца толькі спосаб запрашэння на гаспадаранне мясцовай крывіцка-славянскай сацыяльнай і вайсковай элітай, якая пачынае фарміравацца, накшталт запрашэння Рурыка са сваім родам[47]. Ускосным пацверджаннем нейкага “міралюбівага” спосабу з’яўлення Рагвалода ў Полацку можа быць заўзятае трыманне за дынастыю Рагвалодавічаў на Полаччыне і зацятая барацьба за свой суверэнітэт у наступных XI – XII стст. “*И оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуци*”, запісаў аўтар *Лаўрэнцьеўскага летапісу* пад 1128 г.[48] На нашу думку, гэта пераканаўчае сведчанне легітымнасці ўлады самога Рагвалода і яго нашчадкаў.

Па сваёй сутнасці “княства Рагвалода” магло быць падобным да “варварскіх каралеўстваў” раннесярэднявечнай Заходняй Еўропы, але, напэўна, не адрознівалася ад “дзяржавы Рурыка” з цэнтрам у Ноўгарадзе, альбо “дзяржавы Аскольда і Дзіра” ці “дзяржавы Алега” з цэнтрам у Кіеве. На чале княства знаходзіўся

42 *Лаврентьевская летопись*, слп.75-76; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, [в:] *Русские летописи*. Том десятый, подготовлена к изданию А. И. Цепковым, Рязань 2001, с.125-126.

43 И. Я. Фроянов, *Мятежный Новгород. Очерки истории государственности, социальной и политической борьбы в конце IX – начала XIII столетия*, Санкт-Петербург 1992, с.133-135; И. И. Еремеев, *Полоцкая земля*, с.290.

44 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля*, с.290.

45 *Лаврентьевская летопись*, слп.76; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, с.125-126.

46 O. Łatyszonek, A. Bely, *On the Scandinavian origin of Rahvalod*, “Annus Albaruthenicus”, 2005, tom 6, p.49-64.

47 И. И. Еремеев, *Полоцкая земля*, с.290.

48 *Лаврентьевская летопись*, слп.300-301.

варажскі конунг Рагвалод, а яго галоўнай функцыяй быў кантроль за заходнедзвінскім адгалінаваннем шляху “з Вараг у Грэкі”, які якраз з сярэдзіны X ст. пачынае актыўна выкарыстоўвацца па ўсёй даўжыні ракі Заходняя Дзвіна.

Адсутнасць непасрэдных звестак аб граніцах “княства Рагвалода” ў пісьмовых крыніцах вымушае праводзіць іх на падставе археалагічных даных, якія дастаткова інфармацыйныя на момант сярэдзіны і другой паловы X ст. Натуральна, што палітычным і адміністрацыйным цэнтрам “Княства” быў горад Полацк. Сярод найлепей заселеных рэгіёнаў з’яўляюцца ўмацаваныя паселішчы – Лукомль, Гарадзец на Мнюце, Браслаў, Межава, магчыма Віцебск і Ўсвяты, якія выконвалі функцыі адміністрацыйных і вайсковых цэнтраў. Абапіраючыся на лакалізацыю названых гарадзішчаў, а таксама ўлічваючы натуральныя прыродныя перашкоды, “Княства Рагвалода” магло мець наступныя межы: на поўначы – азёрная сістэма Асвея і Нешчарда, вярхоўе Ловаці; ад Усвят мяжа ішла на поўдзень да нізоўяў Лучосы. Потым рубеж прымаў заходні накірунак, праходзіў праз вярхоўі рэк Друць, Бобр, Усвейка, Лукомльскую азёрную сістэму да р. Бярэзіна і далей на паўночны захад праз Падсвільскую азёрную сістэму да р. Дзісны ў месцы ўпадзення ў яе ракі Мнюта. Абмінаючы Ельненскія балоты з усходу, мяжа накіроўвалася ў бок Браслаўскай азёрнай сістэмы, адкуль выходзіла да Заходняй Дзвіны ў месцы ўпадзення ў яе р. Дрысы. Агульная плошча складала каля 100 тыс кв. км[49].

Пасля крывавых падзей 70-х гадоў X ст., калі загінуў Рагвалод са сваімі сынамі, лёс Полацка пэўны час быў звязаны з адносна адзінай дзяржавай Уладзіміра Святаславіча (978-1015 гг.) з цэнтрам у Кіеве. Шэраг важных мерапрыемстваў (уніфікацыя язычніцтва, прыняцце хрысціянства ў 988 г. і ўвядзенне інстытуту намесніцтва) спрыяў умацаванню і функцыянаванню княства Уладзіміра ужо як паўнавартаснай дзяржавы – Русі. Праўда, у гэты перыяд у Полацку склалася своеасаблівая сітуацыя. Тут намеснікам кіеўскага князя быў

49 Г. М. Семянчук, *Пачатковы этап фарміравання тэрыторыі Полацкай зямлі (IX-X стст.)*,“Весці Акадэміі Навук БССР. Серыя грамадскіх навук”, 1991, № 3, с.69-71.



прызначаны Ізяслаў, сын Уладзіміра і Рагнеды, унук Рагвалода, які з’яўляўся прадстаўніком мясцовай княжацкай дынастыі па кудзелі.

Менавіта ў межах Русі канчаткова афармляецца дзяржаўны апарат у Полацкім княстве, які карыстаецца не толькі выгодамі кантролю міжнародных гандлёвых камунікацый, але абкладае данінай (падпарадкоўвае) славянскае насельніцтва і суседнія балцкія і фінскія народы. Магчымы механізм падпарадкавання зафіксаваны на старонках летапісаў у інфармацыі пра паход кіеўскага князя Уладзіміра на радзімічаў у 984 г.[50]

Знаходжанне ў складзе Русі паспрыяла актыўнасці і паспяховасці Полацка сярод суседніх балцкіх і прыбалтыйска-фінскіх народаў. Адзначаная актыўнасць набывала дваякую форму: каланізацыйную і палітычную. Спачатку, у часы Рагвалода (можа крыху раней), узаемаадносіны Полацка з балтамі і лівамі былі, хутчэй за ўсё, саюзніцкімі. За абарону латышскіх і часткова літоўскіх народаў ад нападаў іншых нарманскіх конунгаў Полацк атрымліваў даніну і кіраваў іх вайсковым і палітычным жыццём. “Саюз роўных супольнасцяў” змяніў свой характар з моманту ўсталявання ў Полацка-Віцебскім Падзвінні сапраўднага дзяржаўнага апарату ў форме “намесніцтва Ізяслава” і яго актыўнай фіскальнай дзейнасці. Так званы “балтыйскі аспект” з’явіўся важнай своеасаблівасцю генезісу будучага самастойнага Полацкага княства і яго функцыянавання ў параўнанні з іншымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на тэрыторыі Ўсходняй Еўропы. Шчыльнае славяна-балцка-фінскае суіснаванне ў межах Полацкага княства да пачатку XIII ст. дазволіла польскаму медыявісту Гэнрыху Лаўмяньскаму назваць гэтае княства *quazi-imperium*[51].

Таксама Уладзімір у гэты ж час паспяхова змагаецца са сваімі канкурэнтамі яцьвягамі, якія кантралявалі Нёманска-Прыпяцкі гандлёвы шлях. Аб гэтым сведчыць паведамленне *Аповесці мінулых гадоў* пад 983 г. пра пераможны паход на яцьвягаў[52]. Археолагі

50 *Лаврентьевская летопись*, слп.83-84; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, с.131.

51 H. Łowmiański, *Geneza ziemi Połockiej*, [w:] H. Łowmiański, *Studia nad dziejami Słowiańszczyzny, Polski i Rusi w wiekach średnich*, Poznań 1986, s.477-483. Беларускі пераклад дадзенага артыкула гл.: Генрык Лаўмянскі, *Генезіс Полацкай зямлі*,“Arche Пачатак”, 2001, № 5, с.6-26.

52 *Лаврентьевская летопись*, слп.82; *Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов*, с.130.

адзначаюць спыненне актыўнага жыцця на гарадзішчах Франапаль, Гарадзішча на Ясельдзе, Муравельніка ў Ваўкавыску. Іх спаленне храналагічна адпавядае летапісным паведамленням аб паходзе Уладзіміра. Адначасова засноўваюцца новыя цэнтры – Бярэсьце, Пінск, Тураў, крыху пазней – Ваўкавыск. Усё гэта добра ўпісваецца ў карціну кіеўскай экспансіі канца X ст., эфектам якой было далучэнне і падпарадкаванне тэрыторыі Палесся і Верхняга Панямоння пад юрысдыкцыю кіеўскай улады і ўсталяванне яе кантролю над Нёманска-Прыпяцкай камунікацыяй[53].

Такім чынам, пераходзім да падсумавання. Аналіз наяўнага археалагічнага матэрыялу (нават усведамляючы яго малалікасць і інфармацыйную абмежаванасць) і нешматлікіх паведамленняў пісьмовых крыніц, створаных у пачатку XII – пачатку XIII ст., дазваляе зрабіць наступныя высновы:

1) На тэрыторыі Беларусі з пачатку IX ст. (магчыма, з канца VIII ст.) назіраюцца радыкальныя змены ў сацыяльным жыцці, гаспадарцы, штодзённай і мастацкай культуры, пахавальнай абраднасці. Гэта было выклікана з'яўленнем новага насельніцтва з Падунаўя, якое было носьбітам так званай "славянскай мовы". Адносна балта-славянскіх аўтахтонаў назавем мігрантаў "новымі славянамі". Тыя, што прыйшлі і селі на Дзвіне, назваліся палачанамі, тыя, што селі паміж Прыпяццю і Дзвіной, – дрыгавічамі, а тыя, што прыйшлі ад ляхаў, – радзімічамі. Перасяленцы не мелі колькаснай перавагі, але, дзякуючы больш развітым вытворчым тэхналогіям і метадам земляробства, больш дасканалым арганізацыйным структурам і выразна стратыфікаванаму соцыуму, здолелі задамінаваць на новых тэрыторыях, што спрасціла ім працэс "славянізацыі" мясцовага насельніцтва. З ініцыятывы мігрантаў узнікаюць першыя ўмацаваныя паселішчы, якія становяцца арганізацыйнымі цэнтрамі і важнымі сакральнымі месцамі.

2) Магчыма, з сярэдзіны і, безумоўна, з канца IX ст. у Беларускім Падзвінні назіраецца спачатку эпізадычнае варажскае пранікненне, асабліва актыўнае з сярэдзіны X ст. (прыйшоў Рагвалод з-за мора; яго брат Тур – у Тураве). Таксама з сярэдзіны X ст. на захадзе Беларусі ў Панёманні і Пабужжы замацоўваюцца "яцьвягі"

53 А. С. Кибинь, *От Ятвязи до Литвы: Политические и социокультурные трансформации в бассейне Верхнего Немана в X-XIII вв.*, Москва 2012, с.60.



– інтэрнацыянальная вайсковая арганізацыя на чале з варагамі. Са з'яўленнем нарманаў актывізуюцца міжнародныя камунікацыйныя сувязі паміж Поўначчу і Поўднем па рэках Беларусі: у канцы IX – сяр. X ст. – Заходнедзвінская камунікацыя; з другой паловы X ст. – Нёманска-Прыпяцкая. Менавіта кантроль над гэтымі камунікацыямі быў галоўным заданнем нарманаў, а для ўласнага забеспячэння яны падпарадкоўвалі мясцовае насельніцтва, часам гвалтоўна, але хутчэй на падставе адпаведных дамоў – хлеб узамен за бяспеку. У сувязі з гэтым альбо ўдасканальваюцца ўжо існуючыя ўмацаваныя паселішчы, альбо паўстаюць новыя сярод значных скапленняў мясцовага насельніцтва.

3) У сярэдзіне X ст. у Беларускім Падзвінні складваецца асобная дзяржава – "Княства Рагвалода" з цэнтрам у Полацку. Дадзеная дзяржава стала вынікам саюза запрошанага "з-за мора" нармана Рагвалода з мясцовымі крывічанскай, палачанскай і латгальскай элітамі Падзвіння. У будучым падобны "міралюбівы" шлях стварэння дзяржаўнага арганізма стаўся галоўнай прычынай суверэнітэту Полацкага княства ў XI – XIII стст. А змешанае мясцовае насельніцтва зацята бараніла, па іх разуменню, поўнасцю легітымную ўласную дынастыю Рагвалодавічаў, у рэаліях Сярэднявечча г. зн. сваю дзяржаву.

4) У канцы X ст. Падзвінне і Пабужжа, а да сяр. XI ст. і Панёманне, прайграюць канкурэнцыю (мілітарную, адміністрацыйную, ідэалагічную, дэмаграфічную, гаспадарчую) Кіеву, які ў часы князя Уладзіміра робіцца адзіным цэнтрам кантролю над міжнароднымі камунікацыямі Усходняй Еўропы, вядомай як "Русь".

5) У выніку адміністрацыйных (прызначэнне ўласных сыноў як намеснікаў Кіева) і ідэалагічных (прыняцце хрысціянства па візантыйскім узоры як дзяржаўнай ідэалогіі) рэформаў Уладзіміра ў канцы X ст. Пабужжа ўваходзіць як сталая частка ў склад Кіеўскай дзяржавы, таксама як у 40-50-х гг. XI ст. і Панёманне. У той жа час у Падзвінні ў межах адносна адзінай дзяржавы "Русь" максімальна выкарыстоўваецца шанец на стварэнне і існаванне суверэннай дзяржавы, вядомай як Полацкае княства. Галоўнай асаблівасцю дадзенага княства быў працяг традыцыі нармана-славяна-балцкага сумеснага жыцця ў адзінай дзяржаве, якую вельмі арыгінальна назваў *quasi-imperium* польскі медыявіст Гэнрых Лаўмяньскі. Славянізацыя

нарманскіх і балцкіх эліт, а таксама распаўсюджванне хрысціянства ў стараславянскай моўнай версіі, вызначылі дамінаванне менавіта славянскай мовы і ментальнасці ў раннесярэднявечных дзяржаўных утварэннях на беларускіх землях.



## Streszczenie

Henadź Siemianchuk, *Początki procesów państwowotwórczych na terytorium Białorusi od IX w. do początku XI w.*

W poniższym artykule postawiono przed sobą zadanie zbadania możliwości informacyjnych dostępnych źródeł archeologicznych i historycznych, dotyczących odkrycia wczesnych procesów państwowotwórczych na terytorium współczesnej Białorusi, które miały miejsce w ostatnich stuleciach pierwszego tysiąclecia naszej ery. Współcześnie istniejące naukowe interpretacje tych procesów w Europie Wschodniej, a w szczególności w Białorusi, nie są już satysfakcjonujące z powodu ich zaangażowania ideologicznego oraz przestarzałego warsztatu teoretycznego i metodologicznego.

Od V w. Do VIII w., naprzestrzeni niemalże 400 lat, terytorium Białorusi reprezentuje, zarcheologicznego punktu widzenia, mozaikę, która składa się z szeregu kultur archeologicznych: praskiej na południu, kołoczyńskiej na wschodzie i południowym wschodzie, smoleńsko-połockich długich kurhanów na północnym wschodzie, wschodniolitewskich kurhanów na północnym zachodzie i bancerowskiej w centrum. Wszystkie wymienione kultury archeologiczne odnoszą się do populacji, która zaadoptowała się do życia w przestrzeni leśnej z elementami rolnictwa na dość niskim poziomie i ze słabo zróżnicowanym społeczeństwem.

Na początku IX w. (możliwe, że już od końca VIII w.) można zaobserwować radykalne zmiany w życiu społecznym, gospodarce, kulturze artystycznej i codziennej oraz obrzędowości pogrzebowej. Było to spowodowane napływem nowej populacji dolnego dorzecza Dunaju, która była medium tak zwanego „języka słowiańskiego”. W odniesieniu do zamieszkujących te tereny Bałtosłowian, migrantów nazwiemy – „nowymi Słowianami”. Przesiedleńcy nie mieli przewagi liczebnej, ale dzięki bardziej rozwiniętym technikom produkcyjnym i rolniczym, strukturom organizacyjnym i wyraźnie warstwowej społeczności udało im się zdominować nowe terytorium, co ułatwiło im proces „slawizacji” miejscowej ludności.

Od końca IXw. w białoruskim dorzeczu Zachodniej Dźwiny obserwuję się początkowo epizodyczne napływy Waregów, szczególnie

od połowy X w. Również od połowy X w., na zachodzie Białorusi, w rejonie dorzecza Niemna i Bugu zakorzenilisię „Jaćwingowie" – ponad narodowa organizacja wojskowa z Waregami na czele. Od pojawienia się Normanów aktywizują się na białoruskich rzekach międzynarodowe szlaki komunikacyjne pomiędzy Północą a Południem. Głównym zadaniem Normanów było utrzymanie kontroli nad tymi szlakami, a dla własnego bezpieczeństwa podporządkowali sobie miejscową ludność, czasem gwałtem, ale częściej na podstawie konkretnych porozumień – wyżywienie za bezpieczeństwo.

W białoruskim dorzeczu Dźwiny,w połowie X w., powstaje państwo – „Księstwo Rogwołoda" z centralnym punktem w Połocku. Państwo to było wynikiem sojuszu Normana „zza morza"– Rogwołoda z miejscowymi elitami dorzecza Dźwiny – krywickimi, połockimi i łatgalskimi. Pod koniec X w. rejon dorzecza Dźwiny i Bugu, a do połowy XI w. również Niemna, przegrywa z przewagą militarną, administracyjną, ideologiczną, demograficzną i gospodarczą Kijowa, który za czasów księcia Włodzimierza staje się jedynym ośrodkiem kontroli na międzynarodowych szlakach komunikacyjnych Europy Wschodniej, znanej jako „Ruś".



**Summary**

Henadzi Siemianchuk, *The Beginning of Nation-building Processes on the Territory of Belarus from the 9th Century to Early 11th Century*

The objective of the article is the study of available archaeological and historical source materials pertaining to the discovery of early nation-building processes on the territory of contemporary Belarus, which took place between the 9th century and 11th century. Existing contemporary scholarly interpretations of these processes in Eastern Europe, especially in Belarus, are no longer deemed adequate due to their ideological involvement, as well as their dated theoretical and methodological research tools.

Between the 5th and 8th centuries, over the course of nearly four hundred years, from an archaeological standpoint, the territory of Belarus represents a mosaic consisting of a series of archaeological cultures – Prague-Korchak in the South, Kolochin in the East and Southeast, the Smolensk-Polotsk long kurgans in the East, the East-Lithuanian kurgans in the Northeast and the *Bancerowski* kurgans in the centre. All of the above mentioned cultures refer to the population, which adapted to forest-based life, with some primitive elements of agriculture and a poorly diversified society.

At the start of the 9th century (possibly as early as the end of the 8th century) radical changes can be observed in social, economic and artistic cultural life, as well as everyday culture and funerary rites. This was caused by the arrival of a new population to the lower basin of the Danube, intermediaries of the so-called "Slavic language". As those already inhabiting these areas are referred to as Baltic-Slavs, we will call the fresh arrivals, "New Slavs". Although the migrants did not have a numerical advantage, they did possess more advanced production and agricultural techniques. Thanks to these factors, as well as better organizational structures and a clearly delineated society, they were able to dominate the new territory, thus facilitating the "Slavization" of the local population.

From the end of the 9th century, in the Belarusian basin of the Neman River, Varangians began to trickle through, though more frequently from the midway point of the 10th century. Also in the 10th century, the Yotvingians – a supranational warrior-tribe led by Varangians – began settling in the Neman-Bug basin. The appearance of the Normans brought the opening

of international trade routes on Belarusian rivers between the Northern and Southern regions. The Normans' main objective was to maintain control over these routes, and for their own safety they subordinated local populations – sometimes by force, but more often on the basis of clear agreements; food in return for safety.

At the halfway point of the 10th century, in the Belarusian basin of the Daugava (Western Dvina), a state was founded – "Rogvolod's Principality". This state was the result of an alliance between Rogvolod, the Norman from "across the water", and local elites in the area of the Daugava, consisting of the Krivichs, Latgales and Polotskians. At the close of the 10th century in the basin region of the Daugava and Bug (and by the mid-point of the 11th century, also the Nieman), they were losing the rivalry with Kiev on nearly all fronts – military, administrative, ideological, demographic and economic. Kiev, which by the time of Prince Vladimir would become the only controlling hub on the international trade routes of Eastern Europe, became better known as Rus', or Ruthenia.t



**Wiaczesław Szwed**
**(Warszawa/Grodna)**

## Przejawy lićwinskosci w życiu społeczno-politycznym na ziemiach białoruskich w pierwszej połowie XIX wieku

W życiu społeczno-politycznym na ziemiach białoruskich Imperium Rosyjskiego, od czasów pierwszego rozbioru Rzeczpospolitej aż do powstania styczniowego, istniały trzy nurty: rosyjski (imperialny i opozycyjny), polski („rzeczpospolicki") i lićwiński, które odzwierciedlały się w różnych ruchach i formach organizacyjnych. Ostatni objawił się w: rzeczpospolickim nurcie, w postaci lićwińskiego separatyzmu (autonomizmu) i lićwińskiego patriotyzmu poprzez działalność Szubrawców, Filomatów, Zorzan i innych członków podziemnych i półtajemnych towarzystw, masonów, Michała Kleofasa Ogińskiego i jego projektu odrodzenia WKL (1811 r.), zaistnieniu WKL w 1812 r., powstaniach 1794 r. i 1830-1831 r., działalności emisariuszy centrów emigranckich i Towarzystwa Litewskich i Rosyjskich Ziem, pierwszych rewolucyjno-demokratycznych organizacjach i liberalno-demokratycznych ruchach.

W latach 1817-1822 w Wilnie działalność dozwoloną przez władze lokalne prowadziło**Towarzystwo Szubrawców**. W czasie swego istnienia zostało wydanych 287 numerów satyrycznej gazety „Wiadomości Brukowe". W numerze 147. został umieszczony materiał o „Warszawskim przyjacielu", który przysłał Szubrawcom list, w którym między innymi pisał: „Prawda, czasami nawet wasi przyjaciele narzekają, że dla Polaków piszecie po chińsku, że oni nie mogą was zrozumieć. Piszecie dla Litwy, a nie dla Korony. Wy mniej dbajcie o to, czy rozumie was Warszawa, byle tylko zrozumiały was Wilno i Litwa...[1]. Szubrawcy dążyli do odrodzenia Litewsko-Polskiej konfederacji z polityczną autonomią dla Litwy.

W latach 1817-1823 w Wilnie istniało **Towarzystwo Filomatów**. Na lićwiński charakter towarzystw, które zostały przez nich zorganizowane (Filaretów, Zorzan, Promienistych itp.), wskazywał cesarski komisarz N. Nowosilcow. Na przykład w swoim raporcie z przesłuchania filomatów i filaretów do Konstantego Pawłowicza „wyraźnie stwierdził, że pod słowem

1 С. Шолкович, *Польская пропаганда в учебных заведениях Северо- Западного края,* [в:] *Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России,* т.1, Вильна 1885, с. 257.

zobowiązania do swego kraju uważano nie zobowiązanie do Imperium Rosyjskiego w ogóle, ale tylko do guberni stanowiących Wileński okręg szkolny”[2]. Drugim faktem, który podkreśla lićwińskość towarzystw są ich założyciele. Stali się nimi: Adam Mickiewicz z Nowogródka, Tomasz Zan z Mołodeczna, Onufry Pietraszkiewicz ze Szczuczyna w powiecie Lidzkim. U źródeł stał też Jan Czeczot z Maluszycz w guberni Grodzieńskiej. Trzeci fakt – pośród aresztowanych 108 filomatów i filaretów, według danych z 1822 r.: z Mińskiej guberni były 22 osoby, z Grodzieńskiej – 25, z Wileńskiej – 27, a z Białostockiego okręgu guberni Grodzieńskiej – 7[3]. Według innych źródeł: z Mińskiej guberni było 33 filomatów i filaretów, z Grodzieńskiej –28, z Mohylewskiej – 5[4]. Tak więc, od 81 do 104 osób było lićwińskiego pochodzenia.

Słusznie podkreślała Alina Witkowska, że w murach Uniwersytetu Wileńskiego spotkała się młodzież, wychowana na białoruskiej kulturze regionalnej „herbowego gminu”, „zjednoczeni w Wilnie, w murach jednej instytucji, poczuli się »jednością mocną«, upoważnioną do przechowywania swojej regionalnej cechy. Nawet więcej. Litewska regionalność stała się szczególnie ważną częścią ich świadomości, sposobu widzenia siebie. Towarzyszy im ona również nieustannie jako trzeźwe zrozumienie sytuacji społecznej i pozycji w życiu, że rodzice nie dali i którą trzeba zdobyć samemu”[5]. Swoją „Litwę, kraj ojczysty” filomaci i filareci opisywali w swoich utworach literackich, a zwłaszcza A. Mickiewicz, J. Czeczot, T. Zan i O. Pietraszkiewicz[6].

Członkowie ruchu w jego pierwszym okresie próbowali badać swój kraj podczas wyjazdów wakacyjnych. Została przygotowana i wydrukowana bez zgody władz w wileńskiej bazyliańskiej drukarni instrukcja „Opis Geograficzny”. Była ona rozpowszechniana w 1821 r. wśród filaretów w celu badania i statystycznego opisu swoich parafii w takich kwestiach jak: lokalizacja miejscowości, jego przestrzeń i powierzchnia, drogi,

2 K. Цвірка, *Паданне пра філаматаў, або Доля аднаго пакалення,* [у:] *Філаматы і філарэты,* Мінск 1998, с. 20.

3 *К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819-1823 гг.,* Варшава 1898, с. 81-84.

4 *Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов,* т.4, Мінск 1979, с. 270-271.

5 A. Witkowska, *Mickewicz. Slowo i czyn,* Warszawa 1975, s. 10.

6 Zob.: *Філаматы і філарэты: Зборнік,* Мінск 1998.



rzeki, kanały, klimat, stan ludności, rozwój gospodarki, morale, obyczaje, zwyczaje, kultura materialna i duchowa[7].

Martwiąc się o rozwój swojej działalności, filomaci tworzyli nowe towarzystwa. Niewiele wiadomo o **Związku Krajowych Przyrodników**, o którym poinformował A. Mickiewicza Józef Jeżowski. W swojej odpowiedzi z dnia 17 maja 1820 r. Mickiewicz napisał: „Projekt Związku Krajowych Przyrodników Tomasza jest arcywyratowalny. Chciałbym tylko, aby i zwierzęta, motyle i ptaki litewskie zbierały dla organizacji gabinetu litewskiej historii naturalnej. Każdy powinien dołożyć do ofiarowanego egzemplarza jego opis, co o nim słyszał, co czytał i co oglądał sam, bo tak wiele, na przykład, owadów, nie wiemy, lub innych wiemy błędnie”[8]. Jak długo istniał związek, kto do niego wchodził, niestety, do tej pory nie wiemy.

Zgodnie ze Statutem Wielkiego Wschodu Królestwa Polskiego 1784 r. istniała **litewska prowincja masońska**, na której czele stanął zastępca Wielkiego Mistrza. Na ziemiach Białorusi w latach 1815 – 1821 prowadziło działalność pięć lóż symbolicznych i dwie kapitularne: w Nieświeżu, Mińsku, Grodnie, Nowogródku i Słucku. Liczyły one około 1063 braci[9]. W 1818 r. doktor filozofii i medycyny, wolnomularz loży wileńskiej „Starannego Litwina” Jan Szymkiewicz rozpoczął reformę masonerii w celu przybliżenia jej do społeczeństwa. Chciał on podobno uzyskać poparcie litewsko-białoruskich lóż i wysłał do nich listy, w których pisał, że prowincjonalna loża litewska postanowiła założyć w Wilnie Wielki Wschód i w związku z tym zaprasza do skierowania do niego posłów. Ale po miesiącu bracia loży słuckiej „Władysław Jagiełło”, otrzymali list z wycofaniem tej propozycji,„w celu zapewnienia istnienia i dobrobytu od rządu świata”[10].

Walka między rosyjskim i polskim Wschodem doprowadziła do tego, że w 1820 r. wśród litewsko-białoruskiej masonerii powstał projekt utworzenia samodzielnego Wielkiego Wschodu Litewskiego. Zostały wykonane pierwsze, praktyczne kroki: wołyński wolnomularz, hrabia

7 *Российский государственный исторический архив,* фонд 735, опись 10, дело 7, с. 283, 285.

8 *Korespondencja filomatow (1817-1822),* wybor i opracowanie Marta Zielinska, Warszawa 1989, s. 100.

9 В. В. Швед, *Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772-1863 гг.),* Гродна 2001, с. 404-406.

10 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі,* фонд 295, апіс 1, ад.зах. 286, 327; Z. L. Hass, *Wolnomularstwo w Europie Środkowo-Wschodniej w XVIII i XIX w.,* Wroclaw 1982, s. 287; С. Ф. Добрянский, *Очерки из истории масонства в Литве*, [в:] *Записки северо-западного отдела импер. русского географ. Общества,* книга 4, Вильна 1914, с. 119, 122.

растлумачыць сялянам палітычныя мэты паўстання. "*Быў то калісьці народ наш вольны і багаты. Не помняць гэтага нашыя бацькі і дзяды, но я вычытаў у старых ксёнжках, што так калісьці бывала,* – піша ён у другім нумары газеты. – *Но ў суседстве з намі жыў Немец і Маскаль. Аднаму і другому багацтва нашае калола ў очы — каб іх так колька схапіла, да і хацелі нас сагнаць з нашай бацькаўшчыны. Трэба было бараніціся, так Кароль кажа – "хадзем бараніці", а тут не ўсе ідуць, да і мала нашых пайшло. Выгналі то Маскаля і Немца — но каб жэнкі да і дзеці гэтых, што хадзілі на вайну, мелі за чым пражыці, так Кароль наш і напісаў такое права: "Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваей зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'юцца за вольнасць і шчасце ўсіх". І гэтак было доўга: адне баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паншчына. Судзеце ж цяпер самі, чы можна было зрабіці справядлівей, як зрабіў калісьці наш Кароль Польскі да і Літоўскі?*"[13]

Наступствы паўстання 1863 г. для беларускага народа і пытання яго дзяржаўнасці можна ацэньваць па-рознаму. З аднаго боку, у ім упершыню палітычнае гучанне набрала беларуская мова, як мова магчымай аднаўленай дзяржавы. Яно дало беларускаму народу яго нацыянальнага героя – Кастуся Каліноўскага. З другога боку – у выніку рэпрэсій царскіх улад Беларусь на доўгі час ператварылася ў "Северо-Западный край", адну з правінцый Расійскай імперыі. Было фактычна знішчана адно пакаленне мясцовай эліты: толькі па падліках Аляксандра Масолава, які быў сакратаром Мікалая Мураўёва, расстраляна, саслана на катаргу, аддадзена ў салдаты ці адпраўлена ў Сібір 8657 чалавек[14], не менш было забіта у час ваенных дзеянняў. Як і пасля 1831 г., многія ўдзельнікі паўстання пакінулі Беларусь і аселі за яе межамі. Можна меркаваць, што пры іншай гістарычнай сітуацыі – калі б не было паўстання, ці калі б яно не было такім знішчальным для палітычнай эліты беларускіх земляў – эвалюцыя ідэі дзяржаўнасці ў межах "літвінства" была б працягнута, мог адбыцца працэс пераасэнсавання дзяржаўных традыцый ВКЛ на падставе новых з'яў у нацыятворчых працэсах на былых яго землях.

13 "Mużyckaja prauda", № 2, 1863.
14 А. Мосолов, *Виленские очерки. 1863-1865 (Муравьёвское время),* С-Петербург 1898, с. 212-213.



Другім наступствам паўстання стала гвалтоўная і хуткая русіфікацыя Беларусі, уніфікацыя яе адрозненняў ад іншых, найперш "велікарускіх" рэгіёнаў імперыі. М. Мураўёў, натхніцель і выканаўца палітыкі ўлад, у час паўстання і пасля яго выкарыстаў, бадай што, найбольш удалы для мэтаў "правінцыялізацыі" Беларусі ход. Ён палягаў у супрацьпастаўленні шляхты і сялянства па этнічным прынцыпе. "Рускае праваслаўнае" сялянства супрацьпастаўлена было "польскім каталіцкім" панам. Інструментам гэтага супрацьпастаўлення быў "заходнерусізм», які павінен быў стаць дамінуючай ідэйнай плынню на беларускіх землях пасля падаўлення паўстання 1863 г.

Існуе меркаванне, што "заходнерусізм" як ідэалогія ўзнік у другой палове XIX ст. і быў пашыраны на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны. Так, Андрэй Ціхаміраў адзначае: "*As an ideological streak, "Westrus'ism" appear edited second halfof 19th century on the territories of presented Ukraine, Belarusand, Lithuania, w hich as result of the partition of Poland hadbeenin corporatein to the Russian Empire*"[15]. Як нам падаецца, узнікненне і афармленне "заходнерусізму" адбываецца ў першай палове XIX ст. Да яго прадстаўнікоў можна аднесці Івана Грыгаровіча, мітрапаліта Іосіфа (Сямашку), выкладчыкаў Віленскага ўніверсітэта ў часы куратарства Мікалая Навасільцава (найперш, Паўла Кукольніка). Ідэі "заходнерусізму" відавочныя таксама ў працах Станіслава Богуша-Сестранцэвіча.

На нашую думку, адной з прычын фармавання і распаўсюджання "заходнерусізму" была адмена прыгоннага права, а галоўным сацыяльным слоем, на які разлічана была прапаганда гэтай ідэалогіі, – беларускае праваслаўнае сялянства. Пасля 1861 г. сялянства разам з асабістым вызваленнем набыло і акрэсленыя сацыяльныя правы. Яно выходзіла з-пад юрысдыкцыі ўладальніка і такім чынам станавілася не аб'ектам, а суб'ектам права. Ад таго, чый бок зойме шматмільённае сялянства, залежаў вынік барацьбы паміж урадам і прыхільнікамі аднаўлення незалежнасці. Гэта яскрава паказала паўстанне 1863 г. У адной з першых прац, якая з'явілася ў 1865 г., – уводзінах да выдання *"Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и к Польше"*- Міхаіл Каяловіч

15 A. Tichomirow, "*Westrusism*" *as a research problem,* [in:] *East and West. History and Contemporary State of Estern Studies,* edited by Jan Malicki and Lesyek Zasztowt, Warsaw 2009, s.159.

пісаў: “*Они [сляне] составляют главную массу населения Западной России, в большей части мест совершенно сплошную. Они туземцы в этой стране. Никакие превратности истории не могли уничтожить их национальных особенностей; напротив, часто они управляли ходом истории своей страны и решали её судьбу. В настоящее время они вышли из крепостного состояния, получили гражданские права, им открыты пути к материальному, общественному и политическому развитию страны. Отказать этому многочисленному народу в правах развития – было бы страшною неправдою. Это, повторяем, главное население страны, которому принадлежит и главное внимание как науки, так и общественного мнения*»[16].

Распаўсюджанне ідэй “заходнерусізму” сярод сялянства павінна было ісці праз школу і царкву. Уладамі ў 1860-х гг. было прадпрынята пераўладкаванне ўсёй сістэмы адукацыі, у тым ліку яе інстытуцыянальнай пабудовы, настаўніцкіх кадраў, зместу навучання. Скарочана была колькасць гімназій і значна ўзрасла сетка навучальных устаноў для сялян. На 1867 г. у Віленскай навучальнай акрузе было 1046 народных вучылішчаў, у якіх навучалася 36718 чалавек, царкоўна-прыходскіх у гарадах і мястэчках – 101; вясковых школ – 208, якія заснавала Міністэрства дзяржаўнай маёмасці[17]. Навучанне ў гэтых школах, а таксама ў гімназіях павінны былі ажыццяўляць настаўнікі з цэнтральных губерняў імперыі, якія прыехалі ў Беларусь па так званым “мураўёўскім наборы”, а для вывучэння ў бібліятэкі вучылішч дасылаліся брашурка князя Львова *“О России”*, яшчэ *“Москва, Киев и Варшава”*, а таксама *“Книга для чтения, изданная при Виленском учебном округе”* і *“Западно-русский календарь”*[18].

У працы М. Каяловіча *“Лекции по истории Западной России”*[19] сфармуляваны асноўныя пастулаты “заходнерусізма”, якія пасля былі развітыя ім самім і яго калегамі – Лук’янам Саланевічам, Ксенафонтам Гаворскім, Антонам Будзіловічам, Дзмітрыем

16 *Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и к Польше.* Санкт-Петербург 1865, с. XII.

17 *Русское дело в Северо-Западном крае. Материалы для истории Виленского учебного округа, преимущественно в Муравьёвскую эпоху,* Санкт-Петербург 1901, с.155.

18 Тамсама, с.67.

19 М. Коялович, *Лекции по истории Западной Росии,* Москва 1864.



Бацюшкавым, Платонам Жуковічам і іншымі. Асноўнымі прынцыпамі “заходнерусізму”, паводле М. Каяловіча і ягоных аднадумцаў былі: існаванне аднаго рускага народа, які складаецца з трох галін – вялікарусаў, маларосаў і беларусаў, іх аб’ядноўвае адзінства мовы і рэлігіі; першапачаткова існавалі два цэнтры, якія злучалі рускія землі, – ВКЛ і княства Маскоўскае, але пад націскам Польшчы эліты ВКЛ пачалі акаталічвацца і паланізавацца, у выніку чаго рускі народ у ім апынуўся пад прыгнётам паланізаванай шляхты. Далучэнне да Расійскай імперыі – адзіны спосаб захавання ідэнтычнасці беларусаў як часткі рускага народа.

Публікацыя гістарычных крыніц, запіс беларускага фальклору і яго выданне, стварэнне гістарычна-царкоўных музеяў і іншая дзейнасць заходнерусістаў разглядаецца некаторымі беларускімі даследчыкамі як адзін з этапаў “беларускага культурнага накаплення”[20]. На нашую думку, падобная трактоўка спадчыны “заходнерусізму” не цалкам карэктная, паколькі не ўлічвае інтэрпрэтацыю, якая давалася заходнерусамі сабраным матэрыялам, а таксама тэндэнцыйнасць у іх адборы і публікацыі. Штучнае вылучэнне традыцыйнай культуры беларусаў з усяго культурнага ландшафту беларускіх земляў; засяроджванне на гістарычных падзеях, звязаных з канфесійнай барацьбой; ігнараванне ролі шляхты ў працэсе развіцця беларускага этнаса і яго культуры, супрацьпастаўленне ардадамінантнай і традыцыйнай культурных плыняў на беларускіх землях служылі канкрэтнай мэце – паставіць перашкоду для ўплыву на беларускае сялянства мясцовай палітычнай і сацыяльнай эліты, апазіцыйна настаўленай да ўлады. Такая праграма была дакладна сфармулявана ўжо ў найбольш значным і першым па часе з’яўлення дакументальным выданні, падрыхтаваным у рэчышчы заходнерусісцкай традыцыі – Актах Віленскай археаграфічнай камісіі. У прадмове да першага тома публікатары, у прыватнасці, такім чынам тлумачылі адбор дакументаў аб здзеках “свавольнай польскай шляхты” над сялянамі: “*…доказать фактически, что Западный край никогда не был счастлив под польским правительством[…], что только под Русским правительством Западный край забыл свои страдания, исцелил прежние раны и начал*

20 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй*, Санкт-Пецярбург 2004, с. 10.

*своё истинно политическое состояние*"[21]. Разглядаючы шляхту як выключна польскую па этнічнай прыналежнасці, заходнерусісты такім чынам пазначалі памкненне мясцовай элітыаднавіць страчаную дзяржаўнасць як спробу вярнуць панаванне "польскіх паноў" над мясцовым праваслаўным беларускім сялянствам. Такім чынам, частка грамадства Беларусі, якая была палітычна актыўнай, мела досвед і патэнцыял для аднаўлення і далейшага будаўніцтва дзяржаўнасці, адсоўвалася ад асноўнай масы насельніцтва. Такое аддзяленне павінна было прадухіліць у будучым палітычныя выступленні, падобныя да паўстанняў 1830–1831 і 1863 гг.

Заходнерусісты ўпершыню пазначылі ВКЛ як этнічную дзяржаву. Вызначэнне праводзілася на падставе агульнасці мовы – крытэрыя, які ў той час разглядаўся ў адпаведнасці з традыцыяналісцкім падыходам як галоўны ў акрэсленні нацыі і народнасці. "*Русский язык был общеупотребительным повсеместно в государстве,* – пазначалася ва ўводзінах да першага тома Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі. – *А как язык составляет самый видимый знак народности, то и не подлежит никакому сомнению, что Русская народность была преимущественнейшим, преобладающим элементом в государстве*"[22]. Свядома, ці несвядома праводзілася спекуляцыя на тэрмінах, якія ў ВКЛ ужываліся для старабеларускай мовы і праваслаўя ("руская мова", "руская вера"). Разглядаючы ВКЛ як "рускую дзяржаву", заходнерусісты даказвалі справядлівасць анексіі яго тэрыторыі Расійскай імперыяй і не бачылі падстаў для аднаўлення незалежнасці.

Як гэта не парадаксальна, але дзейнасць і ідэалогія «заходнерусізму» абумовілі ў значнай ступені пазіцыю краёўцаў у пытанні аднаўлення дзяржавы на беларуска-літоўскіх землях, а таксама ў асэнсаванні яе этнічнага і сацыяльнага зместаў. Як кансерватыўная, так і ліберальная плыні краёўцаў не бачылі перспектываў стварэння на былых землях ВКЛ нацыянальных дзяржаў. Нягледзячы на эвалюцыю іх поглядаў на працягу апошніх дзесяцігоддзяў XIX – пачатку XX ст., ідэя аднаўлення дзяржаўнасці ў межах былога ВКЛ на падставах аб'яднання народаў, якія тут

21 АВАК, т.1, Санкт-Петербург 1865, с. 23-24.
22 АВАК, т.1, с. 23-24.



жылі, заставалася дамінуючай. Канстанцыя Скірмунт, адна з вядомых і актыўных дзеячак кансерватыўнага крыла краёўцаў, аўтарка папулярнага нарыса гісторыі Літвы, у 1906 г. пісала ў лісце да Аляксандра Ельскага наступнае: "*Паводле майго перакanання, братэрства нашае (Польшча, Русь, і крыху больш аддаленая Літва) з'яўляецца найперш праславянскім (у Беларусь не веру, гэта яшчэ недаказана, а можа нацягнута)[…]. Выпрацоўка новай літоўска-беларускай аўтаноміі пад сённяшнім (цяжкім для вытрымання) рэжымам – як рэмінісцэнцыя былога В. Княства Літоўскага можа быць таксама тэмай для закранання [у будучай кнізе]*"[23].

Праводзячы рэформы 1860-х гг., расійскі ўрад захаваў сацыяльны падзел грамадства. Да сацыяльнай мяжы, якая існавала паміж краёўцамі як землеўладальнікамі і прадстаўнікамі прывілеяванага саслоўя, дадавалася размежаванне моўнае і, у значнай ступені, канфесійнае. Дзейнасць заходнерусістаў, падмацаваная падтрымкай урада, давала свае плёны: не толькі сяляне адчувалі сябе іншым народам, які адрозніваецца ад мясцовай шляхты мовай і веравызнаннем, але і мясцовая польскамоўная эліта ўсё больш адасаблялася ад народа, залічаючы сябе да палякаў, прыхадняў на беларускай зямлі. Гэты працэс падмацоўваўся і дзейнасцю польскіх нацыянальна-палітычных арганізацый, найперш, эндэкамі.

Алег Латышонак у адной са сваіх ранніх прац разглядаў краёвасць як ідэалагічную праяву "тутэйшасці": "*krajowość można nazwać zideologizowaną tutejszością już choćby dlatego, że odwołuje się do wspólnoty rdzennych mieszkańców ziem byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego. W takim ujęciu "tutejszość" jest świadomością, a "krajowość" światopoglądem […]*"[24]. З гэтай высновай можна пагадзіцца толькі часткова, паколькі краёўцы адзначалі сваю прыналежнасць да польскага народа, і, найперш, іх ліберальная плынь, якая ўсведамляла этнічную разнастайнасць земляў былога ВКЛ. "*Osoby skupione wokół tak zwanej idei krajowej,* – піша Пшемыслаў Дамброўскі, аналізуючы ўзаемаадносіны літоўцаў і палякаў на мяжы XIX-XX стст., – *uważały*

23 *Archiwum Główny Akt Dawnych,* Archiwum Prozorów i Elskich. Sygn. 140, Teka białoruska. List do A. Elskiego od 22.9.1906.
24 O. Łatyszonek, *Krajowość i „Zapadno-Russizm". Tutejszość zideologizowana*, [w:] *Krajowość – Tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu*, Poznań 1998, s. 35.

*dążenia Litwinów do równo uprawnienia za zgodne w wielowiekową tradycją historyczną, wspólną dla ziem litewsko-białoruskich*”[25].

Погляды краёўцаў на будучыню былой тэрыторыі ВКЛ, на нашую думку, мелі пад сабой не так нацыянальны, як сацыяльны падмурак. Прызнаючы неабходнасць дэмакратычных пераўтварэнняў на землях будучай дзяржавы, як і ліцвіны першай паловы XIX ст., яны захоўвалі за сабой ролю кіраўніка і патрона, які мае правы накіроўваць памкненні непрывілеяваных жыхароў былых земляў ВКЛ. Найбольш яскрава гэта выявілася ў I Дзяржаўнай думе ў час абмеркавання аграрнага пытання. Геранім Друцкі–Любецкі, уладальнік вялікіх зямельных абшараў на Палессі, лічыў, што самым галоўным пытаннем з'яўляецца аграрнае, якое неабходна вырашаць у адпаведнасці са спецыфічнымі ідэаламі кожнай нацыянальнасці. Падтрымаўшы выступленне Эдварда Ропа, ён прапанаваў пасля слоў аб неабходнасці адчужэння часткі прыватнаўласніцкіх зямель дадаць у закон, які абмяркоўваўся, словы: “*адпаведна з патрэбамі і пажаданнямі мясцовага насельніцтва*”. Дэпутат заявіў: “*Адзін з ідэалаў сельскага насельніцтва нашай мясцовасці – ідэал уласнасці. Трэба рэалізаваць гэты ідэал, але справядліва, бяскрыўдна і толькі так, як гэтага жадае мясцовае насельніцтва*”[26]. Такім чынам, пытанне з сацыяльнай плоскасці пераводзілася ў тэрытарыяльную, а сялянскія інтарэсы асобна не вылучаліся.

Погляды краёўцаў на праблему дзяржаўнасці на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў змяняліся, з развіццём нацыятворчых працэсаў і ростам нацыянальных рухаў усё больш выразна пазначалася неадпаведнасць краёвай ідэі патрэбам палітычнай і сацыяльнай сітуацыі ў Беларусі і Літве[27]. Паказальна, што дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння, найперш Вацлаў Ластоўскі,

25 P. Dąbrowski, *Obraz Litwinów – głównych przedstawicieli litewskiego odrodzenia narodowego w oczach Polaków – mieszkańców byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego na przełomie XIX i XX wieku,* „Annales Universitatis Mariae Curie-Skłodowska”, Lublin 2011, vol. LVIII, 2, sectio G, s. 22.

26 М. Забаўскі, *Шляхі да незалежнасці (Барацьба за аўтаномію Паўночна-Заходняга краю ў пачатку XX ст.),* [у:] *Актуальныя праблемы станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці: да 90-годдзя ўтварэння БССР: Матэрыялы рэсп. навук.-тэарэт. канф., Мінск, 27 лют. 2009 г.: у 2 ч.*, ч. 1. *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ад старажытнасці да 1918 г.*, рэд. А. Андарала, М. Забаўскі, А. Люты, Мінск 2009, с. 143.

27 А. Смалянчук, *Краёвасць стасоўна беларускага і літоўскага нацыянальных рухаў на пачатку XX ст.*, [у:] *Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі,* рэд А. Лагвінец, Т. Чуліцкая, Варшава 2013, с. 68.



падтрымліваючы першапачаткова саюзніцкія адносіны з краёўцамі, у час дзеяння БНР не прынялі праект стварэння літоўска-беларускай дзяржавы на падставе прынцыпаў краёвай ідэалогіі.

На наш погляд, у першае дзесяцігоддзе XX ст. на новым узроўні паўтаралася мадэль сярэдзіны XIX ст., калі моцныя сацыяльныя зрухі і нацыятворчы працэс вымушалі эвалюцыянаваць ідэалогію “ліцвінства”. У паўстанні 1863 г., у поглядах і дзеяннях Кастуся Каліноўскага гістарычная памяць аб Вялікім Княстве Літоўскім, дапоўненая сацыяльным зместам, набывала беларускае гучанне; у першыя дзесяцігоддзі XX ст. гэтая ж гістарычная памяць, захаваная краёўцамі, напаўнялася беларускім зместам, набываючы выгляд беларускай дзяржаўнай ідэі.

**Streszczenie**

Swiatłana Kul-Sialwiestrawa, *Kwestia państwowości białoruskiej w ideologii „lićwińtswa", „zachodniorusizmu" i „krajowości"*

W XIX w. i na początku XX w. w programach ideologicznych najbardziej masowych ruchów politycznych na ziemiach białoruskich – „lićwińtswa", „zachodniorusizmu" i „krajowości"–zostały sformułowane główne kierunki rozwiązania kwestii państwowości białoruskiej. „Lićwińtswo" – nurt ideowy i kierunek w ruchu politycznym na ziemiach byłego WKL pod koniec XVIII w. i w pierwszej połowie XIX w., której medium była szlachta oraz duchowieństwo katolickie oraz unickie. Jego fundamentem był lićwiński patriotyzm, dążenie do odrodzenia Wielkiego Księstwa Litewskiego, co było zjawiskiem o charakterze politycznym, a nie etnicznym. Starsze pokolenie medium idei lićwińskiej podjęło próbę odbudowania państwowości: w 1811 r. Pod protektoratem Imperium Rosyjskiego, a w 1812 r. – napoleońskiej Francji. W odbudowanym państwie powinna być zachowana uprzywilejowana pozycja szlachty, a samoidentyfikacja chłopstwa i mieszczaństwa, w tym również etniczna, nie była brana pod uwagę. Kolejne pokolenie medium idei lićwińskiej – filomaci i filareci oraz, bliscy im światopoglądowo, przedstawiciele drobnej szlachty przyczynili się do stworzenia wyidealizowanego obrazu Wielkiego Księstwa Litewskiego. W powstaniuw 1863 r. „czerwoni" na czele z K. Kalinowskim, wykorzystując ideę odbudowy WKL, dążyli do uwzględnienia w odbudowanym państwie interesów chłopstwa.

Główną warstwą społeczną, doktórej kierowana była propaganda „zachodniorusizmu", byli prawosławni chłopi białoruscy. Mieli oni przyswoić tę ideę po przez s zkołę i cerkiew. Propagatorzy idei „zachodniorusizmu" pierwotnie wyznaczyli WKL jako państwo etniczne. Definicja była formułowana na podstawie ogólności języka, dopuszczano się spekulacji terminami, które w WKL były używane w odniesieniu do języka starobiałoruskiego i prawosławia („język ruski", „ruska wiara"). Rozpatrując WKL jako „państwo ruskie", zachodniorusiści udowadniali sprawiedliwość aneksji tego terytorium przez Imperium Rosyjskie i nie widzieli podstaw do odbudowania niepodległości.



Zarówno konserwatywny, jak i liberalny nurt krajowców, nie patrząc na ewolucję ich poglądów, nie widział perspektyw na stworzenie, na byłych ziemiach WKL, państw narodowych. Uznając konieczność zmian demokratycznych, na terytorium przyszłego państwa, podobnie jak i lićwini z pierwszej połowy XIX w., przypisywali oni sobie rolę kierownika i patrona, który ma prawo do przewodzenia dążeniom nieuprzywilejowanych mieszkańców byłych ziem WKL.

W pierwszym dziesięcioleciu XX w., na nowym poziomie, powtarzał się model z połowy XIX w., kiedy silne zrywy społeczne i procesy narodowotwórcze wymuszały, aby ideologia „lićwińtswa" ewoluowała. W trakcie powstania w 1863 r. w poglądach i działaniach K. Kalinowskiego pamięć historyczna, o Wielkim Księstwie Litewskim, uzupełniona treścią społeczną, nabierała białoruskiego wydźwięku. W pierwszych dziesięcioleciach XX w. ta sama pamięć historyczna napełniła się treścią białoruską, nabywając postać białoruskiej idei państwowej.

## Summary

Swiatłana Kul-Sialwiestrawa, *The Question of Belarusian Statehood in the Ideologies of "Litvinness", "East Ruthenianism" and "Nativeness"*

In the 19th and early 20th centuries, the main trends of resolving the issue of Belarusian statehood were formed within the ideological programmes of the most popular political movements on Belarusian lands – "Litvinness" (a sense of Litvin identity) "East Ruthenianism" and "nativeness". "Litvinness" was a set of ideas and a trend in the political movement on the lands of the former Grand Duchy of Lithuania which existed at the end of the 18th century and the first half of the 19th century. Its proponents were the nobility, and members of the Catholic and Uniate clergy. Its foundation was Litvin patriotism, inexorably linked to striving for the rebirth of the Grand Duchy of Lithuania. It was a political and not an ethnic phenomenon. The older generation of proponents of the Litvin concept attempted to rebuild Lithuanian statehood, first under the protectorate of the Russian Empire in 1811, and then under Napoleonic France in 1812. In the rebuilt state, the privileged position of the nobility was to be preserved, while the self-identity of the peasants and the middle class, including its ethnicity, were not even given though to. The following generation of Litvin advocates, the Philomaths and Filarets, as well as representatives of the minor nobility – so similar in their worldview – attempted to create an idealized version of the Grand Duchy of Lithuania. During the uprising in 1863, the "Reds", led by K. Kalinowski, adopte the idea of rebuilding the Grand Duchy, but strived for the interests of peasants to be recognized in the new state.

The main social strata which the propaganda of "East Ruthenianism" was directed at were Belarusian Orthodox peasants. They were meant to absorb the concept through school and the Church. The propagators of the "East Ruthenian" idea initially designated the Grand Duchy of Lithuania as an ethnic state. The definition was formulated on the basis of the generality of language, allowing for speculation on terminology used during the Grand Duchy in reference to Belarusian language and Orthodoxy (i.e. Ruthenian language, Ruthenian faith). Considering the Grand Duchy a "Ruthenian state" allowed them to justify the annexation of the territory



by the Russian Empire and thus, they did not see any foundation for rebuilding independence.

Both the conservative and liberal branches of "nativists", regardless of the evolution of their views, did not see any perspective for creating national states on the former territory of the Grand Duchy of Lithuania. Acknowledging the necessity for democratic changes on the territory of the future state, they ascribed themselves the roles of director and patron, with the added right to lead the aspirations of the under-privileged inhabitants of the former lands of the Grand Duchy.

In the first decade of the 20th century, the same model from the 19th century repeated itself at a new level, when strong social impulses and nation-building processes forced the ideology of "Litvinness" to evolve. During the uprising in 1863, in the views and activities of K. Kalinowski, the historical memory of the Grand Duchy of Lithuania, supplemented by social narrative, took on a Belarusian overtone. In the first decades of the 20th century, this same historical memory was filled with Belarusian content, and thus shaped the concept of the Belarusian state.t

**Аляксандр Смалянчук**
**(Варшава/Гродна)**

## Краёвасць як ідэалогія “літоўскіх палякаў”

*Не шляхта і колькасна невялікая інтэлігенцыя,*
*а народ вызначае колеры краёвага сцяга.*
*Мы павінны імкнуцца працаваць разам з*
*народам літоўскім або рускім, з якім*
*ствараем адзіную нацыю, для*
*агульнага шчасця нашага Краю.*
Раман Скірмунт (Roman Skirmunt), 1904

На працягу апошняга дваццацігоддзя відавочны рост зацікаўленасці навукоўцаў і грамадскасці праблематыкай “краёвай ідэі” як важнага ідэалагічнага феномену пачатку эпохі нацыяналізмаў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Гістарыяграфія гэтай праблемы ўжо мае ўласную традыцыю. Дастаткова прыгадаць імёны польскіх даследчыкаў Юліўша Бардаха, Яна Юркевіча і Збігнева Соляка[1]. Асаблівай увагі заслугоўвае кніга З. Соляка, прысвечаная постаці і поглядам Міхала Ромэра (1880–1945). У манаграфіі Дарыуша Шпопера атрымала асвятленне жыццё і дзейнасць іншай вядомай прадстаўніцы краёвасці Канстанцыі Скірмунт (1851-1934)[2].

Вялікі ўнёсак у вывучэнне краёвасці зрабілі літоўскія даследчыкі Рымантас Мікніс і Ян Савіцкі, працы якіх галоўным чынам прысвечаныя ўжо згаданаму Міхалу Ромэру і ягонаму “Дзённіку”, які з’яўляецца надзвычай цікавай гістарычнай крыніцай

1 J. Bardach, *O dawniej i niedawnej Litwie,* Poznań 1988; *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11-12 maja 1998)*. Pod red. Jana Jurkiewicza. Poznań 1999; Z. Solak, *Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880-1920*, Kraków 2004.

2 D. Szpoper, *Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851-1934)*, Gdańsk 2009.



і не толькі па праблеме краёвасці[3]. Запісы ў “Дзённіку” рабіліся з 1911 па люты 1945 г. Шмат увагі гэтай праблеме прысвяціў аўтар дадзенага артыкула пад час вывучэння гісторыі польскага грамадска-палітычнага і нацыянальнага руху ў Беларусі і Літве ў апошняе пяцідзесяцігоддзе існавання Расейскай імперыі і даследуючы эвалюцыю і формы беларускай нацыянальнай ідэі на пачатку XX ст.[4] Андрэй Унучак (Мінск) зрабіў вартае ўвагі параўнанне “краёвай ідэі” і “заходнерусізму”[5]. У апошнія гады краёвасць трапіла таксама ў кола навуковых інтарэсаў такіх беларускіх даследчыкаў гісторыі ідэі, як Ігар Бабкоў і Андрэй Казакевіч[6]. Па ініцыятыве апошняга як дырэктара Інстытута палітычных даследаванняў “Палітычная сфера” былі падрыхтаваныя да выдання тэксты большасці вядучых прадстаўнікоў краёвасці. Электронная версія выдання размешчана на сайце Інстытута[7].

Аднак даволі шмат пытанняў у гісторыі “краёвай ідэі” застаецца без задавальняючага адказу. У гэтым артыкуле хачу яшчэ раз звярнуцца да праблемы вытокаў краёвасці і паспрабаваць адказаць на пытанні, датычныя як стваральнікаў гэтай ідэалогіі, так і іх патэнцыйных адрасатаў. Кім і для каго распрацоўвалася “краёвая ідэя”? Якую ролю ў стварэнні новай ідэалогіі адыгрывалі тыя нацыянальныя працэсы, якія разгортваліся не толькі сярод беларусаў

3 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, „Biuletyn Historii Pogranicza”, 2000, nr 1, s. 21-32; Р. Мікніс, *Міхал Ромэр (1880-1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца*, „Homo Historicus”, Вільня 2008, с.236-260; J. Sawicki, *Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego*, Toruń 1998.

4 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864-люты 1917 г.*, (2-е выд., дапрац), Санкт-Петербург 2004; ён жа, *Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2000, nr 14, с. 45-53; ён жа, *Краёвасць у беларускай і літоўскай гісторыі*, „Беларускі гістарычны агляд”, т. 4, сшытак 1-2 (6-7), 1997, с. 56-67; ён жа, *U genezy idei krajowej na początku XX wieku*, [w:] *Dwór i wieś na Litwie i Białorusi w XIX i na początku XX wieku,* pod red. Doroty Michaluk, Warszawa 2014, s. 121-136; ён жа, *„Краёвая ідэя” і беларускае нацыянальнае Адраджэнне пачатку XX ст.*, „Acta Albaruthenica”, 2015, t. 15, s. 193-210.

5 А. Унучак, *Беларуская нацыянальна-дзяржаўная ідэя ў канцы XIX – 1917 г.*, [у:] *На шляху станаўлення беларускай нацыі. Гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы*, рэд. В.Яноўская ды інш, Мінск 2011; ён жа, *«Заходнерусізм» і «краёвасць»: гістарыяграфія пытання,* [в:] *Российские и славянские исследования: Сб. науч. статей. Вып. 5,* редкол.: О. А. Яновский (отв. ред.) и др., Минск 2010, с. 243-252.

6 І. Бабкоў, *Генеалёгія беларускай ідэі*, „Arche Пачатак”, 2005, № 3, с. 136-165; А. Казакевіч, *Яшчэ адна гісторыя пра беларускі нацыяналізм*, „Arche Пачатак”, 2007, № 7, с. 5-22.

7 Гл., *Краёвая ідэя: канец XIX пачатак XX стагоддзя. Анталогія,* “Палітычная сфера”, 2014 // http://palityka.org/2015/04/antalohija-krajovaj-ideji. Рэжым доступу: 30.11.2015.

і літоўцаў, але таксама сярод мясцовай польскай супольнасці, г. зв. "літоўскіх палякаў"?

Краёвасць з цяжкасцю паддаецца дакладнаму апісанню і характарыстыцы. Якраз таму гісторыкі часта ўжываюць такія тэрміны, як "краёвая ідэя", "краёвы рух", "канцэпцыя краёвасці". Такая складанасць вынікае з самой структуры гэтага ідэалагічнага феномену, а таксама з яе ўспрымання і разумення як ідэолагамі, так і шматлікімі прыхільнікамі. Найчасцей краёвасць трактуецца як пэўны тып сістэмы поглядаў "палітычнай нацыі".

Яна была сфармуляваная ў Беларусі і Літве напачатку ХХ ст. Краёўцы сцвярджалі, што ўсе карэнныя жыхары гістарычнай Літвы, незалежна ад іх этнакультурнай арыентацыі і сацыяльнага паходжання, належаць да адзінай нацыі. Некаторыя называлі яе "нацыяй літвінаў" ("naród Litwinów"). Паводле краёўцаў, да катэгоры "карэнных" належалі літоўцы, беларусы, палякі, зрэдку жыды і амаль ніколі рускія.

Галоўным крытэрыем гэтай нацыянальнай прыналежнасці лічыўся патрыятызм у стасунку да гістарычнай Літвы, якая ўсведамлялася самабытным і цалкам адметным ад Польшчы рэгіёнам. Кожны патрыёт гэтай Літвы станавіўся "грамадзянінам Краю". Апошні тэрмін даволі часта фігураваў у тэкстах краёўцаў. Быў відавочным іх намер дэмакратызаваць паняцце "грамадзянства", якое раней датычыла толькі прадстаўнікоў вышэйшых сацыяльных колаў, і пашырыць яго на сялян і мяшчан.

Ідэйны рух краёвасці нарадзіўся ў асяроддзі шляхты гістарычнай Літвы, прадстаўнікі якой часта адчувалі прыналежнасць да розных народаў-нацый. Грунтоўны знаўца польскай супольнасці ў Літве Юліўш Бардах наступным чынам характарызаваў свядомасць краёўцаў: *"Агулам можна сказаць, што па сваёй культурнай арыентацыі гэта былі палякі, але датычна дэкларацыі нацыянальнай прыналежнасці дамінавала пачуццё краёвай адметнасці, якое вяло да падпарадкавання інтарэсаў польскай нацыянальнай групы інтарэсам усяго краю […]. Яны былі літоўцамі ў гістарычным сэнсе, што вызначала іх пазіцыю ў актуальным палітычным жыцці"*[8].

8 J. Bardach, *O dawnej i niedawnej Litwie*, s. 217-218.



Аналізуючы свядомасць гэтай шляхты ў XIX ст., вядомы даследчык выкарыстаў паняцце "літоўскія палякі" і адзначыў, што іх адрозненне ад жыхароў "Кароны" грунтавалася на адметнай гістарычнай памяці, арыентаванай на мінулае Вялікага Княства Літоўскага[9].

Сапраўды, краёвасць у вялікай ступені грунтавалася на гістарычнай памяці пра прыналежнасць беларускіх і літоўскіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага. Сцвярджаючы адзінства гістарычнага лёсу ўсіх народаў-нацый гэтай дзяржавы, краёўцы лічылі неабходным захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці земляў былога княства.

Адной з галоўных мэтаў краёўцаў было сумяшчэнне партыкулярных інтарэсаў мясцовых нацый з іх агульным інтарэсам, з якім звязвалі існаванне і развіццё супольнай Айчыны – гістарычнай Літвы. Дзеля дасягнення гэтай мэты была патрэбная супраца ўсіх нацый, якая б абапіралася на прынцып грамадзянскай роўнасці. Гэтае агульнакраёвае і агульнанацыянальнае вымярэнне было вельмі важным элементам "краёвай ідэі" і найбольш прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Пры гэтым, як справядліва заўважыў Ян Юркевіч, супрацоўніцтва народаў-нацый было не сродкам дасягнення галоўнай мэты, але таксама мэтаю самою па сабе[10]. Прыхільнікі краёвасці спадзяваліся, што атрымаецца прымірыць "краёвую свядомасць" з нацыянальнай.

Трэба адзначыць, што на рубяжы XIX-XX стст. у "Краі", г. зн. у "гістарычнай Літве", дамінавала нацыянальная ідэя ў этнакультурным вымярэнні. Найбольш моцным быў літоўскі нацыянальны рух, які прапанаваў сучаснае разуменне паняцця "нацыя". Ягонымі галоўнымі крытэрыямі з'яўляліся мова, гістарычная памяць, звычаі і традыцыі. У мінулым засталося разуменне "нацыі" як палітычнай катэгорыі, якая датычыла толькі сацыяльнай вярхушкі. Найважнейшую ролю ў фармаванні нацыянальнай свядомасці пачала адыгрываць ідэнтычнасць супольнасці этнакультурнай (этналінгвістычнай), а не гістарычна-палітычнай. У гэты ж час фармаваўся польскі нацыянальны рух у Літве і Беларусі, прадстаўлены арганізацыямі

9 J. Bardach, *Polacy a narody Litwy historycznej,* „Kultura i społeczeństwo", rok XXXVIII, Nr 2, 1994, s. 39.

10 J. Jurkiewicz, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.),* [w:] *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 119.

польскіх нацыянальных дэмакратаў і "ППС на Літве", пачыналася гісторыя беларускага руху. Адным з вынікаў наступлення "эпохі нацыяналізмаў" стала абвастрэнне польска-літоўскіх стасункаў і раскол польскай супольнасці "гістарычнай Літвы".

Краёвасць можна трактаваць як спробу адказаць на выклікі часу. Яна не выглядала як цалкам распрацаваная ідэалогія, якая магла даць адказ на кожнае пытанне. Можна нават сцвярджаць: колькі краёўцаў – столькі канцэпцый краёвасці[11]. Напрыклад, для Міхала Ромэра сутнасцю гэтай ідэалогіі было фармаванне на аснове ўсіх этнічных груп Краю новай палітычнай нацыі[12]. Людвік Абрамовіч разумеў краёвасць як прынцып мірнага суіснавання і супрацоўніцтва розных народаў як роўных з роўнымі. У 1913 г. на старонках газеты "Przegląd Wileński" ён сцвярджаў, што краёвасць – гэта не ідэя, а толькі спосаб пашырэння ўплываў "заходняй культуры" і гарантыя польскага культурнага і палітычнага дамінавання ў Краі[13].

Канстанцыя Скірмунт засяроджвала ўвагу на "літоўскім характары" Краю і спрабавала выступіць пасрэднікам у паразуменні літоўскага нацыянальнага руху ("маладалітвінаў") з польскамоўнай шляхтай ("старалітвінамі")[14]. Раман Скірмунт падкрэсліваў ролю "Русі" (з 1906 г. ён пісаў ужо пра "Беларусь") у гісторыі і тагачасным жыцці рэгіёну[15].

Баляслаў Ялавецкі сцвярджаў "еднасць крыві" палякаў, беларусаў і літоўцаў, якую дапаўняла культурнае адзінства гэтых народаў. У "Нацыянальным катэхізісе Літвы" ён пісаў, што ў выніку шматлікіх войнаў і перасяленняў яшчэ да часоў вялікага князя Ягайлы ў жылах жыхароў Літвы змяшалася кроў палякаў, літоўцаў

11 Дарэчы, пра гэта пісаў Міхал Ромэр на старонках свайго "Дзённіка" ў 1921 г.: *"Ужываючы тэрмін "краёўцы", трэба заўсёды помніць, што гэтае паняцце не азначае ні партыі, ні адзінай праграмы. Можна нават сказаць, колькі "краёўцаў", столькі розных праграмаў..."* (Цытата паводле: J. Sawicki, *Michał Römer wobec problemów narodowościowyc ziem Litewsko-białoruskich na początku XXw.*, [w:] *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu...*, s. 84).

12 M. R. [Michał Römer], *Stanowisko obywatelskie*, „Kurier Krajowy", Wilno, 1913, nr 77; таксама: Р. Мікніс, *Міхал Ромэр (1880-1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца*, „Homo Historicus", Вільня, 2008, с. 236-260.

13 L. Abramowicz. *Stanowisko krajowe a idea narodowa*, „Przegląd Wileński", 1913, nr 13-14.

14 Гл., K. Skirmuntt, *Głos z Litwy*, „Kurier Polski", Warszawa, 1913, nr 158 oraz in.

15 Ro…munt [R. Skirmunt], *Nowe hasła w sprawie odrodzenia narodowości litewskiej,* Lwów 1904; Ro…munt [R. Skirmunt], *Glos przeszlosci i potrzeba chwili,* Lwów 1904; R. Skirmunt, *Stronnictwo Krajowe Litwy i Białejrusi (Program podstawowy)*, „Głos Polski", Warszawa, 1907, nr 4.



і беларусаў. Пасля Крэўскай уніі *"…хрысціянства, асвета і заходняя культура прыходзілі ў Літву выключна з Польшчы і ператвараліся ў адзіную супольную польска-беларуска-літоўскую культуру... У выніку на ўсёй тэрыторыі Літвы ад Балтыкі, Нарава, Нёмана і Вяллі да Дняпра, ад Дзвіны да Прыпяці запанавалі адзіныя звычаі і абрады, адзіная нацыянальная этыка, якія не залежалі ад таго, якая мова гучала пад страхой – польская, літоўская ці беларуская. Усе гэтыя мовы родныя, бо ў нашых жылах цячэ адзіная кроў..."*[16]

Усе краёўцы падкрэслівалі дамінаванне агульнакраёвых інтарэсаў над інтарэсамі асобных сацыяльных груп, а таксама этнічных супольнасцяў і нацый Літвы і Беларусі. У 1905 г. Раман Скірмунт сцвярджаў, што задачай бліжэйшай будучыні з'яўляецца арганізацыя сужыцця розных этнічных і культурных элементаў Краю на падмурку "супольнага грамадзянства"[17]. Пры гэтым "літоўскія палякі" прызнаваліся адным з карэнных народаў Краю[18]. Наогул, краёўцы трактавалі Беларуска-Літоўскі край як суб'ект гісторыі і імкнуліся ператварыць яго ў суб'ект палітыкі.

Даследчыкі згодныя, што ў той перыяд існавалі дзве плыні "краёвага руху" – дэмакратычная (альбо ліберальна-дэмакратычная) і кансерватыўная. Галоўным прадстаўніком і ідэолагам першай плыні, якая сфармавалася ў 1906 г. у асяроддзі «Gazety Wileńskiej", быў яе фактычны рэдактар Міхал Ромэр. Кансерватыўная плынь была прадстаўленая Раманам і Канстанцыяй Скірмунтамі, Баляславам Ялавецкім і Чэславам Янкоўскім. Апошні ў 1905 – 1907 гг. быў рэдактарам газеты "Kurier Litewski" і зрабіў яе галоўнай трыбунай прапаганды "краёвай ідэі" ў яе кансерватыўнай версіі.

Чым адрозніваліся дэмакраты і кансерватары? Галоўныя аргументы былі тыя ж самыя, розніца датычыла пераважна абгрунтавання прапанаваных ідэй і рознай рыторыкі. Дэмакраты глядзелі ў будучыню, арыентаваліся на "прагрэс" і мадэрнізацыю грамадства. Ягонае адзінства разумелі як сацыяльную гамагенізацыю. Кансерватары звярталіся да гісторыі і традыцыі. Адзінства грамадства

16 B. J…i [B. Jałowiecki], *Litwa – jej potrzeby. Katechizm narodowy Litwy,* Wilno, [1905], s. 5-6.

17 R. Skirmunt, *Odezwa Stronnictwa Krajowego Litwy i Rusi*, „Kurier Litewski", Wilno, 1905, nr 65.

18 J. Jurkiewicz, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.),* [w:] *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 122-123.

яны разумелі ў катэгорыях пэўнай шляхецкай кампенсацыі люду за ранейшыя крыўды[19].

Краёўцы абедзвюх плыняў дэманстравалі прыхільнасць і падтрымку літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў. Гэтая прыхільнасць мела розныя прычыны, але нават у дэкларатыўнай форме спрыяла пашырэнню талерантнасці. Вялікай праблемай было прымірэнне нацыянальнага Адраджэння беларусаў і літоўцаў з захаваннем традыцыйных добрасуседскіх стасункаў паміж рознымі народамі-нацыямі "гістарычнай Літвы", пошук сродкаў улагоджвання верагодных канфліктаў у выніку лінгвістычных і канфесійных падзелаў.

Здаецца, усе краёўцы імкнуліся да абмежавання палітычных амбіцый польскай супольнасці, пераконвалі яе ў неабходнасці ўлічваць інтарэсы літоўцаў і беларусаў. Якраз у гэтым кірунку яны выразна супрацьставіліся ўплывам польскіх нацыянальных дэмакратаў. Менавіта Польская нацыянальна-дэмакратычная партыя і яе галоўны ідэолаг Раман Дмоўскі (1864–1939), а не дзеячы літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў, успрымаліся краёўцамі як галоўны праціўнік.

Краёўцы-дэмакраты, прызнаючы сацыяльную і палітычную эмансіпацыю літоўцаў і беларусаў, падкрэслівалі ўласную прыналежнасць да польскай культуры і адстойвалі права на яе развіццё. Паняцці "нацыянальнасць" і "грамадства" трактаваліся як камплементарныя[20]. У рэдакцыйным артыкуле першага нумару выдання „Gazeta Wileńska" (1906, nr 1) Міхал Ромэр пераконваў чытача: *"Мы, грамадзяне Літвы і Беларусі не можам быць польскімі каланістамі. У вымярэнні краёвага грамадзянства, г.зн. у вымярэнні палітычным, сацыяльным і гаспадарчым, нашай роднай зямлёй з'яўляецца Літва і Беларусь. Выключна ў вымярэнні культурна-*

19 M. Zadencka, *Krajowość a strategie elit wobec emancypacji narodowej ludu…* [w]: *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 51.

20 J. Jurkiewicz, *Koncepcja krajowa a przemiany stosunków narodowościowych na Litwie i Białorusi w początkach XX w. (do 1918 r.)*, [w:] *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 123.



*нацыянальным мы застаемся сынамі польскага народу і ад гэтага сваяцтва адмаўляцца не будзем і не хочам"*[21].

Няма аніякага сумнення, што галоўныя прынцыпы "краёвасці" былі сфармуляваны ў асяроддзі "літоўскіх палякаў", якія перажывалі даволі складаны перыяд сваёй гісторыі. Наступленне "эпохі нацыяналізмаў" значна прыспешыла працэсы нацыянальнай дыферэнцыяцыі і фармаванне нацыянальнай свядомасці ў этнакультурным вымярэнні на беларускіх і літоўскіх землях. Большасць палякаў "гістарычнай Літвы" пачала атаясамліваць сябе з тагачаснай Польшчай як этнапалітычна, так і этнакультурна. Аднак многія захавалі свядомасць грамадзяніна былога Вялікага Княства Літоўскага і засталіся "літвінамі" ў гістарычным сэнсе.

Некалькі гадоў таму літоўскі гісторык Рымантас Мікніс на старонках часопіса „Biuletyn Historii Pogranicza" (Беласток) выказаў гіпотэзу пра фармаванне ў Літве і Беларусі на пачатку XX ст. сучаснай нацыі "літоўскіх палякаў". На прыкладах канкрэтных асоб (Міхал Ромэр, Людвік Абрамовіч, Антоні Вівульскі і Эўгеніюш Ромэр) ён спрабаваў акрэсліць рысы свядомасці, характэрныя для новай нацыі[22].

Але першымі заўважылі гэты спецыфічны варыянт польскасці ўласна краёўцы. Гэта яны сцвярджалі, што палякі ўжо па прычыне свайго паходжання не былі каланістамі, а ўяўлялі сабой мясцовы элемент, належалі да карэннага насельніцтва. Краёўцы звярталі ўвагу на этнічную повязь палякаў з літоўцамі і беларусамі і сцвярджалі, што тып "літоўскага паляка" па многіх параметрах бліжэйшы да літоўца і беларуса, чым да паляка з "Кароны". Гэта яны падкрэслівалі ўзаемнасць культурных уплываў і ўказвалі на адметнасць польскай культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім ад польскай культуры на этнічных польскіх землях. Культуру "літоўскіх палякаў" яны лічылі лакальным варыянтам агульнапольскай культуры. Паводле краёўцаў, "літоўскія палякі" мелі нават іншую ментальнасць, чым этнічныя

21 Цытата на мове арыгіналу: *„My, obywatele Litwy i Białorusi nie możemy być kolonistami polskimi. W tym zakresie obywatelstwa krajowego, a więc w zakresie politycznym, społecznym i ekonomicznym naszymi krajami ojczystymi są Litwa i Białoruś. Natomiast wyłącznie w zakresie kulturalno-narodowym jesteśmy synami narodu polskiego i tego pokrewieństwa naszego wyrzekać się nie będziemy i nie chcemy"* (Gazeta Wileńska. 1906, nr 1).

22 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, „Biuletyn Historii Pogranicza", 2000, nr 1, s. 21-32.

палякі. Ужо пазней Юліўш Бардах адной з важнейшых іх рысаў лічыў падвоеную палітычную свядомасць[23].

Але найлепш пра свядомасць "літоўскіх палякаў" напісаў М. Ромэр у сваёй незакончанай аўтабіяграфіі. Прыгадваючы ўласнае дзяцінства, ён зазначыў: *"Тады я яшчэ не разумеў, што мая скура іншая, не чыста польская і не чыста літоўская, асабліва сфармаваная, у якой месяцца рысы польскасці і літоўскасці. Гэта старая скура Адама Міцкевіча, асаблівы твор гісторыі нашай Айчыны, скура, у якой і душа асаблівая – не літоўская і не польская. Я яшчэ не разумеў, што хлусіў бы, называючы сябе толькі літоўцам, але таксама хлусіў бы, называючы сябе толькі палякам. Я яшчэ не ўсвядоміў, што сутнасць маёй асобы ў тым, што адчуваў у гады дзяцінства і маладосці, калі меў 14-18 гадоў. Тады я не адрозніваў у сабе паляка ад літоўца, любіў і цаніў абодва імёны, а асабліва спачуваў зямлі і люду літоўскаму, і калі марыў і пісаў вершы, то, як Адам Міцкевіч, лічыў сваёй Радзімай не Польшчу, а Літву[…]. Не любіў псіхічнага тыпу палякаў – "караняжы".*

*Тады я яшчэ не ведаў, што нашая, г. зв. "літоўскіх палякаў", драма або прынамсі адзін з фактараў гэтай драмы ў тым, што мы не маем уласнага імя, што нашая душа – гэта спалучэнне двух асобных нацыянальных душ, што, калі абедзьве душы сутыкаюцца, нам бывае цяжэй, чым камусьці іншаму, захоўвацца натуральна і не хлусіць. Мы выкарыстоўваем імя [палякаў], якое не адпавядае нашай сутнасці і не адлюстроўвае глыбінных рысаў нашай псіхікі і характару, якія паходзяць з псіхікі і характару народа Літвы, з самых глыбокіх каранёў мясцовай этнічнай супольнасці [літоўцаў і беларусаў]. Мы*

23 J. Bardach, *O dawnej i niedawnej Litwie,* Poznań 1988, s. 201-206.



*не з'яўляемся ні літоўцамі, ні беларусамі, але таксама не з'яўляемся палякамі"*[24].

Паводле Рымантаса Мікніса, паняцце "літоўскі паляк" нарадзілася на пачатку ХХ ст. як пэўная форма польскасці[25]. Ягоным сінонімам ён лічыць паняцце "паляк-літвін", якое часта сустракаецца ў гэты ж перыяд. У 1908 г. Міхал Ромэр у сваім вядомым даследаванні працэсаў літоўскага нацыянальнага Адраджэння характарызаваў "літоўскіх палякаў" як мясцовы элемент, які спаланізаваўся на гістарычным шляху[26]. Паняцце "літоўскі паляк" фігуравала падчас дыскусіі М. Ромэра і Л. Абрамовіча па пытанні стасунку краёўцаў да нацыянальных рухаў літоўцаў і беларусаў. Людвік Абрамовіч, які палякаў "гістарычнай Літвы" трактаваў як пэўную культурную супольнасць адрозную ад "караняжы", таксама прызнаваў іх асобнай нацыяй.

Для разумення сітуацыі перыяду Першай сусветнай вайны варта адзначыць заўвагу тагачаснага карэспандэнта газеты „Myśl Polska". Ён пісаў, што *"польскасць у Літве цалкам незалежная ад лозунгаў з Варшавы. Гэта асобная лакальная польскасць, і толькі мясцовыя чыннікі вызначаюць, ці жыве яна поўным жыццём, ці неяк гібее. Ні пра якое вяртанне "літоўскіх палякаў" да этнаграфічнай Польшчы не можа быць і гаворкі, бо яны ніколі адтуль у сваёй*

24 Цытата на мове арыгіналу:*„Wtedy ja jaszcze nie rozumiałem, że moja skóra jest inna – ani czysto polska, ani czysto litewska, lecz szczególnie złożona, w której znajdują się oznaki polskości i litewskości – stara skóra Adama Mickiewicza, szczególny stwór historii naszej Ojczyzny, skóra, w której i dusza jest szczególna – nie litewska, lecz i nie polska, ja jaszcze nie rozumiałem, że kłamałbym, nazywając siebie tylko Litwinem, toteż kłamałbym, nazywając siebie tylko Polakiem: ja jeszcze sobie nie uświadomiłem, że prawda mojej osoby jest tym, co czuję będąc dzieckiem i młodzieńcem 14–18-letnim, kiedy ja nie odróżniałem w sobie Polaka od Litwina, kochałem i ceniłem oba imiona, a współczułem zwłaszcza ziemi i ludności litewskiej, i że, kiedy marzyłem i pisałem wierszy, to jak Adam Mickiewicz wołał nie Polskę, a Litwę jako swoją Ojczyzną […] nie lubiłem typu psychicznego Polaków-„Koroniarzy".*
*Wtedy jeszcze nie wiedziałem, że nasz – tak zwanych Polaków litewskich – dramat, albo przynajmniej jeden z czynników tego dramatu – polega na tym, że my nie mamy swojego imienia, że nasza dusza jest koncepcja dwóch szczególnych dusz, że kiedy te dwie dusze ścierają się między sobą, nam jest o wiele trudniej, niż komu innemu, zachować się poprawnie i nie kłamać; my używamy imienia [Polaków], które nie odpowiada naszej szczególnej istocie i które nie określa najgłębszych postaw naszej psychiki i charakteru, które pochodzą z charakteru i psychiki ludu Litwy, z najgłębszych korzeni miejscowej formacji etnicznej [Litwinów i Białorusinów]. My nie jesteśmy ani Litwinami, ani Białorusinami, lecz nie jesteśmy również Polakami"*(*Autobiografia Michała Römera),* [w:] *Lietuvių atgimino istorijos Studijos.* T. 13: *Mykolas Römeris,* Vilnius, 1996, s. 190-191).

25 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.,* „Biuletyn Historii Pogranicza", 2000, nr 1, s. 22-23.

26 M. Römer, *Litwa. Studyum o odrodzeniu narodu litewskiego*, Lwów 1908, s. 27.

*большасці не прыходзілі, толькі Літва застаецца краем, з якім яны этнаграфічна звязаныя*”[27].

У гэты ж час у публіцыстыцы і мемуарах з'явіліся тэрміны "паляк-беларус" і "беларус польскай культуры". Менавіта так акрэсліў уласную нацыянальную прыналежнасць у 1906 г. дэпутат I Дзяржаўнай Думы Раман Скірмунт у інтэрв'ю карэспандэнту газеты „Dziennik Kijowski"[28]. Вядомы даследчык краёвасці Казімір Акуліч наогул акрэсліў ягоную дзейнасць як "апошні акт польска-беларускага сімбіёзу"[29]. Апроч Рамана Скірмунта да тыпу "беларусаў польскай культуры" ў той час належалі Марыя Магдалена Радзівіл, Геранім Друцкі-Любецкі, Станіслаў Радзівіл, Эдвард Вайніловіч, Казімір Шафнагель ды інш.

Можна сцвярджаць, што пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг. сярод "літоўскіх палякаў" паступова вылучылася група беларусаў у гістарычным сэнсе. Некаторыя яе прадстаўнікі на пачатку XX ст. дзейнічалі ўжо як беларускія палітыкі.

Яшчэ Юліўш Бардах адзначыў немагчымасць правядзення дакладнай мяжы, дзе "*...заканчвалася пачуццё рэгіянальнай адметнасці літвінаў-палякаў (або беларусаў-палякаў) [...] і нараджалася літоўская або беларуская нацыянальная свядомасць. Іншым разам на тэрыторыях, дзе канкуравалі паміж сабою розныя нацыянальныя супольнасці, адна і тая ж асоба ў розныя перыяды свайго жыцця дэкларавала сябе то палякам, то літоўцам, то беларусам. Асабліва цікавыя матывы гэтых зменаў у выпадку асобаў, якія належалі да інтэлектуальнай эліты Краю, г. зн. там, дзе працэс асіміляцыі саступаў свядома зробленаму выбару*"[30].

Ідэйна-палітычная сутнасць краёвасці абапіралася на ўсведамленне адзінства "гістарычнай Літвы", якое грунтавалася на гістарычных і культурных падставах. Краёўцы, гаворачы пра "нацыю ліцвінаў" як нацыю палітычнага тыпу і разважаючы пра ліквідацыю "асобных нацыянальных хат" (М. Ромэр) і фармаванне грамадзянскай супольнасці, фактычна спрабавалі на землях былога Вялікага Княства

27 B. H., *Polskość na Litwie*, „Myśl Polska", 1915, z. 4, s. 46-47.
28 „Dziennik Kijowski". 1906, nr 103.
29 K. Okulicz, *Podział ziem W. Księstwa Litewskiego 1915-1923-1940*, [w:] *Alma Mater Vilnensis. Prace Społeczności Akademickiej USB na obczyźnie*, Londyn, 1953, s. 122.
30 J. Bardach, *O dawnej i niedawnej Litwie*, s. 212.



Літоўскага паяднаць ідэю этнакультурнай нацыі з дактрынай нацыі палітычнай.

Аднак, нягледзячы на намеры ідэолагаў, якія ўвесь час казалі пра "грамадзянаў Краю", краёвасць усё ж вырасла на глебе пошуку "літоўскімі палякамі" ўласнага месца ў новым грамадстве. З намаганнямі краёўцаў (як дэмакратаў, так і кансерватараў) была звязаная перспектыва польскасці ў "гістарычнай Літве". Рымантас Мікніс упэўнены, што "краёвая ідэя" толькі спрыяла фармаванню нацыі "літоўскіх палякаў"[31].

Прынамсі можна казаць, што да гэтага імкнулася большасць ідэолагаў краёвасці. Так, прапаганда "краёвай ідэі" датычыла амаль выключна "літоўскіх палякаў". Менавіта яны былі галоўнымі чытачамі газет „Kurier Litewski", „Gazeta Wileńska" і „Przegląd Wileński". Галоўным чынам на літоўскіх палякаў былі разлічаныя выбарчыя кампаніі краёўцаў падчас абрання дэпутатаў Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады Расейскай імперыі ў 1906-1912 гг. ад насельніцтва Беларуска-Літоўскага краю.

Адзіным выключэннем была дзейнасць віленскіх масонскіх ложаў ("Еднасць", "Літва" і "Беларусь") у 1911-1915 гг., якія пасля далучэння да "братоў вольных муляраў" Міхала Ромэра хутка ператварыліся ў асяродкі дзейнасці краёўцаў і імкнуліся пашырыць іх уплывы на літоўскі і беларускі нацыянальныя рухі.

У пэўны момант "краёвую ідэю" пачалі таксама пашыраць дзеячы беларускага руху Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Уласаў ды інш. Менавіта яны ў 1912 г. заснавалі ў Вільні польскамоўную газету "Kurier krajowy", а таксама "Вечернюю газету", якая выдавалася на рускай мове. Гэтыя выданні таксама актыўна пашыралі канцэпцыю краёвасці. Адначасна вельмі высокі ўзровень талеранцыі ў адносінах да палякаў і літоўцаў дэманстраваў галоўны орган беларускага Адраджэння – газета "Наша Ніва". Аднак беларусы даволі прагматычна выкарыстоўвалі "краёвую ідэю". З яе дапамогай яны спрабавалі пашырыць кола прыхільнікаў і саюзнікаў беларускага нацыянальнага руху сярод мясцовых палякаў і рускамоўнага насельніцтва.

31 R. Miknys, *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.*, „Biuletyn Historii Pogranicza", 2000, nr 1, s. 26.

Дзейнасць масонскіх ложаў была абмежаваная таямніцай вольных муляраў. Спроба палітычнага аб'яднання ўсіх карэнных народаў "Краю" на падмурку "краёвай ідэі", якую распачаў у 1907 г. Раман Скірмунт, закончылася няўдачай. Хоць "Краёвая партыя Літвы і Беларусі" ("Stronnictwo Krajowe Litwy i Białorusi") і была створаная, аднак ад першапачатковага праекта Р. Скірмунта па стварэнні польска-беларуска-літоўскай партыі амаль нічога не засталося. У Вільні фактычна ўзнікла партыя буйных землеўласнікаў. Раман Скірмунт разам з дэлегацыяй ад Ковенскай губерніі адмовіліся ад сяброўства ў гэтай арганізацыі.

Можна зрабіць выснову, што для большасці сваіх адрасатаў "краёвая ідэя" была ідэалогіяй "літоўскіх палякаў", распрацаванай менавіта для іх. Аднак прапанаваная канцэпцыя аказалася не больш чым "рэтраспектыўнай утопіяй". Як заўважыла Марыя Задэнцка, рамантычны вобраз Краю мог быць толькі "...*рытарычным падмуркам іх пастулатаў, аднак ён не павялічваў шансы на поспех у перыяд паскоранага развіцця не гісторыі, а сучаснасці*"[32].

"Літоўскія палякі" сталі закладнікамі польска-літоўскага канфлікту, які прымушаў іх адмовіцца ад тоеснасці палякаў даўняй Літвы. Ім трэба было выбіраць паміж ідэнтычнасцю сучаснага паляка або сучаснага літоўца ці беларуса і ў апошнім выпадку забыць пра ўласную прыналежнасць да польскай культуры. У гісторыі найноўшай Літвы і найноўшай Польшчы ўжо не было месца для "літоўскіх палякаў" і грамадзян Вялікага Княства Літоўскага.

32 M. Zadencka, *Krajowość a strategie elit wobec emancypacji narodowej ludu…*, [w:] *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu…*, s. 61.




**Streszczenie**

Aliaksandr Smalianczuk, *Krajowość jako ideologia „litewskich Polaków"*

Krajowość, jako ideologia narodowa typu „społecznego" (albo „politycznego"), została opracowana na Białorusi i na Litwie na początku XX w. Krajowcy twierdzili, że wszyscy rdzenni mieszkańcy historycznej Litwy, niezależnie od ich orientacji etnokulturowej i pochodzenia społecznego, należą do jednego narodu. Niektórzy nazywali go „narodem lićwinów". Do kategorii „rdzennych" zaliczali się Litwini, Białorusini, Polacy, rzadko Żydzi i prawie wcale nie zaliczali się Ruscy. Za główne kryterium przynależności narodowej uważano patriotyzm w stosunku do „historycznej Litwy", która była postrzegana jako samodzielny i zupełnie oddzielnyregion od Polski.

Krajowość narodziła się w środowisku szlacheckim, w którym wielu jego przedstawicieli łączyło przynależność do kultury polskiej ze świadomością własnego pochodzenia litewskiego lub białoruskiego. To właśnie pamięć o byłym Wielkim Księstwie Litewskim, które było traktowane jako historyczna ojczyzna, na początku XX w. stała się podstawowym czynnikiem formowania się nowej identyntyfikacji.

Wszyscy ideolodzy krajowości (Michał Römer, Roman Skirmunt, Konstancja Skirmunt, Ludwik Abramowicz i in.) należeli do społeczności „litewskich (vel białoruskich) Polaków". Nie patrząc na ich wszystkie starania, krajowość mimo wszystko wyrastała na gruncie poszukiwań własnego miejsca w nowym społeczeństwie przez „litewskich Polaków". Ze staraniami krajowców związana była perspektywa polskości w „historycznej Litwie". Można powiedzieć, że tworząc ideologię, która powinna neutralizować potencjalne polsko-litewsko-białoruskie konflikty, krajowcy stworzyli ideę narodową dla „litewskich Polaków".

**Summary**

Aliaksandr Smalianczuk, *"Nativeness" as the Ideology of Lithuanian Poles*

"Nativeness", as a "social" (or "political") type of national ideology was developed in Belarus and Lithuania at the start of the 20th century. "Nativists" argued that all native inhabitants of historical Lithuania, regardless of their ethno-cultural orientation or social origin, belonged to one nation. Some of them called it the "nation of Litvins". The category of "native" included Lithuanians, Belarusians and Poles, rarely Jews, and almost never Ruthenians. The main criteria for national belonging was patriotism with regard to "historical Lithuania", which was considered an independent region, wholly separate from Poland.

Nativeness was born in noble circles, in which many of its representatives linked Polish cultural belonging with consciousness of their own Lithuanian or Belarusian origins. It was the memory of the former Grand Duchy of Lithuania, treated as the historical motherland, which became the main factor behind the formation of this new identification at the beginning of the 20th century.

All the ideologists of nativeness (Michał Romer, Roman Skirmunt, Konstancja Skirmunt, Ludwik Abramowicz and others) belonged to the Society of "Lithuanian (*vel* Belarusian) Poles". Regardless of all their endeavours, nativeness was intrinsically rooted in the search by "Lithuanian Poles" for their own place in a new society. The nativists' activities were connected to a perspective of Polishness in "historical Lithuania". It can be said that in creating an ideology which might neutralize potential Polish-Lithuanian-Belarusian conflicts, the nativists created a national idea for Lithuanian Poles.



**Сяргей Токць**
**(Гродна)**

## Змены ў рэлігійным жыцці беларускай вёскі ў другой палове XIX – напачатку XX ст.

У другой палове XIX – напачатку XX ст. у Беларусі адбываюцца істотныя змены ва ўсіх сферах жыцця – эканамічнай, сацыяльнай, культурнай. Адносна гэтага перыяду можна гаварыць пра пачатак мадэрнізацыйнага пераходу ад традыцыйнага аграрнага грамадства да грамадства індустрыяльнага тыпу. Гэты пераход адбываўся ў няпростых палітычных умовах, якія склаліся ў Беларусі пасля падаўлення паўстання 1863 г. Вёска заставалася самым кансерватыўным сегментам грамадства і найбольш упарта супраціўлялася новым з'явам. Але і ў жыцці сялянства адбываюцца істотныя змены, пачатак якім паклала рэформа 1861 г., якая вызваліла сялян да прыгоннай залежнасці. Гэтыя змены закранаалі таксама свядомасць сялян, падмуркі іх духоўнага жыцця. Паводле палажэнняў мадэрнізацыйнай тэорыі, у часе пераходу ад традыцыйнага да індустрыяльнага тыпу грамадства звычайна назіраецца пашырэнне працэсу секулярызацыі і зніжэнне ўзроўню рэлігійнасці сярод шырокіх мас насельніцтва[1]. Наколькі змянілася рэлігійнасць беларускага сялянства ў даследуемы перыяд? Пошук адказу на гэтае пытанне з'яўляецца галоўнай задачай дадзенага артыкула.

У беларускай гістарыяграфіі даследчыкі галоўную ўвагу звярталі на аналіз канфесійнай палітыкі дзяржаўных уладаў[2], між тым як праблема рэлігійнасці сялян, іх стаўлення да рэлігійных інстытутаў заставалася на маргінесе даследаванняў. На аснове аналізу этнаграфічных даследаванняў, мемуарнай літаратуры, дакументаў тагачаснага друку і дзяржаўнага справаводства ў артыкуле зроблена спроба выявіць спецыфіку рэлігійнай сітуацыі ў беларускай вёсцы, асвятліць рэлігійнасць сялянскага насельніцтва ў яе дынаміцы, стаўленне сялян да дзяржаўнай палітыкі ў сферы рэлігіі і да дзейнасці прыходскага духавенства.

1 П. Бэрк, *Гісторыя і сацыяльная тэорыя,* Мінск 2003, с.170–171.
2 *Канфесіі на Беларусі, канец XVIII–XX ст.,* Мінск 1998.

У беларускай вёсцы ў сярэдзіне XIX ст. яшчэ даволі трывала захоўваліся шматлікія дахрысціянскія вераванні і традыцыі, якія цесна перапляляліся з афіцыйнымі царкоўнымі культамі. Памешчыца Марыя Чарноўская яшчэ ў 1817 г. адзначала, што беларускія сяляне слаба разбіраюцца ў пытаннях рэлігійнай дагматыкі і добрасумленна выконваюць як паганскія, так і хрысціянскія абрады і рытуалы, часта спалучаючы адныя з другімі[3]. Вядомы літаратар Уладзіслаў Сыракомля пісаў у 1853 г., што веданне сялянамі Міншчыны, як каталікамі, так і праваслаўнымі, сваёй веры *«абмяжоўваецца толькі тым, што яны ўмеюць памаліцца»*[4]. Даследчык Гродзенскай губерні і палкоўнік расійскай арміі Павел Баброўскі лічыў прысутнасць шматлікіх паганскіх элементаў адной з галоўных асаблівасцей беларускай народнай культуры[5]. Менавіта захаванне архаічных паганскіх вераванняў бачылася яму галоўнай асаблівасцю, якая адрознівала сялян-беларусаў, незалежна ад іх рэлігійнай прыналежнасці да праваслаўя ці рыма-каталіцтва, ад іншых этнічных супольнасцей[6]. Вядомы віленскі этнограф і публіцыст Адам Кіркор таксама сцвярджаў, што Беларусь у большай за іншыя славянскія землі ступені захавала міфы і абрады з эпохі паганства[7]. На дзесяткі гадоў пазней падобныя меркаванні выказваў польскі этнограф і даследчык беларускай народнай культуры Міхал Федароўскі: *„(…)szczep zachodniobiałoruski przechował dotądswoją własną wiarę i własny swój kult i bodaj czy na całym obszarze dzisiejszej słowiańszczyzny mozno było odnaleźć podobny zakątek gdzieby lud jeszcze przy swoich pojęciach mitologicznych żywo zabarwionych archaizmem czasów pierwotnych podlegał z taką skrupulatnością jak dotąd Białorusin swemu niepisanemu, a mimoto składajęcemu się z całych*

3 R. Radzik, *Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Białorusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wshodniej XIX stuliecia*, Lublin 2000, s. 182.

4 У. Сыракомля, *Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка*, Мінск 1993, с. 290.

5 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния*, СПб.1863, ч. 1, с. 821.

6 П. Бобровский, *Можно ли одно вероисповедание принять в основание племенного разграничения славян Западной России (По поводу Этногр. атласа зап.-рус. губ. и сосед. обл. Р.О. Эккерта)*, Санкт-Петербург 1864, с. 16.

7 *Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении*, СПб. 1882, т. 3, ч. 1-2, с. 251.



*tysięcy formuł kodeksówi zwyczajowemu*"[8]. У падобных сцверджаннях магла прысутнічаць пэўная доля перабольшвання, рамантызацыя традыцыйнай вясковай культуры, своеасаблівая міфалагізацыя аб'екта назірання з боку даследчыкаў. Але несумненным уяўляецца той факт, што ў сілу збегу цэлага шэрагу гістарычных абставін прысутнасць элементаў старажытных дахрысціянскіх вераванняў і рытуалаў у беларускай народнай культуры сапраўды выяўлялася вельмі яскрава і насычана.

Дзяржаўныя і царкоўныя ўлады на працягу стагоддзяў асабліва не ўмешваліся ў духоўнае жыццё беларускай вёскі і не імкнуліся жорсткімі мерамі выкараняць сляды паганства, калі апошнія выразна не супярэчылі хрысціянскім традыцыям. Прыходскім духавенствам ад вяскоўцаў патрабавалася ўдзельнічаць у набажэнствах у храме, ведаць асноўныя малітвы і бываць на споведзі. Адам Багдановіч успамінаў пра навучанне малітвам у сялянскіх сем'ях, што на гэта глядзелі як на духоўнае практыкаванне, да якога трэба прывыкнуць з дзяцінства, якое спатрэбіцца і ў практычных мэтах, і для выратавання душы пасля смерці[9]. Можна зрабіць выснову, што менавіта сям'я, а калі гаварыць больш канкрэтна, – жанчыны, навучалі малітвам і іншым рэлігійным рытуалам сялянскіх дзяцей. Ва ўспамінах шляхціча Адама Буцькевіча пра сялян Гродзеншчыны гаварылася, што амаль кожная гаспадыня ўмела на памяць "*гадзінкі пра непакананае пачацце і каронку*", а кожная маці-сялянка вучыла тым малітвам сваіх дзяцей, і ў нядзелю, калі не маглі ісці да касцёла, "*уся сям'я з ранку хорам спявала гадзінкі і песні*"[10].

Беларускае сялянства ў пасляпэформенны перыяд у абсалютнай большасці належала да дзвюх канфесій – праваслаўя і каталіцтва. На жаль, адсутнічаюць дакладныя дадзеныя па канфесійнай структуры сялянскага насельніцтва. У 1897 г. сярод беларускамоўнага насельніцтва пяці літоўска-беларускіх губерняў праваслаўныя складалі 81 %, а каталікі – 18 %. Прычым большасць беларускамоўных каталікоў пражывала ў заходніх губернях – Віленскай, Гродзенскай

8 M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1893*, Krarów 1897, t. I. *Wiara, wierzenia i przesądy ludu zokolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki*, s. VIII.

9 А. Е. Богданович, *Мои воспоминания*, „Неман", 1984, № 7, с. 21.

10 *Obraz wsi sokólskiej połowy XIX wieku w rękopisie Adama Bućkiewicza*, Sokółka 2011, s. 45.

і Мінскай. У рэлігійным жыцці праваслаўнай (да 1839 г. пераважна ўніяцкай) і каталіцкай вёскі існавалі адрозненні. Яшчэ ў пачатку XIX ст. этнограф Зарыян Даленга-Хадакоўскі (сапр. Адам Чарноцкі) заўважыў, што ў "рускіх" (уніяцкіх) прыходах значна больш захавалася старажытных паганскіх абрадаў і ўзораў народнай творчасці, чым у рыма-каталіцкіх[11]. Сам Даленга-Хадакоўскі тлумачыў азначаны факт большай лагоднасцю і добразычлівасцю "рускіх" святароў да слядоў паганства ў народным жыцці. Пацверджаннем слушнасці такога меркавання можна лічыць і той факт, што многія ўніяцкія, а пазней ужо праваслаўныя святары, даволі ахвотна прымалі ўдзел у збіранні фальклору, апісаннях народных звычаяў і традыцый, а сярод каталіцкага духавенства ў XIX ст. цяжка знайсці аматараў гэтай справы. На большы кансерватызм і архаічнасць праваслаўнай сялянскай грамады ў параўнанні з каталіцкай у часы мадэрнізацыйнага пераходу звяртае ўвагу даследчык заходнебеларускай вёскі на тэрыторыі Падляшша Уладзімір Паўлючук[12]. У каталіцкай царкве ў рэчышчы развіцця контррэфармацыйных працэсаў ад прыходскіх святароў духоўнае начальства патрабавала рашуча і паслядоўна змагацца з рэшткамі язычніцкіх веraванняў. Гэтаму садзейнічаў і склад вернікаў каталіцкіх прыходаў, сярод якіх адносна высокі працэнт займалі прадстаўнікі шляхты, у тым ліку і заможныя землеўладальнікі, якія знаходзіліся пад моцным уплывам рацыянальных ідэй Асветніцтва.

Аднак адрозненні ў канфесійнай прыналежнасці не ўплывалі істотна на ўзаемныя стасункі паміж сялянамі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Пацверджаннем таму з'яўляюцца шматлікія змешаныя шлюбы. Такія шлюбы ў сялянскім асяроддзі сустракаліся непараўнальна часцей, чым шлюбы паміж асобамі сялянскага і шляхецкага стану, нават і аднолькавай веры. Сацыяльны бар'ер у дадзеным аспекце быў мацнейшым за канфесійны. Больш таго, як сцвярджаў Адам Багдановіч, наяўнасць "рознавер'я" ў адной сям'і спараджала талерантнасць сярод беларускіх сялян, тым больш што ў сярэдзіне XIX ст. і праваслаўныя, і каталікі маліліся ўжо на

11 Z. Dołęga-Chodakowski, *O Sławiańszczyznie przed chrześcijańtwem oraz inne pisma i listy,* Warszawa 1967, s. 183.

12 W. Pawluczuk, *Swiatopogląd jednostki w warunkach rozpadu społecznościtradycyjnej,* Warszawa 1972, s. 48.



польскай мове[13]. Паводле яго ўспамінаў, сяляне аднолькава наведвалі і праваслаўную царкву, і каталіцкі касцёл[14].

Напрыклад, за 1843–1902 гг. у даследаваным аўтарам Глыбоцкім праваслаўным прыходзе на памежжы Віленскай і Гродзенскай губерняў змешаныя шлюбы паміж праваслаўнымі і каталікамі складалі 7,6 % ад агульнай колькасці (1 790). Але палітычныя падзеі накладалі свой адбітак на міжканфесійныя адносіны, што адлюстроўвала і дынаміка змешаных шлюбаў. Так, за 1843–1862 гг. у Глыбоцкім прыходзе было зафіксавана 15,5 % змешаных шлюбаў, за 1863–1882 гг. – 5,7 %, за 1883–1902 гг. – 2,87 %. Падобная дынаміка назіралася і адносна дзяцей, народжаных у змешаных шлюбах і ахрышчаных у Глыбоцкай царкве. Усяго ў гэтым прыходзе за 1843–1902 гг. нованароджаныя ад змешаных шлюбаў складалі 4,85 %. За 1843–1862 гг. яны складалі 8,5 % ад агульнай колькасці, за 1863–1882 гг. – 6,1 %, за 1883–1902 – 2,5 %[15]. Так палітычная сітуацыя ў другой палове XIX ст. накладалася на адносіны паміж простымі сялянамі і ўзмацняла бар'еры, якія абмяжоўвалі магчымасці ўзаемадзеяння паміж людзьмі, што жылі ў прасторы агульнай этнічнай культуры і размаўлялі на адной мове. Гэта ўзмацняла тэндэнцыю да атаясамлення канфесійнай прыналежнасці і нацыянальнасці, калі сяляне-каталікі лічылі і называлі сябе палякамі, а праваслаўныя – рускімі, на што звяртаў увагу ўжо ў 1863 г. ананімны аўтар „Рассказов на белорусском наречии", выдадзеным урадам на беларускай мове менавіта для сялян: "*Вот тутыцька і вялікая памылка наша і падабенства да цыган, што тыя з нас, каторыя веруць па-каталіцку, завуцца Палякамі. Якія яны Палякі? У іх мова простая, беларуская, звычаі простыя, беларускія; і звычаі, і мова ў мужыкоў католікаў тыя самыя, што і ў мужыкоў праваслаўных, ці рускіх*"[16].

Складана даць адказ на пытанне: ці пачаў зніжацца ўзровень рэлігійнасці беларускіх сялян у пасляэформенную эпоху? У мемуарах і этнаграфічных працах другой паловы XIX – пачатку XX ст.

13 А. Е. Богданович, *Мои воспоминания*, „Неман", 1984, № 6, с. 40.

14 Тамсама.

15 С. М. Токць, *Нараджальнасць і смяротнасць у традыцыйнай сялянскай супольнасці Беларусі XIX–пачатку XX ст. (па матэрыялах Глыбоцкага прыхода)*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2014, № 11, с. 14–22.

16 *Рассказы на белорусском наречии*, Вильно 1863, с. 19.

часта сустракаюцца назіранні, якія фіксуюць скептычнае стаўленне беларускіх вяскоўцаў да прыходскага духавенства, а таксама адзначаецца нізкі ўзровень іх рэлігійнасці. А. Ф. Лісоўскі пісаў пра вясковых жыхароў Віцебскага ўезда, што яны адрозніваюцца абыякавасцю да рэлігіі і апошняя іх амаль не цікавіць, у царкву сяляне ходзяць толькі каб пабавіць час, а духоўны бок рэлігіі іх зусім не цікавіць, і ў бессмяротнасць душы яны не вераць[17]. Дадзены аўтар таксама адзначаў той факт, што сяляне вельмі часта ўспрымаюць хрысціянскіх святых без належнай павагі, і ў казках святыя ходзяць па зямлі і нават займаюцца крадзяжамі, а духавенства ім у гэтым дапамагае[18].

Канешне, тут трэба ўлічваць і той факт, што назіральнікі, якія часта паходзілі з асяроддзя адукаванай каталіцкай шляхты, мелі ў паслярэформенны час выразна сфармаванае негатыўнае стаўленне да праваслаўя, што магло ўплываць і на аб'ектыўнасць іх ацэнак рэлігійнасці праваслаўных сялян. Але падобныя назіранні сустракаем, напрыклад, і ў Івана Карскага, карэспандэнта этнографа Паўла Шэйна, які, будучы псаломшчыкам, несумненна, выдатна ведаў узровень рэлігійнасці сваіх прыхаджан і іх стаўленне да рэлігіі[19]. Паводле І. Карскага, у Лашанскім прыходзе ў Гродзенскім павеце налічвалася каля 5 000 сялян, а на святы ў царкву прыходзілі толькі каля 200 чалавек. Падобнага роду назіранні фіксуюць многія прыходскія праваслаўныя святары. Напрыклад, святар Жытлінскай царквы Слонімскага ўезда С. М. Дзем'яновіч пісаў этнографу П. Шэйну ў 1897 г., што ў адносінах мясцовых сялян да рэлігіі заўважаецца апатыя, а Бога яны ўяўляюць у якасці старэнькага дзеда, якога часам можна сустрэць на дарозе[20]. Міхал Федароўскі, які некалькі дзясяткаў гадоў даследаваў жыццё заходнебеларускай вёскі, сцвярджаў, што ўзровень рэлігійнасці беларускага селяніна быў у цэлым ніжэйшы, чым польскага: "*Chłop tutejszy imenia Boga nigdy nie wymawia z taką czcią i nabożeństwem, jak to n.p. zwykł czynić Mazur. Bóg*

17 П. В. Шейн, *Материалы для изучения быта и языка русскаго населения Северо-Западнаго края*, СПб 1902, т. III. *Описание жилища, одежды, пищи, занятий; препровождение времени, игры, верования, обычное право; чародейство, колдовство, знахарство, лечение болезней, средства от напастей, поверья, суеверья, приметы и т. д.*, с. 7, 13.

18 Тамсама, с. 14.

19 Тамсама, с. 64.

20 Тамсама, с. 371.



*u niego w przekleństwie, jako siła msciwej kary występiję zawsze, wymowić jego imię w żartobliwej opowieści, nie nazywa się grzechiem*"[21]. Польскі даследчык таксама звярнуў увагу на выразны антрапамарфізм вобраза Бога ў свядомасці беларускіх сялян[22]. Гэта заўважыла і этнограф Эмма Яленская, якая сцвярджала, што беларускімі сялянамі Бог звычайна ўяўляўся ў постаці старэнькага сівога дзеда[23]. Тут трэба адзначыць, што антрапамарфізм быў універсальнай з'явай традыцыйнай сялянскай рэлігійнасці, таксама як і соцыямарфізм, ці перанос на вобразы Бога і святых уяўленняў і сацыяльных роляў з вясковай рэчаіснасці[24]. Згодна з такімі ўяўленнямі нябесны "той" свет выглядаў як двор "Пана Бога", у якім асобныя святыя выконвалі функцыі эканомаў, цівуноў і г. д. Класічны твор беларускай літаратуры XIX ст. "Энеіда навыварат" з'яўляецца геніяльным паэтычным увасабленнем тагачасных сялянскіх уяўленняў пра свет багоў.

Міхал Федароўскі і на пачатку XX ст. лічыў, што беларускі вясковец заставаўся яшчэ ў большай ступені язычнікам, чым хрысціянінам: "*Chłopw Bogawierzy, lecz za krzywdy i zle uczynki stokroć się więcej boi różnych czarów, gusieł i słow, a w złym czasie wypowiedzianogo, a niżeli kary niebios. Jednym słowem, Bog jego jest bogiem pogańskim i tą chyba tylko różnicą, że w otoczeniu aniołów i swiętych, sam jeden rządzi w niebie, na ziemi i na każdem miejscu*"[25]. Федароўскі прыводзіць і вельмі скептычныя выказванні, якія ён сустракаў сярод сялян Гродзеншчыны, што мелі ўжо выразна атэістычны характар: "*Без грошай няма і збавення*", "*Бог пастарэў і трэба даць яму адстаўку*" і т. п.[26]. Вось гэтая незадаволенасць Боскай уладай уяўляецца ўжо з'явай прынцыпова новай і вынікам перапляцення цэлага шэрагу розных фактараў ва ўмовах павольнага развіцця мадэрнізацыйных працэсаў.

Крыніцы дазваляюць выказаць меркаванне, што такі крытэрый рэлігійнасці, як наведванне набажэнстваў і выкананне рэлігійных абрадаў у сямейным коле, у беларускай вёсцы (асабліва праваслаўнай) у другой палове XIX – у пачатку XX ст. не меў вельмі высокага

21 M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej...*, s. 250.

22 Тамсама, s. 9.

23 Emma Jeleńska, *Wieś Komarowicze w powiecie mozyrskim*, „Wisła", 1891, z. 3, s. 490.

24 I. Bukraba-Rylska, *Socjologia wsi polskiej*, Warszawa 2008, s. 512.

25 M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej...*, s. 251.

26 Тамсама.

ўзроўню і падтрымліваўся пераважна жанчынамі старэйшага ўзросту. Мемуарыст М. Паўлікоўскі пісаў пра сялян Міншчыны, што размовы з палясоўшчыкамі і браканьерамі з часам умацавалі ў ім перакананне, што "*беларускі селянін – вальнадумец, скептык, ды агностык*"[27]. Праваслаўны святар з Кобрынскага павета пісаў у "Литовские епархиальные ведомости", што святарам часта даводзіцца праводзіць богаслужэнне ў пустой царкве, і нават на вялікія святы прыхаджане не збіраюцца[28]. Прычынамі такой адмоўнай з'явы ён бачыў кірмашы, яўрэяў, валасное кіраўніцтва і валасныя суды, якія "*адбываюцца заўсёды ўначы і заканчваюцца масавай выпіўкай*"[29].

Аднак пры гэтым неабходна падкрэсліць, што рэлігійныя інстытуты ў цэлым выконвалі вельмі істотныя функцыі ў працэсах мадэрнізацыі сялянскага грамадства. Асабліва важную ролю адыгрываў інстытут казанняў. У сваіх павучэннях святары імкнуліся прышчапляць сялянам новыя маральная каштоўнасці, новы светапогляд, выступалі дарадцамі, што і як рабіць у новых жыццёвых умовах. Але тут неабходна звярнуць увагу на адзін істотны фактар. Царкоўныя прыходы ў паслярэформенны час маглі налічваць да 5 тыс. прыхаджан. А пераважна драўляныя вясковыя цэрквы звычайна маглі змясціць не болей 200 чалавек. У вялікія святы большасць вернікаў прысутнічала на богаслужэнні, стоячы на царкоўным падворку. Іншымі словамі, гэтая прысутнасць мела выключна сімвалічнае значэнне, паколькі толькі некалькі дзясяткаў асобаў маглі проста пачуць святара, не кажучы ўжо аб тым, каб добра зразумець сэнс яго казання. Гэта былі тыя, хто стаяў у першых шэрагах вернікаў – звычайна прадстаўнікі вясковых элітаў. Споведзь з увагі на вялізную колькасць прыхаджан таксама набывала пераважна фармальны характар. Таму эфектыўнасць рэлігійнага выхавання сялянскіх мас з боку прыходскага духавенства ў прынцыпе не магла быць высокай. Сітуацыя пачала істотна змяняцца разам з пашырэннем масавага школьнага навучання на вёсцы. На занятках Закона Божага святар мог прымусіць дзяцей на памяць вывучыць Катэхізіс і цэлыя фрагменты

27 Michał K. Pawlikowski, *Mińszczyzna,* [w:] *Pamiętnik Wilenski,* Londyn 1972, s. 194.
28 Свящ. Н. Д., *Из восточной части Кобринского уезда*, „Литовские епархиальные ведомости", 1891, 30 июня, с. 202.
29 Тамсама, с. 203.



Бібліі. Па-сутнасці, менавіта з гэтага часу і пачалася сапраўдная евангелізацыя шырокіх мас беларускага сялянства.

Несумненна, на рэлігійнае жыццё беларускай вёскі надзвычай істотны ўплыў аказваў палітычны фактар. І дзяржаўныя ўлады, і апазіцыйныя ім мясцовыя шляхецкія эліты ў значнай ступені разглядалі царкоўныя інстытуты і прыходскае духавенства як найбольш эфектыўны сродак кантролю за сялянскім грамадствам, інструмент ідэалагічнага ўздзеяння на вясковых жыхароў. Гэты фактар ва ўмовах польска-расійскага ідэалагічнага супрацьстаяння на беларускіх землях часта падмяняў сабой уласна рэлігійны элемент у дзейнасці мясцовага духавенства. Важнейшым палітычным мерапрыемствам расійскай улады ў "Заходніх губернях" у першай палове XIX ст. стала далучэнне тутэйшых уніятаў (грэка-каталікоў) да праваслаўя. Пры гэтым дзяржаўныя ўлады шырока выкарыстоўвалі сродкі адкрытага прымусу вернікаў і рэпрэсіі супраць нязгоднага на далучэнне духавенства. Кансерватыўнае па сваёй прыродзе сялянства часта негатыўна ўспрымала тыя змены ў парадку правядзення набажэнстваў і ў інтэр'еры іх храмаў, якія навязвалі дзяржаўныя ўлады. Яно таксама добра бачыла інструментальнае выкарыстанне ўладамі прыходскага духавенства ў палітычных мэтах, што не магло садзейнічаць узвышэнню аўтарытэта апошняга.

У гадавой справаздачы віцебскага губернатара П. М. Клушына за 1858 г. адносна рэлігійнай сітуацыі на вёсцы гаварылася, што многія з былых уніятаў нават не ведаюць, да якой рэлігіі яны належаць і называюць сябе "пераваротамі"[30]. Іван Карскі, характарызуючы рэлігійную сітуацыю ў Гродзенскім павеце ў сярэдзіне XIX ст., адзначаў, што большасць сялян выконвала рэлігійныя абрады на ўніяцкі лад, а ўсе малітвы і царкоўныя песні чыталі і спявалі на польскай мове. З 5 тысяч прыхаджан, як сцвярджаў Карскі, "*толькі пяцёх ведалі рускія малітвы*"[31]. Адам Багдановіч у сваіх успамінах таксама сцвярджае, што сяляне яго мясцовасці, як праваслаўныя, так і каталікі, маліліся ўсе на польскай мове, і толькі дзяржаўная школа пасля паўстання 1863 г. пачала актыўна ўводзіць славянскую і расійскую мовы ў рэлігійнае

30 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі*, ф. 1430, воп. 1, спр. 30415, арк. 13 адв.
31 П. Шейн, *Материалы для изучения быта и языка русскаго населения Северо-Западнаго края…*, с. 86–87.

жыццё сялян[32]. Большасць праваслаўнага духавенства да 1860-х гадоў таксама шырока выкарыстоўвала польскую мову ў сямейным побыце і таварыскіх адносінах.

Іван Карскі таксама адзначаў канфесійны індыферэнтызм вяскоўцаў Гродзеншчыны ў першыя паслярэформенныя гады: яны аднолькава наведвалі як праваслаўныя цэрквы, так і каталіцкія касцёлы[33]. Ён адзначаў нізкі паказчык наведвальнасці храмаў на прыкладзе Капцёўскага прыхода, дзе служыў псаломшчыкам. У гэтым прыходзе, паводле яго сцверджання, звычайна на набажэнстве прысутнічалі не больш 10 пажылых жанчын[34]. Часам духавенства нават звярталася да мясцовых улад за падтрымкай, каб змусіць прыхаджан наведваць храмы. Напрыклад, у 1871 г. святар Харастоўскай царквы ў Ленінскай воласці Рэчыцкага павета Леў Мацкевіч паспрачаўся з мясцовымі валаснымі ўладамі адносна спосабу пакарання сялян, якія не былі на святочнай службе. Святар патрабаваў, каб яны тры дні адпрацавалі ў царкве, а воласць хацела задзейнічаць гэтых сялян у рамонце мясцовай дарогі. Ніхто не пераймаўся тым фактам, што азначанае пакаранне з'яўлялася незаконным[35].

Рыма-каталіцкае духавенства ў цэлым аказвала на сваіх прыхаджан-сялян больш моцны ўплыў, чам праваслаўнае. Пра гэта пісаў Павел Баброўскі, які паходзіў з асяроддзя заходнебеларускага ўніяцкага духавенства і выдатна арыентаваўся ў гэтым пытанні[36]. Народазнаўца-славянафіл Пётр Бяссонаў, які з 1863 па 1865 гг. працаваў у дзяржаўнай адміністрацыі на беларускіх землях, падкрэсліваў актыўнасць каталіцкіх святароў і іх высокі аўтарытэт сярод сваіх прыхаджан і адзначаў апатыю і бяздзейнасць праваслаўнага прыходскага духавенства[37]. Можна вылучыць некалькі прычын падобнага стану рэчаў. Каталіцкае прыходскае духавенства паходзіла ў большасці са шляхты і мела добрую адукацыю. Каталіцкія храмы

32 А. Е. Богданович, *Мои воспоминания*, „Неман", 1984, № 5, с. 39.
33 П. Шейн, *Материалы для изучения быта и языка русскаго населения Северо-Западнаго края…*, с. 88.
34 Тамсама.
35 НГАБ, ф. 242, воп. 1, спр. 1467, арк. 491–492.
36 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России…*с. 622.
37 А. Гулак, *Заходняя Беларусь другой паловы XIX ст. у рукапіснай працы П. Бяссонава*, [у:] *Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа: зб. навук. прац*, рэд. А. М. Пяткевіч, Гродна 2003, с. 97.



былі непараўнальна багацейшыя і больш прасторныя, чым пераважна маленькія цэрквы з саламянымі дахамі. На богаслужэннях у касцёлах прысутнічала ўся мясцовая шляхецкая эліта, а багатыя памешчыкі шчодра фундавалі сродкі на карысць сваёй парафіі. Для сялян-каталікоў прысутнасць на набажэнстве хаця б сімвалічна ўраўноўвала іх са шляхтай (праўда, нават размяшчэнне вернікаў у прасторы храма у часе службы адлюстроўвала сацыяльную іерархію мясцовага грамадства). Таму сяляне часта называлі каталіцтва “панскай верай”, а праваслаўе – “мужыцкай”.

Адносна праваслаўных сялян П. Баброўскі адзначаў, што яны неахвотна наведваюць праваслаўныя цэрквы і часта бываюць у касцёлах[38]. Праўда, даследчык тлумачыў гэты факт наяўнасцю такой station... 

каталіцкім касцёле роднай беларускай мовы. Літургія ў рыма-каталікоў праводзілася на лаціне, а ў праваслаўных – на царкоўнаславянскай мове. Галоўным было тое, што казанні, задачай якіх з'яўлялася тлумачэнне сялянам рэлігійных ісцін і асноў хрысціянскай маралі, у большасці вясковых храмаў гучалі на польскай і расійскай мовах, а свядомае выкарыстанне беларускай мовы сустракалася вельмі рэдка[42]. Прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі і ўраджэнец Гродзенскай губерні Міхаіл Каяловіч у 1863 г. пісаў пра адарванасць і адчужанасць прыходскіх святароў ад сваіх прыхаджан. Прычынай гэтаму, на яго думку, з'яўлялася

38 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России…*, с. 691.
39 Тамсама, с. 17.
40 Тамсама, с. 691.
41 Тамсама, с. 692.
42 *Записки Иосифа митрополита Литовского, изданные Императорскою Академиею Наук па завещанию автора*, СПб. 1883, т. 3, с. 496–496; П. Янковский, *Протоиерей Михаил Бобровский*, „Литовские епархиальные ведомости", 1864, 15 янв., с. 65.

тое, што святары не жадалі звяртацца да народа на яго мове[43]. Як сцвярджаў Каяловіч, праваслаўнае святарства Заходніх губерняў не здолела адказаць на гэты выклік часу і знайсці ў сабе сілы звярнуцца да прыхаджан на іх роднай мове[44]. Хаця сустракаліся і супрацьлеглыя ацэнкі сітуацыі. Дзяржаўны чыноўнік у апісанні Барысаўскага павета за 1866 г. адзначаў той факт, што мясцовыя сяляне выконваюць рэлігійныя абрады і ахвотна наведваюць храмы, а святары тлумачаць ім Евангелле і хрысціянскія абавязкі "*на простом народном наречии*"[45].

Пра неабходнасць выкарыстання беларускай мовы ў царкве ў 1860-ыя гады выказваліся многія святары. Напрыклад, І. Канцэвіч з мястэчка Дзярэчын Слонімскага павета Гродзенскай губерні пісаў у снежні 1862 г., што ён лічыць неабходным, каб святары выкарыстоўвалі „простонародный язык"[46]. Ён таксама прызнаваў той факт, што ў рэлігійным жыцці мясцовых сялян, нягледзячы на намаганні духавенства, пануе польская мова[47].

Цікавым прыкладам праваслаўнага святара, які спрабаваў выкарыстоўваць „простую" мову ў сваім храме, з'яўляўся настаяцель Чарнаўчыцкай царквы ў Брэсцкім павеце Стэфан Пашкевіч. Ён нават распавёў пра свой вопыт на старонках "Литовских епархиальных ведомостей" у 1863 г.[48] Прычыну звароту да роднай мовы вяскоўцаў Пашкевіч тлумачыў тым, што яго прыхаджане больш ахвотна наведвалі прыгожы мураваны касцёл, а не "*убогую, требующую починки*" царкву. На самыя вялікія святы на багаслужэнне прыходзілі ўсяго некалькі дзясяткаў асоб. І тады святар пачаў прамаўляць казанне на „простай" мове сялян. Спачатку прыхаджане вельмі здзівіліся гэтаму, а праз месяц пачалі ў вялікай колькасці збірацца ў царкве. Яго прыклад, як адзначыў святар, пераналі многія мясцовыя праваслаўныя святары. Аднак у цэлым па Беларусі падобныя выпадкі свядомага выкарыстання "простай" мовы ў багаслужэнні з'яўляліся

43 М. Коялович, *Историческое призвание западно-русского Православного Духовенства*, „Литовские епархиальные ведомости", 1863, № 2, 15 февраля, с. 66.
44 Тамсама, с. 66–67.
45 *Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 г.*, СПб. 1868, с. 92.
46 И. Концевич, *Нечто о сельских училищах*, „Литовские епархиальные ведомости", 1863, 15 марта, с. 163.
47 Тамсама, с. 161.
48 Стефан Пашкевич, *О необходимости знания сельскому священнику местного простонародного наречия*, „Литовские епархиальные ведомости", 1863, № 20, с. 791–797.



ўсё ж даволі рэдкімі выпадкамі ў асяроддзі праваслаўнага духавенства. Прычым нават не была сфармулявана ідэя выдання беларускамоўных рэлігійных кніжак для праваслаўнага сялянства.

Ва ўмовах абвастрэння палітычнай сітуацыі на пачатку 1860-х гадоў дзяржаўная адміністрацыя разглядала праваслаўную царкву ў якасці сваёй галоўнай апоры сярод сялянскага насельніцтва Беларусі і надавала вельмі шмат увагі рэлігійнаму пытанню. Напрыклад, гродзенскі губернатар І. У. Галер у гадавой справаздачы за 1862 г. важнейшай задачай дзяржаўнай улады лічыў уладкаванне праваслаўных храмаў у такім выглядзе, каб яны не саступалі каталіцкім касцёлам[49]. Царскі чыноўнік А. К. Гейнс пісаў пасля падарожжа па Гродзенскай губерні ў 1863 г. пра цяжкае пачуццё, якое ён адчуў падчас наведвання мясцовых праваслаўных цэркваў, калі ўбачыў, што многія сяляне, на яго меркаванне, прытрымліваюцца "каталіцкіх" абрадаў[50]. Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, таксама сцвярджаў, што беларускае сялянскае насельніцтва вызнае праваслаўе толькі "номинально", засвоіўшы абрады каталіцкай царквы[51]. Такім чынам, прадстаўнікі мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі адной з галоўных задач урадавай палітыкі ў Паўночна-Заходнім краі лічылі ўзмацненне праваслаўя і яго „ачышчэнне" ад каталіцкіх уплываў.

Пасля выбуху паўстання ў 1863 г. улады дзейнічалі ў гэтым кірунку жорстка і радыкальна. Напрыклад, у 1866 г. гродзенскі губернатар І. М. Скварцоў загадаў святарам перанесці ўсе прыдарожныя крыжы на тэрыторыю могілак. Азначанае распараджэнне, скіраванае найперш супраць католікоў, выклікала незадавальненне і сярод праваслаўных сялян. Вясковыя бацюшкі спрабавалі тлумачыць уладам, што ставяць крыжы пры дарогах паводле даўняга звычаю[52]. Вясковых праваслаўных святароў часта абвінавачвалі ў выкарыстанні польскай мовы ў грамадскім і сямейным жыцці[53]. У новай палітычнай сітуацыі дзяржаўная ўлада патрабавала ад прыходскага праваслаўнага

49 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1250, арк. 52.
50 М. Долбилов, *Полонофобия и русификация Северо-Западного края (1860-е гг.): метаморфозы стереотипов,* [Электронны рэсурс] *Research Centre «Borderland Society» : Pastand Present,* рэжым доступу: http://www.timeandspace.lviv.ua/files/library/dolbilov-rusifikacija4550757 a84ee5.doc.
51 Д. Сталюнас, *Границы в пограничье: белорусы и этнолингвистическая политика Российской империи на Западных окраинах в период Великих Реформ*, „Ab Imperio", 2003, № 1, с. 261–292.
52 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 6, спр. 641, арк. 1.
53 Тамсама.

духавенства кардынальна змяніць і хатнюю мову, і характар свайго таварыскага акружэння. Гэта нярэдка прыводзіла да канфліктаў паміж святарамі і прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі. У 1865 г. віленскі генерал-губернатар К. П. Каўфман камандзіраваў у Мінскую губерню свайго даверанага чыноўніка А. П. Старажэнку для вывучэння рэалізацыі палітыкі ўрада ў рэлігійнай сферы. Справаздачы Старажэнкі ўтрымлівалі вельмі негатыўныя ацэнкі дзейнасці прыходскага праваслаўнага духавенства, якое, паводле гэтага чыноўніка, клапацілася толькі пра свой матэрыяльны дабрабыт і падрывала давер сялян да расійскай улады[54]. У гэтых справаздачах знайшоў адлюстраванне канфлікт паміж мясцовым праваслаўным духавенствам і дзяржаўным чыноўніцтвам, у большасці сваёй на той час прысланым з вялікарасійскіх губерняў.

Пад уплывам падзей паўстання 1863 г. у рэлігійным жыцці праваслаўных сялян Беларусі адбываюцца істотныя змены. Так, 26 снежня 1863 г. Літоўскі мітрапаліт Іосіф загадаў, каб праваслаўнае прыходскае духавенства павялічыла намаганні ў кірунку замены польскіх малітваў і малітоўнікаў малітвамі і малітоўнікамі на расійскай і славянскай мовах[55]. Актыўную ролю ў гэтым працэсе спрабавалі адыгрываць і дзяржаўныя чыноўнікі. Напрыклад, пад уплывам ваеннага начальніка Ашмянскага павета Віленскай губерні сяляне некалькіх валасцей прынялі пастановы, паводле якіх яны адмаўляліся ад малітоўнікаў на польскай мове і каталіцкіх абразоў, а таксама ад наведвання каталіцкага касцёла пад пагрозай штрафу ў памеры 3 руб. Сяляне Курылавіцкай грамады, напрыклад, здалі ў валасное праўленне 29 такіх малітоўнікаў, а з Вільні высланыя ў гэтую воласць 50 праваслаўных абразоў[56]. У выніку пачынаецца працэс замены мовы малітвы беларускага праваслаўнага селяніна з польскай на царкоўнаславянскую, які, аднак, расцягнуўся на дзесяцігоддзі.

Пасля паўстання 1863 г. расійскія ўлады таксама прадпрымаюць актыўныя захады па пераводу каталіцкага сялянскага насельніцтва заходніх губерняў у праваслаўе. У кастрычніку 1863 г. гродзенскі губернатар І. М. Скварцоў пісаў генерал-губернатару Міхаілу Мураўёву

54 *Дзяржаўны Гістарычны архіў Літвы*, ф. 378, агульны аддзел, воп. 1865, спр. 1354, арк. 5 адв.-6.
55 *Местные распоряжения*, „Литовские епархиальные ведомости", 1863, 31 декабря, с. 196.
56 ДГАЛ, ф. 378, агульны аддзел, воп. 1863, спр. 1688, арк. 33.



аб неабходнасці з мэтай умацавання расійскай улады садзейнічаць пераходу сялян-каталікоў у праваслаўе[57]. Ва ўмовах ваеннага становішча ўлады часта выкарыстоўвалі метады адкрытага прымусу. Напрыклад, ваенны начальнік Сакольскага павета Гродзенскай губерні М. І. Воранаў пасля таго, як жыхары мястэчка Новы Двор адмовіліся вярнуцца ў праваслаўе (калісьці яны былі ўніятамі), прапанаваў губернатару некаторых асоб выслаць у аддаленыя губерні імперыі, каб народ убачыў, што ўрад не дае слабіны ў гэтым пытанні[58]. Таксама ваўкавыскі ваенны начальнік Л. І. Портэн прапаноўваў перасяліць у Сібір некалькі асоб, якія працівіліся перайсці ў праваслаўе[59]. У выніку былі сасланыя ў Сібір два жыхары шляхецкай ваколіцы Ляжайкі, якіх мясцовы праваслаўны святар Макавельскі ў лютым 1864 г. далучыў да праваслаўя, але яны пазней адмовіліся выконваць праваслаўныя абрады. У 1864 г. 18 гаспадароў гэтай ваколіцы далі падпіскі, як яны самыя пазней сцвярджалі, пад прымусам казакоў, аб пераходзе ў праваслаўе. З таго часу яны бясконца скардзіліся ўладам і прасілі дазволу вярнуцца ў каталіцтва[60]. І падобных справаў аб гвалтоўнай канверсацыі сялян было мноства.

Вышэйзгаданы чыноўнік Аляксандр Старажэнка пісаў у 1865 г. з Мінскай губерні ў Вільню пра дрэнную арганізацыю тут справы пераводу каталікоў у праваслаўе, адсутнасць усялякага плану і ўзаемадзеяння чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства[61]. Ён прыводзіў дадзеныя, што ў Рэчыцкім павеце з 5 490 мясцовых каталікоў 1 018 (18,5 %) прынялі на той час праваслаўе[62]. Пазней Аляксандр Старажэнка ўзначаліў у Вільні дзяржаўную камісію, якая адмыслова займалася гэтым пытаннем. Паводле яе дадзеных, за перыяд з 1863 па ліпень 1866 г. ва ўсіх шасці паўночна-заходніх губернях было пераведзена ў праваслаўе 42 440 чалавек, у тым ліку ў Віленскай губерні – 14 788, у Гродзенскай – 13 462, Мінскай – 10 036 чалавек, Віцебскай – 2 947, Магілёўскай – 983, Ковенскай – 224[63]. У

57 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 6, спр. 380, арк. 9.
58 Тамсама, арк. 153-154.
59 Тамсама, арк. 173.
60 ДГАЛ, ф. 378, агульны аддзел, воп. 1867, спр. 1198, арк. 173.
61 ДГАЛ, ф. 378, агульны аддзел, воп. 1865, спр. 1354, арк. 25 адв.
62 Тамсама, арк. 32 адв.
63 А. Ф Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях, 1864–люты 1917 г.,* СПб. 2004, с. 63.

большасці выпадкаў паводле саслоўнай прыналежнасці гэта былі сяляне. Асноўная колькасць пераведзеных прыходзілася на Віленскую і Гродзенскую губерні, дзе быў і самы высокі працэнт каталікоў сярод беларускага насельніцтва. Паводле падлікаў В. В. Грыгор'евай, у 1860-х гадах у Літоўскай рыма-каталіцкай епархіі (Віленская, Гродзенская і Ковенская губерні) былі далучаны да праваслаўя каля 30 тыс. каталікоў[64]. Прыходскія праваслаўныя святары былі абавязаныя весці ў метрычных кнігах дакладны ўлік пераведзеных.

Метады прымусу часта прыводзілі да адваротнага выніку. У канцы 1865 г. генерал-губернатар К. П. Каўфман пісаў да магілёўскага губернатара П. М. Шалгунова, каб чыноўнікі не прапаведавалі праваслаўе ад імені ўрада, які не павінен быць замешаны ў рэлігійныя спрэчкі[65]. Тыя сяляне, якія прымалі праваслаўе пад адміністрацыйным ціскам, вельмі часта станавіліся праваслаўнымі толькі фармальна і працягвалі прытрымлівацца каталіцкай абраднасці, што служыла крыніцай бясконцых канфліктаў, спрэчак і судовых разбіральніцтваў. Напрыклад, жыхары вёсак Рачкі і Гаслаўшчына Слуцкага павета Мінскай губерні пісалі ў лістападзе 1881 г. губернатару А. І. Пятрову, што на працягу 15 гадоў яны застаюцца без споведзі і Святога Прычасця, дзеці нараджаюцца і паміраюць няхрышчанымі, нябожчыкаў сваіх хаваюць тайна і так жа заключаюць шлюбы. Сяляне прасілі разгледзець судовую справу адносна іх, пакінуць у каталіцкай веры, у якой яны нарадзіліся[66]. Губернатар Пятроў у сваю чаргу тлумачыў міністру ўнутраных спраў Д. А. Талстому ў ліпені 1882 г., што азначаныя сяляне ў 1867 г. нібыта добраахвотна далі падпіску аб тым, што далучаюцца да праваслаўя. Пасля выхаду ў красавіку 1905 г. так званага ўказа аб верацярпімасці, вялікая частка такіх канверсантаў на працягу некалькіх гадоў вярнулася ў каталіцтва. Напрыклад, у Віленскай епархіі іх лічба склала 62 тыс. асоб[67].

Дзяржаўныя ўлады таксама пачынаюць у 1860-ыя гады рэалізацыю палітыкі русіфікацыі каталіцкага касцёла на беларускіх

64 *Канфесіі на Беларусі, канец XVIII–XX ст.*, Мінск 1998, с. 72.
65 М. Долбилов, *Полонофобия и русификация Северо-Западного края (1860-е гг.): метаморфозы стереотипов,* [Электронны рэсурс] *Research Centre «Borderland Society»: Pastand Present,* рэжым доступу: http://www.timeandspace.lviv.ua/files/library/dolbilov-rusifikacija4550757 a84ee5.doc.
66 НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 3695, арк. 6 адв.-7.
67 *Канфесіі на Беларусі, канец XVIII–XX ст.*, Мінск 1998, с. 113.



землях. Яшчэ 12 красавіка 1863 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі А. Шырынскі-Шахматаў прапанаваў у тых мясцовасцях, дзе жыве "народ русский", замяніць польскую мову ў каталіцкім богаслужэнні "местным наречием"[68]. У канцы 1865 г. генеральны вікарый Магілёўскай рыма-каталіцкай архіепархіі біскуп Ю. Станеўскі паінфармаваў улады аб хадайніцтве каталіцкага духавенства Віцебскай і Магілёўскай губерняў дапусціць казанні на „белорусском языке". Па іншай версіі, ініцыятыва належала царскаму чыноўніку А. Уладзіміраву, які ў той час працаваў у Віленскай навучальнай акрузе і свае меркаванні па гэтаму пытанню выклаў генерал-губернатару К. П. Каўфману ў канцы студзеня 1866 г.[69] У рэчаіснасці, многія каталіцкія ксяндзы на ўсходнебеларускіх землях і так прамаўлялі казанні на мове сваіх парафіян, аб чым сведчаць матэрыялы мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі. Ужо ўзгаданы вышэй А. П. Старажэнка дакладваў начальніку краю Міхаілу Мураўёву летам 1864 г. пасля паездкі па Магілёўскай губерні, што праваслаўныя сяляне ахвотна наведваюць казанні, якія "ксяндзы-прапагандысты" прамаўляюць ім на беларускай мове[70]. Атрымаўшы гэтае паведамленне, генерал-губернатар рэкамендаваў магілёўскаму архіепіскапу Яўсевію прыняць захады, каб прыходскія святары не дазвалялі сялянам слухаць казанні ў касцёлах.

Дзяржаўныя ўлады звярнуліся па пытанні аб магчымым выкарыстанні беларускай мовы ў каталіцкім касцёле да мінскага праваслаўнага епіскапа Міхаіла Галубовіча, які ў лютым 1866 г. напісаў свае меркаванні для Обер-пракурора Свяцейшага Сінода графа Д. А. Талстога. Ягонае стаўленне да ўвядзення беларускай мовы ў каталіцкае набажэнства было катэгарычна адмоўным. Галубовіч сцвярджаў, што не існуе адзінай беларускай мовы, а толькі мноства гаворак. Ды і "просты народ", паводле Галубовіча, добра разумее літаратурную расійскую мову, чаму садзейнічалі, як ён

68 Д. Сталюнас, *Может ли католик быть русским? О введении русского языка в католическое богослужение в 60-х годах XIX века*, [в:] *Российская империя в зарубежной историографии. Работы последних лет: Антология*, Москва 2005, с. 574.
69 Тамсама, с. 576.
70 М. Долбилов, *Полонофобия и русификация Северо-Западного края (1860-е гг.): метаморфозы стереотипов,* [Электронны рэсурс] *Research Centre «Borderland Society»: Pastand Present*, рэжым доступу: http://www.timeandspace.lviv.ua/files/library/dolbilov-rusifikacija4550757 a84ee5.doc.

пісаў, заснаваныя ўладамі народныя вучылішчы[71]. Праваслаўнае духавенства працівілася выкарыстанню расійскай мовы ў каталіцкім касцёле яшчэ і таму, паколькі апасалася, што гэта можа пасадзейнічаць пераходу праваслаўных у каталіцтва. Але ў снежні 1869 г. Аляксандр II дазволіў прыхаджанам *„иноверных церквей (...) которые считают родным языком русский, в том или другом его наречии (...) слушать на русском языке проповедь и те части богослужения, которые совершаются не на латинском"*, а ў лютым 1870 г. віленскі генерал-губернатар А. Л. Патапаў прадпісаў падначаленым яму губернатарам давесці гэты дазвол праз міравых пасярэднікаў да каталіцкага прыходскага духавенства і простых вернікаў, а таксама заахвоціць апошніх пісаць уладам звароты з просьбай аб набажэнствах на рускай мове[72]. З гэтага моманту пачалася рэалізацыя палітыкі ўвядзення рускай літаратурнай мовы ў каталіцкі касцёл на беларускіх землях. Асабліва актыўна яна праводзілася на Міншчыне і атрымала там падтрымку часткі каталіцкага духавенства. Адзін з найбольш актыўных прыхільнікаў гэтай палітыкі канонік Фердынанд Сенчыкоўскі на пачатку выкарыстоўваў у сваіх казаннях беларускую мову, але потым перайшоў на расійскую[73].

У Гродзенскай губерні рэалізацыя азначанай палітыкі пасоўвалася значна горш. У лютым 1874 г. губернатар А. Е. Зураў пісаў генерал-губернатару, што толькі кобрынскі дэкан Брадовіч "*попытался было совершать дополнительное богослужение на русском языке, но и тот в настоящее время перестал*"[74]. У 1877 г. той жа Зураў адказаў на запыт віленскага генерал-губернатара П. П. Альбядзінскага, што ў яго губерні казанні ў касцёлах праводзяцца толькі на польскай мове[75]. У 1884 г. віленскі генерал-губернатар звярнуўся да падпарадкаваных яму губернатараў з просьбай падаць звесткі пра мову набажэнстваў у каталіцкіх касцёлах. Паліцыя сабрала дадзеныя пра родную мову прыхаджан, з якіх вынікала, што большасць католікоў, асабліва сялянскага паходжання, "в домашнем быту" размаўляюць па-

71 А. И. Миловидов, *Распоряжения и переписка графа М. Н. Муравьева относительно римско-католического духовенства в Северо-Западном крае*, Вильно 1910, с 12.

72 А. Ф. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй...*, с. 82.

73 Тамсама, с. 68-72.

74 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 6, спр. 2374, арк. 237.

75 Тамсама.



беларуску. Гродзенскі губернатар А. М. Пацёмкін, напрыклад, пісаў у Вільню 31 ліпеня 1887 г., што з гэтай прычыны ўвядзенне рускай мовы ў каталіцкае набажэнства "не представило бы трудностей"[76]. Аднак улады не рызыкнулі ў адміністрацыйным парадку ўводзіць тут у набажэнствы расійскую мову, каб не выклікаць хваляванняў сярод вернікаў. Ды і ў Мінскай губерні палітыка "обрусения" касцёла не прынесла ўраду жаданых вынікаў, і расійская мова так і не ўвайшла трывала ў рэлігійнае жыццё сялянскіх каталіцкіх супольнасцей. У справаздачы за 1897 г. мінскі губернатар М. М. Трубяцкі пісаў, што ў 1869-1872 гг. расійская мова была ўведзена ў богаслужэнне ў 30 касцёлах губерні, але да 1897 г. такіх засталося ўсяго каля 10[77].

У выніку бурлівых падзей 1860-х гадоў на беларускіх землях усталявалася сітуацыя своеасаблівай "халоднай" канфесійнай вайны. Прыходскае каталіцкае духавенства адчувала сябе ў становішчы асаджанай крэпасці, а праваслаўнае апасалася „згубных" каталіцкіх уплываў на сваіх прыхаджан. Напрыклад, святар Аляксей Ваўкавыцкі з Беласточчыны пісаў у царкоўным летапісе свайго прыхода пра шкодны ўплыў на яго прыхаджан з боку суседніх касцёлаў, але прызнаваў пры гэтым, што рэлігійнай варожасці паміж праваслаўнымі і каталікамі няма, і нават бываюць прыклады ўзаемнага наведвання храмаў[78].

Адносна ўзроўню рэлігійнасці беларускіх сялян у канцы XIX – пачатку XX ст. у крыніцах сустракаюцца розныя ацэнкі. Святар Яраслаў Брэн, напрыклад, пісаў у 1887 г. пра высокі ўзровень рэлігійнасці праваслаўных сялян у Бельскім павеце Гродзенскай губерні і адзначаў, што ў святы старыя і малыя ідуць у цэркву і перапаўняюць іх[79]. Але адначасова сустракаецца і шмат звестак пра вельмі нізкі ўзровень рэлігійнасці, прыклады якіх вышэй ужо прыводзіліся. І ўсё ж нягледзячы на працэс секулярызацыі, які на той час ужо несумненна набіраў моц сярод вясковага насельніцтва, рэлігійныя інстытуты да самага пачатку Першай сусветнай вайны захоўвалі вялікі ўплыў на жыццё беларускіх сялян і выконвалі ролю важнага мадэрнізацыйнага

76 ДГАЛ, ф. 378, агульны аддзел, воп. 1884, спр. 111, арк. 59-59 адв.

77 НГАБ, ф. 295, воп. 1, спр. 5981, арк. 31-31 адв.

78 A. Wołkowycki, *Historyczny oraz statystyczny opis cerkwi i parafii w Czarnej Cerkiewnej*, Czarna-Cerkiewna; Bielsk-Podlaski 1994, s. 66.

79 Я. Бренн, *Особенности религиозного быта крестьян Бельского уезда Гродненской губернии*, „Литовские епархиальные ведомости" 1887, 11 января, с. 4-11.

фактара. Асаблівую ролю прыходскае духавенства, як каталіцкае, так і праваслаўнае, адыгрывала ў працэсе пашырэння пісьменнасці сярод сялянскага насельніцтва. Нярэдка пры вясковых храмах утвараліся бібліятэкі[80]. Святары часта выконвалі для сялян ролю дарадцы і суддзі па самых розных жыццёвых пытаннях[81].

Працэсы мадэрнізацыі ў праваслаўнай і каталіцкай вёсцы на беларускіх землях мелі сваю спецыфіку. Сярод каталікоў, напрыклад, былі вышэйшымі паказчыкі пісьменнасці. Назіраюцца таксама адрозненні ў параметрах дэмаграфічных зменаў. Ужо статыстычныя дадзеныя за 1850 г. па Гродзенскай губерні сведчаць, што сярод каталіцкага насельніцтва назіраліся больш нізкія паказчыкі нараджальнасці і смяротнасці. Сярод праваслаўных жыхароў нараджальнасць складала 46 %, смяротнасць – 36 %, а сярод каталіцкага насельніцтва – адпаведна 40 % і 32 %[82]. Падобныя адрозненні зафіксаваў у сваім даследаванні Гродзенскай губерні Павел Баброўскі[83]. Яны захаваліся і ў далейшым. Напрыклад, у Гродзенскай губерні ў 1883 г. сярод праваслаўнага вясковага насельніцтва паказчык нараджальнасці складаў 50,6 %, а смяротнасці – 44,8 %, сярод каталіцкага насельніцтва адпаведныя паказчыкі выглядалі наступным чынам – 39,9 % і 30 %[84]. Падобныя адрозненні назіраліся і ў іншых беларускіх губернях. Яны тлумачацца як больш высокім паказчыкам прысутнасці шляхты сярод каталіцкага насельніцтва, дзе дамінавалі адрозныя ад сялян мадэлі дэмаграфічных паводзін, так і ўплывам з боку шляхты на нормы паводзін сялян-каталікоў.

У выніку ўзаемадзеяння шэрагу фактараў, у рэлігійнай сферы жыцця беларускай вёскі ў паслярэформенны перыяд склалася дастаткова парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, захоўваліся шматлікія звычаі і абрады яшчэ дахрысціянскага, паганскага паходжання, багацейшы вусны фальклор, асабліва ў праваслаўнай вёсцы. Але разам з захаваннем гэтых архаічных элементаў традыцыйнай культуры сярод вясковай моладзі ўсё больш пашыраўся скептыцызм адносна святароў і рэлігійных абрадаў, які выяўляўся

80 A. Wołkowycki, *Historyczny oraz statystyczny opis cerkwi i parafii w Czarnej Cerkiewnej..., s. 76.*
81 Тамсама, s. 66.
82 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 346, арк. 42.
83 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России…*, с. 589.
84 *Памятная книжка Гродненской губернии на 1885 г.,* Гродно, 1884.



ў адкрытай іроніі і выказваннях выразна атэістычнага характару. Небяспечным выклікам для вясковага духавенства стала ўзрастанне папулярнасці сярод сялян радыкальных сацыялістычных ідэй.

Такім чынам, істотнай спецыфікай рэлігійнага жыцця беларускай вёскі ў паслярэформенны перыяд з'яўлялася таксама захаванне шматлікіх элементаў архаічных паганскіх вераванняў, якія сінтэтычна перапляталіся з хрысціянскімі традыцыямі і рытуаламі. Другой важнай асаблівасцю з'яўлялася ўзаемная канфесійная талерантнасць паміж сялянамі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. На рэлігійнае жыццё беларускіх сялян вялікі ўплыў аказвала палітычнае супрацьстаянне дзяржаўных улад і мясцовых шляхецкіх эліт. Інструментальнае выкарыстанне рэлігійных інстытутаў у палітычных мэтах нярэдка прыводзіла да зніжэння іх аўтарытэту ў вачах сялян. Працэсы секулярызацыі пашыраліся на вёсцы і ў найбольшай ступені закраналі праваслаўнае сялянства і інтэлігенцыю вясковага паходжання. Гэта было вынікам ломкі традыцыйных структур і інстытутаў ва ўмовах мадэрнізацыйнага пераходу. Сяляне, такім чынам, шукалі новыя сістэмы светапогляду, якія б задавальнялі іх духоўныя патрэбы і змяншалі пачуццё трывогі ва ўмовах распаду звыклага для іх свету. Новыя рэлігійныя сістэмы, так жа як радыкальныя сацыяльныя ідэалогіі запаўнялі той вакуум, які часта не маглі запоўніць традыцыйныя рэлігійныя інстытуты праваслаўнай і каталіцкай канфесій. Але апошнія таксама выступалі важнымі суб'ектамі мадэрнізацыі вясковага грамадства, адыгрываючы вялікую ролю ў пашырэнні пісьменнасці сярод сялянства і прапаноўваючы сваё бачанне сацыяльнай арганізацыі вясковага соцыуму ва ўмовах распаду традыцыі.

**Streszczenie**

Siarhej Tokć, *Zmiany życiu religijnym wsi białoruskiej w drugiej połowie XIX w. i na początku XX w.*

Specyfiką sytuacji religijnej na białoruskiej wsi, w drugiej połowie XIX w. i na początku XX w., było zachowanie wielu elementów archaicznych pogańskich wierzeńi obrzędów, które syntetycznie przeplatały się z tradycjami chrześcijańskimi. Istotną cechą szczególną była również wzajemna tolerancja pomiędzy chłopami wyznania prawosławnego i katolickiego. Na życie religijne wsi białoruskiej, w tym okresie, ogromny wpływ miały czynniki polityczne. Instrumentalne wykorzystanie instytucji religijnych przez władze państwowe w celach politycznych często prowadziło do obniżenia ich autorytetu w oczach chłopstwa. Początkowo dotyczyło to cerkwi prawosławnej, w której rząd rosyjski widział swoje główne oparcie w środowisku białoruskiej wsi. W tym samym okresie Kościół katolicki był postrzegany przez Imperium Rosyjskie jako zagrożenie. Po powstaniu w 1863 r. władze państwowe wspierały konwersję katolickich chłopów na prawosławie oraz próbowały przeprowadzić politykę rusyfikacji języka liturgicznego w kościele katolickim. Polityka ta jednak nie przyniosła oczekiwanych rezultatów przez rosyjski rząd. Na początku modernizacji ówczesnego społeczeństwa rozszerzyły się procesy sekularyzacji wśród mieszkańców wsi. Dotyczyły one w największym stopniu prawosławnych chłopów i inteligencji pochodzenia wiejskiego. Razemz tym tradycyjne instytucje religijne występowały jako istotne podmioty modernizacji społeczności wiejskiej, odgrywając ogromną rolę w propagowaniu nauki czytania i pisania wśród chłopstwa oraz proponując swoją wizję społecznej organizacji wiejskiej wspólnoty w czasie rozpadu tradycji.



**Summary**

Siarhej Tokć, *Changes in the Belarusian Village's Religious Life in the Second Half of the 19th and Early 20th Century*

The specific character of the religious situation in the Belarusian village in the second half of the 19th century and the start of the 20th century was due to the preservation of various elements of archaic pagan beliefs and rituals which synthetically intertwined with Christian traditions. A particularly essential trait was also the mutual tolerance demonstrated by Orthodox and Catholic peasants. During this period, political factors had a massive influence on the religious life of the Belarusian village. The instrumental exploitation of religious institutions by the state authorities for political purposes, often led to the deterioration of their authority in the eyes of the peasants. Initially this pertained to the Orthodox Church, which the Russian government viewed as their main foothold in the Belarusian village environ. In this same period, the Catholic Church was perceived by the Russian Empire as a dangerous threat. After the uprising in 1863, the state authorities supported the conversion of Catholic peasants to Orthodoxy, as well as attempting to enact a policy of Russification in the liturgical language of the Catholic Church. These policies, though, did not bring the results expected by the Russian government. With the beginning of the modernization of contemporary society, secularization processes spread amongst village inhabitants. They mainly affected Orthodox peasants and village-born intelligentsia. At the same time, traditional religious institutions appeared as essential entities for the modernization of village societies, playing a huge role in propagating reading and writing amongst peasants and proposing their own vision of social organization of the village community in the face of deteriorating traditions.

**Іна Соркіна**
**(Варшава/Гродна)**

## Штэтл у беларускім мястэчку: суседства габрэяў і беларусаў (канец XVIII – пачатак XX ст.)

Беларусы і габрэі былі самымі шматлікімі народамі поліэтнічнага беларуска-літоўскага рэгіёна Расійскай імперыі. Па перапісу 1897 г. беларусы складалі 63,5 % (каля 5,4 млн чал.) ад усіх жыхароў пяці заходніх губерняў (Віленская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская). Габрэі былі на другім месцы па колькасці (пасля беларусаў) сярод народаў, якія пражывалі ў рэгіёне, ды складалі 14,1 % (каля 1,2 млн чал.) ад усяго грамадзянскага насельніцтва[1]. Габрэі былі самай шматлікай групай сярод гараджан, напрыклад, у Гродзенскай губерні іх удзельная вага ў гарадах і мястэчках перавышала 58 %[2].

Месцам найбольш цесных кантактаў паміж беларусамі і габрэямі спрадвеку было мястэчка. Выдатным мастацкім увасабленнем гэтага суседства з'яўляецца карціна вядомага беларускага жывапісца і педагога габрэйскага паходжання Юдаля Пэна (1854-1937) "Домік з козачкай" (альбо "Каза і свіння").



***Юдаль Пэн. Каза і свіння, 1920-я гады***

1 *Беларусы*, т. 4: *Вытокі і этнічнае развіццё*, Мінск 2001, с. 221.
2 Падлічана па даных: *Статистика еврейского населения: распределение по территории, демографические и культурные признаки еврейского населения по данным переписи 1897 г.,* СПб. 1909.



"Каза і свіння" як адна з формаў сімвалічнага мастацкага адлюстравання суседства габрэйскага і беларускага сусветаў у мястэчку сустракаецца таксама ў мемуарным творы беларускага эміграцыйнага дзеяча Васіля Стомы-Сініцы (1911-1992 гг.) *"Маё мястэчка"*, прысвечаным Лужкам. Апісваючы мястэчка, аўтар адзначае, што праўдзівай аздобай Рынку была велізарная лужына, якая амаль ніколі не высыхала, у ёй улетку ад рання да вечара купаліся падсвінкі, а на гэтых купальшчыкаў з філасафічным спакоем паглядалі козы[3].

У дадзеным даследаванні асвятляецца працэс заснавання мястэчак і штэтлаў на беларускіх землях, разглядаюцца разнастайныя стасункі паміж беларусамі і габрэямі ў мястэчках Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст. на аснове выяўленых гістарычных крыніц (архіўных дакументаў, успамінаў, матэрыялаў перыядычнага друку) і навуковых прац па гэтых праблемах[4].

### Генезіс мястэчак на землях Беларусі

Мястэчкі – своеасаблівая з'ява ў гістарычнай сістэме паселішчаў Беларусі. Часам актыўнага паўставання мястэчак на беларускіх землях быў перыяд XV – першай паловы XVII ст. Спрыяльная эканамічная і палітычная сітуацыя садзейнічала колькаснаму і якаснаму росту гарадскіх паселішчаў, прычым колькаснае іх прырошчванне адбывалася менавіта за кошт мястэчак. У сярэдзіне XVII ст. на беларускіх землях было 37 гарадоў і 425 мястэчак[5]. Большасць гарадоў склалася да XVI ст. Значыць, XVI – першая палова XVII ст. былі часам імклівага развіцця мястэчак. Гэтаму садзейнічала скасаванне Статутам ВКЛ 1588 года абмежаванняў на заснаванне мястэчак прыватнымі асобамі.

Пашырэнне сеткі мястэчак – вынік эканамічнай мадэрнізацыі і вестэрнізацыі беларускіх земляў у складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Яны былі выкліканы да жыцця таварызацыяй

3 В. Стома, *Маё мястэчка,* Мінск 2014, с. 15.
4 Часткова гэта праблема намі ўжо даследавалася: І. Соркіна, *Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.*, нав. рэдактар З. Шыбека, Вільня 2010; І. Соркіна, *"Памежжа" народаў, рэлігій, культур: міжэтнічныя і міжканфесійныя ўзаемадачыненні ў мястэчках Беларусі ў XIX – пачатку XX ст.*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne", t. 31, Białystok 2009, s. 60-91.
5 З. Копысский, *Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в.,* Минск 1975, с. 10.

сельскай гаспадаркі і імкненнем стварэння аптымальнай сістэмы забеспячэння мясцовага насельніцтва прадуктамі рамяства і гандлю. Адной з эканамічных асноў мястэчак з'яўляўся транзітны гандаль, а таксама пасрэдніцтва паміж вёскай і горадам. Заснаванне мястэчка азначала закладанне таргоў, што павялічвала даходы ўладальнікаў. У мястэчках усталёўваліся штотыднёвыя таргі, штогадовыя кірмашы, адчыняліся корчмы.

Канкрэтныя абставіны і акалічнасці ўтварэння мястэчак на беларускіх землях у большасці выпадкаў застаюцца пакуль невядомымі. Далёка не заўсёды гэты працэс суправаджаўся выдачай каралеўскага прывілею. Можна вылучыць некалькі шляхоў узнікнення мястэчак Беларусі:

1. Найстарэйшыя мястэчкі, якія развіваліся побач з замкамі вялікага князя ці буйных феадалаў (у сярэдзіне XVI ст. з 210 мястэчак, што існавалі на тэрыторыі Беларусі, 86 знаходзіліся каля замкаў[6]);
2. Мястэчкі, якія развіваліся з таргоў і згуртаванняў рамесніцкага насельніцтва, узнікшых каля двароў феадалаў;
3. Мястэчкі, паўстаўшыя на працягу правядзення валочнай памеры на новым месцы (на "суровым (сырым) караню": Дзівін, Васількава, Смаляны, Лагішын, Ліпск, Станькава ды інш.) ці побач з ужо існуючай вёскай (Моталь, Ілья, Вілейка, Крывічы, Мільча ды інш.)[7];
4. Мястэчкі, фактарам паўставання якіх былі патрэбы, звязаныя з абслугай камунікацыйных шляхоў (так, у рэвізорскім лісце на заснаванне мястэчка Саколка на месцы аднайменнай вёскі, якая стаяла на шляху Гродна-Кнышын, акрамя арганізацыі гандлю жыхарам загадвалася будаваць заезныя дамы[8]);
5. Мястэчкі, заснаваныя каля асяродку рэлігійнага культу (напрыклад, заснаванню мястэчка ў Будславе папярэднічала існаванне тут капліцы віленскіх бернардынаў, некаторыя мястэчкі ўзніклі каля манастыроў (Жыровічы);

6 А. Лакотка, *Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры,* Мінск 1999, с. 15.
7 У. Гуркоў, *Мястэчка,* [у:] *Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя,* Мінск 1989, с. 332.
8 Тамсама.



6. Мястэчкі, паўстаўшыя побач з існуючымі раней вялікімі ці малымі гарадамі;
7. Пэўная колькасць мястэчак узнікла ў сувязі з адкрыццём новых промыслаў (так, у Полацкім ваяводстве каля 1620 г. былі заснаваныя адначасова рудня і мястэчка Слабада)[9].

Часта на паўставанне мястэчак уплывалі адразу некалькі фактараў. Напрыклад, такія мястэчкі як Радашковічы і Маладзечна, узнікшыя побач з замкамі, ляжалі адначасова на ажыўленым шляху з Мінска да Вільні. Стары Мядзел, заснаваны пры касцёле Св. Яна Хрысціцеля, знаходзіўся побач з ужо раней існуючым мястэчкам Мядзелем[10].

Выпадкі заснавання мястэчак у другой палове XVII – першай палове XVIII ст. можна разглядаць як адну з мераў па выхаду з эканамічнага крызісу, у якім апынуўся наш край у выніку разбуральных ваенных ліхалеццяў, ды адзін са сродкаў актывізацыі эканамічнага жыцця і росту даходаў. Прыкладам можа быць знойдзены намі ў Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве прывілей 1713 г. манарха Рэчы Паспалітай Аўгуста II лідскаму падкаморыму Эляшу Міхалу Рымвіду на права заснавання мястэчка ў яго маёнтку Дзембрава Лідскага павета. Пры гэтым агаворвалася права на ўстанаўленне таргоў, асаджэнне мяшчан, вымярэнне пляцаў, каб уласнік мог бесперашкодна *"паводле ўпадабання свайго прымнажаць пажыткі"*[11].

Фармаванне насельніцтва мястэчак адбывалася коштам наступных крыніц: перавод у мяшчанства сялян і рамеснікаў феадальных маёнткаў, у якіх закладалася мястэчка; уцекачы з уладанняў іншых паноў; узнікненне новых слабод; прыбыццё мяшчан з большых гарадоў ці іншых мястэчак; папаўненне за кошт іншаземцаў[12].

Асаблівасцю сеткі мястэчак на беларускіх землях быў пераважна прыватнаўласніцкі статус гэтых паселішчаў. Так, у другой палове XVIII ст. сярод 276 мястэчак Беларусі, у адносінах да якіх вядома

9 Тамсама.
10 Ю. Бохан, *Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV – XVIII ст.ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах):* Дыс... канд. гіст. навук, Мінск 1994, с. 40.
11 Zbiór Rękopisów Biblioteki Czartoryskich, syg.2575, k. 127.
12 S. Aleksandrowicz, *Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego.* Toruń 2011, s. 123 – 132.

іх прыналежнасць да пэўнага віду ўладання, прыватнаўласніцкіх было 212 (77 %)[13]. У пачатку 60-х гг. XIX ст. 82,5 % мястэчак Беларусі знаходзіліся ва ўласнасці памешчыкаў[14].

Адной з характэрных рысаў гарадоў і мястэчак Вялікага княства Літоўскага, як і ў цэлым Цэнтральна-Усходняй Еўропы, з'яўлялася этнічная і рэлігійная разнастайнасць насельніцтва. Яна склалася паступова. Асноўнымі этнічнымі групамі гарадскіх цэнтраў Беларусі былі беларусы і габрэі. Прычым, у XVI – першай палове XVII ст. у гарадскіх паселішчах дамінавалі беларусы (яны складалі не меней за 80 % усіх гараджан і местачкоўцаў), габрэяў было ад 2 да 10 % усіх жыхароў. Этнаканфесійная структура гарадскога насельніцтва Беларусі істотна змянілася пасля так званага "разбуральнага стагоддзя". Шматлікія войны, што пачаліся ў сярэдзіне XVII ст. (казацка-сялянская вайна 1648-1651 гг., вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг., Паўночная вайна 1700-1721 гг.) прывялі наш край да дэмаграфічнай і гаспадарчай катастрофы. Асабліва трагічнай была трынаццацігадовая вайна з Расіяй, у якой гарадское жыхарства Беларусі ацалела толькі на 45 %[15]. Беларускае мяшчанства было вынішчанае, і ўзнікшы вакуум пачало запаўняць габрэйскае насельніцтва, паказаўшы фенаменальны прыклад інтэграцыі ў беларускае асяроддзе з захаваннем сваёй нацыянальнай культуры. У гарадах і мястэчках узнікала і развівалася своеасаблівая прастора габрэяў – штэтл.

**Што такое штэтл?**

Наяўнасць рэлігійна-культурнай адасобленасці і духоўна-сацыяльнай аўтаноміі габрэйскіх абшчын у мястэчках выклікае неабходнасць ужывання тэрміна "штэтл". У перакладзе з мовы ідыш "штэтл" ці "штэтлэх" азначала "мястэчка". Маленькія мястэчкі называліся ласкава "штэйтэле". Штэтл, лакалізаваны ў рамках прыватнаўласніцкага горада, быў найбольш устойлівай юрыдычнай, сацыяльнай і эканамічнай формай існавання габрэяў ва Усходняй Еўропе.

13 А. Карпачёв, *Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII–XIII в.:* Дис... доктора ист. наук, Минск 1969, с. 91.

14 З. Шыбека, *Гарады Беларусі (60-я г. XIX – пачатак XX ст.),* Мінск 1997, с. 38.

15 Г. Сагановіч, *Невядомая вайна: 1654 – 1667,* Мінск 1995, с.130, 139.



Яшчэ ў першай палове XIX ст. штэтл знайшоў адлюстраванне ў мастацкай літаратуры. У рамане на ідыш *"Дос штэрнціхл"*[16] Ізраіля Аксенфельда штэтл паказваецца як габрэйскі мікракосм, замкнуты і самадастатковы ў галіне рэлігіі ды культуры, але цесна звязаны з навакольным светам сацыяльна і эканамічна. Рамантычную і настальгічную інтэрпрэтацыю штэтла знаходзім у творы Шолама Аша *"Штэтл"* (1904 г.): аўтар параўноўвае штэтл з клезмерскім аркестрам, дзе кожнае саслоўе грае сваю партыю, а ўсе разам яны складаюцца ў гарманічную мелодыю, "нігун" (ідылія, незакранутая праблемамі сучаснасці). Іча-Меір Вайсенберг, наадварот, паказвае распад традыцыйнага штэтла пад уплывам індустрыялізацыі і рэвалюцыі, імкліва развіццё ўнутраных канфліктаў у мястэчку. Літаратурнае аблічча штэтла стваралі таксама Менделе Мойхер-Сфорым, Шолам-Алейхем, Іцхак-Лейбуш Перац, Давід Бергельсон ды многія іншыя аўтары. Аналізу эвалюцыі тэмы штэтла ў літаратуры прысвечаныя спецыяльныя даследаванні Міхаіла Круцікава[17], Катажыны Венцлаўскай[18] ды інш.

Тэрмін штэтл трапіў на старонкі навуковай літаратуры пасля Другой сусветнай вайны. Адна з першых прац, якая лічыцца класікай, – кніга Марка Збароўскага і Элізабэт Херцаг[19]. Яна стварае абагулены вобраз "ідэальнага штэтла" па-за гістарычным часам і геаграфічнай прасторай, пры гэтым свядома ігнаруецца сувязь паміж габрэйскім штэтлам і навакольнай рэчаіснасцю. Класічным апісаннем штэтла з'яўляюцца таксама працы Дыяны і Дэвіда Роскесаў[20], Дана Мірона[21]. Сёння існуе шмат навуковай літаратуры аб штэтле (сярод аўтараў – Гершон Хундэрт, Мошэ Росман, Давід Асаф, Шауль Штампфер, Адам Тэлер, Джон Клір, Ёханан Пятроўскі-Штэрн, Барбара Стэмпнеўска-Холзэр, Вольга Сабалеўская, Уладзімір Ганчароў ды інш.) і шмат

16 Святочны галаўны ўбор замужняй габрэйскай жанчыны

17 М. Крутиков, *Штетл между фантазией и реальностью,* "Новое литературное обозрение", 2010, № 102. Доступ праз інтэрнэт: http://magazines.russ.ru/nlo/2010/102/k10.html

18 K.Więcławska, *Zmartwychwstałe miasteczko...Literackie oblicza sztetl,* Lublin 2005.

19 M. Zborowski, E. Herzog, *Life is with people: The Culture of the Shtetl*, New York 1952.

20 D. K. Roskes, D. G. Roskes, *The shtetl book: An introduction to East European Jewish Life and Lore,* INC 1979.

21 D. Miron, *Theimage of the Shtetl and others tudies of modern Jewish literary imagination*, New York 2000.

трактовак гэтага паняцця[22]. З усіх шматлікіх спробаў даць азначэнне тэрміну “штэтл” можна вылучыць наступныя:

- усялякае паселішча ва Усходняй Еўропе, дзе жылі габрэі;
- паселішча, большасць насельніцтва якога складалі габрэі і якое мела габрэйскае аблічча;
- асобны соцыум, які выразна адрозніваўся ад акаляючага насельніцтва мовай, гаспадарчымі заняткамі, рэлігіяй, культурай;
- частка горада, у якой кампактна жылі габрэі (габрэйскі квартал)[23];

Цікавым, на наш погляд, з’яўляецца тлумачэнне паняцця “штэтл” Джонам Кліерам, які разглядае штэтл як эканамічна-культурную зону, што аб’ядноўвала габрэяў паміж сабой, а таксама габрэяў і хрысціян[24]. Падаецца вельмі слушнай трактоўка штэтла, прапанаваная Элеанорай Бергман. Яна вызначае “штэтл” як габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў польскім (беларускім, украінскім, літоўскім) мястэчку[25]. Гэтая прастора ўспрымалася традыцыйнай габрэйскай свядомасцю ў побытавым, рэлігійным і містычным планах у адпаведнасці з галахічнымі ўяўленнямі, народнымі звычаямі і мясцовымі традыцыямі. Ёханан Пятроўскі-Штэрн звяртае ўвагу на дынамічнасць штэтла, які перажываў розныя этапы (у тым ліку свой “залаты век” у канцы XVIII – 40-х гг. XIX ст.), адаптаваўся да сітуацыі; паказвае штэтл як вір актыўнасцей у гаспадарчай, рэлігійнай, асветніцкай, культурнай, грамадска-палітычнай дзейнасці[26]. Штэтл сучасных гісторыкаў аказваецца зонай інтэнсіўных міжэтнічных і міжрэлігійных кантактаў, для якой характэрныя дынаміка, разнастайнасць, супярэчнасці, канфлікты.

22 Пра дыскусію вакол паняцця “штэтл” больш падрабязна гл.: А. Львов, *Штетл в XXI в. и этнография постсоветского еврейства,* [в:] *Штетл, XXI век: Полевые исследования,* Санкт-Петербург, 2008, с. 9-26.

23 В. Гончаров, *Еврейские местечки юго-восточной Украины XIX – начала XX в.: социально-экономический аспект,* [w:] *Sztetł – wspólne dziedzictwo: szkicez dziejów ludności żydowskiej Europy Środkowo-Wschodniej,* red. Artur Markowskij,Wojciech Śleszyński, Białystok 2003, s. 110-111.

24 J. D. Klier, *What exactly was a Shtetl?* [w:] *The shtetl: Image and Reality. Papers of the Second Mendel Friedman International Conference on Yiddish,* University of Oxford, 2000, s. 26.

25 Дадзенае азначэнне было прапанавана Э. Бергман на адной з кансультацый аўтара з ёй у красавіку 2003 г. Падчас навуковай стажыроўкі ў Польшчы, якая адбылася дзякуючы «Fundacji Popierania Nauki Kasy im. J. Mianowskiego».

26 Y. Petrovsky-Shtern, *Sztetl. Rozkwit i upadek żydowskich miasteczek na Kresach Wschodnich,* Kraków 2014.



Пануе амаль усеагульнае перакананне, што “аўтэнтычнага” штэтла больш няма, ён загінуў у катастрофе Другой сусветнай вайны.

У калектыўнай манаграфіі “Штетл. XXI век”[27] прадстаўнікоў “Пецярбургскай іўдаікі” (Аляксандр Львоў, Ала Сакалова, Валерый Дымшыц ды інш.) прапаноўваецца новае канцэптуальнае бачанне феномена штэтла праз зварот да памяці інфармантаў insitu, а таксама рэвізію ідэалагемы пра “смерць штэтла”. Паняцце штэтл выкарыстоўваецца пры апісанні пасляваеннага габрэйскага жыцця ў Падоліі. Упершыню прадстаўлена антрапалагічная рэканструкцыя савецкага і постсавецкага штэтла.

Такім чынам, штэтл вывучаецца як рэальны і як уяўны феномен. Працэс трансфармацыі “рэальнага” штэтла, як канкрэтнага тыпу габрэйскага паселішча з пэўнай сацыяльнай, эканамічнай, рэлігійна-культурнай арганізацыяй, у “міфалагічны” штэтл і крышталізацыі калектыўнай памяці адбываецца паралельна ў літаратуры, мастацтве, гістарыяграфіі, этнаграфіі, антрапалогіі. Створаны велізарны масіў літаратуры па гэтай праблеме.

Аднак, зыходзячы з разумення таго, што няма “тыповага” штэтла, кожны быў іншым, беларускім даследчыкам застаецца свая ніша – пошук асаблівасцей штэтлаў на беларускіх землях.

У дадзеным даследаванні ўжываецца тэрмін “штэтл” у сэнсе габрэйскай фізічнай і духоўнай прасторы ў беларускім мястэчку. Мы зыходзім з таго, што штэтл і мястэчка не ідэнтычныя паняцці. Паняцце “мястэчка” шырэй за паняцце “штэтл”, мястэчка ўключае штэтл як сваю частку. Гэтая частка, як правіла, дамінавала, асабліва ў XIX – пачатку XX ст., але не заўсёды. Існавалі мястэчкі, дзе габрэяў увогуле не было. Напрыклад, інвентары Грэска Слуцкага ўезда ў першай палове XIX ст. не фіксуюць ніводнага габрэйскага двара[28]. Пражыванне габрэяў у м. Жыровічы было забароненае яшчэ ў часы Яна Казіміра (1648-1668 гг.): габрэям не дазвалялася нават спыняцца тут на начлег, а падчас праезду праз мястэчка яны мусілі ісці пешшу, з непакрытаю галавой і басанож[29]. Аднак у XIX ст. габрэі ў Жыровічах хоць і ў малой колькасці, але жылі: у 1829 г. тут было 3 габрэйскія

27 *Штетл, XXI век: Полевые исследования,* составители В. А. Дымшиц, А. Л. Львов, А. В. Соколова, Санкт-Петербург 2008.

28 *Archiwum Główny Akt Dawnych* (далей – AGAD). AR, dz. XXV, sygn. 1299.

29 *Słownik geograficzny Krolewstwa Polskiego,* t. 14, Warszawa 1895, s. 897.

двары[30]. З другога боку, можна прывесці прыклад мястэчка, дзе жылі адныя габрэі. Па афіцыйных звестках за 1880 г. м. Захарына Мсціслаўскага  ўезда было заселена аднымі габрэямі: 311 мужчын і 390 жанчын[31]. Гэта рэдкі выпадак, калі мястэчка ўяўляла сабой штэтл. У дадзеным канкрэтным выпадку гэтыя паняцці цалкам супадалі.

### Фармаванне  штэтла ў беларускіх мястэчках

У пісьмовых крыніцах звесткі пра местачковых габрэяў сустракаюцца з канца XVI ст. Спачатку іх колькасць была нязначнай і абмяжоўвалася адной ці некалькімі асобамі, звычайна арандатарамі корчмаў. Пасля войнаў сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. колькасць габрэяў у мястэчках прыкметна ўзрасла. Мясцовыя арыстакраты, зацікаўленыя ў гаспадарчым аднаўленні сваіх маёнткаў, росце гандлю і рамёстваў, запрашалі габрэяў у свае паселішчы ў абмен на гарантыю бяспекі, свабоды гандлю і веравызнання, а таксама аўтаномнае абшчыннае самакіраванне. У наватарскай манаграфіі Мошэ Росмана пераканаўча паказаныя супадзенне і глыбокая ўзаемазалежнасць эканамічных інтарэсаў магнатаў і габрэяў[32]. Яшчэ ў 1539 г. габрэі фармальна сталі суб’ектам юрыздыкцыі зямельных уласнікаў. Яны атрымалі значную свабоду дзеянняў у рэгуляванні прававога становішча сваіх падданых, надаючы ім розныя прывілеі. Вялікая колькасць прывілеяў была прадастаўлена габрэйскім абшчынам у канцы XVII і XVIII ст. Гэта практыка адпавядала праграме аднаўлення Рэчы Паспалітай пасля войн сярэдзіны XVII – першай чвэрці XVIII ст. Сістэма прывілеяў азначала, што габрэі з’яўляліся заканадаўча прызнанымі карпарацыямі[33].

Прывядзём некалькі прыкладаў. У час вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. значна пацярпеў Клецк. У 1641 г. у мястэчку было каля 2 300 жыхароў, 448 двароў, а пасля вайны (па даных на 1683 г.) – 1 100 жыхароў і 217 двароў. Пасля спусташэння

30 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна* (далей – НГАБ у Гродна), Ф. 1, воп. 4, адз. зах. 646, арк. 56.

31 С. Мстиславский, *Евреи в Могилевской губернии: историко-статистический очерк,*“Восход”, 1886, кн. 10, с. 3.

32 M. Rosman, *Zydzipańscy. Stosunki magnacko-żydowskie w Rzeczypospolitej w 18 wieku,* Warszawa, 2005.

33 A. Teller, *The Legal Status of the Jews on the Magnate Estatesof Poland-Lithuania in the XVIIIth Century,* [w:] Gal-Ed. Vol. 15-16 (1997), p. 41.



мястэчка ў 1706 г. (у гады Паўночнай вайны) у Клецку было каля 600 жыхароў, 152 двароў (у 1713 г.)[34]. Засяленню Клецка габрэямі ў XVIII ст. садзейнічалі князі Радзівілы. У 1766 г. клецкі кагал налічваў 29 душ[35]. У 1796 г. на сродкі Радзівілаў у Клецку была пабудаваная мураваная сінагога. Паводле сведчання Аляксандра Ельскага, у пачатку 1880-х гг. “*на франтоне гэтай пабудовы захаваліся толькі рэшткі радзівілаўскіх гербаў, але ж гарачай удзячнасці клецкіх габрэяў час, як бачна, так лёгка не знішчыў*”[36]. Габрэі ў Клецку ў канцы 1860-х гг. складалі 94,4 % жыхароў мястэчка (1 836 з 1 944 чал.)[37].




**Сінагога ў Клецку. Малюнак Сяргея Верамейчыка, 2007 г.**

Значнае скарачэнне  насельніцтва ў выніку вайны 164-1667 гг. адбылося ў Іўі. У 1634 г. тут было 180 двароў[38]. Інвентар 1685 г.

34 В. Пазднякоў, *Клецк,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 4, Мінск 1997, с. 194.

35 Kleck na stronie: http://www.sztetl.org.pl/be/article/kleck/5,-/

36 А. Ельскі, *Гарады і мястэчкі,* [у:] *Выбранае,* уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука, Мінск 2004, с. 282.

37 *Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.),* т. V, Санкт-Петербург 1879, с. 101.

38 В. Шаблюк, *Іўе,* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т.,* т. 3, Мінск 1996, с. 510.

паказвае толькі 61 гаспадара заселеных пляцаў у мястэчку, 9 з іх на той час былі габрэйскімі[39]. Праз 200 год, да 1880 г., колькасць габрэяў у Іўі дасягнула 1 744 чал. (80,3 %) сярод 2 173 жыхароў мястэчка[40].

У 1736 г. Крыштаф Завіша, уладальнік Смілавічаў, каб *"горад быў больш людным і забудаваным добрымі дамамі"* выдаў прывілей смілавіцкім габрэям, у якім гарантаваў свабоду рэлігійнага жыцця, занятказ і г. д. У дакуменце адзначалася, што такімі вольнасцямі і правамі карыстаюцца і іншыя габрэі ў каралеўскіх і шляхецкіх гарадах, і што ў выпадку павялічвання колькасці габрэяў у Смілавічах яшчэ больш будуць павялічаныя і іх вольнасці[41]. Па даных на канец 1860-х гг. у мястэчку з 1 811 жыхароў было 990 габрэяў (54,7 %)[42].

Спрыяў пасяленню габрэяў у сваім мястэчку новы ўладальнік (з 1774 г.) Чачэрска граф Захар Чарнышоў. Для габрэяў была прапанаваная тэрыторыя на ўзбярэжжы ракі Чачоры, дзеля іх былі пабудаваныя на сродкі графскай гаспадаркі 4 малельні, з якіх 1 мураваная[43]. Паступова габрэі сталі дамінуючай часткай насельніцтва мястэчка: у канцы 1860-х гг. з 1 380 чалавек у Чачэрску жыло 862 габрэя (62,4 %)[44].

Пратэкцыя ўладальніка садзейнічала засяленню габрэямі і Лагойска: у 1808 г. Пій Тышкевіч для павялічвання сваіх прыбыткаў знайшоў неабходным пашырэнне гандлю і з гэтай мэтай з Барысава вызваў 4 габрэйскія сям'і, якім надаў некаторыя прывілеі. Лік габрэяў з кожным годам павялічваўся, яны сталі прыбываць з розных месцаў і патроху папаўняць панскую казну[45]. У канцы 1860-х гг. з 952 жыхароў Лагойска габрэяў было 692 (72,6 %)[46].

Уладальнік мястэчка меў справу толькі з абшчынным праўленнем – кагалам, які збіраў падаткі, арганізоўваў рэлігійнае жыццё, сацыяльную дапамогу, падтрымліваў парадак у мястэчку, вяршыў суд і здзяйсняў карныя функцыі (цялесныя пакаранні,

39 *Аддзел рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта*, Ф. 4, А 1703.
40 *Дзяржаўны Гістарычны архіў Літвы* (далей – ДГАЛ). Ф. 378, агульны аддзел, 1880 год, адз. зах. 869, арк. 113 адв.-114.
41 *Цэнтральны архіў гісторыі габрэйскага народа ў Іерусаліме*. НМ 2/7945.3.
42 *Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи*, с. 102.
43 А. Ганжын, *Мястэчка Чачэрск, Гомельскай акругі*, "Наш край", 1927, № 1, с. 60.
44 *Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи*, с. 98.
45 В. Самцэвіч, *Мястэчка Лагойск (Менскай акругі)*, "Наш край", 1928, № 4, с. 28-29.
46 *Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи*, с. 102.



адлучэнне ад сінагогі – херэм). Такая сістэма дазваляла габрэю існаваць у сваім асяроддзі і мала сутыкацца са знешнім светам[47].

Такім чынам, большасць абшарнікаў ахвотна карысталася пасрэдніцкімі паслугамі габрэяў, была зацікаўленая ў пражыванні габрэяў у сваіх маёнтках. Захавалася шмат сведчанняў аб гэтым. Вось адно з іх: "*Большая часть помещиков не только сделать что-нибудь, но, кажется, и подумать не может без еврея. Еврей у помещика в доме и в делах равный с ним, если не больший его хозяин. Помещик никогда почти дела не решит без своего еврея–поверенного; напротив, поверенный – еврей всегда покончит с вами без своего доверителя*"[48]. Прывядзём яшчэ адну цікавую цытату на гэты конт: "*Żydzi żyli w prawdziwej ekonomicznej i społecznej symbiozie z wyższymi warstwami szlachty. Jeszcze nawet wiele lat później opowiadano: „Mój dziadek ze strony matki, który już nie siedział na ziemi, twierdził: Polski szlachcic bez Żyda jest niekompletny! Mój dziadek ze strony ojca, który jeszcze siedział na ziemi, utrzymywał: jest szlachcicem, dopóki ma się ziemię i Żyda!*"[49].

Для характарыстыкі сацыяльнага, культурнага і эканамічнага становішча габрэяў на землях Рэчы Паспалітай, стасункаў паміж імі і шляхтай можна выкарыстаць паняцці з прасторы жылога дома, якая складаецца з рознаўзроўневых памяшканняў з рознымі функцыямі і значэннем. Ян Блоньскі ў артыкуле *"Biedni Polacy patrzą na getto"* (апублікаваным 11.01.1987 г. у "Tygodniku Powszechnym") пісаў: *"Przyjęliśmy Żydów do naszego domu, ale kazaliśmy im mieszkać w piwnicy. Kiedy chceli wejść na pokoje, obiecywaliśmy, że wpuścimy, jeśli przestaną być Żydami, jeśli się „ucywilizują"*[50]. "Піўніца", дзе было дазволена жыць габрэям як "іншым", успрымалася як месца выпадковае, як гатэль, дзе начлегі магчымыя з абмежаваным пачуццём бяспекі і прыватнасці, з валізкай, якая стаіць спакаваная ў куце пакоя і гатовая да забрання[51].

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай адбывалася канчатковая крышталізацыя соцыя-культурнай мадэлі мястэчка. Гэтыя паселішчы

47 D. K. Roskes, D. G. Roskes, *Theshtetl book: Anintroduction to East European Jewish Life and Lore*, INC 1979, p. 181-184, 187-188.
48 *Акцизный откуп и евреи-посредники в Минской губернии*, [в:] *Труды Имп. Вольного экономического общества*, 1860 ноябрь, с. 279-289.
49 H. Houmann, *Historia Żydów w Europie Środkowej i Wschodniej*, Warszawa 2000, s. 41.
50 Цыт. па: R. Parciack, *Społeczność żydowska miasteczka małopolskiego a okolica. Próba modelu*, [w:] *Miasteczko i okolica – od średniowiecza do współczesności*, red. J.Hoff, Kolbuszowa 2006, s. 314.
51 R. Parciack, *Społeczność żydowska miasteczka małopolskiego a okolica. Próba modelu*, s. 315.

сталі пераважна габрэйскімі па складу насельніцтва ў выніку абмежавальных законаў Расійскай імперыі: увядзення “мяжы габрэйская аселасці”, гвалтоўнага высялення габрэяў з сельскай мясцовасці, якое актыўна пачалося пасля выдання *“Положения о евреях 1804 г.”*. Забарона габрэям жыхарства і прадпрымальніцтва ў сёлах і вёсках практыкавалася на працягу амаль усяго перыяду знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. У выніку перапіс 1897г., нават з улікам вайскоўцаў, зафіксаваў, што ўдзельная вага габрэяў сярод гарадскога насельніцтва Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў складала 41,5 %, сярод местачковага – 59,8 %[52].

Адначасова з наступам на габрэяў з боку расійскіх улад з мэтай “перавыхавання”, пачасцілася практыка парушэнняў уладальнікамі мястэчак першапачатковых умоў пасялення габрэяў. Многія габрэйскія абшчыны вялі барацьбу з памешчыкамі за недатыкальнасць раней устаноўленых правоў на пражыванне і эксплуатацыю мясцовых даходных артыкулаў (прыклады – змаганне габрэяў м. Горкі з Салагубам, габрэяў Валожына – з Тышкевічам[53]).

Вывучэнне шэрагу інвентароў мястэчак Беларусі ў архівах Беларусі, Літвы і Польшчы дазваляе заўважыць не толькі павелічэнне ўдзельнай вагі габрэяў, але і засяленне імі цэнтральнай часткі мястэчак. Выяўляецца наступная заканамернасць: габрэі сяліліся канцэнтравана вакол гандлёвай плошчы і больш рассеяна па меры аддалення ад яе[54]. Гэта прасочваецца таксама па картаграфічных матэрыялах (напрыклад, план Койданава 1835 г.[55]), а таксама апавядальных крыніцах: паводле сведчання Уладзіслава Сыракомлі, габрэйскія крамы і бажніцы на рынку Койданава сталі сэрцам горада, бо хрысціянскае насельніцтва знаходзілася тут, як і ва ўсіх

52 Падлічана па даных: *Статистика еврейского населения: распределение по территории, демографические и культурные признаки еврейского населения по данным переписи 1897 г.*, Санкт-Петербург 1909. Приложения.

53 Падрабязней пра гэта гл.: І. Соркіна, *Як мястэчкі сталі штэтламі: трансфармацыя этнаканфесійнай структуры насельніцтва мястэчак Беларусі ў XVIII – XIX ст.*, [у:] *Сярэднявечча і Ранні Новы час: зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных памяці Паўла Лойкі,* навук. рэд. В.А. Варонін, Смаленск 2013, с. 119-131.

54 А. Соколова, *Архитектура штетла в контексте традиционной культуры,* [в:] *Сто еврейских местечек Украины. Исторический путеводитель*, вып. 2: *Подолия,* Санкт-Петербург 2000, с. 57.

55 AGAD. Zb. kart. R 452-25.



нашых мястэчках, на другім плане[56]. Падобны характар рассялення этнічных груп быў і ў м. Капыль, пра што сведчаць інвентары[57], план пачатку XIX ст.[58], а таксама мемуарная літаратура. Абрам Паперна апісвае, што Капыль размяшчаўся на высокай гары, і што хрысціяне і магаметане рассяліліся па бакавых вуліцах на схілах гары і пад гарой, габрэі ж займалі самую лепшую частку горада на вяршыні гары, дзе знаходзіліся рынкавая плошча і вуліцы, што да яе прымыкалі, сінагагальны двор, або плошча, дзе канцэнтраваліся ўсе адмыслова-габрэйскія духоўныя і грамадскія ўстановы[59].

Больш спрыяльным размяшчэннем габрэйскіх дамоў у мястэчках можна растлумачыць, на наш погляд, вышэйшыя нормы падаткаабкладання для габрэяў у параўнанні з хрысціянскім насельніцтвам. Напрыклад, згодна з інвентаром 1846 г. у Капылі *“габрэі з аселых прутаў удвая плаціць павінны”*[60]. Дадатковыя выплаты габрэяў азначалі таксама кампенсацыю ўладальніку за вызваленне ад выканання абавязковых працоўных павіннасцяў, у прыватнасці, паштовай, вартавой. Аднак мяшчане-беларусы былі незадаволеныя гэтым, яны дамагаліся ад уладальнікаў мястэчак, каб габрэі нараўне з імі ўдзельнічалі ў адпрацовачных павіннасцях.

Роля габрэяў у аднаўленні гарадоў і мястэчак Беларусі – у фармаванні гарадской забудовы, арганізацыі і развіцці мясцовай вытворчасці, рамесных і гандлёвых промыслаў – з’яўляецца бясспрэчнай. Досвед гарадскога жыцця (габрэі – носьбіты гарадской цывілізацыі на працягу 2,5 тысяч гадоў), веданне эканамічных рэалій, дзелавыя і асабістыя сувязі, прадпрымальнасць, узаемная падтрымка пераўтваралі габрэйскую абшчыну ў самаарганізуючае ядро гарадской гаспадаркі. Габрэйская абшчына, нават калі яна і не складала пераважную большасць местачковага насельніцтва, вызначала жыццё мястэчка менавіта як гарадскога паселішча. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе ў часы Сярэднявечча габрэі жылі ў гета і не маглі ўплываць на культуру і архітэктуру горада,

56 У. Сыракомля, *Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, дасслед. гісторыі, звычаяў,* Мінск 2002, с. 299.

57 AGAD. AR, dz. XXV. Sygn. 1759.

58 AGAD. Zb. Kart, R 452-40.

59 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания,* [в:] *Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России*, т. 2. СПб. 1910, с. 6.

60 НГАБ. Ф. 142, воп. 1, адз. зах. 1601, арк. 9 адв.

у Беларусі – нават у большай ступені, чым у іншых рэгіёнах былой Рэчы Паспалітай – менавіта габрэі былі кансалідуючым пачаткам, вызначалі твар і дух мястэчка[61]. Гэта добра ілюструюць сведчанні сучаснікаў. Так, А. Паперна, адзначаючы цэнтральнае размяшчэнне ў Капылі габрэйскіх пляцаў, а таксама шматлікасць і мабільнасць габрэяў, падкрэсліў, што Капыль на першы погляд ствараў уражанне чыста габрэйскага горада[62].

Такім чынам, на працягу XVIII-XIX стст. Беларусь стала краем габрэйскіх мястэчак, у кожным з якіх была арганізаваная абшчына са сваімі традыцыйнымі інстытуцыямі, рэгуляваўшымі штодзённае абшчыннае жыццё. Расійскія меры прывялі да канцэнтрацыі габрэяў у гарадах і мястэчках і, як вынік гэтага, да кансервацыі традыцыйнай габрэйскай культуры і ўкладу жыцця. Мястэчка для габрэяў адыграла такую ж ролю ў захаванні традыцыйнай культуры, як вёска для беларусаў. Яно стала для габрэяў уласным "асяроддзем пражывання". Паступова фармавалася ўяўленне аб мястэчку як малой габрэйскай радзіме, "Ізраілі ў выгнанні". Мястэчка, такім чынам, пераўтварылася ў асяродак габрэйскай гісторыі рэгіёна, культурнай творчасці беларускага габрэйства, зону іх актыўнай эканамічнай дзейнасці.

## Суседства беларусаў і габрэяў: эканамічная зона кантактаў

У аснове ўзаемадзеяння этнасаў, якія насялялі мястэчкі, ляжалі непазбежныя эканамічныя інтарэсы. Вывучэнне гаспадарчага развіцця мястэчак Беларусі XIX ст. дазваляе заўважыць парадаксальнае спалучэнне напружанай штодзённай барацьбы за існаванне скучанай местачковай беднаты і досыць добразычлівых і даверлівых адносін паміж людзьмі, заснаваных на эканамічным супрацоўніцтве прадстаўнікоў розных этнічных груп местачковага насельніцтва.

У выніку гвалтоўнага высялення габрэяў з вёсак у гарады і мястэчкі адбылося ўзрастанне іх ролі ў жыццядзейнасці мястэчак. Габрэйскія гандляры, рамеснікі і прамыслоўцы занялі

61 Н. Метельская, *Мир еврейских местечек Беларуси вчера и сегодня. Проблемы изучения,* [в:] *Дубновские чтения: Материалы 1-й Международной научной конфер. «Наследие С. Дубного и изучение истории евреев в странах СНГ и Балтии»*, Могилёв, 17 – 19 октября 2000 г., сост.-ред. И. П. Герасимова, Г. И. Рутман. Минск 2001, с. 130.

62 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания,* с. 6.



манапольнае становішча ў "неземляробчым" прадпрымальніцтве. Змена эканамічнай сітуацыі прывяла да таго, што хрысціянскае насельніцтва мястэчак згубіла свае былыя пазіцыі ў рамястве і гандлі, займалася ў асноўным сельскай гаспадаркай. Сектар "хрысціянскага" прадпрымальніцтва істотна скараціўся, але не знік. Негабрэйская частка насельніцтва мястэчак больш актыўна займалася суднабудаваннем і так званымі "адыходнымі промысламі". Прадпрымальнікамі ў мястэчках выступалі таксама дваране – уладальнікі прамысловых прадпрыемстваў. Прадпрымальнае мяшчанства мястэчак у асобных выпадках папаўнялася і за кошт шляхты ў выніку яе "разбору". Некаторыя сяляне ў мястэчках таксама мелі "прадпрымальніцкую жылку": пра гэта, напрыклад, сведчыць 30-гадовая гісторыя патаемнай (з мэтай пазбегнуць падаткаў) гарбарні селяніна Аляксандра Міхалевіча ў Гальшанах[63].

Безумоўна, выпадкі канфліктаў на эканамічнай глебе паміж габрэйскім і негабрэйскім насельніцтвам мястэчак мелі месца. Як, напрыклад, канфлікт паміж габрэйскімі і беларускімі ткачамі м. Мір у сярэдзіне 20-х гг. XIX ст. Тут яшчэ з 1686 г. існаваў хрысціянскі ткацкі цэх. У 1824 г. габрэй Моўша Іцкавіч Шмухлер пачаў займацца ткацтвам, і ў хуткім часе да гэтага занятку далучыліся яшчэ 40 габрэйскіх сем'яў. Прыбыткі рамеснікаў-хрысціян сталі падаць. У 1825 г. габрэі-ткачы скардзіліся: "...*ткацкий цех начал воспрещать нам заниматься ткацким ремеслом под сим предлогом, что будто бы евреям не позволено заниматься никакими промыслами, забрал у нас публично самовольным и насильственным образом материалы*". У 1827 г. цэхмайстар Трушынскі звярнуўся да Радзівілаўскай камісіі, створанай у г. Вільні, "*домогаясь удаления евреев от ткаческого промысла в м. Мире*". Камісія выканала гэтую просьбу. Гродзенскі губернатар у рапарце міністру ўнутраных спраў адзначыў: "... *судя по положению здешнего края, нельзя признать выгодным воспрещение в м. Мире евреям заниматься ткацким ремеслом по недостаточному количеству ремесленников и малому усовершенствованию их изделий,*

63 І. Соркіна, *Гальшаны ў XIX – пачатку XX ст. па матэрыялах Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва,* [у:] *Беларусь праз прызму рэгіянальнай гісторыі: Ашмяны і Ашмянскі рэгіён: зб. навук. артыкулаў,* уклад.: А. А. Скеп'ян, А. Б. Доўнар, Мінск 2015, с. 306-307.

*но так как местечко вотчинное, то надо предоставить собственному усмотрению князей Радзивилов все хозяйственные распоряжения*”[64].

Пэўныя супярэчнасці на эканамічнай глебе існавалі паміж беларусамі і габрэямі Капыля. Цікава, што ў 1776 г. паміж бакамі была заключаная дамова, у якой гаварылася, што былых ад колькі год прэтэнзій адных да другіх быць не павінна, і што калі адзін з бакоў “*клатніцу і праўнасць распачне міма таго запісу*”, дык будзе павінны на скарб князя заплаціць 1000 злотых[65]. Канфлікт паміж беларусамі і габрэямі ў Капылі крыніцы зафіксавалі ў 1811 г.: габрэі Мееровічы напалі на вуліцы на цэхмайстра шавецкага цэху Базыля Манкевіча, які набываў дрэва. Нападаўшыя, якім Базыль быў вінаваты грошы, здзіралі з яго кажух, “*біючы ў карак і лаячы срамотна*”. Але ён, мужчына малады і моцны, рэціруючыся ад “*зласлівых ізраілёў*”, на карку сваім уцягнуў іх да дому адміністратара “*з вялікім галасам*”. На прызначанае пазней разбіральніцтва габрэі не з’явіліся[66].

Паступова кожная этнічная група насельніцтва заняла сваю нішу ў эканамічнай сістэме беларускага краю, у тым ліку і мястэчак. Мястэчкі яскрава дэманстравалі сацыяльна-эканамічную “спецыялізацыю” этнасаў, якія тут пражывалі: габрэі панавалі ў гандлёва-прамысловым прадпрымальніцтве і сферы паслуг, татары займаліся вырабам скур і агародніцтвам, беларусы – земляробствам і некаторымі рамёствамі. Тое, што паміж прадстаўнікамі розных этнасаў існаваў своеасаблівы падзел працы, і што гаспадарчае жыццё мястэчка, як правіла, працякала на аснове ўзаемнага супрацоўніцтва, добра ілюструюць успаміны А. Паперны: “*В описываемое время Копыль мог иметь около 3000 душ населения, состоявшего из трёх различных по народности и вероисповеданию групп: евреев, белорусов и татар. Эти три группы, объединенные одною территорией и одним, пекущимся о них начальством, были совершенно чужды одна другой по языку, обычаям, верованиям и историческим преданиям, были как по внешнему виду, так и по духу представителями трех различных миров и тем не менее жили между собой мирно. Сближали их неизбежные соседские и экономические интересы. Не было между*

64 *Российский государственный исторический архив,* Ф.1286, оп.5, дело 443, л. 4-12.
65 НГАБ. Ф. 694, воп. 3, адз. зах. 3572, арк. 1.
66 НГАБ. Ф. 694, воп. 3, адз. зах. 3571, арк. 9.



*ними зависти, потому что нечего было им друг другу завидовать: все с большим трудом снискивали себе скудное пропитание, а главное потому, что не было между ними конкуренции, ибо каждая из этих групп, как бы по уговору, отмежевала себе особое от других поле деятельности, таким образом они скорее дополняли друг друга, чем соперничали между собой*”. Беларусы ў Капылі акрамя земляробства займаліся ткацтвам. Габрэйскія гандляры і беларускія ткачы працавалі ў тандэме: “*мещане-белорусы ткали холст и тонкие белые покрывала, употреблявшиеся в то время еврейскими женщинами как часть головного убора. Работали они по заказам местных еврейских торговцев, которые давали им нужный сырой материал, платили еженедельно за исполненный труд и продавали этот товар на ярмарке в Зельве*”[67].

Прафесійная структура насельніцтва мястэчак была ўладкованая так, што негабрэі не маглі абыйсціся без дзелавых кантактаў з габрэямі. Некаторыя прафесіі ў мястэчках былі прадстаўленыя выключна габрэямі, напрыклад, лячэбная справа. Так, у Капылі “*единственною акушеркою была еврейка, благочестивая старушка, обслуживавшая рожениц как еврейских, так и нееврейских, а единственным эскулапом был фельдшер и аптекарь Козляк, который лечил решительно все болезни с полною уверенностью в своём врачебном искусстве, о котором были высокого мнения и местные евреи, а также окрестная шляхта*”[68]. Паўліна Вянгерава, апісваючы рысы характару, вобраз жыцця, спавівальную і медычную практыку сваёй бабкі, падкрэслівала, што яна “*оказывала врачебную помощь евреям и христианам, не делая никакой разницы (…), жители Конопа, в том числе и христиане, почитали ее, все друзья и знакомые относились к ней с величайшим уважением. Тогда среди евреев было много подобных ей женщин, и о них можно говорить как о социальном типе*”[69].

Пераважна габрэямі былі прадстаўленыя не толькі такія прафесіі як урачы, аптэкары, фельчары, цырульнікі, але і “транспартнікі” – так званыя фурманы, якія займаліся перавозкамі

67 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*, с. 5-6.
68 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*, с. 35-36.
69 П. Венгерова, *Воспоминания бабушки*, с. 212-219.

пасажыраў і грузаў гужавым транспартам. У міжваенны час у Міры, па ўспамінах яго жыхароў, габрэі валодалі не толькі гужавым транспартам, але і аўтобусамі. Цікава, што, як адзначаюць міране, "*нашыя людзі навучыліся ў жыдоў*[70] *рабіць вазы і колы*"[71].

Два сусветы – габрэйскі і беларускі – найчасцей сустракаліся на рынках, дзе падчас кірмашоў і таргоў (у звычайныя дні проста ў крамах ды лаўках) кіпела дзейнасць габрэйскіх гандляроў і гандлярак. Напрыклад, вельмі развітым быў гандаль у Міры. Акрамя кірмашоў (па звестках на 1866 г. тут збіраліся 8 кірмашоў у год[72]), славіліся мірскія крамы. Уладзіслаў Сыракомля адзначаў, што тутэйшыя крамы былі поўныя добрых баваўняных ды шаўковых вырабаў, палатна, футраў і ўсякай драбязы: "*У гэтых адносінах Мір меў шырокую вядомасць. Калі пра паненку, што збіралася хутка выходзіць замуж, казалі: "Паехала ўжо ў Мір", то гэта азначала, што яна пачынае рыхтаваць сабе пасаг. Сэнс той фразы нават у досыць далёкіх адсюль мясцінах быў добра знаёмы*"[73].

Успаміны сённяшніх старажылаў Міра пра міжваенны час сведчаць аб прыналежнасці габрэям амаль усіх гандлёвых устаноў мястэчка (крамаў, корчмаў, піцейных і заезных дамоў, рэстаранаў). Габрэйскія крамы, якіх было больш за 100 (!), асаблівасці іх маркетынгу былі адной з каларытных рысаў міжваеннага мястэчка. Міране аб гэтым успамінаюць так: "*Яны гжэчныя (ад польскага "grzeczny" – ветлівы) такія, запросіць цябе ў магазін. Яны да ўсіх: "Зайдзі, пан, зайдзі, пан". Усіх на "пан" называлі. Пойдзеш да жыда, няма грошай – ён табе ў крэдыт дасць, за руку цябе ў магазін валачэ: "Што табе трэба?" Ну і запіша. Але калі не аддасі, то будуць усе жыды ведаць, што не аддаў. А жыды былі сумленныя людзі. Добрыя былі людзі. Давалі ў доўг без працэнтаў таму, каго ведалі. Калі ў іх зранку не разбіралі тавар, то вечарам яны прадавалі танней*"[74].

Кантакты паміж габрэямі і беларусамі былі характэрныя не толькі для дарослага насельніцтва. Успаміны В. Стомы аб мястэчку

70 Для беларускага асяродку даўнейшых часоў звычайным было ўжыванне слова *"жыд"*, яно не несла ніякага негатыўнага сэнсу, карыстаюцца ім старажылы Міра і да гэтага часу.
71 І. Раманава, І. Махоўская, *Мір: гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары*, Вільня 2009, с. 31.
72 ДГАЛ. Ф. 378, агульны аддзел, 1866, адз. зах. 326, арк. 90 адв.
73 У. Сыракомля, *Вандроўкі па маіх былых ваколіцах*, с. 207-208.
74 І. Раманава, І. Махоўская, *Мір: гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары*, с. 22.



Лужкі фіксуюць існаванне пэўных дзелавых сувязей нават паміж дзецьмі. Разам з аўтарам у адным класе польскай школы вучыўся сын уладальніка пякарні Давід, або інакш Додзя. "*Паколькі Додзя быў страшэнным невукам*, – піша В. Стома, – *мне часамі даводзілася адведваць куханаў (нешта падобнае да мацы, толькі таўсцейшыя, круглыя, размерам з невялікую талерку, пахнучыя вельмі прыемна і пасыпаныя макам або цукрам), а ўзамен я даваў Додзю перапісваць арыфметычнае ці якоесь іншае заданне*". Другі падобны факт звязаны з габрэйскім хлопчыкам Абай Казьлінерам. Успамінае В. Стома: "*кіраўнік школы Ба..кі часта застаўляў пасля ўрокаў мяне і маіх сяброў, загадваючы напісаць за кару па 500, а часам і 1000 разоў:* "Nie będę więcej w szkole gadał po białorusku"*(паводле слоў кіраўніка школы*, człowiek mówi, a papuga i białorusin gadają*). Цікава, што разам з намі часта адбываў гэтую кару і жыдок Аба Казьлінер. Але ён ніколі доўга не заседжваўся ў гэтым «арышце», бо мы яму ласкава аддавалі па старонцы або дзвюх са сваіх сшыткаў з перапісанай «карай», а Аба толькі дастаўляў парадкавыя нумары (...) Аба добрасумленна разлічваўся з намі грушамі «дзічкамі» або часам нават абаранкамі*"[75].

Беларускія дзеці атрымлівалі пачастункі падчас Шабату[76], аказваючы дробязныя паслугі габрэям. Так, старажылы Валожына ўспамінаюць: "*Ужо вот вечарам пятніцы, пачынаецца суботні выхадны дзень, Шабат начынаецца. Ужо яны нічога не рабілі. Трэба ўключыць свет, трэба лямпу запаліць, трэба што-та прынесці, вот мы бяжым, вот запаліў, ўключыў, вот яна табе там цукерку, кусочак перніка якога*"[77]. Валожынскія дзеці-беларусы куплялі розныя прысмакі ў габрэйскіх крамах на грошы, заробленыя зборам ды продажам габрэйскім гаспадыням дзікага шчаўя: "*Ну мы яшчэ былі такія невялікія, але за шчаўе заробім грошы, дык ляцім. Ужо ж там куплялі (…) Яны очань пяклі красіва ўкусна. Называлі сітны хлеб. Ну такі ж укусны! Каждый сваё нешта пёк і прадавалі (…). Дзе цяпер плошчадзь у нас, тут быў вялікі базар. Тут прадавалася ўсё, прыязджалі з вазамі, прадаваліся і куры, і свінні, і ўсё. А там, ужо*

75 В. Стома-Сініца, *Маё мястэчка*, "Полымя", 1998, №12, с.208; №9, с. 209.
76 *Шабат* – "святая субота", згодна Торы абавязковы дзень адпачынку, малітваў і вывучэння Святога пісання, забароненая любая праца.
77 Інтэрв'ю з Мечыславам Францавічам Новакам (1926 г. нар.), запісанае 14 чэрвеня 2014 г. Т. Вяршыцкай, І. Соркінай, П. Санько

*далей трошкі адышоўшы, лавачкі стаялі чысцейшыя. Дык мы туды ўсё лyталі, там і марожанае, там усякая яда, там і гэтыя хлябы ўсякія прадаваліся*"[78].

Такім чынам, асноўнай зонай кантактаў паміж беларусамі і габрэямі была эканамічная дзейнасць, у якую былі часткова ўцягнутыя нават дзеці. Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), беларускі пісьменнік габрэйскага паходжання, адзначаў: «*Суседства гэтых двух нацый* (габрэяў і беларусаў – аўт.) *стварала такія жыццёвыя ўмовы і эканамічныя сувязі, у якіх адна нацыя без іншай не магла абыйсціся*»[79]. Адносіны габрэяў і негабрэяў былі своеасаблівым эканамічным сімбіёзам. Нават у Шабат габрэй меў патрэбу ў *шабес-гоі* для таго, каб патушыць свечкі і распаліць печ у зімовую суботу. Аднак у сяброўства, культурныя ці сямейныя зносіны такія кантакты пераходзілі рэдка. Тым не менш, дзякуючы мемуарным крыніцам, можна паказаць і гэтыя бакі стасункаў беларусаў і габрэяў.

## Суседства беларусаў і габрэяў: міжасабовыя кантакты

Мемуарная літаратура досыць часта ілюструе добразычлівыя адносіны паміж габрэямі і негабрэямі па-за сферай эканамічнага жыцця. З успамінаў класіка літаратуры на ідыш Мендэле Мойхер-Сфорым (1836-1917 гг.) пра яго родны Капыль: "*В местечке евреи и христиане жили между собой в ладу, дружно, не скрывая друг от друга ни своих радостей, ни горестей. Когда какой-нибудь еврей играл свадьбу, знакомые христиане присылали свадебные подарки: кто курицу, кто несколько десятков яиц, кто каравай хлеба, а кто кулич – каждый по состоянию своему. То же повторялось в случае торжества у кого-нибудь из христиан*"[80].

Нярэдкімі былі выпадкі, калі габрэі і беларусы бывалі адзін у аднаго ў гасцях. З успамінаў Паліны Вянгеравай: "*Тогдашний комендант крепости в Бресте Пяткин был дружен с отцом и имел обыкновение размещать важных гостей в нашем доме. (…) Часто*

78 Інтэрв'ю з Верай Іванаўнай Перапеча (1927 г. нар.), запісанае 14 чэрвеня 2014 г. Т. Вяршыцкай, І. Соркінай, П. Санько

79 Зм. Бядуля, *Жыды на Беларусі*, "Arche Пачатак", 2000, №3 (8), с. 24.

80 Менделе Мойхер Сфорим, *История одной жизни: воспоминания писателя*, "Еврейский мир", 1909, январь – май, с. 56.



*гостил у нас тогдашний губернатор Гродно Доппельмейер. (…) Его мы воспринимали как доброго друга. (…) Если он появлялся в пятницу, его потчевали перченой рыбой, и он поглощал её с большим аппетитом. Отдавал он должное и красивой субботней хале. Доппельмейеру явно нравилось глядеть на моих братьев и сестёр. (…) Он делал нам комплименты и высказывал много лестного о нас нашим родителям. Доппельмейер беседовал с моим отцом о разных серьёзных вещах и обычно оставался за столом до конца трапезы. В те времена общение между иудеями и христианами еще не было отравлено антисемитизмом*". Пазней, калі сям'я пераехала ва Украіну, традыцыя гасцінна прымаць негабрэяў захоўвалася: "*Поскольку в Конотопе не было богатых еврейских семейств, постепенно устанавливались дружеские и оживленные контакты с неевреями. Венгеровым часто наносили визиты молодые офицеры и помещики с женами, сестрами и братьями. (…) Благодаря этому общению в дом незаметно просачивались «христианские» нравы. Возникла смесь подлинно еврейской религиозности и нееврейских обычаев*"[81].

Васіль Стома ўспамінае, як ён і яго сябар Аба Казьлінер часта хадзілі адзін да аднаго ў госці. Пры гэтым Аба ніколі не адмаўляўся ад "трэфных"[82] страваў, і асабліва любіў вэнджаную каўбасу і дранікі з салам. "*Аднаго разу ў часе жыдоўскіх святкоў Пэйсаху я быў у Абы і ягоны дзед частаваў мяне дамовага вырабу віном і мацой. Памятаю, у часе размовы ён напаўжартам зазначыў:*

*– Я ведаю, што, бываючы ў вас, мой Аба жарэ сала і каўбасы. Ну і чорт яго бяры, усё роўна ён не пайшоў па Казьлінерах. Але памятай, каб ты не паглядаў ласым вокам на Соньку (гэта маладзейшая сястра Абы), бо я табе другую нагу адкручу* (Васіль кульгаў на адну нагу – *аўт.*).

*Заўвага старога моцна забалела мяне, і я адказаў:*

*– Калі я магу есці вашу рэлігійную мацу і піць пэйсахавае віно, то і Абу нічога благога ня станецца ад сала і каўбас. Што-ж датычыць Сонькі, то яна, калі захоча, знайдзе прыгажэйшага і здаравейшага за мяне гоя.*

81 П. Венгерова, *Воспоминания бабушки*, Иерусалим, Москва 2003, с. 29-30, 212.

82 Альбо *"некашэрных"* – непрыдатных да ўжывання габрэямі згодна з рэлігійнымі правіламі

*Мой адказ, відаць, спадабаўся старому, бо ён, нічога не сказаўшы, толькі махнуў рукой, усміхнуўся і выйшаў з пакою. А Аба яшчэ праз доўгі час перапрашаў мяне за нетактоўнасць дзеда”*[83].

Узаемаадносіны паміж Васілём і Абай – прыклад сапраўднага сяброўства паміж беларускімі і габрэйскімі дзецьмі: “*З усіх сяброў Аба лепшым лічыў мяне, хоць і з іншымі ён амаль ніколі ня меў ніякіх супярэчнасцяў. Калі ў мяне былі якіясь цяжкасці з закупам падручнікаў ці іншых школьных прыладаў, Аба заўсёды прыходзіў мне з дапамогай, але рабіў гэта далікатна і ў тайніцы ад іншых”*[84].

Вынікам міжэтнічных кантактаў у мястэчках і паказчыкам працэсу разбурэння традыцыйнага грамадства былі змешаныя шлюбы, хоць здараліся яны вельмі рэдка. Для іўдзеяў гэта было не проста ганьбай, а прыраўноўвалася да смерці – па такіх адступніках сем’і чыталі кадзіш (памінальную малітву). Шлюб з габрэйкаю ці габрэем разглядаўся як сацыяльная дэградацыя і ў хрысціянскім асяроддзі. Інфарманткі з Міра прызнаваліся: “*Я сама з габрэямі (хлопцамі) не гуляла. Не прыстойна”; “Было з габрэем непрыстойна, ганьба дзяўчыне сустракацца”; “Калі б мае дзеці сабраліся жаніцца на чалавеку з іншага народа, я б супраць не была. А калі габрэй – не ведаю, трэба добра падумаць”*[85]. Аднак змешаныя шлюбы ў Міры існавалі: “*Было габрэйскае сямейства Трубілкі, іхняя прабабка выйшла замуж за праваслаўнага. Жыды гэтага не любілі, але прывыкалі. Была Люба Варановіч, яна таксама выйшла замуж за праваслаўнага. Дзеці ад змешаных шлюбаў лічыліся беларусамі. Маліцца яны хадзілі ў царкву. Да такіх дзяцей людзі адносіліся добра”*[86].

Здараліся любоўныя раманы і шлюбы паміж габрэямі і беларусамі і ў мястэчку Лужкі. Так, паводле аповяду В. Стомы, досыць заможны шляхціч Людвіг Скальскі пакахаў бедную габрэйскую дзяўчыну Малту, дачку мясцовага капельмайстра Бэйнуса. “*Але тут на перашкодзе закаханым стала ўпоперак рэлігія. (…) Жыдоўскі кагал, а дакладней жаночая частка яго, паставіўся яршом (...). Адной цёмнай восеньскай ноччу Скальскі пад’ехаў нанятай фурманкай пад Малчына вакно і заладаваў на воз яе разам з падушкамі, пярынамі дый іншымі*

83 В. Стома-Сініца, *Маё мястэчка*, “Полымя”, 1998, №12, с. 164.
84 Тамсама.
85 І. Раманава, І. Махоўская, *Мір:гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары,* с. 42.
86 Тамсама.



*прычындаламі. Казалі, што ўвесь гэты «пасаг» падавала праз вакно меншая Малчына сястра, а нават мажліва і маці кандыдаткі на маладуху. Усе гэтыя прычындалы ён завёз у адлеглы за 10 км засценак. Там яна перачакала, пакуль уляжацца вэрхал (...). Пасля чаго яны без асаблівага розгаласу павянчаліся на ціхае задавальненне Бэйнуса і ўсёй сям’і, якія бачылі ў Скальскім перадусім заможнага сваяка, а пасля ўжо гоя”*[87].

У сваіх абагульняючых назіраннях мікракосму міжваеннага Глуска С. Грахоўскі адзначыў: “*Сярод мноства страт знікла дарагое мне слова мястэчка, і самое мястэчка страціла свой непаўторны, вякамі складзены побыт, шчырыя адносіны сумлення і даверу, яскравы каларыт мудрых і прыгожых традыцый. (…) Усё ў нашым мястэчку трымалася на сумленні, на даверы і спагадзе. (…) Была незвычайная атмасфера дабраты, павагі да кожнага чалавека, да старога і малога, да доктара і хлебароба. У нас усе ведалі адзін аднаго, давяралі не толькі суседу, а і чалавеку з другога канца мястэчка, жылі ў дружбе беларусы і габрэі, каталікі і стараверы”*[88].

Разам з тым, у стасунках паміж габрэямі і негабрэямі заўсёды прысутнічалі адчужанасць, падазронасць і нават варожасць. Гэта ілюструюць наступныя цытаты. Уладзімір Гаркаві, які ў сваіх успамінах апісвае Навагрудак сярэдзіны XIX ст., адзначаў: “*Когда мне было 11 лет, во мне проявилось уже некоторое понимание и сознание окружающего мира. Жизнь представлялась мне строго разграниченною на две части: мир еврейский и мир христианский. Конечно, в жизни бывали соприкосновения между христианами и евреями, но они были чисто деловые и, конечно, по возможности чисто внешние. Христианский мир представлялся чуждым, враждебным, не столько по правовым стеснениям, оттуда истекавшим, сколько опасным для духовного мира (…). (…) у меня развилась нелюбовь к окружающей среде, которая высказывала нам, как евреям, на каждом шагу презрение и ненависть”*[89].

Польскі пісьменнік К. Шаняўскі, вядомы сваёй цікавасцю да габрэйскай культуры (ён стаў перакладчыкам класіка габрэйскай

87 В. Стома-Сініца, *Маё мястэчка*, “Полымя”, 1998, №12, с. 181.
88 С. Грахоўскі, *Мястэчка… Мястэчка… Элегія,* “Полымя”, 1992, №2, с. 144, 150, 163.
89 В. Гаркави, *Отрывки воспоминаний: Детство,* [в:] *Пережитое. Сборник, посвященный общественной и культурной истории евреев в России,* т.5, Санкт-Петербург 1913, с.273-274.

літаратуры Мендэле Мойхер Сфорыма) пісаў: “*Живя на одной земле, мы должны были бы знать друг друга лучше, но так ли это? Наше общество знает еврейских арендаторов, торговцев, ремесленников, ростовщиков, но оно не знает еврея. Оно не знает, каков он дома, в школе, среди своих братьев в синагоге. Еврей и христианин встречаются на ярмарке, в лавке – и всегда по случаю совместного дела. Дело заканчивается и еврей опять исчезает в своем доме, отделенном от христианского общества Великой китайской стеной”*[90].

Такім чынам, пры тым, што мелі месца досыць цесныя кантакты паміж габрэямі і беларусамі ў мястэчках, якія часам насілі характар сяброўскіх (а ў выключных выпадках і больш рамантычных), агульным правілам заставаўся і выразны соцыя-культурны ізаляцыянізм, адасобленасць габрэяў ад іншых этнічных груп. З улікам гэтага здаюцца парадаксальнымі праявы ўзаемаўплываў паміж беларускай і габрэйскай культурамі.

## Дыялог культур і ментальнасцяў

Знаходзячыся ў пастаянным кантакце паміж сабой, беларусы ды габрэі не маглі не зведаць узаемапранікнення культур ды рысаў характараў. Паміж культурнымі традыцыямі абодвух народаў адбываўся пэўны сінтэз. На жаль, публікацыі даследаванняў па гэтай праблеме сустракаюцца вельмі рэдка. Значна часцей шчасціла пачуць прыклады дыялогу культур у выступленнях навукоўцаў на міжнародных канферэнцыях, летніх школах. Так, Валерый Дымшыц, знаўца габрэйскіх народных казак і тэатральнага мастацтва, сцвярджае, што ў гэтых галінах поле ўзаемаўплыву паміж традыцыямі габрэяў ды суседзяў-славян было шырокім. Барыс Хаймовіч, даследчык помнікаў габрэйскага пластычнага мастацтва, прыйшоў да высновы, што частка мадэляў хрысціянскага свету пераходзіла ў габрэйскую традыцыю. Ала Сакалова, спецыяліст па архітэктуры штэтла, адзначае, што, нягледзячы на яе спецыфічнасць і адметнасць, існавалі некаторыя запазычанні, у прыватнасці ў галіне будаўнічай тэхнікі. Зіновій Столяр, вывучаючы музыку габрэйскага мястэчка, заўважыў, што сведчаннем жыцця габрэяў у іншанацыянальным асяроддзі выступаюць двухмоўныя і поліматыўныя песні і інструментальныя мелодыі, у якіх “ужываюцца” прыкметы фальклору розных народаў. Міхаіл Круцікаў на прыкладзе літаратурнага працэсу раскрывае праблему прысутнасці Беларусі ў габрэйскай культуры XX ст. Уплывы беларускай літаратуры (у прыватнасці, творчасці і асобы Янкі Купалы) на габрэйскіх літаратараў (Ізі Харыка, Мошэ Кульбака ды інш.) закранаюць Рыгор Рэлес, Вольф Рубінчык. Даследаванні лінгвістаў паказваюць наяўнасць шматлікіх моўных запазычанняў з ідыш і іўрыту ў беларускай, з беларускай – у “габрэйскіх” мовах. Шмат падобных прыкладаў змяшчае ідыш-беларускі слоўнік Алеся Астравуха. Яўген Сахута, знаўца беларускага народнага мастацтва, звярнуў увагу на тое, што найлепшымі майстрамі маляваных куфараў, папулярных сярод беларусаў, былі габрэі, якія тонка адчувалі культурныя патрэбы таго асяроддзя, дзе ім прыходзілася жыць.

90 Цыт. па: В.В. Мочалова, *Евреи в Польше: история в зеркале литературы,* [w:] *Славяне и их соседи,* выпуск 5, Москва 1994, с. 160.



Аўтаномнасць, ізаляванасць габрэйскай культуры, такім чынам, нельга абсалютызаваць. У Беларусі ўсё ж мела месца пэўнае ўзаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне паміж культурамі габрэяў і беларусаў. І менавіта мястэчка было месцам сустрэчы і перакрыжавання гэтых дзвюх разнародных культурных традыцый.

Уяўляюць цікавасць спробы “прысвойвання” беларусамі артэфактаў габрэйскай культуры. Для прыкладу можам узяць апісанне аднаго з шэдэўраў драўлянага сінагагальнага дойлідства – сінагогі ў Воўпе – на старонках беларускай газеты “Наша Ніва” ў 1909 г.: *“Мястэчка Воўпа на кожнага беларуса павінна зрабіць прыемнае ўражанне. Тут захавалася нямала слядоў Беларусі ў будоўлях, – гэта жыдоўская бажніца, – пабудаваная яна, як кажуць, гадоў таму 300 у пекным беларускім стылі. Міма гэтай будоўлі, памятаючай лепшыя часы нашага народу, нельга праехаць, не затрымаўшы вока і сэрца на ёй”.*



**Сінагога ў Воўпе на старых фотаздымках**

Захавалася шмат сведчанняў ужывання словаў з ідыша ў гаворцы беларусаў у мястэчках. Гэта ілюструе наступны ўрывак з успамінаў С. Грахоўскага пра Глуск: "*На ганку Грышку сустракае Матрона і без асаблівай злосці лае яго па-габрэйску. Яны часта гавораць і лаюцца на мове Майсея, толькі мацюкі сыплюцца без перакладу*"[91].

Выдатны ўзор жывой беларускай гаворкі з "ідышызмамі" прыводзіць Сакрат Яновіч з мястэчка Крынкі: "*Крынкаўцы густа перакідваліся ў гутарцы жыдоўскімі словамі з ідыш. Юрлівага кавалера, шчыпайлу дзяўчат празывалі "маладым шванцам". Сварлівы тып – гэта "фэкі чалавек". Ненадзейны тавар – "шайс". Камбінатар – "шанцоўнік". Асобы з лёгкім языком – "мэхляр" або "фукс". Байкі гарадзіць наіўным – гэта "дурыць майсамі". Вось прыкладныя фразы: – Чаго гэты фукс ад цябе хоча, га? Які гэта шайс ён табе прынёс? Ой, фэкі чалавек! Майсамі дурыць галаву. Хай пільнуе лепей свайго*

91 С. Грахоўскі, *Мястэчка... Мястэчка... Элегія,* "Полымя", 1992, №2, с. 167.



*маладога шванца, якому салодкая Фэля зробіць гевалт, гешэфт поткаю... І будзе кіндрык на пацеху (кіндар кучаравы)*"[92].

Аб добрым валоданні беларускай мовай габрэямі пакінуў сведчанні беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) у "Лістах з дарогі": "*Надта добра гукаюць па беларуску тутэйшыя даўнейшыя жыды. Здарылася мне сустрэць у адным мейсцы старую жыдоўку, каторая з часоў яе маладосці аглухла. Ня чуючы здаўна новамоднага калецтва ў тутэйшай мове, у памяці яе засталася толькі даўнейшая – чыстая беларуская. Аж міла было слухаць: гутарка яе, як вада плыве; словы зычныя, і мяккія, і плывучыя, і спеўныя. З вялікай ахвотай доўгі час я з гэтай жыдоўкай прасядзеў і слухаў*"[93].

Факт прыхільнасці габрэяў да беларушчыны, у прыватнасці да гастрольных выступаў беларускай трупы Ігната Буйніцкага, зафіксаваны на старонках "Нашай Нівы" ў 1911 г. у паведамленні са Смаргоні: "*Былі ў нас два беларускія прадстаўленні. Вельмі складна ігралі артысты… На ўсіх прадстаўленнях было найболей жыдоў, і яны-то так шчыра віталі беларускі тэатр. Як бачым, нашы мястачковыя жыды, з каторымі беларусы заўсягды жылі ў добрай згодзе, пачалі разумець іх любоў да ўсяго роднага, і бадай-што ўсялякім "истинным" людзям не надта лёгка будзе сеяць паміж беларусамі нянавісць да жыдоў*"[94].

На старонках "Нашай Нівы" (ва ўспамінах жыхароў мястэчак) сустракаецца і шмат іншай інфармацыі пра аспекты культурнага жыцця паселішчаў, якія аб'ядноўвалі габрэяў і беларусаў. Сярод іх сумесныя высілкі па арганізацыі вучылішчаў. Праўда, больш ініцыятыўнымі і актыўнымі ў гэтых сумесных справах былі, як правіла, габрэі. Так, з Капыля была інфармацыя пра сумесны сход у мяшчанскай управе мяшчан-беларусаў, габрэяў і татараў, дзе абмяркоўвалася справа будаўніцтва гарадскога вучылішча: "*Людзі, што клапоцяцца аб прасвеце нашага мястэчка, Раман Малевіч (ён сваімі стараннямі выбіў і першыя капыльскія вучылішчы, двухкласнае і дзявочае) і Наха Клейнборт, як мага, угаварвалі цёмных мяшчан на*

92 *Ідыш-беларускі слоўнік,* сабраў і пераклаў на бел. мову А.Астравух, Мінск 2008, с. 913.
93 "Наша Ніва", 1910, №27.
94 "Наша Ніва", 1911, № 34.

*добрую справу (…) У канцы, аднак, угаварылі, і амаль усе мяшчане згадзіліся падпісацца на будоўлю гарадскога вучылішча па 2 руб. 75 кап. з хаты. Татары і жыды і без угаварвання сагласны! Крыўда, што гэтак туга прабіваецца свет у цёмны народ наш. На гарэлку то шмат болей і лягчэй дабудзе грошы кожны капылянін і не шкадуе*"[95].

Не на карысць хрысціян і наступныя параўнанні рысаў характару і паводзінаў жыхароў мястэчак рознага веравызнання.

З Гарадзеншчыны нехта М. Арол пісаў: "*У маім родным мястэчку жыды маюць свой хаўрусны банчок, свой пастаянны тэатр, дзе часта іграюць пьесы са свайго жыцця, – адным словам, жывуць для свайго народу. А нашы інтэлігенты (ёсць многа вучыцелёў) нічым не цікавяцца, акрамя карт і гарэлкі…*" [96]

Аляксандар Уласаў (рэдактар-выдавец "Нашай Нівы") у 1911 г. у артыкуле "Валасное земства і жыды" пісаў пра значную ролю габрэяў у развіцці адукацыі, медыцынскай справы. Аўтар пераконваў, што нельга абмяжоўваць габрэяў у правах на ўдзел у мясцовым самакіраванні: "*Нашы беларускія жыды са сваёй большай культурнасцю і практычным розумам былі б надта карыснымі ў валасным земстве. І цяпер, калі ў нас няма ніякага земства, то местачковыя жыды наймаюць доктара, ад каторага карысць не толькі жыдам (…). Цяпер шмат адкрываецца па гарадах і мястэчках гімназій і сярэдніх школ, і ўсё гэта арганізуюць жыды, а там вучацца і хрысціяне. Выходзіць, што жыды ў нас сваёй ахвотай робяць тое, што павінна рабіць земства, гарадскія думы і ўрад. Жыды ў нас першымі пачалі адкрываць і хаўрусныя банчкі. Яшчэ трэба сказаць, што жыды ў грамадскіх арганізацыях ніколі не крадуць і не марнуюць грамадскіх грошай, як гэта у нас скрозь вядзецца…*"[97]

Можна меркаваць, што сумеснае пражыванне прадстаўнікоў розных этнасаў на адной соцыякультурнай і эканамічнай прасторы паўплывала на фармаванне іх ментальнасцей. Беларусы магчыма перадавалі тутэйшым габрэям такую рысу свайго менталітэту, як талерантнасць. Тут дарэчы прывесці сведчанне вядомага беларускага этнографа і гісторыка Адама Кіркора, які пра беларуска-літоўскіх

95 "Наша Ніва", 1909, № 16.
96 "Наша Ніва", 1911, № 34.
97 "Наша Ніва", №14 ад 07.04.1911.



габрэяў адзначыў наступнае: "*Мы знаем многих евреев в разных местах бывшей Польши и обижать их не намерены…, но евреи в Литве* (у гістарычным сэнсе – *аўт.*) *лучше, теплее, благороднее других. Отношения их к местному населению ближе, искреннее, нежели в других странах*"[98]. Падобнае канстатуецца ў апісанні літвакоў Саламона Бенэта: "(…) *они общительны, гостеприимны и вежливы, особенно в отношениях с лицами других исповеданий*"[99].

З другога боку, фармаванню беларускай талерантнасці спрыяла працяглае пражыванне ў мястэчках прадстаўнікоў розных этнасаў, вераў, моў і культур. "Напрацоўкай" і заслугай мястэчак, прадуктам местачковага жыцця назваў Вячаслаў Рагойша такія характэрныя для беларусаў якасці, як нацыянальная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "у адной лодцы"[100].

Беларусы ў габрэяў маглі павучыцца прадпрымальнасці, выжыванню ў самых неспрыяльных жыццёвых і гістарычных умовах, а таксама шанаванню ды зберажэнню сваіх нацыянальных традыцый, настойлівасці ў змаганні за свае правы ды нацыянальныя інтарэсы. Нярэдкімі былі прыклады сумеснага змагання габрэяў і беларусаў за свабоду[101], удзелу габрэяў у беларускім нацыянальным руху ў другой палове XIX – пачатку XX ст.[102]

Вельмі верагодна, што габрэі мястэчак прымалі ўдзел у распаўсюдзе першай беларускай газеты «Наша Ніва» (1906-1915 гг.). Пра гэта ўскосна сведчыць дакумент – зварот рэдакцыі газеты да кіраўніцтва ППС (Польскай Партыі Сацыялістычнай) у Лондане ад 21 студзеня 1907 г. з просьбай пазычыць 1000 руб., у якім адзначалася, што тыраж на гэты час складаў пяць тысяч асобнікаў (з іх тры тысячы «рускімі» літарамі і дзве тысячы – «польскімі»), большая

98 *Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении,* под ред. П.Семенова, т. 3: *Литовское и Белорусское Полесье,* Репринтное воспроизвед. изд. 1882 г., Минск 1994, с. 17, 18.
99 С. Беннет, *К истории западно-русских евреев*, [в:] *Еврейская библиотека,* Санкт-Петербург 1873, т. 4, с. 9.
100 В. Рагойша, *Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава),* [у:] *Беларусіка. На шляхах да ўзаемаразумення,* кн.15, Мінск 2000, с.62.
101 З. Шыбека, *Яўрэі і беларусы ў змаганні за свабоды ў царскай Расіі (1795–1904)*, [у:] *Бунт у імя свабоды: забыты беларускі ген? Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, 8 – 10 сакавіка 2013 г., Варшава,* рэд. П. Рудкоўскі, К. Колб, Варшава 2013, с. 35-49.
102 І. Соркіна, *Яўрэі і беларускі нацыянальны рух у канцы XIX – пачатку XX стст.*, "Цайтшрыфт", т. 9 (4), с. 14- 28.

частка накладу – 2200 – разыходзілася па вёсках “праз местачковыя агентуры”[103]. На карысць такой высновы сведчыць і параўнанне статыстыкі колькасці мястэчак і карэспандэнцый у газету з розных месцаў беларуска-літоўскага краю, а таксама геаграфіі нараджэння актыўных удзельнікаў беларускага культурнага руху (табліца 1)[104].

**Табліца 1**

| Губерня | Колькасць мястэчак | Колькасць карэспандэнцый у “Нашу Ніву” | Геаграфія нараджэння актыўных удзельнікаў беларускага культурнага руху (да 1918 г.) |
|---|---|---|---|
| Віленская | 122 | 229 | 35 |
| Мінская | 111 | 208 | 34 |
| Гродзенская | 81 | 114 | 12 |
| Магілёўская | 73 | 65 | 4 |
| Віцебская | 29 | 27 | 4 |

Гэтыя звесткі паказваюць, што больш актыўна пісалі ў “Нашу Ніву” менавіта з рэгіёнаў з найбольшай шчыльнасцю мястэчак, а значыць і габрэйскага насельніцтва. Тут нарадзілася і большасць актывістаў беларускага нацыянальна-культурнага руху канца XIX – пачатку XX ст. Працэсу фармавання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў садзейнічала суседства з “іншымі” – габрэямі.

З улікам адзначаных акалічнасцей уплыў габрэяў на развіццё беларускага нацыянальнага Адраджэння не выклікае сумнення. Лідары беларускага нацыянальнага руху разглядалі габрэяў як неад’емную частку этнакультурнага ландшафту Беларусі. Паказальна, што на старонках “Нашай Нівы” габрэі часта характарызаваліся

103 А. Унучак, *«Наша Ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906–1915 гг.)*, Мінск 2008, с.39-40

104 Складзена па: А. Унучак, *«Наша Ніва» і беларускі нацыянальны рух*, с. 35; А. Казакевіч, А. Асадчы, *Пачаць пісаць па-беларуску. Рэгіянальны і сацыяльны склад беларускага Адраджэння, канец XIX – пачатак XX ст.*, “Палітычная сфера”, 2011, №16-17 (1-2), с. 98.



ў якасці “сваіх”: у публікацыях з’яўляліся такія фармулёўкі, як “нашы местачковыя жыды”, “нашы беларускія жыды”, “нашы жыды”.

## Праявы антысемітызму

Цяжка пагадзіцца з тым, што ў Беларусі гістарычна ніколі не было антысемітызму, як сцвярджае Рыгор Барадулін у прадмове да “габрэйскага” нумару часопіса *“ARCHE Пачатак”*[105]. Больш слушным падаецца меркаванне Ігара Марзалюка аб тым, што для нашых земляў быў характэрны мяккі варыянт антысемітызму. З аднаго боку, для антысеміцкіх уяўленняў насельніцтва Беларусі характэрны практычна той жа самы набор негатыўных стэрэатыпных вобразаў габрэя, што бытаваў і ва ўсім хрысціянскім свеце. З другога боку, нейкія „прэвентыўныя“ масавыя акцыі, самасуд супраць габрэяў без доказу іх віны не толькі амаль не праводзіліся, але і асуджаліся людзьмі. Адмаўляючы гэта, мы ніколі не зразумеем матывацый учынкаў тых беларусаў, якія бралі ўдзел у габрэйскіх пагромах падчас першай і трэцяй расійскіх рэвалюцый, Грамадзянскай і Другой сусветнай войнаў. А не ўлічваючы спецыфікі беларускага антысемітызму, мы не здолеем рацыянальна растлумачыць, чаму на беларускай зямлі падобныя ганебныя ўчынкі ніколі не дасягалі такіх маштабаў, як у нашых найбліжэйшых суседзяў[106].

Антысемітызм у мястэчках меў праявы ў бытаванні адмоўна афарбаваных этнічных стэрэатыпаў адносна габрэяў; дзеяннях, звязаных са знявагай габрэяў як носьбітаў іншага веравызнання і культуры; распаўсюджванні чутак пра магчымы гвалт у дачыненні да габрэяў; пагромах. Хоць варожасць часцей за ўсё праяўлялася ў побытавым антысемітызме, не пераходзячы ў гвалтоўныя дзеянні, аднак яна стварала атмасферу неспакою і насцярожанасці.

Найбольш трывалымі стэрэатыпамі адносна габрэяў з’яўляюцца тыя, якія датычаць аб’ектаў культавага шанавання, абрадаў і рытуалаў,

105 Р. Барадулін, *Толькі б яўрэі былі!*, “Arche Пачатак”, 2000, № 3 (8). Рэжым доступу: http://Arche Пачатак.bymedia.net/3-2000/barad300.html

106 І. Марзалюк, *Хрысціяне і габрэі Вялікага Княства Літоўскага*, “Arche Пачатак”, 2000, № 3 (8). Рэжым доступу: http://Arche Пачатак.bymedia.net/3-2000/marz300.html

побытавага этыкету (выгляду, харчавання, правілаў паводзін)[107]. “Дзіўнае”, “незразумелае”, “таямнічае” ацэньвалася адмоўна і выклікала падазронасць і страх. У міфалагізаванай свядомасці нашых продкаў габрэі былі звязаныя з нячыстай сілай (чорны колер валасоў, традыцыйны чорны колер адзежы як прыкметы “сваяцтва” з чортам). Менавіта дзякуючы гэтаму “сваяцтву” габрэі здольныя наводзіць псуту і выклікаць непагадзь[108]. З другога боку, габрэі выступалі і ў ролі выратавальнікаў ад бедстваў (напрыклад, габрэй мог спыніць пажар). У абрадавай практыцы ўсходніх славян габрэй сустракаецца ў адмыслова значных сітуацыях. Калі сваты дамаўляліся аб вяселлі, добра было пазычыць які-небудзь прадмет у габрэяў і ўзяць яго з сабой на змову – гэта забяспечвала поспех прадпрыемства. Падчас вясельнага абраду нявесце добра было мець пры сабе (схаваць на целе) якую-небудзь рэч, пазычаную ў габрэйкі – гэта забяспечвала шчаслівы і “ўрадлівы” шлюб. Калі першым госцем, прыйшоўшым наведаць дзіця, апынуўся габрэй, гэта абяцала шчаслівы лёс нованароджанаму. У крызісныя сітуацыі (засуха, эпідэмія) практыкаваліся магічныя рытуалы з удзелам “чужых”. Падчас засухі жыхары Палесся кідалі ў студні чыгуны, выкрадзеныя ў суседзяў-габрэяў, або аблівалі габрэя вадой. Па паведамленнях з Магілёўскай губерні, у 1889 г. падчас эпідэміі воспы габрэйскія жанчыны ўдзельнічалі ў абрадзе ўзворвання зямлі вакол паселішча разам з беларускімі сялянкамі. У выпадку цяжкай хваробы, п’янства, жаночага бясплоддзя хрысціяне звярталіся да рабіна з просьбай “вымаліць” папраўку[109]. Такім чынам, у вобласці штодзённасці знаходзіўся комплекс уяўленняў аб “сваіх чужых”, якія здольныя аказаць садзейнічанне і ў побыце, і ў магіі.

Стэрэатыпізацыю вобраза габрэя адлюстроўваюць такія прыклады местачковага фальклору, як анекдоты, запісаныя ў м. Хомск Кобрынскага ўезда ў 1910 г.[110], гумарэска, якую расказала В. Стоме яго бабуля ў Лужках[111]. Яны ілюструюць такія традыцыйна замацаваныя за вобразам габрэя якасці, як слабасць, баязлівасць,

107 О. Белова, *Этнокультурные стереотипы в славянской народной традиции,* Москва 2005, с. 86.
108 О. Белова, *“Другие” и “чужие”: представления об этнических соседях в славянской народной культуре,* [в:] *Признаковое пространство культуры*, Москва 2003, с. 72.
109 Тамсама, с. 80-83.
110 *Материалы по этнографии Гродненской губернии,* выпуск 2, под ред. Е.Р. Романова, Вильна 1912, с. 380, 382.
111 В. Стома-Сініца, *Маё мястэчка*, “Полымя”, 1998, № 10, с. 260-262.



скупасць, сквапнасць і хітрасць. З другога боку, пэўны стэрэатып вобраза славяніна сярод габрэяў праглядаецца ў наступным эпізодзе, апісаным А. Папернай: “*В лексиконе рэбэ Лейзерке* (меламед – настаўнік хедара ў Капылі – аўт.) *было только одно ругательство: “И-ва-ан!” что означало: “тупица”; хуже было – “И-ва-ан И-ва-нович!” (“тупица в квадрате”), но обиднее всего был окрик: “Иван Иванович И-ва-новский!!!” (“тупица в превосходной степени, в кубе”)*”[112].

Сярод найбольш пашыраных і ўстойлівых міфаў – міф пра выкарыстанне габрэямі ў рытуальных мэтах хрысціянскай крыві – дажыў з часоў Сярэднявечча да XX ст. Так, В. Стома ўзгадвае пра тое, што ў дзяцінстве ён адважваўся выходзіць да рыначнай плошчы, нягледзячы на ўстрашэнні бабулі, што там яго габрэі схопяць “*на мацу*”[113]. Міране ўспамінаюць: “*Дзяцей пужалі жыдамі, што могуць схапіць, засунуць у бочку з цвікамі і катаць. Гэта ім трэба, каб прыгатаваць мацу з дзіцячай крыві”*[114]. А ў Валожыне нам распавялі так: “*У нас адзін дзядзька (…) Аляксей Шакун (…) хадзіў усягда да яўрэяў, яны бралі ў яго кроў у мацу, гэтак як цяпер робяць – во бяруць з вены. Там быў урач, і ў яго браў шпрыцом з вены каплю крыві. Трэба ім, каб была кроў чалавеча. (…) і тады ў гэтую іхнюю мацу там дабаўляюць. Гэтак там трэба было па-яўрэйску”*[115]. Інфармантка патлумачыла, што крыніцай інфармацыі пра гэта былі расповеды самога Аляксея Шакуна.

Непрыемны эпізод, які негатыўна характарызуе адносіны хрысціян да іўдзеяў, прыведзены ў адным з нумароў “Нашай Нівы” за 1908 г. Карэспандэнт з м. Краснае Вілейскага ўезда паведаміў: “*У мястэчку хрысціяне такія, што за іх сорамна. Каля Школы бралі шлюб маладыя жыды. Навокал сабралося шмат католікаў і праваслаўных, і пачалі яны здзекавацца з жыдоўскага шлюбу, перашкаджаць шумам чытаць рабіну малітвы. Кожны чалавек паважае сваю веру і хоча, каб яе паважалі іншыя (…). І чаму яны лічаць сябе хрысціянамі?*”[116]

112 А. Паперна, *Из Николаевской эпохи. Воспоминания*, с. 104-105.
113 В. Стома-Сініца, *Маё мястэчка*, “Полымя”, 1998, № 9, с. 182.
114 І. Раманава, І. Махоўская, *Мір: гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары*, с. 43.
115 Інтэрв’ю з Верай Іванаўнай Перапеча (1927 г. нар.), запісанае 14 чэрвеня 2014 г. Т. Вяршыцкай, І. Соркінай, П. Санько
116 “Наша Ніва”, № 17 ад 15.08.1908.

Час ад часу ў мястэчках распаўсюджваліся чуткі пра магчымасць гвалтоўных дзеянняў адносна габрэяў. Ва ўспамінах пра м. Камянец Эхезкель Коцік узгадвае: “*Откуда-то пошёл слух: после Нового года, появившись в Каменце, поляки перебьют всех евреев, как во времена Хмельницкого. Все очень перепугались*”[117]. У архіўных дакументах пачатку 1860-х гг. ёсць падобныя матэрыялы, якія датычаць мястэчак Віленскай (Глыбокае), Ковенскай (Дусяты, Ракішкі), Гарадзенскай (Сакулка) губерняў. Крыніцы гэтых чутак насілі, як правіла, побытавы характар. Так, у Сакулцы “*слухи о намерении жителей католического вероисповедания перерезать евреев*” з’явіліся пасля таго, як “*фельдшер мещанин Панцевич, покупая в лавке у еврейки Лейки Мерниковской сигары за недостачею у него нескольких грошей отозвался: отдай и за эту цену, ибо возьмут у тебя и без всякой платы*”; “*служащий в штате канцелярии Сокольского окружного управления дворянин Яцковский, находясь в харчевне еврейки Герли Лейбковой, требовал пива, и когда еврейка по случаю праздника отозвалась, что дать пива не может, то Яцковский сказал: придет такое время, что мы сами возьмем*”; “*в корчме мещанин Кухаревич, бывши совершенно пьяным, болтал нелепость, что в еврейский судный день чёрт передавит всех евреев*”[118].

Аднак, нягледзячы на наяўнасць такіх фактаў, мястэчкі Беларусі пазбеглі масавых габрэйскіх пагромаў, якія адбыліся ва Украіне ў пачатку 1880-х гг. Вядомыя нязначныя (у параўнанні з украінскім рэгіёнам) праявы антыгабрэйскага гвалту: у 1883 г. у Воранаве Віленскай губерні, у 1885 – Зэльве Гродзенскай губерні. Падзеі ў Воранаве былі звязаныя з тым, што ў лютым 1883 г. было прынятае рашэнне аб пераносе базарнага дня з нядзелі на аўторак. Канфліктная сітуацыя склалася ў мястэчку ў нядзелю 19 чэрвеня 1883 г. падчас каталіцкага царкоўнага свята. У гэты дзень у мястэчку сабралася шмат габрэяў з таварамі. Яны размясцілі свае прылаўкі каля касцёла і чакалі заканчэння набажэнства. Калі забілі званы, габрэі пачалі грукаць сваімі косамі. Гэта выклікала сутычку паміж габрэйскімі гандлярамі і абуранымі іх дзеяннямі сялянамі. Сяляне пачалі перакульваць габрэйскія павозкі з таварамі. Шкода, нанесеная

117 Е. Котик, *Воспоминания*, www.yandex.ru / Улановская / Котик
118 НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 22, адз. зах. 1234, арк. 17-18.



габрэям, склала 508 руб. Пры разглядзе абставін гэтага здарэння ўлады занялі бок сялян[119].

Зэльвенскі пагром 2-3 траўня 1885 г. быў здзейснены не мясцовымі жыхарамі, а будаўнікамі Баранавіцка-Беластоцкай чыгункі, выхадцамі з Расіі, якія збілі трох габрэяў і разрабавалі 60 габрэйскіх хат. Спраўнікі даносілі, што “*прычынай беспарадкаў была сварка габрэяў з рабочым, які абрабаваў у п’яным выглядзе краму*”, але канчатковая выснова ўладаў гучала так: “*Беспарадак быў выклікаsuccessfully самімі габрэямі, ім зробленая належная вымова*”[120].

Абвастрэнне хрысціянска-іўдзейскіх адносін, у тым ліку і ў мястэчках, адбывалася ў пачатку XX ст. у выніку актывізацыі дзейнасці чарнасоценцаў (чальцоў “Саюза рускага народа”). Гэта знайшло адлюстраванне на старонках газеты “Наша Ніва”. Вось некалькі характэрных прыкладаў.

З м. Гарадок паведамлялася: “*У нашым невялікім мястэчку жывуць жыды і хрысціяне-мужыкі. Да нядаўняга часу жылі яны ў згодзе і спакойна, аднак цяпер усё разладзілася. У мястэчка сталі прыязджаць “саюзнікі” і ўгаворваць тутэйшых хрысціянаў запісвацца ў “саюз рускага народа”, абяцаючы, што за гэта ім дадуць зямлю. Запісалася чалавек 50 (…). І вось як пачалі “працаваць” гэтыя “саюзнікі”: напіўшыся, пайшлі шукаць па мястэчку тайныя шынкі. Шынкоў не знайшлі, а гвалту нарабілі на цэлае мястэчка. Білі вокны ў жыдоўскіх хатах, а таксама ў тых хрысціянаў, што не ўступілі ў “саюз”. Замест зямлі завялося толькі п'янства і беспарадкі*”[121].

У Радашковічах “*на рынку нейкі чалавек заклікаў біць жыдоў, але Радашкоўскія мужыкі, не маючы на тое ніякага жадання, не падтрымалі. У нас, у Беларусі, пагромаў не было, як на Кіеўшчыне, у Кішынёве. Беларус лічыць жыда такім жа бедным чалавекам, як і ён сам, да таго ж і правоў жыд мае меньш за хрысціяніна*”[122].

У пачатку XX ст., калі па ўсёй “мяжы аселасці” Расійскай імперыі пракацілася чарговая хваля пагромаў, беларускі край зноў

119 D. Staliunas, *Anti-Jewish Disturbances in the North-Western Provinces in the Early 1880s*, “East European Jewish Affairs”, Vol. 34, No. 2, Winter 2004, p. 123.
120 В. Сабалеўская, *Габрэйска-хрысціянскі дыялог у Гародні ў XIX – пачатку XX ст.*, “Arche Пачатак”, № 1-2 (88 – 89), 2010, c. 148.
121 “Наша Ніва”, № 5 ад 29.02.1908; № 12 ад 06.06.1908.
122 “Наша Ніва”, № 7 ад 28.03.1908.

значна адрозніваўся ад іншых рэгіёнаў. Напрыклад, у кастрычніку 1905 г. вядомыя 23 выпадкі пагромаў у Беларусі і 292 па ўсёй "мяжы аселасці". Улічваючы, што і па колькасці габрэйскага насельніцтва, і па тэрыторыі беларускія губерні складалі значную частку "мяжы", гэтая "дыспрапорцыя" звяртае на сябе ўвагу. Даследаванні пагромаў у Беларусі ў перыяд 1903-1906 гг. паказваюць, што асноўны "пагромны" імпульс зыходзіў ад прадстаўнікоў мясцовай расійскай адміністрацыі і жандармска-паліцэйскіх структур[123].

Значна меншы ўзровень антыгабрэйскага гвалту ў Беларусі тлумачыцца адсутнасцю тут "казацкіх традыцый"[124]; маруднасцю мадэрнізацыйных працэсаў ды асаблівасцямі ментальнасці беларусаў[125]; спецыфікай сацыяльна-эканамічнага развіцця (кожная этна-канфесійная група займала сваю нішу ў сацыяльных і эканамічных адносінах – таму канкурэнцыя паміж імі была мінімальнай), адсутнасцю агрэсіўнага антысемітызму ў беларусаў[126]. Варта ўлічваць невялікія памеры беларускіх мястэчак, што дазваляла ўсім жыхарам добра ведаць адзін аднаго. Гэта таксама адзін з фактараў, які спрычыніўся да таго, што мястэчковыя беларусы не падтрымлівалі правакацый і заклікаў да пагромаў.

## Высновы

Асаблівасцю ўрбанізацыйных працэсаў на землях Беларусі з'яўлялася колькасная перавага невялікіх гарадскіх цэнтраў – мястэчак. Іх сетка ў асноўным сфармавалася да сярэдзіны XVII ст. Мястэчкі былі, пераважна, прыватнаўласніцкімі.

У XVIII – пачатку XX ст. адбываліся значныя змены ў этнаканфесійным складзе насельніцтва мястэчак Беларусі: вырасла колькасць і ўдзельная вага габрэяў, яны сталі пераважаць над

123 В. Михедько, *Власть, революция и погромы в Беларуси в начале XX в.*, "Цайтшрыфт", № 8 (3), 2013, с. 20, 32.

124 J. D. Klier, *The Pogrom Paradigm in Russian history,* [w:] *Pogroms: Anti-Jewish Violence in Modern Russian History,* Cambridge 1992, p. 14.

125 C. Le Foll, *The missing pogroms of Belorussia, 1881-1882: Conditions and motives of an absence of violence,* [w:] *Anti-Jewish Violence: Rethinking the Pogron in East European History*, Bloomington, Indiana University Press 2011, p. 159-173.

126 В. Михедько, *Власть, революция и погромы в Беларуси в начале XX в.*, "Цайтшрыфт", № 8 (3), 2013, с. 21, 32.



прадстаўнікамі іншых народаў. Гэта было выклікана, галоўным чынам, імкненнем шляхты аднавіць сваю гаспадарку пасля войн сярэдзіны XVII – першай чвэрці XVIII ст. шляхам запрашэння ў свае маёнткі прадпрымальных габрэяў, а пазней – абмежавальным адносна габрэяў заканадаўствам расійскіх улад, у тым ліку гвалтоўнымі мерамі, накіраванымі на высяленне габрэяў з сельскай мясцовасці і канцэнтрацыю іх у гарадах і мястэчках. Мястэчкі ператварыліся ў асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры.

Своеасаблівая габрэйская субкультура была значна адасобленая ад навакольнага культурнага асяроддзя. Наяўнасць гэтай рэлігійна-культурнай і духоўна-сацыяльнай аўтаноміі габрэйскіх абшчын у мястэчках выклікае неабходнасць ужывання паняцця "штэтл", пад якім трэба разумець габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў беларускім мястэчку. Паняцці "штэтл" і "мястэчка" не павінны атаясамлівацца. Яны суадносяцца паміж сабой як частка адносна цэлага. Наяўнасць штэтла выступае галоўнай асаблівасцю беларускага мястэчка канца XVIII – першай паловы XIX ст.

Дакументальныя матэрыялы і мемуарная літаратура дазваляюць заўважыць парадаксальнае спалучэнне напружанай штодзённай барацьбы за існаванне скучанай мястэчковай беднаты і атмасферы пераважна добразычлівых і даверлівых адносін паміж прадстаўнікамі розных этнасаў і веравызнанняў, у аснове якіх ляжалі эканамічныя інтарэсы.

Аднак міжэтнічныя ўзаемаадносіны ў мястэчках не былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых адносін: сяброўскіх, нейтральных, непрыязных. Амплітуда іх вагалася паміж палюсамі добразычлівасці, талерантнасці, эканамічнага супрацоўніцтва, міжкультурнага дыялогу – і ізаляцыянізму, нецярпімасці, падазронасці і нават варожасці. Да гэтага негатыўнага полюсу міжэтнічныя адносіны ў мястэчках Беларусі набліжаліся рэдка. Дзяржаўны антысемітызм часоў Расійскай імперыі меў мінімальны ўплыў на беларусаў. У мястэчках гэты ўплыў у параўнанні з гарадамі, дзе жыццё было значна больш дынамічным, адчуваўся слаба. Істотным фактарам штодзённых міжэтнічных адносін у мястэчках было тое, што, з-за невялікіх памераў, усе мястэчковыя жыхары ведалі адзін аднаго, што было немагчымым у горадзе. Узаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных

груп насельніцтва ў мястэчках характарызаваліся досыць высокай ступенню талерантнасці. Іх можна выразіць формулай “іншы свой”. Менавіта пачуццё “тутэйшай свойскасці”, “тутэйшасці” засцерагала ад канфліктаў. Ва ўмовах такой неталерантнай дзяржавы, якой была Расійская імперыя, мястэчкі дэманстравалі захаванне мясцовых традыцый самакіравання на прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэтнічнасці.



**Streszczenie**

Ina Sorkina, *Sztetl w miasteczku białoruskim: sąsiedztwo Żydów i Białorusinów (koniec XVIII w. – początek XX w.)*

W poniższym artykule naświetlony jest proces zakładania miasteczek i sztetli na ziemiach białoruskich oraz rozpatrywane są różnorodne relacje pomiędzy Białorusinami i Żydami w miasteczkach białoruskich od końca XVIII w. Do początku XX w., w oparciu o podane źródła historyczne (dokumenty archiwalne, wspomnienia, materiały z prasy periodycznej) i prace naukowe, dotyczące tego tematu.

Artykuł podzielony jest na części tematyczne. Oprócz wstępu i zakończenia z wnioskami, wydzielone są rozdziały, w których rozpatrywane jest pochodzenie miasteczek na ziemiach białoruskich, podejście do pojęcia „sztetl”, ekonomiczne i międzyludzkie kontakty pomiędzy Białorusinami i Żydami, dialog kultur i mentalności oraz przejawy antysemityzmu.

Specyfiką procesów urbanizacyjnych na ziemiach białoruskich była przewaga liczebna niewielkich centrów miejskich – miasteczek. Ich sieć ukształtowała się głównie do połowy XVII w. Miasteczka Białorusi przeważnie były własnością prywatną.

Od XVIII w. do początku XX w. zachodziły istotne zmiany w składzie etniczno-wyznaniowym ludności miasteczek Białorusi – podniosła się liczebność i odsetek Żydów, stali się oni dominującą grupą mieszkańców. Było to spowodowane, przede wszystkim, dążeniem szlachty do odbudowania swojej gospodarki (z połowy XVII w. do pierwszego kwartału XVIII w.) po wojnie po przez zapraszanie do swoich majątków przedsiębiorczych Żydów, a później przez ograniczenia prawne władz rosyjskich wobec Żydów, w tym również stawianie twardych barier, skierowanych na wysiedlanie Żydów z przestrzeni wiejskiej do miast i miasteczek.

Specyficzna wspólnota żydowska była w znacznym stopniu oddzielona od otaczającego ją środowiska kulturowego. Obecność tej religijno-kulturowej i duchowo-społecznej autonomii żydowskich obyczajów w miasteczkach powoduje konieczność używania pojęcia „sztetl", pod którym należy rozumieć żydowską przestrzeń duchową i fizyczną w miasteczku. Pojęcia „sztetl" i „miasteczko" nie powinny być ze sobą mylone. Odnoszą się one do siebie jako część jedności. Obecność

sztetla jest główną specyfiką białoruskiego miasteczka z okresu od XVIII w. do pierwszej połowy XIX w.

Analiza zbadanych źródeł pozwala stwierdzić, że wzajemne relacje pomiędzy Białorusinami i Żydami w miasteczkach nie były jednoznaczne. Miały miejsce przejawy wszystkich typów relacji: przyjacielskie, neutralne i nieprzyjazne. Ich amplituda wahała się pomiędzy biegunami życzliwości, tolerancji, współpracy ekonomicznej, międzykulturowego dialogu i izolacjonizmu, nietolerancji, podejrzliwości, a nawet wrogości. Trzeba podkreślić, że relacje w miasteczkach rzadko zbliżały się do tego negatywnego bieguna. Antysemityzm państwowy czasów Imperium Rosyjskiego miał minimalny wpływ na Białorusinów. W miasteczkach, w porównaniu z miastami, gdzie życie było o wiele bardziej dynamiczne, wpływ ten był słabo odczuwalny. Ważnym czynnikiem codziennych stosunków międzynarodowościowych w miasteczkach był fakt, że z powodu niedużej przestrzeni wszyscy mieszkańcy miasteczek znali się nawzajem, co było, siłą rzeczy, niemożliwe w mieście.Relacje pomiędzy przedstawicielami różnych wyznaniowo-narodowościowych grup społecznych w miasteczku charakteryzowało się wysokim poziomem tolerancji. Można je wyrazić formułą „swój inny". Właśnie poczucie „miejscowej swojskości", „tutejszości" powstrzymywało konflikty.



**Summary**

Ina Sorkina, *The Shtetl in Belarusian Towns: Neighbourhood of Jews and Belarusians (18th–20th Century)*

The article brings to light the process of founding towns and shtetls on Belarusian lands. It also examines various relations between Belarusians and Jews in Belarusian towns from the end of the 18th century to the start of the 20th century, on the basis of historical source materials (archival documents, memoirs, period press materials) and scholarly works on the subject.

The article is divided into subject areas. Besides the introduction and conclusion containing results, chapters are designated, which examine the origin of towns on Belarusian lands, attitudes towards the term "shtetl", economic and inter-personal contacts between Belarusians and Jews, cultural dialogue, mentalities and manifestations of anti-Semitism.

The specificity of urbanization processes on Belarusian lands is based on the numerical superiority of modest civic centres, or towns. Their network was mostly formed by the halfway point of the 17th century and the majority of Belarusian towns were privately owned. From the 18th century to the start of the 20th century, many significant changes took place in the ethnic-religious composition of the inhabitants of Belarusian towns. The number and percentage of Jews increased and they became the dominating group of residents. This was primarily caused by the aspirations of the nobility, who, wanting to rebuild the economy following war from the mid-point of the 17th century until the first quarter of the 18th century, inviting enterprising Jews to settle on their estates. This effect was further increased by later legal restrictions placed on Jews by the Russian authorities, including placing difficult barriers intended to displace Jews from village areas to cities and town.

The distinctive Jewish community was, to a meaningful degree, separated from the cultural environment surrounding it. The presence of religiously (both cultural and spiritual) and socially autonomous Jewish customs in towns, created the necessity of utilizing the term "shtetl", which should be understood as the Jewish part of a town, both spiritually and physically. The terms "shtetl" and "town" should not be confused with each other, though they relate to each other as parts of a whole. The presence of

shtetls is the main specificity of Belarusian towns during the period from the 18th century to the first half of the 19th century.

Analysis of source materials allows the conclusion that mutual relations between Belarusians and Jews were not straightforward. All forms of relations took place – friendly, neutral and hostile. This included kindness, tolerance, economic cooperation, inter-cultural dialogue, isolationism, intolerance, suspicion and even animosity. It must be underlined that village relations rarely approached negative extremes. The anti-Semitism of the state during the Russian Empire had a minimal influence on Belarusians. In towns, as compared to cities, where life was much more dynamic, this influence was barely perceptible. An important factor in everyday inter-ethnic relations in towns was the fact that people lived in close proximity and all the inhabitants knew each other, which was impossible in cities. Relations in towns between representatives of various religious and ethnic social groups was characterized by high levels of tolerance and the phrase "my other" (*swój inny*). It was exactly this feeling of town "my-ness" and "localness" which kept conflicts at bay.t



**Андрэй Чарнякевіч**
**(Варшава/Гродна)**

## Да гісторыі стварэння і дзейнасці Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1919-1921 гг.)

*Іх сышлося пяцёх на крывіцкіх палёх,*
*На абшары не Божым ці Божым,*
*І давай разважаць, і давай так казаць:*
*Найвышэйшую раду заложым...*
Янка Купала. Пяць сенатараў[1]

У сучаснай гістарыяграфіі Найвышэйшай Радзе традыцыйна ўжо адводзіцца месца адной з першых беларускіх паланафільскіх арганізацый[2]. Тым часам "паланафільства" гэтай установы патрабуе дакладнага аналізу і прывязкі да канкрэтнай геапалітычнай сітуацыі, а вынікі яе – даволі супярэчныя. Фактычна Рада была спробай стварыць новую мадэль палітычнай арганізацыі, першым (і апошнім) крокам рэалізацыі ідэі гэтак званага "беларускага П'емонта". Яна адначасова захавала пераемнасць з Усебеларускім з'ездам і толькі што паўсталай традыцыяй незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, але, разам з тым, давала магчымасць на супрацоўніцтва з органамі польскай адміністрацыі.

Амаль з самага пачатку заняцця тэрыторыі Беларусі польскім войскам вясной 1919 г. адным з галоўных палітычных пастулатаў беларускага боку становіцца скліканне Рады БНР, якое б замацавала своеасаблівы *status quo* у беларуска-польскіх адносінах. Перш за ўсё, гэта азначала б фактычнае прызнанне Польшчай дзяржаўных памкненняў БНР і давала б падставу для далейшай дзейнасці ў гэтым накірунку. Браніслаў Тарашкевіч пазней, спасылаючыся на словы аднаго з пачынальнікаў нацыянальнага Адраджэння Івана Луцкевіча,

1 Я. Купала, *Поўны збор твораў*, у 9 т., т. 4: *Вершы, пераклады 1915 – 1929*, Мінск 1997, с. 79-80.
2 А. Сідарэвіч, *Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, у 6 т., т. 5, Мінск 1999, с. 272-273.

гэтак ахарактарызаваў тактыку беларусаў адносна Польшчы ў пачатаку 1919 г.: *“Трэба рабіць у краі па актывісцку (значыць, пагодніцку), за мяжой – у духу незалежнасці”*[3].

Больш за тое, згодна з меркаваннем Б. Тарашкевіча, напярэдадні заняцця польскімі войскамі Менска летам 1919 г. “… *беларускія прадстаўнікі прапанавалі стварэнне краёвага ўрада (пакуль без этнаграфічнай Літвы) у паразуменні з мясцовымі польскімі арганізацыямі. У нейкім сэнсе, гэты ўрад атрымоўваў бы санкцыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – адзінага да гэтага праўнага прадстаўніка беларускага народу. Зразумелаю справаю з’яўлялася, што Беларусь пайшла б рука ў руку і звязала свой лёс з тым, хто б у гэтак важны момант аказаў ёй рашучую дапамогу…*”[4] Праўда, “рэанімацыя” Рады, распушчанай яшчэ пры бальшавіках, была магчымая толькі са згоды самога кіраўніка дзяржавы, а Юзаф Пілсудскі як раз быў катэгарычна супраць падобнага кроку[5].

Паступова, аднак, у атачэнні Ю. Пілсудскага пачынае вымалёўвацца чарговы палітычны праект, які, сярод іншага, прадугледжваў канцэнтрацыю асноўных беларускіх сіл унутры краю, што забяспечыла б эфектыўнасць у маніпуляцыі імі. Польскі бок паранейшаму скептычна ацэньваў агульныя ўплывы беларускага руху на мясцовае грамадства і працягваў разглядаць сваіх партнёраў, галоўным чынам, як элемент далейшай знешнепалітычнай гульні[6]. Тое, што сёння ўспрымаецца як адзіная стратэгічная лінія польскага ўрада, пры бліжэйшым разглядзе аказваецца ланцугом рознага кшталту недаведзеных да канца мерапрыемстваў і няпэўных крокаў, якія часцей за ўсё мелі непрадказальныя вынікі. Да падобных праектаў можна залічыць і ўзнікненне Найвышэйшай Рады.

У выніку ў Варшаву па запрашэнні прэм’ер-міністра Ігнацыя Падарэўскага, фактычна пасля правалу Парыжскай місіі, прыехаў кіраўнік урада БНР Антон Луцкевіч. Ягонай галоўнай мэтай, па асабістым сведчанні, было “*...дабівацца прызнаньня …дзяржаўнасьці і ўрадавых установ*” *і, у тым ліку, “сазыву устаноўчага Сэйму Беларусі”, “цаной некаторых кампрамісаў...*”[7]

3 *Аўтабіяграфія Браніслава Адамавіча Тарашкевіча,* “Спадчына”, 1996, № 4, с. 104.

4 B. Taraszkiewicz, *Bialoruski postułaty polityczny,* “Przymierze”, 1920, № 5, s. 7.

5 *Archiwum Akt Nowych* (далей – AAN), Akta archiwum obcych, adiutantura Generalna Naczelnego Dowództwa, M-397, 1621/T2; *Архівы Беларускай народнай рэспублікі*, кніга 1, т. 1, Вільня-Нью-Ёрк-Менск-Прага 1998, с. 429.

6 AAN, Akta archiwum obcych, adiutantura Generalna Naczelnego Dowództwa, M-396; 1396/T2.



Узяўшы курс на зближэнне з Польшчай, А. Луцкевіч, аднак, фактычна выклікаў унутрыпалітычны крызіс у нетрах самога беларускага руху. Першапачаткова гэты канфлікт меў выразна асабісты характар, але паступова на першае месца пачало высоўвацца пытанне палітычнай арыентацыі. Галоўныя палітычныя апаненты А. Луцкевіча, перш за ўсё намеснік старшыні ўрада БНР Васіль Захарка і сябры Партыі сацыялістаў-федэралістаў, прытрымліваліся антыпольскай арыентацыі, робячы на той момант стаўку на зближэнне з Берлінам[8].

20 лістапада 1919 г. у Бельведэры адбылася размова паміж А. Луцкевічам і Ю. Пілсудскім, на якой адным з галоўных пытанняў было як раз аднаўленне дзейнасці Рады БНР. Узамен за сваю падтрымку кіраўнік польскай дзяржавы прапанаваў беларускаму боку адмовіцца ад пазіцыі “*Рады Незалежнай Беларускай Рэспублікі*” *на карысць “Нарадовай* [чытай – нацыянальнай] *Беларускай Рады*”, што азначала адмову, прынамсі на нейкі час, ад дзяржаўнага прадстаўніцтва на карысць нацыянальнай працы сярод шырокіх мас. Паводле А. Луцкевіча, Ю. Пілсудскі, тым не менш, прызнаў саму патрэбу існавання Рады Рэспублікі, ад імя якой беларусы да гэтага выступалі на міжнароднай арэне. Падчас сустрэчы бадай што ўпершыню з польскага боку прагучала ідэя аб утварэнні гэтак званага “беларускага П’емонту”[9].

Неафіцыйную ролю арганізатара чарговага паседжання Рады БНР узяў на сябе ІІ аддзел Літоўска-беларускага фронту[10]. Тым не менш, няма аніякіх падстаў сцвярджаць, быццам бы Ю. Пілсудскі прапанаваў нейкі канкрэтны план па ліквідацыі самой Рады БНР ды арганізацыю інстытуцыі на ўзор украінскай Дырэкторыі.

У выніку 13 снежня 1919 г. 23 сябры Рады на чале з Язэпам Лёсікам і яшчэ 14 дэлегатаў, незарэгістраваных мандатнай камісіяй,

7 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 421; *Лісты Антона Луцкевіча з часу Парыжскай мірнай канферэнцыі*, “Arche Пачатак”, 2006, № 10, с. 79.

8 НАРБ. Ф. 325, Воп. 1, Спр. 53, Арк. 43 зв.-45; *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1, с. 423, 425.

9 *Архівы БНР*,. Кн. 1, т. 1. с. 507-509.

10 AAN. Akta L. Wasiliewskiego, t. 40. s. 3-5; А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху: Выбраныя творы*, Мінск 2003, с. 206.

адмовіліся ад удзелу ў сесіі, якая фактычна была забаронена польскімі ўладамі, і не з’явіліся на паседжанне. Замест гэтага яны сабраліся на кватэры Аляксандра Уласава, спадзяючыся, што іх праціўнікі не пойдуць на адкрытае супрацьстаянне[11]. Аказалася, аднак, што антыпольскі настроеныя дзеячы былі гатовыя на самыя радыкальныя крокі, нават коштам страты адзінства самога руху. У выніку паседжанне Рады было адкрыта “рэвалюцыйным парадкам” і скончылася абраннем новага ўрада БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім[12].

Пазней А. Луцкевіч прадставіў наступнае апісанне саміх здарэнняў: *“... Пасьля майго прыезду у Менск 13 сьнежня быу назначаны народны сход Рады. З прычыны таго, што мы баяліся фактычнага разгону Рады, (гэта гразіла зьніштажэньнем існочніка уласьці нашага ураду і магло ануліраваць усю нашу загранічную работу) было пастаноўлена, што засяданьне будзе закрытае. Хоры былі зачынены. Аднак група загаворшчыкаў загадзя падабраным ключом [адчынілі] дзьверы хорау і напусьцілі туды банду нейкіх падазрыцельных фігур..: яны мелі ужыць гвалту, каліб загавор не удалося правясьці. А правясьці свой плян яны меліся такім парадкам: Ластоўскі прывёз з Вільні (за пропускамі атрыманымі ад польскае улады!) цэлую групу “кандыдатау” у радные з мандатамі ад неіснуючых арганізацый за подпісамі Ластоўскага і яго жонкі пані Корф. Было іх каля 20, а радных-загаворшчыкаў было 11, дык разам група Ластоўскага павінна была складацца з 30 душ. Але “кандыдатаў” павінна была прыняць яшчэ Рада, каторая напэуна не пайшла бы на такое абніжэньне сваей павагі дапускаючы першых лепшых нікім ня выбраных людзей з вуліцы.*

*У назначаны час убачыушы гэныя прыгатауленьні Прэзыдыум Рады, парадзіўшыся з прадстаўнікамі фракцый, патрэбаваў выхаду з салі засяданьня усіх нячленау Рады. Загаворшчыкі адмовіліся. Тады усе радныя апрача вышэйсказанае групы... перайшлі у другое памяшчэньне і там адчынілі сход Рады у складзе 37 асоб і усяго Прэзідыума апрача аднаго з пісарау Крэчэускага. Заслухаўшы справаздачу Ураду і перайшоушы над ім да чарговых спрау Рада выбрала Найвышэйшую Раду з 5 асоб: Серады (старшыня), Рак-Міхайлоускі, Лёсік, Уласау,*

11 *Архівы БНР*,. Кн. 1, т. 1. с. 530-531, 623.
12 AAN. Akta L. Wasiliewskiego, t. 40. s. 19.



*Тэрэшчанко..., Найвыш. Рада мае абавязак сазваць у адпаведны мамэнт пленум Рады Рэспублікі, а тым часам карыстаецца мандатаміРады, зьмяняе і назначае урад і т.д. Найвыш. Рада ня прыняла адстаукі габінету і даручыла яму далей вясьці працу...”*[13]

*“...Опэраваньне матывам аб маім “полонофільстве” становіць толькі пуфф...”* – адстойваў сваю пазіцыю А. Луцкевіч[14]. В. Ластоўскі, наадварот, у паўсталай завочнай палеміцы галоўны акцэнт рабіў на нелегітымнасці ўласна самой... Найвышэйшай Рады. Згодна з ягонымі падлікамі, перавес быў на баку праціўнікаў Луцкевіча: *“...З нашай Дырэкторыей у нас пастаноўлена, як мага бароцца, як [з] нацыональнай і дзержаўнай здрадай, якая вядзе нас не да Незалежнасці а да нацыянальна-культурнай аўтаноміі у Польшчы. У краю усё жывое за намі і з намі, з намі і народ... Яны-ж апіраюцца толькі на польскіе штыкі і саміх сябе”*[15].

Сам польскі бок ацаніў сітуацыю вельмі аптымістычна. *“Згодна Рачкевічу,* – занатаваў афіцэр II аддзела, – *дадзены момант зусім падыходзіць да таго, каб усю беларускую акцыю ўзяць у польскія рукі”*[16]. Пазіцыя ж кіраўніка дзяржавы адносна “беларускага пытання”, як падаецца, засталася нязменнай. У сваёй размове 31 снежня 1919 г. з Лявонам Васілеўскім Ю. Пілсудскі адзначыў: *“Беларусь яшчэ зусім непадрыхтавана і выступаць зараз ад яе імя, азначала б кампраметаваць іншыя справы, больш значныя. Трэба ствараць прэцэдэнты і чакаць адпаведнай кан’юнктуры...”*[17]

Як бачым, Найвышэйшая Рада не стварала новага кабінета міністраў, хаця і пакідала за сабой такія правы, а толькі заклікала А. Луцкевіча да далейшага выканання абавязкаў прэм’ера[18]. Больш таго, не маючы гарантый з польскага боку, яна ўстрымалася ад усялякіх дэкларацый на карысць саюза з Польшчай. Тым не менш, паўстанне Найвышэйшай Рады фармальна азначала падзел беларускага руху на прыхільнікаў і праціўнікаў супрацоўніцтва з польскімі ўладамі.

13 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 598-599.
14 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 600.
15 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 622-623.
16 AAN, Akta L.Wasiliewskiego, t. 40. s. 7;
17 L. Wasilewski, *Jozef Pilsudski jakim Go znalem,* Warszawa 1935, s. 216;
18 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 535.

3 студзеня 1920 г. А. Луцкевіч разам з кіраўніком Варшаўскага БНК Лявонам Дубейкаўскім у чарговы раз сустрэўся з Ю. Пілсудскім. Пераказаўшы сваю версію падзей, беларускі прэм'ер, падобна, меў выказаць засцярогу адносна таго, што існая сітуацыя нясе ў сабе сур'ёзную небяспеку для справы беларускай дзяржаўнасці. *"Дагэтуль праціўнікамі беларускага ўрада,* – меў ён выказацца, – *былі толькі элементы расейскія, цяпер жа ў зьвязку з тым, што прыязныя адносіны да Польшчы не даюць ніякіх рэальных рэзультатаў для беларускай дзяржаўнай справы, творыцца фэрмэнт і ў беларускіх кругах, вызываючы цягаценьне да Большавізіі. Дзеля барацьбы з бальшавіцкім курсам мы можам ждаць і жджэм помачы ад Польшчы, каторая павінна паддзяржаць конкрэтна дзяржаўную беларускую работу"*. У адказ Ю. Пілсудскі паўтарыў галоўныя тэзы з папярэдняй размовы, падкрэсліўшы, што *"польская палітыка павінна падтрымліваць тых беларусаў, якія ў справе свайго дзяржаўнага будаўніцтва хочуць ісці поруч з Польшчай"*[19]. Ён зноў спаслаўся на знешнепалітычную кан'юнктуру, кажучы, што *"да моманту разьвязкі пытаньня аб Беларусі ...есьць яшчэ каля году"*. Ю. Пілсудскі ў чарговы раз падкрэсліў неабходнасць беларускай культурнай працы, дадаўшы, што ў гэтым накірунку польская ўлада гатова дапамагаць.

Ужо ў канцы гутаркі, не атрымаўшы адкрытых прапаноў, А. Луцкевіч наўпрост запытаў кіраўніка дзяржавы аб тым, што будзе, калі Найвышэйшая Рада *"учыніць выразны палітычны крок у форме дэлегацыі"* да яго, дадаўшы: *"ці п. Пілсудскі лічыў бы гэты крок на цяперашні мамэнт на часе?"* Аднак і на гэты раз адказу ён не пачуў. Узамен Ю. Пілсудскі даў зразумець, што трэба дачакацца рэакцыі краін Антанты на разгром Дзянікіна[20]. Ужо пазней, на допыце ў НКУС, А. Луцкевіч перадаваў змест размовы ў больш невыгодным для Пілсудскага святле[21].

Тым часам, 4 студзеня 1920 г. у Менск, разам з іншымі закладнікамі, што ўтрымліваліся бальшавікамі, вярнуўся Вацлаў Іваноўскі, які хутка стаў неафіцыйным кіраўніком Рады[22].

19 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914-1991 гг.): зборнік дакументаў і матэрыялаў*, у 4 т., т. 4: *1 жніўня 1914 г. – 18 сакавік 1921 гг.*, ч. 2, с. 4-5.
20 Тамсама, с. 4-5.
21 *Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў*..., т. 4, ч. 1, с. 332.
22 *Архівы БНР*, Кн. 1, т. 1. с. 590.



Праўда, прайшло яшчэ два месяцы, перш чым польскі ўрад зрабіў надзвычайныя крокі ў вырашэнні беларускага пытання. У Варшаву на "папярэднія перамовы" быў запрошаны ў якасці "давеpанай асобы беларускіх палітычных колаў" В. Іваноўскі.

16 сакавіка 1920 г. ён звярнуўся да польскіх улад з мемарыялам па беларускім пытанні: *"Адразу пасля заняцця Беларусі польскім войскам,* – гаварылася ў ім, – *не было сярод свядомых беларусаў розніцы ў палітычных сімпатыях. Усе лічылі польскую армію за вызваліцелей, кожная палітычная думка кіравалася на Захад да Польшчы. Аднак, шэраг памылак ды нетактаў, зробленыя як праз пэўную палітычную групу, гэтак і ў значнай ступені праз польскую адміністрацыю, адвярнулі і далей працягваюць расчароўваць ў імкненні да Польшчы ўсе новыя масы людзей. Агульным і самым вялікім злом з'яўляецца тое, што ўся адміністрацыя знаходзіцца ў руках мясцовых грамадзян – людзей з каставым, учорашнім перакананнем, для якіх форма кіравання расійскіх часоў mulatismutandis з'яўляецца сама па сабе справай натуральнай..."*[23].

У выніку ў Менск была накіравана дэлегацыя, якая павінна была, як гэта вызначыў сам Ю. Пілсудскі, прымусіць беларусаў падтрымаць польскія патрабаванні падчас перамоваў з Савецкай Расіяй[24]. Сярод матэрыялаў да беларуска-польскіх перамоваў апынуўся і аналіз беларускага руху, у якім Найвышэйшая Рада ацэньвалася як *"безумоўна прыхільная да Польшчы"*. *"Аднак,* – чытаем мы далей у гэтым дакуменце, – *нават гэты асяродак захоўвае адносна беларуска-польскіх адносінаў вялікую дыстанцыю. Да гэтага часу мы не можам адзначыць ніводных шчырых і адкрытых крокаў, з якіх можна б было зразумець іх канкрэтныя погляды адносна палітычных формаў дзяржаўна-прававаой сувязі паміж Беларусьсю ды Польшчай... Не жадаюць гуляць у адкрытыя карты і рызыкаваць быць адкінутымі польскім бокам... у выніку чаго высоўваюць толькі максімальныя патрабаванні... Аднак, пасля больш шчыльных размоваў з прадстаўнікамі гэтага накірунка беларусаў... можна зрабіць выснову, што паважна адносна незалежнасці Беларусі яны не думаюць, лічучы на сёняшні момант гэта немагчымым. Іх мінімальнай праграмай, на*

23 *Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy,* Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, Akc. 1553/2, k. 27.
24 K. Gomółka , *Rozmowy polsko-bialoruskie (marzec 1920 r.)*, "Dzieje najnowsze", 1988, rocznik XX, s. 8-9.

*якую яны б пайшлі без вялікага гандлю, гэта прадстаўленне аўтаноміі Беларусі ў межах Польшчы…*"[25]

Самі перамовы пачаліся 20 сакавіка і цягнуліся ажно чатыры дні. У выніку польскія прадстаўнікі катэгарычна адхілілі ўсе ўласна палітычныя патрабаванні: дэкларацыю пра абарону цэласнасці Беларусі і абавязак вырашыць лёс беларускіх зямель згодна з воляй насельніцтва, увядзенне беларускай дэлегацыі для ўдзелу ў Парыжскай канферэнцыі, дэкларацыю адносна вызначэння роўных правоў беларускай ды польскай моваў, стварэнне літоўска-беларускага ўрада, правядзенне Усебеларускага з'езда. Акрамя таго, яны не пагадзіліся ўтварыць асобныя камісарыят для беларускіх спраў ды следчую польска-беларускую камісію, якая б займалася справамі па абвінавачванні ў бальшавізме. Былі таксама ўнесеныя прынцыповыя змены ў пункты, якія тычыліся развіцця беларускай асветы: замест дэкларацыі аб аўтаноміі беларускіх школ, субсідыі на стварэнне школьных рад – адмова прыняць на ўтрыманне бюджэт педагагічнага інстытута і некалькіх гімназій. Што тычыцца фінансавання, дык з амаль трыццаці мільёнаў марак, якія прасілі беларусы, яно было зменшана амаль у тры разы, з якіх тры з паловай мільёны мелі быць выдадзеныя ў найбліжэйшы час[26].

Узамен Польшча атрымала вельмі дзіўны дакумент, які меў назву "Прапановы агульнай канферэнцыі прадстаўнікоў Беларусі і прадстаўнікоў польскага ўрада": *"Прадстаўнікі Беларусі, стоячы на пазіцыі непадзельнасці і незалежнасці сваёй краіны, звязваюць будучыню сваёй Радзімы з падтрымкай яе Польшчай, якая гарантуе беларускаму народу поўнае развіццё. Прадстаўнікі Беларусі, згодна з воляю свайго народа, выказанай у акце 25 сакавіка 1918 г., падтрымліваюць Польшчу ў яе патрабаваннях да Расіі не ўмешвацца ў справы зямель, якія знаходзяцца на захад ад мяжы 1772 г.*" Пад дакументам падпісаліся толькі дзве асобы – В. Іваноўскі ды А. Смоліч[27].

Беларуска-польская дамова, тым не менш, стварала новыя ўмовы для ўзаемаадносін паміж Варшавай ды Менскам. „*У сувязі з частковай рэалізацыяй беларускіх пагадненняў…*, – гаварылася ў палітычным рапарце II аддзела, – *заўважаецца рост уплываў Найвышэйшай Рады, якая ў вачах беларускага грамадства атрымала ад Польшчы саступкі і грошы. Сур'ёзна ўзмацнілася праца кааператываў, а таксама культурна-асветніцкая і гаспадарчая; рассеяныя да гэтага часу ў пошуку кавалка хлеба беларускія дзеячы-інтэлігенты прыязджаюць у Менск ужо не дзеля палітычных нарадаў, а дзеля рэальнай працы з забяспечаным побытам. Зменшылася колькасць беспрацоўных і галодных да гэтага часу інструктараў і дзеячаў на правінцыі. Абапіраючыся на платны арганізацыйны аппарат, з кожным днём пашыраюцца сферы інтарэсаў і працы. Зразумелая рэч, што гэтыя ўплывы яшчэ не дасягаюць шырокіх масаў у форме, якая б змякчала польска-беларускія адносіны, там і надалей паглыбляецца антаганізм, працягваюць расці рэвалюцыйныя настроі з усё больш шматлікімі спробамі іх рэалізацыі і існуе паняцце: „паляк – гэта пан". Аднак, калі гаворка ідзе пра тых, хто ўжо як свядомыя беларусы назіралі цяжкасці ў развіцці беларускага руху без дапамогі з боку польскай дзяржавы, калі размова ідзе пра інструктарска-дапаможныя сілы, пра ўсю інтэлігенцыю і паўінтэлігенцыю, якая да гэтага часу скептычна глядзела на высілкі Найвышэйшай Рады, каб нешта атрымаць ад Польшчы – дык сёння папярэдняе становішча змяняецца на нашую карысць: самі сабой ліквідуюцца „галодныя і рэвалюцыйныя" настроі, а фінансавая залежнасць – ускосна ад Польшчы, а непасрэдна ад Найвышэйшай Рады, псіхалагічна стварае „беларускі актывізм*"[28].

Пазней, падчас допыту ў савецкай турме, А. Луцкевіч даў наступную характарыстыку Найвышэйшай Радзе: "…*У складзе Найвышэйшай Рады збольшага былі людзі практычнага плана, і ў гэтым сэнсе, без сумнення, першае месца належыць прафесару Іваноўскаму. …Іваноўскі, узяў фактычна бразды кіравання ў Н. Радзе ў свае рукі, усю сваю энэргію звярнуў менавіта на практычныя заданні дня. Маючы даўнія практычныя сувязі з Пілсудскім, з якім яшчэ з 90-х гадоў супрацоўнічаў старэйшы брат Іваноўскага Юрый – відны сябра ППС, беларускі Іваноўскі вырашыў гэтую сувязь выкарыстаць у практычных мэтах. Ён зусім канспіратыўна дамовіўся з Пілсудскім*

25 *Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy*, Dział Starych Druków i Rękopisów, ZCZW, Akc. 1553/2, k. 25-25 v.

26 *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, т. II (ноябрь 1918 – апрель 1920 гг.), Москва 1964, с. 610-612; K. Gomółka, *Rozmowy polsko-bialoruskie…*, s. 8-9.

27 *Документы и материалы*... с. 611.

28 *Centralne Archiwum Wojskowe,* Oddział II Sztabu Generalnego, NDWP, sygn. I.301.8.675, s. 433.

*адносна культурных канцэсій для беларусаў у Менску, за што ад імя Н.Рады падпісаў дэкларацыю аб тым, што Беларуская Народная Рэспубліка будзе "апірацца" на Польшчу… Ці ведалі ўсе сябры Н.Рады пра дамову, падпісаную ад іх агульнага імя Іваноўскім, не магу сказаць. Іваноўскі, якога я пытаў на гэты конт, усяляк выварочваўся і адмовіўся пазнаёміць мяне з тэкстам дамовы. На гэтым акце фактычна дзейнасць Н.Рады спынілася: яна і не была патрэбна"*[29].

На самой справе, Найвышэйшая Рада ўпершыню сталася канкурэнтам тым беларускім дзеячам, якія ішлі на больш значныя ўступкі на глебе супрацоўніцтва з Польшчай. Пазней, адзін з іх, Павел Аляксюк, не хаваючы расчаравання, пісаў: *"Найвышэйшая Рада зманапалізавала ў сваіх руках працу па беларуска-польскаму зблiжэнню і не дала ніякай магчымасці ўмеркаваным асяродкам праводзіць сваю працу ў накірунку рэальнага будаўніцтва Беларусі ў саюзе з Польшчай… Праца Найвышэйшай Рады пад польска-беларускім штандарам прыняла небяспечныя праявы: партыя сацыял-рэвалюцыянераў выразшыла выкарыстаць яе ўплывы і матэрыяльныя сродкі, якія тая атрымоўвала ад Польшчы. Яны знайшлі падтрымку ў асобе Іваноўскага, які намагаўся захаваць сваю папулярнасць у гэтых сферах. Кіраўнікі партыі і сябры сярэдняга ўзроўня ад імя Найвышэйшай Рады занялі ўсе эканамічныя, палітычныя ды асветныя пляцоўкі. Нават справа арганізацыі войска апынулася пад іх уплывамі і вярбовачныя агенты, якія павінны былі праводзіць вайсковую прапаганду на месцы шмат разоў упрост дыскрэдытавалі гэтую ідэю згодна дырэктывам, атрыманным ад эсэраў. Пры тым, што ўся гэта дзейнасць знаходзіла моцную падтрымку з боку другога аддзела. Вядома, што кіраўнік Округа Рачкевіч вельмі энергічна ўмешваўся і тлумачыў сутнасць рэчаў кіраўнікам урада, аднак сітуацыя не змянялася…"*[30]

Адным з наступстваў падобнай палітыкі стаўся поўны заняпад у працы па арганізацыі беларускіх вайсковых частак. Гэта выклікала значны крызіс у беларуска-польскіх адносінах[31]. *"…Назіраючы за агульнымі ўмовамі, у якіх знаходзіцца беларускі рух і беручы пад*

29 А. Луцкевіч, *Да гісторыі беларускага руху,* Вільня-Беласток 2010, с. 243.
30 *Lietuvos centrinis valstybes archyvas* (далей – LCVA), f. 22, ap. 1, b. 54, l. 28-29.
31 *Sylwester Wojewódski przed Sądem Marszałkowskim*, Warszawa 1997, s. 104-105.



*увагу палітычную сітуацыю на беларускіх крэсах,* – чытаем мы ў чарговым "Палітычным рапарце" II аддзела за 21 красавіка 1920 г., – *лічыцца, што далейшае стрымліванне хаця б самага малога развіцця беларускай вайсковай справы можа спраўакаваць непатрэбнае пагаршэнне ўзаемных адносінаў, адсоўванне некалькіх новых дзесяткаў уладкаваных людзей у канспіратыўнае падполле і варожай адносна Польшчы працы, адмову ад падтрымкі так званай Найвышэйшай Рады (В. Іваноўскі), якая знаходзіцца ва ўсё цяжэйшай сітуацыі ў сувязі з пашырэннем варожых Польшчы настрояў, найбольш сур'ёзнага прыкладу шчырасці польскіх намераў"*[32].

1 чэрвеня, згодна з папярэднім рашэннем Найвышэйшай Рады, А. Луцкевіч вярнуўся да выканання абавязкаў кіраўніка ўрада БНР[33]. Хутчэй за ўсё, гэта была рэакцыя на чарговую змену знешнепалітычнай сітуацыі. Не выпадкова 8 чэрвеня 1920 г. у лісце да Л. Дубейкаўскага А. Луцкевіч заклікаў засяродзіць усю працу за мяжой, маючы на ўвазе дыпламатычную дзейнасць. Фактычна змена арыентацыі Найвышэйшай Рады кідаецца ў вочы на фоне дзейнасці таго ж П. Алексюка. Амаль аднaчасова з рэанімацыяй урада А. Луцкевіча, 5 чэрвеня 1920 г. П. Аляксюк стварае палітычны клуб "Беларускай рэспубліканскай сувязі", галоўным палітычным лозунгам якога стала аднаўленне… Вялікага княства Літоўскага[34]! Відавочна, аднак, што і ў гэты раз ягоная ініцыятыва не знайшла падтрымкі з боку польскіх уладаў. Сам ён пісаў пазней на гэты конт: *"Энэргічная спроба Уласава, Аляксюка ў ліпені 1920 г. стварыць краёвую беларуска-польскую групу разбілася аб актуальную пазіцыю гэтай працы Найвышэйшай Рады ды другога аддзела Галоўнага Камандавання…"*[35].

Пагроза заняцця Менска Чырвонай арміяй летам 1920 г. прывяла фактычна да расколу Рады. Напярэдадні на асобай нарадзе было вырашана накіраваць для дзейнасці за мяжой некалькі найбольш «бэнээраўскіх» дзеячоў, як назваў іх Б. Тарашкевіч: В. Іваноўскага, К. Цярэшчанку, А. Смоліча і С. Рак-Міхайлоўскага. Прычым тры апошнія выязджаць не хацелі. У выніку тры сябры Найвышэйшай Рады засталіся на савецкім баку фронту (Я. Серада, Я. Лёсік – у

32 O. Latyszonek, *Bialoruskie formacje wojskowe 1917-1923,* Białystok 1995, s. 136;
33 LCVA, f. 582, ap. 2, b. 87, l. 16.
34 LCVA, f. 634, ap. 1, b. 3, l. 39;*Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 755.
35 LCVA, f. 22, ap. 1, b. 54, l. 28-29.

Менску, С. Рак-Міхайлоўскі – у Гародні). Толькі К. Цярэшчанка ды В. Іваноўскі, які афіцыйна ў Раду не ўваходзіў, дабраліся да Варшавы (А. Уласаў, хутчэй за ўсё, эвакуаваўся асобна ад іншых)[36].

Захаваліся вельмі цікавыя ўспаміны Б. Тарашкевіча пра тое, як паводзілі сябе падчас т. зв. «бітвы за Варшаву» ў жніўні 1920 г. сябры Найвышэйшай Рады. Калі В. Іваноўскі адчуў сябе поўнасцю польскім патрыётам і збіраўся са зброяй у руках бараніць Айчыну, дык К. Цярэшчанка *"…весела насьмяхаўся, гледзячы на расьцягнутыя па варшаўскіх вуліцах «уцякацкія» кулацка-абшарніцкія абозы, і з радасным хваляваньнем блукаў варшаўскімі вечарамі, слухаючы водгукі блізкай кананады"*[37]. Яшчэ 15 ліпеня 1920 г. К. Цярэшчанка пісаў свайму былому апаненту Вацлаву Ластоўскаму: *"Я трымаюся погляду перадачы мандатаў Найвышэйшай Рады Вашаму кабінэту, якая павінна быць зроблена ў асобай адозве […] павінен быць скрыты адзіны нацыянальны фронт. Трэба ўмацоўваць Вас інтэлектуальна […]. Не час цяпер дзяліць свядомых беларусаў на правых і левых. Усіх нас аб'едзіняе агульная мэта — незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны"*[38]. У выніку 15 жніўня 1920 г. у Рызе ад імя Найвышэйшай Рады К. Цярэшчанка падпісаў з В. Ластоўскім акт аб каардынацыі дзяржаўнай працы. Таксама разам з прэм'ерам Рады БНР ён прымаў удзел у перамовах з прадстаўнікамі польскай дэлегацыі ў Рызе наконт будучыні беларуска-польскіх адносін[39].

Пазней адзін з беларускіх дзеячаў ацаніў: *"Сябры «Найвышэйшай Рады» разам з п. Луцкевічам доўгі час бадзяліся па Бэльвэдэру, польскіх міністэрствах, партыйных арганізацыях П.П.С.; пісалі й падавалі розныя даклады й праекты, падпісвалі нават культурна-нацыянальную аўтаномію Беларусі (В. Іваноўскі з Л. Васілеўскім) і ўсё чакалі той «рэальнай» працы, якая зацягнула іх у Варшаву, аднак нічога не дабіліся..."*. Адной з апошніх спробаў актыўнай палітычнай дзейнасці з боку Рады быў удзел у падтрымцы Слуцкага паўстання[40].

36 *Аўтабіяграфія Браніслава Адамавіча Тарашкевіча,* "Спадчына", 1996, № 4., с. 110.
37 Тамсама, с. 110.
38 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 814.
39 *Архівы БНР*, кн. 1, т. 1. с. 845-846.
40 *Слуцкі збройны чын у дакумэнтах і ўспамінах*, Мінск, 2006, с. 180.



3 лютага 1921 г. адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў Беларускага палітычнага камітэта П. Аляксюка і В. Адамовіча з прадстаўнікамі іншых беларускіх груп – Б. Тарашкевічам і А. Уласавым, на якой, між іншым, Б. Тарашкевіч выказаў ідэю аб неабходнасці аб'яднання ўсіх накірункаў беларускай палітычнай думкі пад кіраўніцтвам Найвышэйшай Рады з тым, каб стварыць як бы кабінет міністраў па прынцыпе запрашэння прэм'ерам асоб з галоўных кірункаў беларускага руху – Слуцкай Рады, Беларускага палітычнага камітэта ды групы Найвышэйшай Рады. Прыкладны склад гэткага ўрада выглядаў бы наступным чынам: старшыня – Б. Тарашкевіч, сябры – В. Адамовіч, А. Паўлюкевіч, А. Смоліч ды Павел Жаўрыд. Адначасова з гэтым, Б. Тарашкевіч лічыў патрэбным стварэнне пакуль што вайсковай нарады, якая б пазней магла быць перайменаваная ў "Вайсковую Раду" і ўключала прадстаўнікоў ад генерала Станіслава Булак-Балаховіча, Вайсковай камісіі, зеленадубцаў ды беларускіх вайсковых частак Сярэдняй Літвы. Кандыдатура В. Іваноўскага выклікала *"адмоўныя ўвагі з боку сябраў Палітычнага камітэту"*. *"Што тычыцца адносін вайсковай нарады да кабінету,* – дакладаў у рапарце агент II аддзела, – *дык Б. Тарашкевіч сам гэтай справы добра не выясняе, а А. Уласаў гаворыць аб неактуальнасці цяпер Найвышэйшай Рады, аб непатрэбнасці высоўвання на палітычны форум, аднак лічыць, што новаўтвораны кабінет павінен мець пераемную сувязь з* Радай"[41].

З падпісаннем Рыжскай прэлімінарнай дамовы восенню 1920 г. Найвышэйшая Рада канчаткова перастала выконваць ролю праваднікa федэратыўных ідэй у беларускім руху, хаця разуменне гэтага факта давалася цяжка абодвум бакам – як польскаму, гэтак і ўласна беларускаму. Амаль роўна праз год пасля беларуска-польскіх перамоваў у Менску віцэ-старшыня Найвышэйшай Рады С. Рак-Міхайлоўскі выдаў заяву, у якой аспрэчваў тое, што быццам бы Рада мела падпісаць з польскім урадам нейкую тайную дамову, тым больш – зракаючыся незалежнасці Беларусі. *"Разам з тым,* – гаварылася ў ёй, – *Прэзідыюм Найвышэйшае Рады апавяшчае, што за тыя ці іншыя ўмовы з Польскім Урадам, калі такія рабіліся ад імя Беларусі*

41 AAN, CAW II oddzial Szt. Gen., syg. I.303.4.5169;

*прыватнымі асобамі, Найвышэйшая Рада адказу на сабе не прыймае і лічыць іх ня маючымі ніякае абавязваючае сілы*"[42].

Нарэшце, 10 ліпеня 1921 г. К. Цярэшчанка разам з С. Рак-Міхайлоўскім у лісце да Б. Тарашкевіча заявілі, што Найвышэйшая Рада даўно ўжо спыніла сваё фактычнае існаванне і з гэтае прычыны дакументы і паўнамоцтвы, выдадзеныя ад Рады, страцілі сваю моц, і ўсе выступленні ад імя Найвышэйшай Рады лічацца самавольнымі[43].

## ДАДАТАК 1[44]

**Пратаколы сходаў Найвышэйшай Рады Б. Н. Р.**
**Пратакол № 1**
**Сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

14 снежня 1919 г.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Язэп Лёсік, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Тэрэшчэнка і Александр Уласаў.

Павестка сходу.
1. Арганізацыйныя пытаньня.
2. Сучасны момант.
3. Грамата да беларускага народу.
4. Прысяга.
5. Справа утварэньня габінэту.
Павестка прынята аднагалосна.

Слухалі:
1. Арганізацыйныя пытаньня.
2. Сучасны момант.
3. Грамата да беларускага народу.
4. Прысяга.
5. Справа утварэньня габінэту.

42 LCVA, f. 634, ap. 1, b. 3, l. 7;
43 *Архівы БНР*,. т. 1, кн. 2, с. 1147—1148.
44 Дакументы друкуюцца на мове арыгінала



Ухвалілі:
1. На старшыню Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі аднагалосна выбраны п. Іван Серада.
На наместніка Старшыні Найвышэйшай Рады Б.Н.Р. аднагалосна выбраны Сымон Рак-Міхайлоўскі.
2. Найбольш інфармаваць народ аб утварэнні Найвышэйшай рады.
3. Даручыць злажыць Грамату п. Тэрэшчэнко і Ўласаву.
4. Даручаецца злажыць праект прысягі п. Лёсіку.
5. Адлажыць да заўтрашняга сходу.

Найвышэйшая Рада Б.Н.Р. : (подпісы).

**Пратакол № 2**
**Сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

16 снежня 1919 г.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Тэрэшчэнка і Александр Уласаў.

Слухалі:
1. Заяву Старшыні Рады (Народных?) Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, Антона Луцкевіча, аб адстаўцы.
2. Аб грашох на працу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ухвалілі:
1. Прымаючы пад увагу сучасны палітычны момант, адстаўка не прыймаецца і даручаецца грамадзяніну Антону Луцкевічу весці працу старшыні рады Народных Міністраў Б.Н.Р., надаўшы яму правы Міністра загранічных справаў і Міністра Фінансаў.
2. Грошы на утрыманне і працу Найвышэйшай Рады Б.Н.Р. павінен мець у сябе грамадзянін Іван Серада як старшыня Найвышэйшай Рады Б.Н.Р.
Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі: (подпісы).

**Пратакол № 3**
**сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

18 снежня 1919 г.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, Кузьма Терэшчэнка і Александр Уласаў.

<u>Слухалі:</u>
1. Пратаколы двух папярэдніх сходаў рады.
2. Прывітаньня суседнім Дзержавам – Латвіі і Украіне.
3. Заяву упоўнамочніка Ураду Б.Н.Р. п. Аркад'я Смоліча, аб прыманьні ім па акту подрахункавасці міністэрства фінансаў Б.Н.Р. і двух запечатаных пакетаў з дакумэнтамі.
4. Слухалі заяву старшыні Найвышэйшай Рады Б.Н.Р. п. Ів. Серады, аб прыняцьці ім ад п. Ант. Луцкевіча грошай у распараджэньне Рады.

<u>Ухвалілі:</u>
1. Зацьвердзіць і падпісаць.
2. Прывітаньняпаслаць;зьместіхдагэтагопратаколудакладаецца.
3. Прыняць да ведама.
4. Прыняць да ведама, што прыняты, п. Серадой ад п. Антона Луцкевіча 160 000 керэнкамі, 7 000 немецкімі маркамі і 2 000 думскімі (апошніе рваные)

<u>Слухалі:</u>
1. Аб абмене керэнак на польскія маркі.
2. Аб авансах сябрам Найвышэйшай Рады Белар. Нар. Рэспублікі.
3. Аб паездцы сябра Найвышэйшай Рады Кузьмы Терэшчанкі да Старшыні рады Нар. Мін. Б.Н.Р.
4. Аб чарговых сходах Найвышэйшай Рады Бел. Нар. Рэсп.

<u>Ухвалілі:</u>
1. Даручаецца п. Старшыні Найв. Рады Б.Н.Р. абменяць 166 000 руб керэнскіх на польскіе маркі і злажыць аб гэтым належны акт.



2. Даручаецца Старшыні найвышэйшай рады Б.Н.Р., п. Івану Серадзе выдаць авансы сябрам Найв. Рады па 3 000 марак у польск. валюце, у лік пэнсіі.
3. Даручаецца параіць, вярнуцца магчыма хутчэй, прывесці грошы і каштоўнасці Ураду на зацверджанне Рады.
4. Чарговыя сходы Найвышэйшай рады Б.Н.Р. адбываюцца што дня, не выключая і святаў, а 7 гадзіне у вечары.

Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі: (подпісы).

**Пратакол № 4**
**сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

20 снежня 1919 г.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Терэшчэнка, Язэп Лёсік і Александр Уласаў.

<u>Слухалі:</u>
1. Аб паездцы сябра Найвышэйшай Рады п. Язэпа Лёсіка разам з п. Терэшчэнкай у Варшаву.
2. Аб авансу усім сябрам Н.Р. па 1 000 мар. нямецк.у лік пэнсіі.

<u>Ухвалілі:</u>
1. Сябру Найвышэйшай Рады Язэпу Лёсіку даручаецца выехаць у Варшаву разам з п. Терэшчэнкай у справах палітычных, для перагавораў з адпаведнымі коламі і з мэтай інфармацыі.
2. Выдаць.

Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі: (подпісы).

**Пратакол № 5**
**сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

14 студня 1920 г.

Прысутнымі былі: Старшыня Ів. Серада, Намесьнік Старшыні Рак-Міхайлоўскі, К. Тарэшчэнка і Ал. Уласаў.

Слухалі:
1. Справаздача Старшыні Найвышэйшай рады п. Серады і сябра Н. Рады п. Тарэшчанкі аб прыеме іх Галоўным Атаманам Украінскай Дзержавы п. Петлюрам.
2. Справаздача ад Ураду аб працы і падрахунковасці за 1919 г.
3. Адносіны Найвышэйшай Рады да ухвалы Сойму наконт адміністрацыйнага ўпраўленьня Беларусі з Варшавы.
4. Справа аб (…)Урадам Усходніх Зямель лесу.
5. Аб авансах у лік пенсіі сябрам Н.Р.

Ухвалілі:
1. Прыняць да ведама.
2. Запрапанаваць Ураду падаць справаздачу аб працы і грашовую падрахунковасць за 1919 год, а так сама і каштарысына 1920 год; апошніе падаць не пазьней 1 сакавіка 1920 году.
3. Даручаецца п. Тарэшчанку дэталічна азнаёміцца з гэтай справай і зрабіць даклад Радзе у першым пасля гэтага сходзе.
4. Даручаецца п.п. Серадзе і Ўласаву азнаёміцца і зрабіць даклад на першым пасля гэтага сходзе.
5. Абменяць 2 000 мар. нямецкіх і выдаць усім 5 (?) сябрам Н.Р. па 800 марак польскіх і 800 мар. нямецкіх Лукашевічу.

Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі: (подпісы).

**Пратакол № 6**
**сходу Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

15 студня 1920 г.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, Кузьма Тарэшчэнка і А. Уласаў.

Слухалі:
1. Аб выданьні Старшыні Ураду Б.Н.Р. , п. Антону Луцкевічу дакумэнта – Ўпаўнаважненьня на заключэньне пазыкі, на атрымліваньне грошай, на гандлевыя умовы ад імя Ўраду Рэспублікі.



Ухвалілі:
1. Выдаць Старшыні Ураду Белар. Народнае Рэспублікі, п. Антону Луцкевічу упоўнаважненьне на:
1) заключэньне гандлёвых умоў;
2) заключэньне пазык і атрыманьне грашовых сумаў;
3) на заключэньне розных закупак і гандлёвых транзакцыяў на Ўсе прадметы, патрэбныя для Беларускае Рэспублікі і арміі.
4) На заключэньне умоваў, датычных нацыянальнай абароны Беларускаей Народнае Рэспублікі.

Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі: (подпісы).

**Пратакол № 8**
**сходу Найвышэйшай Рады Б. Н. Р.**

6 сакавіка 1920 году.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, Козьма Тарэшчэнка і Александар Уласаў.

Слухалі:
1. Аб выдачы авансаў у лік пэнсіі сябрам Найвышэйшае Рады.
2. Слухалі заяву п. Смоліча, прэдстаўніка Ураду Б.Н.Р., аб выдачы яму грошай на працу прэдстаўнікоў Ураду.

Ухвалілі:
1. Даручаецца п. Старшыне Івану Серадзе выдаць усім сябрам Найвышэйшае Рады авансы ў лік пэнсіі па тры (3 000) тысячы мар. – польскіх.
2. Перавесці ў крэдыт Рады Народных Міністраў шэсць (6 000) тысячаў марак польскіх, якія выдаюцца на рукі п. Смолічу.

Найвышэйшая Рада Белар. Народн. Рэспубл:(подпісы).

**Пратакол № 9**
**сходу Найвышэйшай Рады Бел. Нар. Рэсп.**

1 красавіка 1920 году.

Прысутнымі былі: Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, Кузьма Тарэшчэнка і Ал. Уласаў. і прэдст. Ураду Б.Н.Р. В. Іваноўскі.

Слухалі:
§1. Аб кнігах і матэрыалах Міністэрства Фінансаў Ураду Б.Н.Р., прынятых на схову і праверку Ал. Уласавым.
§2. Аб падрахункавасці ў выдатках Антона Луцкевіча, старшыні Рады Нар. Мін. Б.Н.Р.
§3. Справа міравых перагавораў між Польскай і Расейскай Дзержавамі.
§4. Даклад прэзідыўму Белар. Вайск. Камісіі у справе фармаваньня белар. вайсковых аддзелаў.

Ухвалілі:
§1. Прынятьце (?) п. Уласавым кнігі і матэрыалы былога Міністра Фінансаў Захаркі ад Смоліча падаць на разгляд Найв. Радзе і зрабіць належны даклад у справе праверкі.
§2. Даручаецца п. Серадзе зрабіць даклад па тых дакумэнтах, якія ёсць у яго, на першым пасля гэтага сходзе.
§3. Дабівацца ад абедзьвух дагаварываючыхся старон прызнаньня Незалежнасці і непадзельнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў этнаграфічных межах. Апрацаваны ў гэтае справе мемарандум падаці на разгляд першага пасля гэтага сходу Найвыш Рады.
§4. Прыняць да ведама. Справу худшэйшага фармаваньня перадаць Ураду.
Найвышэйшая Рада Белар. Народн. Рэспублікі: (подпісы).



**Пратакол № 10**
**сходу Найвышэйшай Рады Б. Н. Р.**

17 красавіка 1920 году.

Прысутнымі былі: І. Серада, К. Тарэшчэнка, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, і Александар Уласаў і прэдстаўнікі Ураду В. Іваноўскі і А. Смоліч.

Слухалі:
1. Заяву А. Луцкевіча аб узвароце выдаткаў на заграінічныя дэлегацыі.

Ухвалілі:
1. Выдаць Ант. Луцкевічу шэсцьдесят шэсць тысячаў (66 000) рублей керанскіх на ўзварот выдаткаў на заграінічныя дэлегацыі. Выдаць з грошай, якія ёсць на руках Старшыні Рады, п. Івана Серады.
Найвышэйшая Рада Белар. Народн. Рэспубл: (подпісы).
Прадстаўнікі Ураду: (подпісы).

**Пратакол № 11**
**сходу Найвышэйшай Рады Бел. Нар. Рэсп.**

Мая 2 дня 1920 году.

Слухалі:
§1. Заява Старшыні Рады Народных Міністраў Бел. Нар. Рэспубл., п. Антона Луцкевіча аб адстаўцы.
§2. Аб заяве премьер – міністра Польскай Дзержавы Окульскага аб справе беларускай.

Ухвалілі:
§1. Абгаварыўшы наогул /палітычную/ утварыўшуюся палітычную сітуацыю, ухвалена: адстаўкі не прыняць і прасіць п. Ант. Луцкевіча весьці і далей працу Старшыні Рады Нар. Мін., Мін. Фін. і Мін. Заграінічных справаў. Даручаецца п.п. Я. Лёсіку, Сымону Раку-Міхайлоўскаму і Арк. Смолічу лічна перагаварыць з п. Ант. Луцкевічам.

§2. Даручыць представнікам Ураду п.п. Смолічу і Іваноўскаму зрабіць пратэст проці выступленьняў Окульскага аб тым, што быццам беларусы згаджаюцца на культ.-нац. аўтаномію і не дамагаюцца дзяржаўнасці і незалежнасці.
Найвышэйшая Рада Белар. Народн. Рэспублік: (подпісы).
Прадстаўнікі Ураду: (подпісы).

**Пратакол № 12**
**сходу Найвышэйшай Рады Б. Н. Р.**

5 мая 1920 году.

Прысутнымі былі: Ів. Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Яз. Лёсік, К. Тарэшчэнка і прадстаўнікі Ураду: В. Іваноускі і Арк. Смоліч.

Слухалі:
§1. Аб нарыхтаваньні заграніцай дзержаўнае беларускае працы.

Ухвалілі:
§1. Прымаючы патрэбным хутшэйшае аднаўленьне дзержаўнай белар. працы заграніцай, ухвалена выдаць прадстаўніку Ураду Арк. Смолічу (безатчотна) дзьве тысячы (2 000) руб. думскіх, якія ёсць у п. Серады, і двадцаць пяць тысячаў польскіх марак з асыгнаваньняў на нацыянальную працу.
Пячатка.
Найвышэйшая Рада Беларускае Народн. Рэспублікі: (подпісы).
Прадстаўнікі Ураду: (подпісы).

**Пратакол № 13**
**сходу Найвышэйшай Рады Бел. Нар. Рэсп.**

7 мая 1920 году.

Прысутнымі былі: Ів. Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, К. Тарэшчэнка і Яз. Лёсік і прадстаўнікі Ураду: В. Іваноускі і Арк. Смоліч.



Слухалі:
§1. Аб выдачы прадстаўніку ураду, п. Смолічу, дадаткова на загранічную працу пятнадцаць тысячаў (15 000) марак польскіх.

Ухвалілі:
§1. Выдаць дадаткова п. Смолічу безатчотна пятнадцаць тысячаў польскіх марак з асігнаваньняў на нацыянальную працу.
Найвышэйшая Рада Бел. Нар. Рэсп: (подпісы).
Прадстаўнікі Ураду: (подпісы).

**Пратакол № 14**
**сходу Найвышэйшай Рады Бел. Нар. Рэсп.**

8 мая 1920 году.

Прысутнымі былі: Ів. Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Яз. Лёсік, К. Тарэшчэнка і прадстаўнікі Ураду: В. Іваноускі і Арк. Смоліч.

Слухалі:
§1. Аб фінансах Найвышэйшай рады і аб парадку іх расходаваньня.
§2. Аб выдачы грошай Ураду.

Ухвалілі:
§1. а) Найвышэйшая Рада разглядае і зацьверджае бюджэт усіх беларускіх установаў, якім яна даёць грошы.
б) Каса Найвышэйшае Рады знаходзіцца на руках у п. Іваноўскага.
§2. Выдаць Ураду на працу сто тысячаў (100 000) марак польскіх.
Найвышэйшая Рада Белар. Народн. Рэспублікі: (подпісы).
Прадстаўнікі Ураду: (подпісы).

**Пратакол № 15**
**сходу Найвышэйшай Рады Белар. Нар. Рэспубл.**

9 мая 1920 году.

Прысутнымі былі: Ів. Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Яз. Лёсік, К. Тарэшчэнка і прадстаўнікі Ураду – В. Іваноўскі і Арк. Смоліч.

## Скарочаны змест

Аляксандр Краўцэвіч, *Ключавыя праблемы выкладання гісторыі Беларусі*

На сённяшні дзень **галоўнай праблемай выкладання гісторыі Беларусі** ў краіне з'яўляецца **супярэчнасць паміж старой савецкай канцэпцыяй і сучасным узроўнем навуковых даследаванняў у галіне айчыннай гісторыі.**

Ключавыя тэмы, ад якіх залежыць агульнае разуменне гісторыі Беларусі, гэта:

1. Этнагенэз беларусаў.
2. Гісторыя Полацкага і Тураўскага княстваў.
3. Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) у гісторыі Беларусі.
4. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі.
5. Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) і Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР).
6. II сусветная вайна ў Беларусі.

Пасля 1995 г. дзяржаўныя ўлады пачалі рэанімаваць (па сутнасці імітаваць) савецкую сацыяльную мадэль, у тым ліку савецкую канцэпцыю гісторыі Беларусі. Паваротным момантам было гучнае распараджэнне прэзідэнта А. Лукашэнкі 1995 г., якое забараняла навучанне гісторыі на падставе новых падручнікаў.

Забарона падручнікаў, аднаўленне цэнзуры ў дзяржаўных навуковых выдавецтвах, кантроль за педагагічнай дзейнасцю гісторыкаў і г. д. прывялі да разбурэння сувязяў паміж акадэмічнай навукай і дзяржаўнай сістэмай адукацыі. Гэта вельмі негатыўна адбілася на агульным стане і ўзроўні гістарычнай асветы беларускага грамадства. Прафесійныя гісторыкі (нельга блытаць з гісторыкамі-прапагандыстамі на службе ўладаў) пішуць сваё, настаўнікі вучаць нечаму абсалютна іншаму.

Савецка-расійская канцэпцыя гісторыі Беларусі прынцыпова адрозніваецца сваім зыходным пунктам ці крытэрыем ацэнкі беларускай гісторыі ад канцэпцыі, распрацаванай незалежнымі беларускімі гісторыкамі. Яна мае каланіяльны характар, гэта значыць прадстаўляе гісторыю краіны паводле расійскай мадэлі ў адрозненне



ад пункту гледжання нацыянальных гісторыкаў, якія даследуюць гісторыю Беларусі аб'ектыўна.

Гэтыя апошнія падтрымліваюць кантакты з грамадствам не толькі традыцыйнымі метадамі – праз публікацыю сваіх прац у незалежных выдавецтвах (у тым ліку за мяжой, часцей за ўсё ў Польшчы), але таксама праз навукова-папулярныя і публіцыстычныя публікацыі.

У дадзены момант беларускія ўлады імкнуцца навязаць беларусам састарэлыя стэрэатыпы савецкай гістарыяграфіі праз дзяржаўную сістэму адукацыі.

Незалежныя беларускія гісторыкі, якіх звальняюць з універсітэтаў і пераследуюць, супрацьдзейнічаюць гэтаму з дапамогай незалежных выдавецтваў (у тым ліку польскіх), свабодных сродкаў масавай інфармацыі і Інтэрнэту. Прайграюць у школьніцтве, затое выйграюць ва ўздзеянні на адукаваную частку беларускага грамадства.

**Summary**

Aliaksandr Kraucevich, *Key Problems in Teaching Belarusian History*

Today, the main problem in teaching history in Belarus is the contradiction between the old, Soviet conception and the modern, contemporary level of scholarly research in the field of native history.

The key subjects, whose method of presentation is of major importance to the general understanding of the history of Belarus are:

1. Ethnogeny of Belarusians
2. History of Polotsk and Turov Princedoms
3. Grand Duchy of Lithuania in the history of Belarus
4. Annexation of Belarus by the Russian Empire
5. Belarusian People's Republic (BPR) and Byelorussian Soviet Socialist Republic (BSSR)
6. World War II in Belarus

After 1995, the state authorities began to return to reanimating (in fact, imitating) the Soviet social model, including the Soviet concept of Belarusian history. The turning point became the resounding directive of President A. Lukashenka, forbidding the teaching of history according to newly published textbooks.

The withdrawal of the offending textbooks, the renewal of censure in state academic publishing companies, control over the pedagogical activities of historians, etc., infringed on the connection between academic study and the state education system. This had a very negative effect on the level and overall shape of historical education in Belarusian society. Professional historians (not to be confused with historian-propagandists in the service of the state) write their works, while school teachers present something completely different in classrooms.

The Soviet-Russian concept of Belarusian history distinctly differs in its starting point, or the criterion for evaluating Belarusian history, from the concept prepared by independent Belarusian historians. It also possesses a colonial character. For example, it presents the country's history according to a Russian point of view, as opposed to the perspective of national historians, who present a subjective Belarusian view of history.



The latter not only make contact with society through traditional means – by publishing their works through independent companies (including abroad, most often in Poland), but also by publishing in popular-scientific and journalistic publications.

Currently, the Belarusian authorities are attempting to push obsolete stereotypes onto the mass consciousness of Belarusians through the state education system.

Independent Belarusian historians, most of them persecuted and dismissed from their university posts, are counteracting this with the aid of independent publishers (including publishers from Poland), the free press and the Internet. They are losing on the school education front, but they are winning the battle and having an effect on the educated sphere of Belarusian society.

**Тацяна Касатая**
**(Варшава/Гродна)**

## Самасвядомасць і нацыянальная ідэнтычнасць евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) у Беларусі: уплыў савецкага мінулага

### З гісторыі Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Беларусі

У 1944 г. у Савецкім Саюзе была створана новая рэлігійная арганізацыя – Усесаюзны саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў (УСЕХБ), які аб'яднаў розныя накірункі позняга пратэстантызму, у тым ліку баптыстаў, евангельскіх хрысціян і часткова пяцідзясятнікаў. З'яўленне Царквы ЕХБ было абумоўлена геапалітычнай сітуацыяй; Другой сусветнай вайной, наладжваннем падчас вайны стасункаў СССР з кіраўнікамі ЗША і Вялікабрытаніі – усё гэта паўплывала на змены ў рэлігійнай палітыцы савецкіх уладаў.

На сучаснай тэрыторыі Беларусі новыя пратэстанцкія рухі пачалі распаўсюджвацца з сярэдзіны XIX ст. Першапачаткова гэта былі так званыя штундысты, якія ў 1870-я – 1880-я гг. дзейнічалі ў Гомельскім, Рагачоўскім паветах, а таксама ў Віцебскай губерні. Паступова штундысты знікалі, зліваючыся з баптыстамі. Пры гэтым назва "штунды"/"штунда" захавалася ў вышэй згаданых рэгіёнах, і выкарыстоўваецца ў катэгарызацыі знешнім асяроддзем сучасных вернікаў ЕХБ.

Евангельскія хрысціяне з'явіліся пазней. Вядома, што ў 1882 г. яны праводзілі малітоўныя сходы ў г. Чачэрску Гомельскага павета[1].

Выкладчык Мінскай багаслоўскай семінарыі Саюза ЕХБ у Беларусі, дэкан багаслоўскага факультэта Павел Асененка вылучае некалькі шляхоў распаўсюджвання позняга пратэстантызму на беларускіх землях у XIX – пач. XX ст. Па-першае, з поўдня Украіны, куды сяляне выязджалі на заробкі ў калоніі нямецкіх перасяленцаў; па-другое, падчас Першай сусветнай вайны бежанцы з Беларусі выехалі ў цэнтральныя рэгіёны Расіі, адтуль, пасля вяртання дадому, прывезлі новую веру; па-трэцяе, вернікамі прыязджалі

1 *Канфесіі на Беларусі (к. XVIII-XX стст.)*, пад. рэд. У. Навіцкага, Мінск 1998, с. 107.



былыя ваеннапалонныя часоў Першай сусветнай вайны, а таксама рээмігранты, якія выязджалі на заробкі ў Заходнюю Еўропу і ЗША[2]. Даследчык, згаджаючыся з прапаведнікам Уладзімірам Канатушам, пісаў, што ў асноўным евангелізацыяй у беларускіх вёсках, мястэчках і гарадах займаліся мясцовыя жыхары. Замежныя місіянеры (напрыклад, з Латвіі, Польшчы, Нямеччыны), якія прыязджалі ў заходнія губерні Расійскай імперыі, складалі нязначную частку. Гэтыя акалічнасці, а таксама шэраг асаблівасцей мясцовых умоў з'яўлення і распаўсюджання пратэстанцкага руху, дазваляюць сцвярджаць, што на беларускіх землях ён не быў і не мог быць дакладнай копіяй заходніх аналагаў. Тым больш што самі лідары (напрыклад, Іван Праханаў) створаных Саюзаў баптыстаў (Масква) і евангельскіх хрысціян (Санкт-Пецярбург) імкнуліся максімальна адаптаваць "заходняе" веравучэнне да нацыянальнага і дзяржаўнага кантэкстаў. У пачатку XX ст. Лукаш Дзекуць-Малей, вучань Праханава, праз асветніцка-адукацыйную, сацыяльную дзейнасць намагаўся стварыць базу, каб пратэстанцкая царква стала нацыянальнай у Беларусі. Але гэтыя дзеянні Дзекуць-Малея не ахапілі шырокае кола насельніцтва і засталіся на ўзроўні нешматлікай інтэлігенцыі.

У міжваенны перыяд у заходніх абласцях Беларусі, якія да 1939 г. уваходзілі ў склад Польскай дзяржавы, назіраўся актыўны рост цэркваў баптыстаў, евангельскіх хрысціян і хрысціян веры евангельскай. Тут дзейнічалі агульнапольскія арганізацыі: Саюз славянскіх баптыстаў (цэнтр у Варшаве), Саюз евангельскіх хрысціян (цэнтр у Роўне, сучасная Украіна), Саюз цэркваў Хрыстовых (цэнтр у Кобрыне, Брэсцкая вобласць), Саюз хрысціян веры евангельскай[3]. Разрыў сувязяў з расійскімі пратэстанцкімі асяродкамі садзейнічаў арыентацыі беларускіх пратэстантаў на Заходнюю Еўропу. Але асноўнай мовай набажэнстваў заставалася руская, паступова ўводзілася і польская. Духоўная літаратура таксама пераважна выдавалася на рускай мове і польскай. Праўда, у 1926 г. у Лодзі, дзякуючы дзейнасці Лукаша Дзекуць-Малея, было надрукавана

2 П. Асененка, *Кароткі погляд на гісторыю евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі*, [у:] *Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць (да 600-годдзя Евангельскай Царквы ў Беларусі)*, рэд. А. І. Бокун, Мінск 2014, с. 130–132.

3 *Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці*. Ф. 1339, воп. 1, спр. 16, арк. 16.

Евангелле ад Лукі па-беларуску[4]. У афіцыйных дакументах цэркваў і падчас агульных сустрэч вернікаў розных цэркваў часцей выкарыстоўвалася дзяржаўная польская мова. Спробы стварыць беларускую нацыянальную царкву рабілі нешматлікія менаніты, яны ж займаліся друкаваннем беларускамоўнай літаратуры[5].

Ва Усходняй Беларусі ў першыя гады савецкай улады існавалі адносна спрыяльныя ўмовы для развіцця цэркваў баптыстаў і евангельскіх хрысціян. Але ў канцы 1920-х гг. пачаліся масавыя рэпрэсіі супраць кіраўнікоў рэлігійных арганізацый і вернікаў, лепшыя прадстаўнікі абшчын былі фізічна знішчаныя. У душах вернікаў, як пісаў рэлігіязнаўца Леў Мітрохін, *"пасяліўся вірус неўсвядомленага страху"*[6].

Падчас Другой сусветнай вайны аднавілі сваю дзейнасць шматлікія абшчыны ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы акупацыі, была наладжана нават выдавецкая дзейнасць. Напрыклад, у 1943 г. у Менску быў надрукаваны "Евангельскі хрысціянскі спеўнік".

Пасля стварэння Саюза ЕХБ у 1944 г. на працягу некалькіх гадоў адбывалася рэгістрацыя абшчын баптыстаў, евангельскіх хрысціян, пяцідзясятнікаў, якія ўвайшлі ў гэту Царкву. Такім чынам, рэгістрацыя не толькі надала легітымнасць існаванню пратэстанцкіх абшчын у БССР, але ўключыла іх у агульную гісторыю Саюза ЕХБ і садзейнічала ўніфікацыі ў працэсах самакатэгарызацыі і ідэнтыфікацыі.

У 1990 г. у сувязі з распадам УСЕХБ утварыўся Саюз ЕХБ Беларусі (зараз – Саюз цэркваў ЕХБ у Рэспубліцы Беларусь). На канец 2013 г. у яго ўваходзілі 250 абшчын і 44 групы з агульнай колькасцю вернікаў 12 700 чалавек[7]. Па дадзеных апарата ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей на 2015 г.

4 У 1931 г. былі выдадзены па-беларуску Новы Запавет і Псалмы ў перакладзе Лукаша Дзекуць-Малея і Антона Луцкевіча.

5 Ю. Бачышча, *Дзейнасць царквы мэтадыстаў на ніве беларускага адраджэння ў 20 – 30-я гг. XX ст.*, [у:] *Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць (да 600-годдзя Евангельскай Царквы ў Беларусі),* рэд. А. І. Бокун, Мінск 2014, с. 186–205.

6 Л. Митрохин, *Баптизм: история и современность (философско-социологический очерк)*, Санкт-Петербург 1997, с. 349.

7 П. Асененка, *Кароткі погляд на гісторыю евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі*, [у:] *Евангельская Царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць (да 600-годдзя Евангельскай Царквы ў Беларусі)*, рэд. А.І. Бокун, Мінск 2014, с. 136



зарэгістравана 26 рэлігійных канфесій і накірункаў. Агульная колькасць рэлігійных арганізацый складае 3 488. Беларуская Праваслаўная Царква аб'ядноўвае 1 643 прыходы, Рыма-Каталіцкая Царква ў Беларусі налічвае 491 парафію. Пратэстанцкія рэлігійныя арганізацыі прадстаўлены 1 057 абшчынамі, 21 аб'яднаннем, 22 місіямі і 5 духоўнымі навучальнымі ўстановамі 14-ці рэлігійных накірункаў[8].

**Сістэма ідэнтычнасці баптыстаў і шляхі кансалідацыі, роля нацыянальнага складніка ў гэтым працэсе**

Праблема ідэнтыфікацыі евангельскіх хрысціян-баптыстаў набыла актуальнасць на постсавецкай прасторы пасля стварэння асобных "нацыянальных" Саюзаў евангельскіх хрысціян-баптыстаў і далучэння да агульнай заходнееўрапейскай евангелічнай традыцыі. Гэтыя ўмовы патрабавалі адаптацыі да новых культурных і палітычных кантэкстаў, а таксама вырашэння шматлікіх праблем выбару як у багаслоўскай сферы і царкоўных практыках, так і ў стаўленні да знешняга асяроддзя.

Адным са шляхоў да кансалідацыі з'яўляецца зварот да нацыянальных і гістарычных традыцый баптысцкай царквы. Напрыклад, пачала развівацца ідэя пра самабытнасць рускага баптызму[9], які мае сваю спецыфіку не толькі ў царкоўнай практыцы, але і ў тэалогіі, што фарміравалася пад уплывам праваслаўя. Даволі вялікае значэнне ў канструяванні ідэнтычнасці баптызму ў Расіі мае ідэя рускага месіянства.

Ва Украіне нацыянальная самасвядомасць захоўвалася праз украінскую мову, якая выкарыстоўвалася падчас малітоўных службаў у савецкі перыяд. А таксама дзякуючы моцнаму ўкраінскаму нацыянальнаму руху і ўстойлівым традыцыям.

У Беларусі нацыянальны складнік ідэнтычнасці ЕХБ займае нязначнае месца. Пры гэтым назіраецца тэндэнцыя да паглыблення ведання сваёй гісторыі. Дзякуючы дзейнасці вернікаў царквы "Ян Прадвеснік", а таксама некаторых даследчыкаў, ЕХБ пачалі звязваць з'яўленне сваёй рэлігійнай арганізацыі з Рэфармацыяй XVI ст.[10]

8 Крыніца: http://www.belarus21.by/Articles/1439296790 (07.12.2015).

9 В. Альберт, *Насколько самобытным было баптистское движение в Российской империи?* [в:] *105 лет легализации русского баптизма*, ред. Н. Белякова, А. Синичкин, Москва 2011, с. 9–15.

10 Гл. сайт *Рэфармацыя ў Беларусі*: http://belreform.org/hieranim.php (08.12.2015).

Даволі значная роля ў развіцці евангельскага руху надаецца перыяду нацыянальнага адраджэння і дзейнасці Лукаша Дзекуць-Малея.

Гісторыя і традыцыі Царквы ЕХБ актуалізуюцца праз арганізацыю канферэнцый і падрыхтоўку гістарычных выданняў. Напрыклад, у 2006 г. пратэстанты спрычыніліся да выхаду навуковага зборніка "Пратэстанцкая царква і беларускі нацыянальны рух на пачатку ХХ стагоддзя", у 2011 г. выйшаў зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакументаў "Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі", у 2012 г. быў падрыхтаваны адмысловы нумар часопіса "ARCHE Пачатак" пад назвай "Беларусь евангельская". У 2013 г. на базе Мінскай багаслоўскай семінарыі была праведзена навуковая канферэнцыя "Евангельская царква Беларусі: гісторыя і сучаснасць" (да 600-годдзя Евангельскай Царквы ў Беларусі), якая заснавала традыцыю арганізацыі канферэнцый раз у два гады. У снежні 2015 г. адбылася ІІ-я навуковая канферэнцыя, прысвечаная іншай юбілейнай даце, – 500-годдзю нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага. Падчас пленарнага паседжання бібліятэцы Мінскай багаслоўскай семінарыі было нададзена імя Мікалая Радзівіла Чорнага. Такім чынам, акрамя імён рускіх баптысцкіх дзеячаў і евангельскіх хрысціян ХІХ ст. – Васіля Паўлава, Івана Праханава[11], у назвах заляў з'явілася імя аднаго з першых пратэстантаў у Вялікім княстве Літоўскім XVI ст.

Адным са структурных элементаў нацыянальнай свядомасці з'яўляецца мова. Беларуская мова на малітоўных сходах ЕХБ выкарыстоўваецца зрэдку. Трэба адзначыць, што падчас агульнага працэсу беларусізацыі ў 1994 г. Саюз ЕХБ пачаў выдаваць афіцыйны часопіс з беларускай назвай "Крыніца жыцця". Але матэрыялы там друкуюцца па-руску[12].

Выкарыстанне рускай мовы характэрна для ўсіх пратэстанцкіх аб'яднанняў. Выключэннем з'яўляюцца Беларуская Евангельская Царква і Царква хрысціян веры евангельскай "Ян Прадвеснік"[13]. Першая была заснавана яшчэ ў 1988 г. (з 2006 г. пазбаўлена

11 У Мінскай Багаслоўскай семінарыі Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў ёсць залы імя Івана Праханава і Васіля Паўлава.

12 Можна меркаваць, што выкарыстанне рускай мовы звязана з наданнем у 1995 г. ёй статусу дзяржаўнай мовы.

13 Я. Бернат, В. Шукеловіч, *Царква, дзе замест абразоў вісяць гербы старадаўняй Літвы*. http://stara.belsat.eu/be/articles/carkva-dze-zamest-abrazo-visyac-gerby-staradanyaj-litvy/(08.12.2015).



рэгістрацыі). Яе прэсвітарам з'яўляецца Эрнэст Сабіла[14] – былы вязень савецкіх канцлагераў. У 1980-я гг. ён актыўна падтрымліваў беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух. У 1989 г. пастар Сабіла асвяціў першы з'езд Беларускага народнага фронту, на якім зачытаў Біблію на беларускай мове.

У царкве "Ян Прадвеснік" апроч беларускамоўных службаў актуалізуецца беларуская гісторыя часоў Вялікага княства Літоўскага. Вернікі абшчыны заснавалі гістарычную суполку пад назвай "Ліцвінскі клуб". Таксама яны ўдзельнічаюць у публічных акцыях у падтрымку беларускіх нацыянальных і дэмакратычных ідэй.

У сучасных умовах такія дзеянні вернікаў палітызуюцца, і ў выніку адбываюцца рэпрэсіі супраць іх (вернікамі царквы "Ян Прадвеснік" з'яўляюцца грамадскія дзеячы Зміцер і Наста Дашкевічы, Андрэй Кім, Дзяніс Садоўскі, Зміцер Хведарук, Аляксей Шэін).

Калі беларуская накіраванасць Беларускай Евангельскай Царквы звязана з асобай Эрнэста Сабілы, для якога беларуская нацыянальная ідэя з'яўляецца адной з найвышэйшых каштоўнасцей, то для царквы "Ян Прадвеснік" гэта звязана шмат у чым з тым, што яна адносна маладая, як па ўзросту вернікаў, так і па часе ўзнікнення (1999 г.). Яна не адчувае на сабе цяжар савецкай спадчыны, які ўплывае на сучаснае развіццё большасці абшчын ЕХБ у Беларусі. Яшчэ адна акалічнасць: гэтыя дзве царквы не ўваходзяць у Саюз ЕХБ, прадстаўляюць іншыя пратэстанцкія рухі, але цесна ўзаемадзейнічаюць з баптыстамі.

Для Царквы ЕХБ у Беларусі дамінуючым фактарам у падтрыманні супольнай ідэнтычнасці з'яўляецца рэлігійны аспект і далучэнне да агульнай баптысцкай спадчыны. Асноўныя сем прынцыпаў баптызму[15] змяшчаюць вернікаў усяго свету ў адно ідэнтыфікацыйнае поле. Спрошчана іх можна аб'яднаць у наступную схему, прапанаваную брытанскім тэолагам Найджэлам

14 Падчас Другой сусветнай вайны яго бацькі перайшлі з каталіцтва ў царкву баптыстаў.

15 1. Кнігі Святога Пісання – адзіны аўтарытэт у справах веры і практычным жыцці. 2. Царква павінна складацца з духоўна адроджаных людзей. 3. Запаветы Ісуса Хрыста аб Хрышчэнні і Вячэры Гасподняй прападаюцца толькі тым, хто паверыў у Ісуса Хрыста як свайго выратавальніка. 4. Незалежнасць памесных цэркваў у духоўных і практычных пытаннях. 5. Усеагульнае святарства вернікаў. 6. Свабода сумлення як неад'емнае права кожнага чалавека. 7. Аддзяленне царквы ад дзяржавы. Крыніца: http://baptist.by/faith/principles (20.11.2015).

Райтам (Nigel G. Wright): баптысцкая ідэнтычнасць = хрышчэнне па веры + кангрэгацыйнае ўпраўленне + свабода[16]. Гэта формула грунтуецца на асобе, канфесійнай супольнасці, грамадстве/дзяржаве і катэгорыі свабоды. На ўзроўні веры свабода праяўляецца ў выбары веры, прыняцця ці непрыняцця хрышчэння; на ўзроўні царквы/абшчыны гэта звязана са спецыфікай самаўпраўлення. Апошні ўзровень характарызуецца поўнай незалежнасцю царквы ад дзяржавы, што можа праяўляцца як у патрабаванні неўмяшальніцтва дзяржавы ў справы абшчыны, так і ў праве царквы ўплываць на палітычныя працэсы.

Гэта формула ідэнтычнасці мае асаблівасці ў розных краінах, што абумоўлена геапалітычнымі і ўнутрыпалітычнымі фактарамі, а таксама гістарычным мінулым. Ніжэй мы разгледзім уплыў савецкага мінулага на канструяванне ідэнтычнасці ЕХБ у Беларусі. Апроч таго, паспрабуем адказаць на пытанні: ці адпавядае ідэнтычнасць вернікаў агульнапрынятай формуле: хрышчэнне па веры + кангрэгацыйнае ўпраўленне + свабода, а таксама, якое месца ў калектыўнай памяці займае нацыянальны складнік.

### Рэлігійная калектыўная памяць ЕХБ – аснова ідэнтыфікацыі вернікаў

Матэрыял артыкула падрыхтаваны на падставе запісаных інтэрв'ю з вернікамі ў Гродне, Брэсце, Ваўкавыску Гродзенскай вобл., а таксама ў вёсках Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Адным з асноўных крытэрыяў адбору рэспандэнтаў з'яўлялася прыняцце хрышчэння ў савецкі час. Размовы адбываліся паводле методыкі запісу біяграфічнага інтэрв'ю[17]. Таксама выкарыстаныя архіўныя крыніцы фонда ўпаўнаважанага па справах рэлігійных культаў па БССР.

Прыналежнасць рэспандэнтаў да аднаго сацыяльнага інстытута і дамінаванне ідэнтыфікацыі з вернікамі (хрысціянамі)

16 Д. Иоханес*, Всплеск свободы: 1905 год в истории свободных церквей России в теологической перспективе,* [в:] *105 лет легализации русского баптизма*, ред. Н. Белякова, А. Синичкин, Москва 2011, с. 91.

17 G. Rosenthal, *Reconstruction of life stories: principles of selection in generating stories for narrative biographical interviews:* http://www.ssoar.info/ssoar/bitstream/handle/document/5929/ssoar-tnsl-1993-1-rosenthal-reconstruction_of_life_stories.pdf?sequence=1 (08.12.2015).



абумовілі выкарыстанне паняцця "рэлігійная памяць". Згодна з тэорыяй французскага філосафа і сацыёлага Морыса Хальбвакса, рэлігійная памяць, нягледзячы на пазачасавасць і пастаянства рэлігійных уяўленняў, падпарадкоўваецца тым жа законам, што і любая калектыўная памяць. Яна не толькі захоўвае, але і рэканструюе мінулае з дапамогай абрадаў, тэкстаў, традыцый[18].

У сістэме самаідэнтыфікацыі ЕХБ дамінуючае становішча займае атаясамленне сябе з вернікамі. Пры гэтым самакатэгарызацыя можа быць рознай: евангельскія хрысціяне-баптысты, евангелісты, хрысціяне, вернікі (на рускай мове "верующие"), баптысты. Найбольш распаўсюджанымі найменнямі з'яўляюцца "хрысціяне" або "вернікі".

*Т.К.: Юлія Андрэеўна, а па веры Вы хто?*

*Ю.Ц.: Я хрысціянка*[19].

*М.Н.: Родители у меня, конечно, верующие были. И с детства я верующий. Я поверил, уже позже принял крещение. А в детстве, моё детство было у верующих родителей.*[20]

Рэдкае выкарыстанне азначэння "баптыст" шмат у чым абумоўлена негатыўнай канатацыяй гэтага слова, якая існавала ў савецкі перыяд. Вернік з Гродна ўспамінаў: "*Мне говорили: «Ты баптист!», чтобы меня унизить»*[21]. Але ў сваім наратыве рэспандэнты даволі часта выкарыстоўваюць тэрмін «баптыст» у значэнні «яны», а не «мы». Такая стратэгія звязана з імкненнем да фарміравання станоўчай ідэнтычнасці. У 1990-я гг. у некаторых былых савецкіх рэспубліках былі спробы зусім адмовіцца ад саманазвы "баптысты". Але яна засталася і часцей выкарыстоўваецца знешнім асяроддзем у дачыненні да ЕХБ[22].

У савецкі час у афіцыйным дыскурсе ў адносінах да ЕХБ былі распаўсюджаныя назвы "сектанты" ці "секта", якія мелі негатыўнае адценне. Сёння азначэнне "секта" сустракаецца з прычыны няведання прынцыпаў веравучэння баптыстаў.

18 Хальбвакс М., *Социальные рамки памяти*, Москва 2007. С. 264.

19 Транскрыпцыя інтэрв'ю Цырыбко Юліі Андрэеўны, 1929 г.н. 06.08.2012. Града, Жыткавіцкі р-н, [у:] *Беларускі архіў вуснай гісторыі. 20(1) – 447 – 1214,* http://nashapamiac.org/archive/home (08.12.2015).

20 Запіс інтэрв'ю з Мікалаем М., 1932 г.н., Брэст 27.08.2014, з уласнага архіва аўтара.

21 Запіс інтэрв'ю з Паўлам Р. 1959 г.н. г., Гродна 08.04.2011, з уласнага архіва аўтара.

22 У артыкуле азначэнне "баптысты", "баптысцкі" выкарыстоўваецца ў якасці сіноніма да ЕХБ.

Далучэннне да царквы ЕХБ і з’яўленне самаідэнтычнасці “хрысціянін/вернік” адбываецца пасля пакаяння і прыняцця хрышчэння. Гэтыя акты ў памяці вернікаў адлюстраваныя як пераломны момант у іх жыцці:

*– Именно в этот период произошёл переворот в моей душе. Я обрёл внутренний мир. Я был уверен, что Бог простил меня за грехи. Покаяние – это перемена действий, мысли. 6 августа 1978 г. в 5 часов утра я принял крещение через погружение на р. Рось недалеко от Волковыска. Утро было прохладное, как и вода… Никогда это не забуду!*[23]

Пасля пакаяння і хрышчэння *асабістыя* перажыванні верніка ўключаюцца ў агульны корпус царкоўнай гісторыі. Яны з’яўляюцца часткай паняццяў, якія стварыў не вернік, і якія адкрыліся не аднаму яму, а захоўваюцца царквой, і яна навучыла яго ім[24]. Індывідуальны вопыт хрышчэння змяшчаецца ў калектыўную памяць. Бо гэта падзея далучыла верніка да гістарычнага сацыяльнага парадку, што дапамагае чалавеку асэнсаваць сваё жыццё і ўплывае на канструяванне біяграфіі.

Так, першая частка формулы ідэнтычнасці, якая была ўзгаданая вышэй, займае ключавое месца ў самавызначэнні вернікаў. Хрышчэнне з’яўляецца асноўным маркерам атаясамлення чалавека агулам з хрысціянамі, і ў прыватнасці з евангельскімі хрысціянамі-баптыстамі.

Рэлігія і далучэнне верніка да царквы фарміруе групавую самасвядомасць. Ва ўспамінах адкрыта ці схавана, але пастаянна прысутнічаюць два вобразы – “мы” і “яны”, якія маюць пэўны набор характарыстык. Напрыклад, ЕХБ кажуць пра сябе як пра людзей, што жывуць з надзеяй у Бога, згодна з запаветамі Хрыста[25], у сацыяльных практыках іх адасобленасць праяўляецца ў адмове ад палення, алкаголя, выкарыстання нецэнзурнай лексікі[26].

У савецкі час супрацьпастаўленне сябе “іншаму” было найбольш акцэнтавана. Афіцыйная атэістычная ідэалогія ўплывала

23 *Запіс інтэрв’ю з Паўлам Р. 1959 г.н. г., Гродна 08.04.2011*, з уласнага архіва аўтара.

24 М. Хальбвакс, *Социальные рамки памяти*, Москва 2007, с. 248.

25 *Аўдыёзапіс інтэрв’ю з Мікалаем М., 1932 г.н., Брэст27.08.2014*, з уласнага архіва аўтара

26 *Аўдыёзапіс інтэрв’ю з Клаўдзіяй Н., 1926 г.н., Гродна 2012*, з уласнага архіва аўтара; *Аўдыёзапіс інтэрв’ю з Мікалаем М., 1932 г. н., Брэст 27.08.2014*, з уласнага архіва аўтара.



на адасабленне баптыстаў ад грамадскага жыцця. Для большасці абшчын была характэрная ізаляцыйнасць. Памяць пра рэпрэсіі і ганенні супраць вернікаў займаеее сёння даволі значнае месца ў сістэме самаідэнтычнасці ЕХБ. У цэрквах часта праводзяцца спецыяльныя сустрэчы, каб ушанаваць памяць пра рэпрэсаваных вернікаў; выступаюць сведкі ганенняў у савецкі час. Актуалізуецца вобраз ганімай рэлігіі, якая, дзякуючы веры, змагла захаваць сваю структуру. Нават у наратывах тых вернікаў, якія не перажылі рэпрэсіі, абавязкова прысутнічае гэты вобраз[27].

Статус ганімай царквы наклаў адбітак і на сацыяльныя практыкі. У прыватнасці гэта праяўляецца ў недаверы да дзяржаўнай улады, а таксама ў ізаляцыянізме і кансерватызме некаторых абшчын і паводзінах вернікаў. Гэта з’яўляецца адной з прычын непаразумення паміж ЕХБ і замінае працэсу іх кансалідацыі. Такія канфлікты часцей за ўсё праяўляюцца паміж пакаленнямі.

З другога боку, менавіта «савецкая спадчына» паўплывала на актуалізацыю такога прынцыпу баптысцкай ідэнтычнасці, як свабода сумлення, або аддзяленне царквы ад дзяржавы[28]. Умяшальніцтва ўлады ва ўнутраныя справы царквы ў канцы 1950-х гг. выклікала пратэст сярод вернікаў. У выніку з’явіўся так званы “ініцыятыўны рух”, прадстаўнікі якога выступілі з крытыкай савецкага рэлігійнага заканадаўства. Менавіта яны распаўсюдзілі ідэю свабоды сумлення сярод шырокага кола грамадства. Апроч таго, “ініцыятыўнікі” прадстаўлялі сабой арганізаваную і найбольш масавую дысідэнцкую плынь у БССР. Варта ўзгадаць, што ў 2002 г., калі прымаўся новы закон “Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях”, то прадстаўнікі пратэстанцкіх накірункаў – ЕХБ, пяцідзясятнікаў, адвентыстаў – гучна выступілі з яго крытыкай[29]. Бо закон ствараў неспрыяльныя для пратэстантаў умовы. Але ён быў прыняты без зменаў, якія прапанавалі вернікі. Зразумела, што ідэя свабоды сумлення не з’яўляецца феноменам савецкага часу, яна мае больш глыбокія карані і прадстаўляе адзін з асноўных крытэрыяў ідэнтычнасці ўсіх

27 *Аўдыёзапіс інтэрв’ю з Мікалаем М., 1932 г.н., Брэст 27.08.2014*, з уласнага архіва аўтара.

28 *Аўдыёзапіс інтэрв’ю з Яўгенам А., 1964 г.н. Ваўкавыск*, Гродзенская вобл. 12.06.2014, з уласнага архіва аўтара

29 *50 тысяч подпісаў за свабоду сумлення*, http://www.charter97.org/be/news/2008/2/26/4225/ (08.12.2015)

баптыстаў свету. Але важна, што ў савецкі перыяд гэты крытэрый не быў знішчаны, і памяць пра яго засталася.

Што датычыцца наступнага складніка формулы ідэнтычнасці – кангрэгацыйнага ўпраўлення, то ўніфікацыя і поўны кантроль з боку дзяржавы ў савецкі час ліквідавалі гэты прынцып. Епіскапальная сістэма, якая была створана ў СССР, працягвае сваё існаванне і зараз, але са шматлікімі дэмакратычнымі зменамі.

У справах, якія не датычыліся асноўных прынцыпаў веравызнання, вернікі ЕХБ маглі і могуць ісці на кампраміс, і нават прыстасоўвацца да зменлівых культурных і палітычных кантэкстаў. Напрыклад, для атрымання рэгістрацыі вернікі Слонімскай абшчыны ЕХБ у лісце да ўпаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў па Гродзенскай вобласці ў 1963 г. пісалі: "*Мы Савецкія грамадзяне, добра ведаем Ленінскія законы нашай краіны, як самыя гуманныя ў свеце, прадаўжальнікам якіх [з'яўляецца] Камуністычная Партыя і Савецкі Урад, на чале з Мікітай Сяргеевічам Хрушчовым барацьбітом за мір ва ўсім свеце*"[30]. Выкарыстанне баптыстамі моўных абаротаў характэрных знешняму асяроддзю садзейнічала наладжванню камунікацыі з ім, каб дасягнуць сваёй мэты, у дадзеным выпадку – атрымання рэгістрацыі.

Такім чынам, галоўнай каштоўнасцю для ЕХБ з'яўляюцца прынцыпы іх веравучэння, дзеля захавання якіх дапушчальна адаптавацца да знешніх умоў. Гэта не канфармізм, а стратэгія далучэння да грамадства, каб сваім прыкладам паводзінаў і евангелізацыяй змяняць яго.

Яшчэ адным з маркераў ідэнтычнасці ЕХБ з'яўляецца талерантнасць, якая звязана з адсутнасцю статуса дзяржаўнай рэлігіі на працягу ўсяго існавання царквы, а таксама шматканфесійнасцю Беларусі.

Што датычыцца беларускай нацыянальнай самасвядомасці, то яна амаль не прадстаўлена ў калектыўнай памяці вернікаў. Гэта абумоўлена ў першую чаргу наднацыянальнасцю хрысціянства, яго агульначалавечымі каштоўнасцямі, а таксама цеснымі сувязямі паміж евангельскімі абшчынамі розных краін. Па-другое, абшчыны баптыстаў і евангельскіх хрысціян узніклі ў Расійскай імперыі,

30 *Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці,* Ф. 1385, воп. 1, спр. 55, арк. 102.



галоўнымі іх цэнтрамі былі Масква і Санкт-Пецярбург, адкуль і транслiраваліся асноўныя прынцыпы сацыяльных і рэлігійных практык. Імкненне некаторых прадстаўнікоў беларускага адраджэння стварыць нацыянальную пратэстанцкую царкву не знайшлі шырокага водгуку. Праблема распаўсюджання нацыяльных ідэй была звязаная і з рэпрэсіямі супраць лідараў цэркваў або выездамі іх за мяжу ў канцы вайны (так, у 1944 г. з Брэста выехаў Лукаш Дзекуць-Малей). Памяць пра дзейнасць вернікаў на беларускай ніве амаль адсутнічае ва ўспамінах. Пра Лукаша Дзекуць-Малея ў Брэсце ўзгадваюць як пра "Луку Николаевича" і толькі ў кантэксце яго рэлігійнай дзейнасці.

Немалаважную ролю ў зніжэнні значэння нацыянальнай беларускай свядомасці адыграла існаванне з 1944 па 1990 гг. Усесаюзнага саюза ЕХБ з цэнтрам у Маскве. У яго склад уваходзілі амаль усе абшчыны ЕХБ усіх савецкіх рэспублік. Саюз меў адзіны Статут і агульныя палажэнні дзейнасці. Службы на тэрыторыі БССР часцей праводзіліся на рускай мове, а на памежжы з Украінай – на ўкраінскай[31].

У савецкі перыяд была спроба стварэння асобнага саюза хрысціян веры евангельскай у БССР. Некаторыя з вернікаў выкарыстоўвалі беларускую мову на малітоўных сходах[32]. Але савецкае кіраўніцтва забараніла стварэнне гэтай рэлігійнай арганізацыі. Што было нядзіўна ва ўмовах барацьбы з нацыянальнымі рухамі ў другой палове 1940-х – 1950-я гг. Таму ідэя асобнай евангельскай царквы ў БССР, якая магла б мець нацыянальныя характарыстыкі, не рэалізавалася.

Такім чынам, менавіта рэлігійны вопыт уплывае на канструяванне ідэнтычнасці вернікаў і стварэнне неразрыўнай жыццёвай гісторыі. Усведамленне сябе часткай царквы напаўняе сэнсам біяграфію ЕХБ. Праз чытанне Бібліі, удзел у службах, евангелізацыю, рэлігійнае выхаванне, традыцыі і абрады рэлігійная ідэнтычнасць падтрымліваецца і паглыбляецца. Пасля хрышчэння вернік не проста атаясамляе сябе з хрысціянамі, але і далучаецца

31 *Транскрыпцыя інтэрв'ю Цырыбко Юліі Андрэеўны, 1929 г.н. 06.08.2012. Града, Жыткавіцкі р-н,* [у:] *Беларускі архіў вуснай гісторыі. 20(1) – 447 – 1214.* http://nashapamiac.org/archive/home

32 *Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь*. Ф. 4п, воп. 62, спр. 68, арк. 254 адв.

да спадкаемцаў раннехрысціянскай царквы. Таму праз рэлігію ЕХБ прэзентуюць сваё жыццё, а таксама тлумачаць шматлікія падзеі.

Пры гэтым перавага рэлігійнай самасвядомасці ЕХБ на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца не толькі вынікам далучэння да царквы, але значнае месца ў самаідэнтыфікацыі займае і вопыт існавання ў атэістычнай дзяржаве. Ізаляцыянізм, ганенні і стварэнне асобнага Саюза ЕХБ уплывала на канструяванне ідэнтычнасці вернікаў. Сёння мы бачым як станоўчыя, так і негатыўныя вынікі гэтага працэсу. Напрыклад, сярод негатыўных – кансерватызм шматлікіх цэркваў ЕХБ, адмова ад актыўнага місіянерства, засяроджванне на дыялогу з Богам. З другога боку, змаганне за свабоду сумлення ў СССР спрыяла актуалізацыі прынцыпа незалежнасці царквы ад дзяржавы. Адной з асноўных задач Царквы ЕХБ у Беларусі ў сувязі з савецкім атэістычным мінулым з'яўляецца фарміраванне сваёй станоўчай рэпрэзентацыі ў публічнай прасторы.

Нацыянальная ідэнтычнасць, якая залежыць ад знешніх умоў, у ЕХБ Беларусі мае невыразны характар. Як і ў пачатку ХХ ст., спробы паглыбіць гісторыю царквы, надаць ёй нацыянальныя беларускія рысы пакуль характэрныя для асобных вернікаў, якія займаюцца вывучэннем гісторыі пратэстанцкага руху ў Беларусі. Нягледзячы на дынамічнасць пратэстантызму ў параўнанні з іншымі хрысціянскімі канфесіямі, пагодзімся з меркаваннем Захара Шыбекі, што "*ні адна з існуючых зараз у Беларусі канфесій, відаць, не можа прэтэндаваць на ролю нацыянальнай*". Спасылаючыся на выказванне Станіслава Акінчыца (Антонія Бокуна, прэсвітара царквы "Ян Прадвеснік"), даследчык працягвае, кажучы, што "*пратэстанты – прагматычныя людзі. Беларускасць іх мала кранае*"[33].

33 З. Шыбека, *Адраджэнне пратэстантызму ў незалежнай Беларусі,* [у:] *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Біблії*, рэд. А. Унучак, Ю. Бачышча, Брэст 2011, с. 197.




## Strzeszczenie

Taciana Kasataja, *Świadomość i tożsamość narodowa ewangelickich chrześcijan baptystów (EChB) w Białorusi: wpływ sowieckiego dziedzictwa*

Na podstawie wywiadów z ewangelickimi chrześcijanami baptystami (EChB), jak również źródeł archiwalnych, autorka spróbuje w artykule prześledzić sposób, w jaki kształtuje się współczesny system tożsamości wierzących. Wg kategorii wewnętrznej dynamiki Kościół EChB razem z pentekostalistami (zielonoświątkowcami) zajmują na dzień dzisiejszy pierwsze miejsca w religijnej strukturze Białorusi. Ewangelizacja, jako jedna z podstawowych zasad nauki wiary EChB, wpływa na aktywne włączanie się wierzących w życie społeczne, dążenie do uzyskania wpływu na społeczeństwo zgodnie z testamentem Chrystusowym. Poza tym, w celu interakcjize światem zewnętrznym, kościół wykorzystuje zrozumiały dla innych język, startegię zachowań, a w niektórych przypadkach dostosowuje się do istniejących warunków. Z drugiej strony ma on zbiorową pamięć historyczną, która również wpływa na praktyki publiczne. W efekcie na budowanie systemu tożsamości wierzących Kościoła EChB wpływ ma kilka czynników. Pierwszym jest autoidentyfikacja z baptystami/chrześcijanami, włączenie się do ogólnej historii Kościoła chrześcijańskiego. Drugim są warunki zewnętrzne, które wpływają na transformację niektórych zasad nauki wiary i wypracowanie interakcji z „innymi". I trzecia składowa, która właściwie wiąże się z dwoma pierwszymi, to doświadczenie historyczne, zbiorowa pamięć wierzących w ogóle lub z konkretnego regionu.

W artykule najwięcej uwagi przykłada się do zbiorowej pamięci religijnej i wpływu sowieckiej przeszłości na nią. Autorka dochodzi do wniosku, że przy dominującej autoidentyfikacji z wierzącymi chrześcijanami, dla ewangelickich chrześcijan baptystów w Białorusi, wybór pomiędzy lub zmieszanie się tradycji „zachodnich" z miejscowym i historycznym kontekstem w teologii i religijnych praktykach, jest aktualny. Idea narodowa, jako czynnik konsolidujący, nie jest im potrzebna,mimoże ze strony wierzących obserwuje się zainteresowanie historią swojego kościoła, pogłębieniem jego tradycji.

**Summary**

**Taciana Kasataja, Consciousness and National Identity of Evangelical Christian Baptists in Belarus the Influence of Soviet Heritage**

On the basis of interviews with Evangelical Christian Baptists (ECHBs), as well as archival sources, the author attempts to investigate how the modern system of religious identity is formed. According to the category of internal dynamics, the Church of ECHBs, along with the Pentecostal Church, are the top two churches in the Belarusian religious structure. Evangelization, as one of the most basic tenets of ECHB faith, influences its faithful to actively take part in social life and attempts to influence society according to the teachings of Christ. Besides this, with the aim of interacting with the outside world, the Church utilizes language which is understandable to others and various behavioural strategies. As well, in some cases, it adapts to existing conditions. On the other hand, it contains a collective historical memory, which also influences its public practices. In effect, the creation of a system of identity for the ECHB Church is influenced by a number of factors. Firstly, auto-identification with Baptists-Christians and integrating itself into the general history of the Christian Church. Secondly, external factors which influence the transformation of certain tenets of learning faith and creating interaction with "others". And thirdly, historical experience, which ties into the first two, and contains a collective memory of the faithful – in general, or from a particular region.

The article mainly focuses on collective religious memory and how it is influenced by the Soviet past. The author concludes that besides the domination of auto-identification with the Christian faithful, for evangelical Christians – Baptists from Belarus – the choice between, or mixing, Western with local tradition, and historical context with theology and religious practices, is still a live issue. A national idea as a consolidating factor is not necessary for ECHBs, despite the fact that amongst the faithful, interest in the history of their church and deepening its traditions, can be observed.



**Andrei Vardomatski**
**(Varsovia/Minsk)**

## Influence of the Ukrainian situation on Belarusian public opinion – the Russian portrayal and the Belarusian discrepancy

In the previous Belarusian Analytical Workroom bulletin, two main suppositions were made regarding this topic: 1) that the Russian media's portrayal of Ukrainian events has dominated Belarusian public opinion; and 2) that the Ukrainian events have shaped public opinion on a wide range of issues, not just the events themselves.

We will attempt to follow and confirm those suppositions using the new, empirical sociological data. We have also discovered and confirmed a phenomenon of "geopolitical infantilism", something formerly absent from the national character.

### The degree of interest in Ukrainian events –from news interest to existential interest

This has remained constantly, uninterruptedly and continuously at the same high level since we started to measure this parameter. There has been a gradual shift from superficial interest to profound interest. During the last poll in September, when asked: "Are you following the events taking place in Ukraine", 67.6% of respondents said they were "closely following the news". Meanwhile, only 26% of respondents opted for "I've heard a few things about it". Graph 1 shows changes in the degree of interest in Ukrainian events, according to data from three nationwide surveys. [The wording of the September survey differed slightly from the wording of the previous two surveys, but we feel that these figures are still comparable.]




**Graph 1**

The fact that Russia's portrayal of the events dominates can be seen through indicators such as attitudes towards the annexation of Crimea, the sanctions and Ukraine's signing of an association agreement with the European Union.

### Attitudes to the annexation of the Crimea – no fluctuation The Belarusian discrepancy – case 1

In our previous Bulletin No.13 we mentioned that, according to the results of a March poll, the majority of Belarusians (65.7%) considered Russia's annexation of the Crimea to be both ethical and legitimate. What had changed by September? We presumed that information from other sources would have begun to take effect—*i.e.* from media without pro-Russian bias, that offer a different interpretation of events—and that



attitudes to the annexation of the Crimea would have shifted towards disapproval. This was not the case, however. The majority were still in support: this time 67.8% of Belarusians felt the annexation of the Crimea was morally acceptable and judicially legitimate. There was no fluctuation in public opinion (see Graph 2). The Russian portrayal still domineers in spite of Minsk's official stance and Lukashenko's speeches.

The difference between Belarusian and Russian public opinion on the annexation of the Crimea is that the majority (two thirds) of Belarusians are in favour, whereas the majority in Russia is overwhelming (91%). Nine out of ten Russians feel that the Crimea should be part of Russia.[1]
Therein lies the Belarusian discrepancy, which makes Belarus so distinct.




**Graph 2**

1 Data from a joint Public Opinion Fund (FOM) and Russian Public Opinion Research Centre (WCIOM) telephone poll held on March 14–16, involving 48 590 respondents – http://wciom.ru/index.php?id=268&uid=114746.

**Attitudes to the protest action in Eastern Ukraine**
**The Belarusian discrepancy – case 2**

Attitudes towards the pro-Russian protest action in Eastern Ukraine are the only thing that Belarusians rated mostly negatively, thus not coinciding with the pro-Russian interpretation.

Full or partial support for "protest action in Eastern and Southern regions of Ukraine" was expressed by 14.4% + 14% respectively, or 28.4% of Belarusian respondents. Meanwhile, 18.8% + 21.1% = 39.9% disagreed fully or partially. This is a rare exception, the nature of which is yet to be explained.

**Unwillingness to support Russia**
**The Belarusian discrepancy – case 3**

It is now patently obvious that Russia is ready to make great sacrifices for what is being termed KrymNash (*"Crimea'sOurs"*). People in Russia are resigned to paying the high price of sanctions in order to continue their expansion. Are Belarusians prepared to sacrifice anything to support Russia? Our data shows no such readiness (see Graph 3).






**Graph 3**

**Geopolitical orientation – a shift towards indecisiveness**

I would say that the main variable in Belarusian geopolitical orientation is an increased number of people with undecided geopolitical preferences. There has been marked growth in the "don't know/hard to say" category. From June to September, the number of undecided plus those who refused to answer rose by almost 5%.

The pro-Russian orientation which, as we noted in our June survey, had stopped increasing, still remains at the same level today. The percentage of pro-Russians is virtually unchanged, and has even dropped slightly, while pro-Europeans have also declined. A predicted drop in pro-Russian feeling and a rise in pro-European sentiment did not occur, while many respondents have moved into the undecided category.

This stalled growth of pro-Russian feeling is probably due to the mass consciousness starting to be influenced by news from other media, not just from Russia. It has led to a “negative adaptation effect”, as people develop the reflex to compare a variety of news sources.




**Graph 4**

## Geopolitical infantilism

Belarusians believe that Russia would never take action against Belarus on a scale similar to its action in Ukraine. To put it simply: Russia will not attack Belarus.






**Graph 5**

Such feelings are increasing, partly owing to a Belarusian national character trait, as well as to Lukashenko’s speeches, and deliberate work by the official media.

## Attitudes to the sanctions

In our question concerning economic and other sanctions imposed on Russia by the West, Belarusians maintained their traditional anti-sanctions stance. When asked: do you or do you not support “sanctions imposed on Russia by the European Union and the USA”, 26.4% + 46.9% = 73.3% of respondents opted for “probably not support” and “do not support at all”, whereas just 2.1% + 7.4% = 9.5% chose “support fully” and “probably support”.

Interestingly, Belarusians' attitudes towards sanctions against Lukashenko are somewhat different: 29,2%+20,3%=49,5% of respondents opted for "probably not support" and "do not support at all" , and 5,5%+11,8%=17,3% chose "support fully" and "probably support" (research from 2011). What is the explanation for this? Does the role played by the Russian media make sanctions against Russia less acceptable to Belarusians than the sanctions against their own country, or do they dislike Lukashenko so much? Which hypothesis is true can only be decided by means of special empirical surveys.

**Attitudes to Ukraine's signing of an association agreement with the European Union**

These are also generally negative. Only 13.1% of Belarusians fully or probably support "the signing of the political part of the association agreement between the European Union and Ukraine". Meanwhile, 53.9% "probably do not support" or "do not support at all" (although many respondents were undecided on this issue – 24.4%). In this context, it is only natural that Belarusians also approve of Belarus joining the Eurasian Economic Community (56.2% in favour, 10.6% against, with the rest undecided) and Ukraine's decision to discontinue its CIS chairmanship (just 13.2% in favour, with 52.3% against).

**Economic mood – improvements on the back of anti-Russian sanctions**

One could say that there was an improvement in people's subjective economic mood assessments in September. The number of those who felt the Belarusian economic situation had improved went up by 5% between June and September.






**Graph 6**

A variety of factors underlie this positive growth, one of the chief ones undoubtedly being the consequences of the Western sanctions against Russia. The sanctions have brought positive effects for Belarus in a surprising, yet natural way. Belarus has become a country which is able to stick "Made in Belarus" labels over "Made in Western Country X" labels, then calmly re-export the goods to Russia.

**Conclusions**

1) *Ukrainian induction*is the main process taking place in Belarusian public opinion. The Ukrainian events have defined the configuration of the mass consciousness on almost all issues, not just Ukrainian ones. Events in Ukraine have influenced public opinion concerning Lukashenko's rating, the economic mood, and geopolitical orientation.

2) Russia's portrayal of Ukrainian events still dominates Belarusian public opinion.
3) There is a paradox: for the main parameters, fluctuating Belarusian attitudes to Ukrainian events are conspicuous by their absence. There have been no shifts or changes of opinion.
4) *The Belarusian discrepancy* is the essential difference between Belarusian and Russian public opinion. The difference is quantitative, not qualitative – there is majority approval in Belarus, but it is not as overwhelming or absolute as in Russia. This was shown in several examples, especially attitudes to the annexation of the Crimea – approval ratings among Belarusians and Russians were 67% and 90% respectively. We have called this phenomenon "the Belarusian discrepancy".
5) *Geopolitical infantilism* has been recorded as a new feature of the Belarusian mass consciousness. Belarusians reject a possible Ukrainian scenario when asked whether Russia might behave in a similar way towards Belarus.



**Streszczenie**

Andrej Wardomacki, *Wpływ sytuacji na Ukrainie na białoruską opinię publiczną – rosyjski obraz i białoruska rozbieżność*

Niniejszy artykuł śledzi dynamikę białoruskiej opinii publicznej wobec wydarzeńna Ukrainie. Badania obejmują okres od grudnia 2013 do dziś, posiłkując się danymiz wcześniejszych badań oraz ostatnimi wynikami z badania Białoruskiej Pracowni Analitycznej przeprowadzonego na Białorusi między 22 sierpnia a 8 września 2014 r. Ogólno krajowa próba obejmowała 1047 respondentów i była reprezentatywna pod względem płci, wieku, wykształcenia, miejsca zamieszkania oraz regionu kraju.

## Скарочаны змест

Андрэй Вардамацкі, *Уплыў сітуацыі на Украіне на беларускую публічную думку – расійскі вобраз і беларуская разнастайнасць*

Дадзены артыкул прасочвае дынаміку беларускай палітычнай думкі адносна здарэнняў на Украіне. Даследаванні ахопліваюць час ад снежня 2013 года да сённяшняга дня, падмацаваныя дадзенымі ранейшых апытанняў, а таксама апошнімі вынікамі анкетавання Беларускай Навуковай Працоўні, праведзенага на Беларусі з 22 жніўня па 8 верасня 2014 года. Даследаванне ў межах усёй Беларусі ахапіла 1047 рэспандэнтаў і было рэпрэзентатыўным адносна полу, ўзросту, адукаванасці, месца пражывання і рэгіёнаў.



**Ігар Кузьмініч**
**(Варшава/Гродна)**

## Клінікі права ў Беларусі: сучасны стан і перспектывы развіцця

Сёння вышэйшыя навучальныя ўстановы пачынаюць рэагаваць на знешнія змены і шукаць адэкватных адказаў на тыя выпрабаванні, якія існуюць у сучасным свеце, успрымаюць новыя формы і метады навучання. Адной з такіх формаў з'яўляюцца клінікі права, ці, інакшай, клінічнае навучанне студэнтаў-юрыстаў. Першай у Беларусі навучальнай клінікай і найстарэйшай сярод існаваўшых да 2013 г. з'яўлялася (да свайго часовага заняпаду ў 2013 г.) клініка Інавацыйнага цэнтра юрыдычнай адукацыі ўстановы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я.Купалы» (ГрДзУ).

У 1998–1999 навучальным годзе пры кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права ГрДзУ была арганізавана першая ў Беларусі навучальная клініка Street Law. Студэнтам юрыдычнага факультэта было прапанавана прайсці факультатыўны курс па выкладанні прававых дысцыплін інтэрактыўнымі метадамі. Сумесна з Гродзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем маладых навукоўцаў «ВІТ» былі распрацаваныя навучальныя і працоўныя праграмы для студэнтаў юрфака і школьнікаў 10–11 класаў. На працягу 30 гадзін практычных заняткаў-трэнінгаў студэнтам перадаваліся тэарэтычныя і практычныя веды і навыкі выкладання асноў права пры дапамозе інтэрактыўных метадаў. Шэраг студэнтаў прайшлі стажыроўкі ў Студэнцкіх клініках юрыдычнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта і Санкт-Пецярбургскага інстытута права. На падставе методык, распрацаваных грамадскім аб'яднаннем «ВІТ», на працягу сакавіка – мая 1999 г. студэнтамі пры ўдзеле выкладчыкаў кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права былі праведзеныя заняткі па канстытуцыйным, грамадзянскім, адміністратыўным і крымінальным праве. Заняткі па асновах права праводзіліся для школьнікаў 10–11 класаў у сярэдніх школах №14 і №16 г. Гродна.

Па стане на пачатак 2016 года, у 11 юрыдычных навучальных установах Беларусі рознай формы ўласнасці дзейнічаюць юрыдычныя і навучальныя клінікі ці адна з іх. Асноўныя клінікі – гэта Вучэбная

лабараторыя "Юрыдычная клініка" Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў, Грамадская юрыдычная прыёмная па аказанні прававой дапамогі маламаёмасным грамадзянам Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Вучэбная лабараторыя "Юрыдычная клініка" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Студэнцкая юрыдычная кансультацыя ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт", Вучэбна-практычная лабараторыя "Юрыдычная клініка" прыватнай установы адукацыі "Беларускі інстытут правазнаўства", Юрыдычная клініка факультэта эканомікі і права ўстановы адукацыі "Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт", вучэбная лабараторыя "Юрыдычная клініка" ўстановы адукацыі "Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна", Вучэбная лабараторыя "Лабараторыя прававога інфармавання" ўстановы адукацыі "Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава", Студэнцкая вучэбна-навуковая лабараторыя "Юрыдычная клініка" установы адукацыі "Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны", Рэгіянальны цэнтр прававой дапамогі ўстановы адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.А. Куляшова", Студэнцкая служба прававой дапамогі ўстановы адукацыі "Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт".

Тэрмін "клініка права" (клінічнае навучанне, юрыдычная клініка права) мае даволі вялікую колькасць значэнняў. Пад клінікай разумеюць структуру, заснаваную на базе юрыдычнага факультэта ці грамадскага аб'яднання; форму навучання студэнтаў-юрыстаў; форму аказання прававых паслуг; асобную праграму юрыдычных факультэтаў; прававую дысцыпліну і нават асаблівы метад навучання студэнтаў-юрыстаў (клінічны метад)[1]. Існаванне вялікай колькасці сэнсаў і значэнняў тэрміна з'яўляецца вынікам нядаўняга ўзнікнення клінікі як з'явы не толькі ў Беларусі, але і ў свеце. Трэба сказаць, што ўсе вышэй пададзеныя значэнні клінікі не супрацьстаўляюцца адно аднаму і не выключаюць існаванне адно аднаго. Хутчэй наадварот, сукупнасць вышэй акрэсленых значэнняў дапаўняе такую з'яву

1 P. Bergman, *Reflections on US Clinical Education*, "International Journal of the Legal Profession", 2003, t.10, nr 1, p. 109-110; J. Giddings, *The first wave of modern clinical legal education the United States, Britain, Canada, and Australia 2011*, [w:] *The global clinical movement: educating lawyers for social justice*, ed. Frank S. Bloch,Oxford, New York 2011, Chapter 1, p. 3-6; інтэрнэт рэсурс: www.encle.org/about-encle/definition-of-a-legal-clinic.



прававога навучання, як клініка права. Для мэтаў нашага артыкула няма неабходнасці ўдакладняць больш дэталёва тэрмін "клініка права", а пад гэтым тэрмінам у дадзеным артыкуле мы будзем разумець складаную і шматгранную з'яву, якая спалучае магчымасці рыхтаваць юрыстаў і вырашаць сацыяльна значныя праблемы грамадства.

Клінікі па сваёй сутнасці неаднародныя і істотна адрозніваюцца адна ад адной. Некаторыя ўстановы гэтыя адрозненні выдзяляюць нават як асобныя прыкметы клінічнага навучання. Разгляд усіх відаў і тыпаў клінік зойме празмерна шмат часу і месца. Гэта прымушае нас спыніцца на разглядзе толькі нейкіх канкрэтных прыкладаў клінік. Не прэтэндуючы на ўсеабдымнасць, паспрабуем выдзеліць у розных клініках нейкія агульныя рысы і на падставе іх вызначыць агульнае і адметнае.

Сутнасць прававой клінікі заключаецца ў тым, што студэнт-юрыст, які ўжо мае базавы запас прававых ведаў і прававога досведу, праходзіць спецыяльны курс прававога навучання праз узаемадзеянне, падчас якога папаўняе свой прафесійны арсенал пэўнымі спосабамі дзейнасці па вырашэнні асобных праблем, існых у грамадстве. Выкарыстоўваючы атрыманыя спосабы дзейнасці, свае прававыя веды, уменні і навыкі, досвед, дапамогу выкладчыкаў права і практыкуючых юрыстаў, падрыхтаваны студэнт апасрэдавана ўдзельнічае ў вырашэнні праблем грамадства на падставе права і законаў. Мэта клінікі – стварыць умовы для фармавання ў студэнта-юрыста практычнага прававога досведу праз арганізацыю яго самастойнай сацыяльна-прававой прафесійнай дзейнасці пад кантролем выкладчыка для вырашэння сацыяльна-значных для грамадства праблем. Клініка выконвае дзве асноўныя функцыі: стварае ўмовы для асаблівага практычнага навучання студэнта-юрыста і ўмовы, дзе студэнт-юрыст на падставе сваіх каштоўнасцей, прафесійных ведаў і навыкаў удзельнічае ў вырашэнні сацыяльна значных праблем грамадства, сацыяльнай групы ці асобы. Такім чынам, абавязкова прысутнічаюць навучальны і сацыяльны кампаненты, якія звязваюць тэарэтычнае і практычнае навучанне студэнтаў-юрыстаў у працэсе фармавання правасвядомасці.

Клініка адначасова з'яўляецца асаблівым спосабам арганізацыі самастойнай працы студэнта-юрыста пад непасрэдным кантролем выкладчыка і іншых студэнтаў-юрыстаў, формай навучання, формай

праходжання практыкі і атрымання прафесійнага досведу. Клініка – гэта асабліві тып узаемадзеяння студэнта-юрыста і выкладчыка, у выніку якога студэнт навучаецца праз практыку вырашэння сацыяльна значных грамадскіх праблем.

Паколькі клініка мае дзве асноўныя сферы дзейнасці – навучальную і сацыяльную, то асаблівасці і адрозненні неабходна шукаць менавіта ў іх.

Першыя пытанні, якія паўстаюць і па-рознаму вырашаюцца практычна кожнай клінікай, – што вывучаць са студэнтамі-юрыстамі ў клініцы і як гэта рабіць.

Так, асабліва на першым этапе ўкаранення клінічнага навучання, як правіла, асноўны ўхіл робіцца на сацыяльны кампанент – аказанне нейкага роду юрыдычных паслуг сацыяльным групам[2]. Працэс навучання студэнтаў альбо ўвогуле не закранаецца, альбо пачынае разглядацца толькі ў выніку іх сутыкнення з аднароднымі праблемамі, якія відавочна неабходна патлумачыць усім студэнтам.

Што тычыцца самога працэсу навучання, то тут няма адзінства ў разуменні таго, які змест неабходна перадаваць у кампаненце прававой падрыхтоўкі студэнта-юрыста. Адны канцэнтруюцца на спосабах дзейнасці, неабходных для таго, каб студэнты-юрысты здольныя былі аказваць паслугі якасна, другія паглыбляюць агульныя прававыя веды і фармуюць практычныя навыкі па ўсім спектры спецыяльна-прафесійнай ці прафесійнай дзейнасці, трэція канцэнтруюцца на засваенні тэарэтычных ведаў, фармуюць практычныя навыкі ў той вузкай галіне (напрыклад, консультаванне насельніцтва, выконванне ролі адваката), на якой спецыялізуецца дадзеная клініка, іншыя канцэнтруюцца на глыбокім вывучэнні заканадаўства нейкай канкрэтнай галіны дзейнасці і г. д.

Істотнай праблемай з'яўляецца пытанне, як, пры дапамозе якіх спосабаў, форм і метадаў рэалізаваць навучальны кампанент у клініках. Дадзенае пытанне становіцца актуальным, паколькі юрысты, як правіла, не маюць спецыяльнай педагагічнай падрыхтоўкі і грунтуюцца на сваім выкладчыцкім досведзе, калі ён ёсць.

2 K. S. Gallant, *Learning from Communities: Lessons from India on Clinical Method and Liberal Education 1999*, [w:] *Educating for Justice around the World : Legal Education, Legal Practice and the Community*, ed. L. G. Trubek and J. Cooper, Ashgate, Dartmouth 1999, p. 222-232.



Выкладчыкі схільныя выкарыстоўваць акадэмічныя формы і метады навучання, якія, часцей за ўсё, у дадзеным выпадку не працуюць ці працуюць неэфектыўна[3].

Другой групай прыкмет, паводле якіх можна знайсці адрозненні ў розных клініках – гэта спосаб аказання сацыяльных паслуг і мэтавая сацыяльная група, на вырашэнне праблем якой накіравана дзейнасць клінікі. Менавіта ад спецыялізацыі юрыста, яго жыццёвага, выкладчыцкага і практычнага юрыдычнага досведу залежыць выбар спосабу і сацыяльнай групы, з якой працуе клініка. Выбар сферы сацыяльна-практычнай дзейнасці, таксама як і ў першым варыянце арганізацыя прававога навучання, можа быць практычна неабмежаваны. Клінікі займаюцца кансультаваннем, складаннем дакументаў, напісаннем праектаў законаў, разборам розных катэгорый спраў у форме гульні, аналізам заканадаўства праз непасрэдную сустрэчу з кліентам ці апасродкавана – праз пошту, інтэрнэт і г. д.

Не меншую разнастайнасць маюць клінікі і ў выбары мэтавых груп: яны працуюць над вырашэннем праблем малазабяспечаных, інвалідаў, адзінокіх маці, зняволеных, мясцовых органаў улады, грамадскіх аб'яднанняў, бежанцаў, замежных грамадзян, асобных рэлігійных ці нацыянальных меншасцей, юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў і г. д. Па галіне права могуць мець крымінальную, грамадзянска-прававую, экалагічную, працэсуальную, адміністратыўную, канстытуцыйную і іншыя спецыялізацыі.

І, нарэшце, трэцяя група прыкмет – гэта форма існавання клінікі. Клінікі адрозніваюцца арганізацыйнай структурай, якая, як правіла, залежыць ад сферы дзейнасці спецыяліста, што яе засноўвае, ступені ўсведамлення неабходнасці ўкаранення клінікі ў працэс акадэмічнага навучання адміністрацыяй, прыкладаў арганізацыі клінікі, убачаных спецыялістам у іншых навучальных установах. Клінікі могуць быць выдзеленыя ў якасці самастойнай структуры (пры кафедры, пры факультэце, пры ўніверсітэце, пры шэрагу навучальных устаноў),

3 І. Р. Кузьмініч, *Акадэмічныя формы і метады фармавання прафесійнай прававой свядомасці студэнтаў–юрыстаў*, "Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы", серыя 4 "Правазнаўства", 2010, № 3, с. 4-11.

існаваць у якасці грамадскага аб’яднання, у якасці курса, спецкурса ці факультатыва ў праграме прававога навучання ўстановы і г. д.

Прычынай шматварыянтнасці клінікі як формы прававога навучання можна назваць яе навізну і нясталасць. Рознаварыянтнасць існуе як спосаб прыстасавання і вынікае з неапрацаванасці, адсутнасці спецыяльнага тэарэтычнага абгрунтавання. Калі дадаць яшчэ адсутнасць апісання практыкі, то гэта прыводзіць да рознай ступені разумення выкладчыкамі сутнасці клінікі. У выніку звяртаецца большая ўвага на вонкавыя формы ці вонкавыя прыкметы клінікі, чым на сутнасць і змест.

Другой прычынай шматварыянтнасці можна назваць наяўнасць кантролю над працэсам практычнай падрыхтоўкі студэнта-юрыста з боку юрыста ці выкладчыка. Гэтая апасродкаванасць дзейнасці студэнта дазваляе яму пад кантролем выконваць спецыяльна-прафесійныя функцыі і не дапускаць юрыдычных памылак. Але спосабы і формы кантролю (як і сферы прафесійнай дзейнасці) могуць быць рознымі.

Трэцяй прычынай з’яўляецца адпаведнасць навучальнай і юрыдычнай клінік патрэбам прафесійнай і спецыяльна-прафесійнай практычнай падрыхтоўкі спецыялістаў амаль ва ўсіх сферах спецыялізацыі юрыстаў. Здольнасць, дзякуючы такой гнуткасці, да падрыхтоўкі спецыяліста фактычна ў любой галіне юрыспрудэнцыі.

Клінікі адрозніваюцца разуменнем навучальнага працэсу, зместам, што перадаецца студэнтам-юрыстам праз розныя формы і метады навучання; формамі дзейнасці, скіраванасцю ў сферы сацыяльнай практыкі; рознымі арганізацыйнымі формамі самой клінікі.

Прапануем у залежнасці ад акрэсленых прыкмет адрозніваць клінікі па віду, тыпу і спосабу арганізацыі. Падзел на розныя віды будзе вынікаць з асаблівасцей арганізацыі працэсу навучання студэнтаў-юрыстаў, падзел на тыпы клінік робіцца ў залежнасці ад асаблівай сацыяльнай дзейнасці, а па спосабу арганізацыі – у залежнасці ад асаблівасцей структурнага афармлення.

Мэта юрыдычнай клінікі Інавацыйнага цэнтра ГрДзУ – стварэнне ўмоваў для актыўнага самастойнага вывучэння і засваення прававой інфармацыі і спосабаў дзейнасці ў вызначанай сферы; развіццё студэнта-юрыста як асобы, яго творчага патэнцыялу,



прававога мыслення і сацыяльнай актыўнасці, спецыяльных якасцей, неабходных для эфектыўнага выканання асобных прафесійных абавязкаў (прыём, кансультаванне, напісанне дакументаў, камунікацыя, самаадукацыя, задаванне пытанняў і г. д.).

Працэс навучання ў юрыдычнай клініцы складаецца з некалькіх этапаў:

1. Навучальная частка (дзе перадаюцца спосабы дзейнасці, прававыя веды і навыкі, неабходныя для дзейнасці студэнтаў-юрыстаў у вырашэнні сацыяльных праблем, на якія накіравана клініка). Студэнты вучацца прымаць кліентаў, размаўляць з імі, здабываць у іх інфармацыю, самастойна працаваць з дакументамі, пісаць прававыя дакументы, знаёмяцца з абавязковым парадкам працы і кансультавання ў клініцы.

2. Сацыяльная частка (дзяжурства ў Грамадскай прыёмнай па прыёме прадстаўнікоў асобных сацыяльных груп у межах абраных галін заканадаўства). Прычым працэс прававога навучання ахоплівае два этапы, кожны з якіх адыгрывае асаблівую і важную ролю ў фармаванні элементаў правасвядомасці студэнтаў-юрыстаў.

Першая частка навучання студэнтаў-юрыстаў заключаецца ў арганізацыі спецыяльнага навучання праз практыку, дзе перадаюцца спосабы дзейнасці, неабходныя падчас прыёму, размовы, падрыхтоўкі да кансультавання, падрыхтоўкі неабходных прававых дакументаў, працы з выкладчыкам-куратарам. Гэтыя спосабы дзеяння ствараюць умовы, у якіх студэнт будзе здольны выкарыстоўваць свае разрозненыя прававыя веды і навыкі, атрыманыя на працягу працэсу навучання па асобных прадметах. Ён як бы лагічна ўвязвае гэтыя прававыя веды праз спробы выкарыстаць іх на практыцы. Студэнты-юрысты навучаюцца, атрымліваючы досвед, рэфлексуючы яго, дапаўняючы тэарэтычнай інфармацыяй і выпрабоўваючы на практыцы.

Пасля сканчэння курса навучання студэнты аб’ядноўваюцца ў пары, усталёўваецца графік дзяжурстваў, робіцца рэклама.

Апасродкаванае кансультаванне адбываецца праз наступныя этапы: 1) першаснае кансультаванне; 2) самастойная праца з заканадаўствам і падрыхтоўка пісьмовага варыянта кансультацыі; 3) праверка пісьмовага варыянта кансультацыі выкладчыкам-куратарам і вызначэнне заўваг; 4) самастойная праца над заўвагамі; 5) канчатковая праверка пісьмовага варыянта кансультацыі

выкладчыкам-куратарам і ўхваленне; 6) прызначэнне сустрэчы з кліентам, адказ на пастаўленыя пытанні.

Першы этап апасродкаванага кансультавання – гэта першасны прыём кліента. Да студэнта, які дзяжурыць у Грамадскай прыёмнай, звяртаецца рэальны кліент. Абавязкам студэнта-юрыста з'яўляецца:

- Праверыць, ці падыходзіць дадзеная асоба пад катэгорыю грамадзян, якім пэўная клініка аказвае юрыдычную дапамогу;
- Папярэдзіць кліента, што кансультацыю праводзіць студэнт-юрыст, а ліцэнзаваны юрыст будзе толькі правяраць правільнасць падрыхтаванай пісьмова кансультацыі;
- Папярэдзіць кліента, што студэнт-юрыст не мае права самастойна даваць кансультацыю і адказ на пытанне можа быць атрыманы толькі праз некалькі дзён (як правіла, ад трох да сямі дзён у залежнасці ад складанасці справы);
- Патлумачыць, па якіх пытаннях клініка можа даваць кансультацыі.

На гэтым этапе адбываецца свабодны расповед кліента і яго апытанне па сутнасці справы, удакладненне таго, чаго хоча кліент ад нас (напісаць заяву, атрымаць тлумачэнні, інфармацыю аб спосабах вырашэння канфлікту і інш.).

Мэта першаснага прыёму – акрэсліць праблему прававога характару і высветліць, якую дапамогу кліент хоча атрымаць ад клінікі, што клініка павінна зрабіць для таго, каб дапамагчы яе вырашыць.

Другі этап апасродкаванага кансультавання – самастойная праца з заканадаўствам і падрыхтоўка пісьмовага варыянта кансультацыі. Мэта – даць магчымасць студэнту-юрысту выкарыстаць свой досвед і атрыманыя ў час прававога навучання веды і навыкі для вырашэння канкрэтнай праблемы. Пісьмовы варыянт кансультацыі неабходны, па-першае, каб навучыць структураваць свае думкі і выкладаць іх на паперы, па-другое, каб выкладчык-куратар меў магчымасць працаваць з матэрыялам падчас праверкі і, па-трэцяе, каб абараніць студэнта-юрыста. Сам студэнт не можа даваць кансультацый, таму кансультацыя з'яўляецца апасродкаванай (фактычна яе дае выкладчык-куратар, а не студэнт).

Трэці этап апасродкаванага кансультавання – гэта праверка пісьмовага варыянта кансультацыі выкладчыкам-куратарам і вызначэнне заўваг. Мэта – праверыць, ці мае праблема юрыдычны



характар; ці студэнт-юрыст атрымаў усю інфармацыю, каб мець магчымасць прапаноўваць рашэнне; наколькі правільна прапануецца вырашыць дадзеную праблему на падставе заканадаўства; наколькі правільна складзеныя прававыя дакументы па дадзенай справе. Гэты этап з'яўляецца, на нашу думку, ключавым. У час праверкі пісьмовага адказу выкладчык павінны не проста адзначыць, што студэнт-юрыст зрабіў правільна, а дзе памыліўся. На гэтым этапе выкладчык павінны стварыць умовы для таго, каб студэнт-юрыст прааналізаваў і ацаніў сваю дзейнасць і атрыманыя вынікі (правёў рэфлексію), самастойна вызначыў станоўчае і тое, што неабходна скарэктаваць ці выправіць. У выніку студэнт павінны прааналізаваць свае адчуванні, спосабы, шляхі мыслення, што прывялі яго да такога рашэння, і канкрэтную паслядоўнасць дзеянняў.

Чацвёрты этап апасродкаванага кансультавання – самастойная праца над заўвагамі. Выкладчык-куратар не павінны наўпрост падказваць, што трэба зрабіць, як выправіць. Лепшым выйсцем было б накіроўваць студэнта на самастойнае вырашэнне праблемы, хаця на практыцы існуе небяспека, што выкладчык-куратар самастойна зробіць ацэнку працы студэнта-юрыста. Мэта – студэнт павінен выправіць недахопы самастойна, грунтуючыся на тых спосабах дзейнасці, мыслення і ацэнках, якія былі сфармуляваны падчас рэфлексіі з выкладчыкам-куратарам.

Пяты этап апасродкаванага кансультавання – гэта канчатковая праверка і ўхваленне пісьмовага варыянта кансультацыі выкладчыкам-куратарам. Мэта – пазбегнуць памылак прававога характару і абараніць студэнта-юрыста.

Шосты этап апасродкаванага кансультавання – прызначэнне сустрэчы з кліентам і тлумачэнне сутнасці пастаўленых пытанняў. Мэта – растлумачыць прававы матэрыял, які тычыцца прадстаўленых праблем.

Адзін раз на тыдзень варта рабіць агульны сход усіх студэнтаў-юрыстаў, што займаюцца ў клініцы, і абмяркоўваць справы, якія ў іх у вытворчасці, праблемы і цяжкасці (са справамі і кліентамі), шляхі іх вырашэння. Мэта – навучанне праз абмен досведам і ўзаемадзеянне, а таксама абмен інфармацыяй пра справы, якімі займаюцца студэнты.

Важным момантам з'яўляецца сумеснае правядзенне святаў і інш., бо ў клінічным навучанні менавіта гэта з'яўляецца

адным са стымулаў працы студэнтаў. Акрамя таго, атмасфера, самі адносіны ў клініцы ўплываюць на фармаванне правасвядомасці і прававой культуры.

Для арганізацыі і правядзення як мінімум навучальнай часткі патрэбны выкладчык, які валодае інавацыйнымі формамі і метадамі прававога навучання, без чаго сам працэс навучання можа не атрымацца. Як паказала практыка, адной з прычын згортвання праграм клінічнага навучання з'яўляецца адсутнасць выкладчыкаў, здольных праводзіць заняткі са студэнтамі-юрыстамі інтэрактыўнымі метадамі. Але для працы ў юрыдычнай клініцы абавязкова патрэбны так званы выкладчык-куратар, якім можа быць толькі практыкуючы юрыст з ліцэнзіяй на права аказання юрыдычных паслуг і спецыяльнай метадычнай падрыхтоўкай.

Ідэальным варыянтам было б спалучэнне і выкладчыцкіх, і практычных прафесійных здольнасцей, удзел і ў навучанні, і ў кансультаванні адной асобы. Разам з тым, як правіла, практыкуючыя юрысты альбо не маюць ахвоты да навучання студэнтаў, альбо не маюць дастатковых уменняў і навыкаў (не ўмеюць гэтага рабіць увогуле, паколькі з'яўляюцца практыкамі), альбо не маюць часу, бо занятыя на асноўнай працы.

У розных клініках набіраюць студэнтаў розных курсаў. Кожная клініка мае на гэта сваё абгрунтаванне. У юрыдычнай клініцы Інавацыйнага цэнтра навучаліся студэнты-юрысты з чацвёртага курса пяцігадовай праграмы навучання. Прычына набору студэнтаў дадзенай групы простая. За тры першыя навучальныя гады студэнт-юрыст атрымлівае асноўныя прававыя веды, на чацвёрты і пяты гады прыпадае навучанне па спецыялізацыі. Чацвёрты курс з'яўляецца ідэальным для працы ў клініцы, паколькі не патрабуе правядзення са студэнтамі тэарэтычных заняткаў, акрамя разгляду спецыфічных тэм, якія не выкладаліся падчас папярэдняга прававога навучання.

У працэсе навучання студэнтаў-юрыстаў юрыдычнай клінікі, падобна да навучання ў навучальнай клініцы, выкарыстоўваюцца актыўныя і інтэрактыўныя метады, якія базуюцца на практычнай дзейнасці і абмене досведам. Асаблівасцю гэтых метадаў з'яўляецца тое, што пры іх дапамозе найбольш проста арганізоўваць навучанне праз атрыманне досведу і заснаванага на рэфлексіі.



Праблемай таксама, як і ў выпадку з навучальнай клінікай, з'яўляецца адсутнасць часу, неабходнага для арганізацыі навучання. Інавацыйныя формы адрозніваюцца тым, што студэнты атрымліваюць веды не толькі на занятках, але ўвесь час актыўнага ўдзелу ў працы клінікі. Навучанне залежыць ад тыпу ўзаемадачыненняў унутры клінікі. Гэта азначае, што праблемным з'яўляецца ўлік часу, патрачанага студэнтам, выкладчыкам і выкладчыкам-куратарам.

Сёння прапануецца цэлы шэраг вызначэнняў клінікі ці клінічнага юрыдычнага навучання. Розныя даследчыкі асаблівую ўвагу надаюць розным характэрным элементам клінічнага навучання. Але прыкметамі, якія нязменна называюцца даследчыкамі, з'яўляюцца ўзаемазвязаныя сацыяльны і навучальны аспекты дзейнасці клінікі[4]. Гэта азначае, што аўтары згодныя з тым, што клініка вырашае пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай прафесійных юрыстаў з адначасовым вырашэннем нейкіх сацыяльных праблем грамадства. Паспрабуем далей разглядаць клініку толькі праз прызму гэтых двух кампанентаў (навучальнага і сацыяльнага), не закранаючы іншых істотных прыкмет. Паспрабуем прасачыць праз прызму гэтых двух аспектаў дзейнасці клінікі права яе дасягненні і магчымыя шляхі развіцця.

Сярод найбольш істотных дасягненняў дзейнасці клінікі за апошнія 10 год можна назваць: а) укараненне клінік у працэс навучання студэнтаў-юрыстаў і іх інстытуцыянальнае замацаванне ў ВНУ; б) пашырэнне інфармацыі аб клініках. Гэта значыць, што клінікі сталі пазнавальнымі не толькі ў вузкім коле энтузіястаў-клініцыстаў, але і ва ўстановах адукацыі, а ў населеных пунктах, дзе дзейнічаюць клінікі, паступова яны робяцца вядомымі ў асяроддзі сацыяльных груп, якім аказваецца прававая дапамога.

У выніку клінікі выйшлі на ўзровень працы, які абмяжоўваецца ўнутранымі і знешнімі межамі дзейнасці. Унутраныя межы ўсталёўваюцца, з аднаго боку, колькасцю студэнтаў-клініцыстаў, жадаючых і здольных працаваць у клініках, а з другога боку – колькасцю кліентаў, якія звяртаюцца ў клініку. Знешнія межы вызначаюцца дзеючым заканадаўствам і інтарэсамі ўстаноў

4 P. Bergman, *Reflection son US clinical education,* "International Journal of th elegal Profession", 2003, vol. 10, nr 1, p.109.

і структур, якія функцыянуюць у сферы дзейнасці клінік, напрыклад, адвакатуры.

З нашага пункту гледжання, становішча сучасных клінік можна назваць мяккай стагнацыяй. Клінікі ўтвораныя і прызнаныя вядучымі ВНУ, якія рыхтуюць спецыялістаў права, праводзяць дзейнасць, але фактычна не развіваюцца ні ў навучальнай, ні ў сацыяльнай сферах. Гэта азначае, што створаныя структурныя падраздзяленні пры юрыдычных факультэтах, ёсць падрыхтаваныя выкладчыкі і куратары, за час дзейнасці клінік назапашаны практычны досвед арганізацыі навучання і кансультавання ў клініках, напрацавана нейкая мінімальная колькасць метадычнага матэрыялу, неабходнага для падрыхтоўкі студэнтаў-клініцыстаў. Нават сёння частка клінік існуе дзякуючы намаганням і асабістай зацікаўленасці асобных выкладчыкаў і найбольш паспяховых і актыўных студэнтаў.

Праблема сучаснага стану клінік права, з нашага пункту гледжання, заключаецца ў тым, што сённяшнія клінікі **не граюць істотную ролю як ў навучальнай, так і сацыяльнай сферах**. Колькасць студэнтаў, якія праходзяць клінічнае навучанне, з’яўляецца мінімальнай у параўнанні з агульнай колькасцю студэнтаў-юрыстаў, таму гэта фактычна ператвараецца ў асаблівае элітарнае навучанне абраных добраахвотнікаў. У сферы прафесійнай падрыхтоўкі юрыстаў клініка права робіць акцэнт на развіццё менавіта клінічнага навучання, і мала працуе на знешняе асяроддзе, якім з’яўляецца ўвесь працэс навучання і выхавання будучых юрыстаў. Падобная дзейнасць магла б праяўляцца ў перадачы прынцыпаў арганізацыі працэсу навучання і ўкаранення гэтых прынцыпаў пры выкладанні, напрыклад, галіновых дысцыплін і нават блоку тэарэтычных і гістарычных прававых дысцыплін. Акрамя таго, ва ўкараненні інавацыйных метадаў навучання ў выкладанне прававых дысцыплін, укараненні асаблівых спосабаў арганізацыі ўзаемадзеяння выкладчыка і студэнта-юрыста, якія вядуць да больш эфектыўнага засваення прававой інфармацыі і г. д.

Колькасная абмежаванасць студэнтаў, якія ўдзельнічаюць у клінічным навучанні, і замкнёнасць клінікі ў сваёй сферы не дазваляюць клінікам права граць істотную ролю ў працэсе падрыхтоўкі студэнтаў-юрыстаў.



У сацыяльнай сферы дзейнасці клінікі ў дзяржаве існуюць рэсурсы і структуры, якія займаюцца вырашэннем сацыяльных пытанняў тых груп малазабяспечаных, якімі, як правіла, займаюцца клінікі (напрыклад, адвакатура, органы сацыяльнага забеспячэння). Прычым заканадаўства акрэслівае кола структур, якія здольныя вырашаць праблемы дадзенай катэгорыі насельніцтва, і абмяжоўвае магчымасці клінік. Больш за тое, колькасць малазабяспечаных, якія атрымліваюць дапамогу ў клініках, абмежавана тэрыторыяй буйных гарадоў, не распаўсюджваецца на перыферыю (у раённыя цэнтры, пасёлкі і вёскі) і не сувымерная з колькасцю тых, хто звяртаецца па дапамогу ў адвакатуру ці іншыя ўстановы, створаныя дзяржавай. З фармальнага пункту гледжання дзеючага заканадаўства, структуры і механізмы вырашэння пытанняў гэтых сацыяльных груп існуюць, і нават поўная адсутнасць клінік будзе амаль незаўважаная для тых сацыяльных катэгорый, з якімі клінікі права працуюць сёння.

Іншымі словамі, у сацыяльнай сферы роля клінікі не з’яўляецца істотнай для дзяржавы, грамадства і нават асаблівых сацыяльных груп насельніцтва, з якімі сёння працуюць клінікі.

Такім чынам, адной з асноўных праблем клінічнага навучання, вылучаных праз прызму сацыяльнага і навучальнага кампанентаў, з’яўляецца фактычная адсутнасць істотнай ролі клінікі ў вырашэнні як сацыяльных, так і навучальных праблем.

Выхад з гэтай сітуацыі бачыцца ў пераасэнсаванні ролі і значэння клінікі ў сацыяльнай і навучальнай сферах. Менавіта ў іх (ці хаця б у адной з іх) клініка павінна заняць асаблівае месца, пачаць выконваць асаблівую ролю, з аднаго боку, важную для развіцця навучання, а з другога – для вырашэння сацыяльных праблем. Разгледзім некалькі магчымых стратэгій развіцця клінікі ў навучальнай і сацыяльнай сферах.

Навучальная сфера:

1) Павялічыць колькасць студэнтаў, якія праходзяць клінічнае навучанне, напрыклад, праз наданне клінічнаму навучанню статусу абавязковага прадмета, напрыклад, з афармленнем вынікаў дзейнасці ў якасці абавязковай практыкі для ўсіх студэнтаў-юрыстаў. Такім чынам, клініка права спрычыніцца да павышэння якасці выпускнікоў юрыдычных ВНУ, але ў значнай ступені фармалізуецца.

2) Застацца элітарнай дысцыплінай, але паставіць дакладную мэту – рыхтаваць не проста юрыстаў-прафесіяналаў з большым практычным досведам прафесійнай дзейнасці, а творчых асоб, “агентаў трансфармацыі прававой сістэмы”, якія здольныя былі б у будучыні рэфармаваць прававую сістэму, усведамляючы ўвесь комплекс знешніх і ўнутраных фактараў. У гэтым выпадку клініка права і далей будзе дзейнічаць у гэтым рэчышчы, але падчас падрыхтоўкі клініцыстаў павінна будзе ўспрыняць і рэалізаваць новыя, акрэсленыя вышэй мэты.

3) Адкрывацца іншым галінам прафесійнага навучання юрыстаў з мэтай прыўносіць спосабы арганізацыі дзейнасці і прынцыпы клінічнага навучання і такім чынам павышаць агульную якасць падрыхтоўкі юрыстаў. У гэтым выпадку клінікі права будуць трансфармавацца ў своеасаблівыя асяродкі новаўвядзенняў у працэс прафесійнай падрыхтоўкі юрыстаў і цэнтраў рэфармавання юрыдычнай адукацыі.

Сацыяльная сфера:

1) Пашырэнне законнай сферы дзейнасці клінік права. Падобнае пашырэнне можна здзейсніць у выніку вылучэння асобнай законнай сферы дзейнасці праз размежаванне інтарэсаў клінік і адвакатуры на падставе закона. Рэалізаваць гэта магчыма, напрыклад, праз размежаванне паняццяў “юрыдычная дапамога”, якая б засталася сферай інтарэсаў і дзейнасці адвакатаў, і “прававая дапамога”, – сфера дзейнасці клінік, грамадскіх аб’яднанняў, якія абараняюць інтарэсы грамадзян і іншых інстытутаў грамадзянскай супольнасці. У выніку клінікі права атрымалі б самастойную нішу для дзейнасці ў сацыяльнай сферы.

2) Перанос дзейнасці на тэрыторыі, дзе прафесійная дапамога патрэбная ў большай ступені, чым у вялікіх абласных цэнтрах, дзе знаходзяцца і дзейнічаюць клінікі сёння (напрыклад, пры дапамозе праграм, падобных да дыстанцыйнай прававой дапамогі). Гэта значыць, у раённыя цэнтры і сельскія раёны Беларусі. У гэтым выпадку клінікі здольныя былі б аказваць прававую дапамогу прынцыпова іншай колькасці асобных сацыяльных груп насельніцтва.




**Streszczenie**

Ihar Kuźminicz, *Kliniki prawa w Białorusi: obecny stan i perspektywy rozwoju*

Artykuł poświęcony jest nowatorskim metodom nauczania studentów prawa, jakimi są kliniki prawa czy inaczej nauczanie kliniczne. Pierwszą na Białorusi naukową kliniką była klinika Innowacyjnego Centrum Nauki Prawa instytucji edukacyjnej „Państwowy Uniwersytet Grodzieński im. J. Kupały”, stworzona w roku akademickim 1998 – 1999. Na dzień dzisiejszy na terytorium Białorusi funkcjonuje 11 różniących się formą klinik, głównie w instytucjach edukacyjnych w Mińsku. Na przykładzie opisania procesu nauczania i okazania pomocy społecznej sformułowanego w Innowacyjnym Centrum Nauki Prawaautor rozpatruje główne sfery działalności podobnych struktur.

Praktyczna działalność grodzieńskiej kliniki prawa na przestrzeni niemal 14 lat funkcjonowania przejawiła się następująco:

A) zakorzenienie klinik w proces nauczania studentów prawa i ich instytucjonalizacja w szkołach wyższych;

B) propagowanie informacji o klinikach.

Oznacza to, że kliniki stały się rozpoznawalne nie tylko w wąskim kręgu entuzjastów – klinicystów, ale i w instytucjach edukacyjnych, przez studentów prawa, oraz w miejscowościach, w których działają, a szczególnie w środowisku grup społecznych, którym okazywana jest pomoc prawna.

Problem obecnego stanu klinik prawa, z punktu widzenia autora, leży w tym, że współczesne kliniki nie odgrywają istotnej roli zarówno w sferze edukacyjnej, jak i społecznej. Wyjście z tej sytuacji upatruje w przewartościowaniu roli i znaczenia kliniki w sferze edukacyjnej i społecznej. Właśnie w tych przestrzeniach klinika powinna zająć szczególne miejsce, powinna zacząć pełnić szczególną rolę, z jednej strony ważną dla rozwoju nauki, a z drugiej dla rozwiązania problemów społecznych.

**Summary**

Ihar Kuzminich, *Legal Clinics in Belarus: Current Status and Perspectives for Development*

The article is dedicated to innovative methods of teaching law to students, especially legal information clinics, or other types of clinical teaching. The first legal clinic (street law clinic) in Belarus was created at the Innovative Centre for Legal Education under the auspices of the Yanka Kupala State University of Grodno in the 1998-99 academic year. Currently there over eleven different types of legal clinics functioning on the territory of Belarus, mainly at educational institutions in Minsk and regional centers. On the basis of the teaching process and providing social aid, formulated at the Innovative Centre for Teaching Law, the author examines the main areas of activity of similar institutions.

Today, there is no common understanding of what are the clinics of law and what role they are to play. The author proposes to focus attention on the space of two main areas of legal clinics:

A) Education (legal clinics as an effective form of teaching law students);

B) The activity of clinics in the social sphere (for example, consultation)

This signifies that legal information clinics are not only recognized by a small number of enthusiasts-clinicians, but also in educational institutions, by law students, as well in areas where they operate, and especially among social groups that receive legal aid.

In the opinion of the author, the problem surrounding the current state of legal clinics lies in the fact that modern clinics do not play a significant role either in the educational or social sphere. The author believes that the answer to this problem lies in revaluating the role and meaning of legal clinics in educational and social spheres. It is precisely in these areas that legal clinics should play a meaningful role. They should have, on the one hand, special role in the process of development of legal knowledge and, on the other, special role in assisting of resolving social problems.



## Sprawozdania z działalności „Centrum Studiów Białoruskich” za 2015 rok

Pierwsze spotkanie organizacyjne, które dotyczyło powołania „Centrum Studiów Białoruskich” odbyło się w dniach **19-20/X.2015 r.** W spotkaniu udział wzięli:

- dyr. Jan Malicki
- doc. dr Wiktor Ross
- dr Andrej Charniakevich,
- mgr Tatsiana Kasataya,
- dr hab. Aliaksandr Kraucevich,
- mgr Ihar Kuzminich,
- dr Henadź Sahanovich,
- dr Inna Sorkina,
- dr Henadź Semianchuk,
- dr hab. Aliaksandr Smalianchuk,
- prof. dr hab. Viachaslau Shved,
- dr hab Sviatlana Kul–Sialvestrava,
- dr hab. Andrei Vardomatski

Podczas spotkań zapadły wstępne ustalenia dotyczące zadań, systemu pracy, spraw formalnych związanych z zatrudnieniem kadry stanowiącej CSB oraz wyborem jego kierownika.

W dniu 20/X został wybrany redaktor główny, oraz redaktor pomocniczy Rocznika CSB (funkcja ta będzie się zmieniała cyklicznie, jej zadaniem będzie wsparcie redaktora głównego). Na redaktora wybrany został dr Hienadź Semianchuk. Na pierwszą redaktor pomocniczą wybrano mgr Tatsiana Kasataya.

W dn. 20/X przeprowadzono również głosowanie tajne, mające na celu wyłonienie Kierownika CSB. Jednomyślnie na stanowisko Kierownika CSB został wybrany dr hab Aliaksandr Kraucewicz, który nie brał udziału w głosowaniu.

****

Kolejnym przejawem aktywności Centrum było otwarcie CSB oraz pierwsze prelekcje jej uczestników. Wydarzenie to odbyło się **14.XI.2015 r.** Podczas otwarcia odbyła się prezentacja kadry CSB, zawierającej m.in. przybliżenie dorobku naukowego i działalności publicznej osób stanowiących kadrę naukową nowo powołanego organizmu.

Podczas konferencji otwierającej CSB zaprezentowano następujące referaty,:

- A. Charniakevich – *Państwo polskie w ideologii białoruskich partii politycznych i ugrupowań w II RP w latach 1918-1928.*
- T. Kasataya – *Samoidentyfikacja Ewangelicznych Chrześcijan Baptystów (EChB) na Białorusi na podstawie ustnych wspomnień: wpływ radzieckiej przeszłości.*
- A. Kraucewicz – *Kluczowe problemy w wykładaniu historii Białorusi*
- S. Kul-Sialvestrava – *Problem państwowości Białorusi w ideologii lićwińskiej, zachodnioruskiej i krajowej*
- V. Szwed – *Przejawy „lićwińskości" w politycznym życiu Białorusi w I ćwierćwieczu XIX w. – geneza i funkcja*
- H. Sahanovich – *"Konstruowanie oficjalnej wykładni historii BSSR i jej funkcje"*
- H. Semianchuk – *Początki państwowotwórczych procesów na ziemiach białoruskich w IX – początku XI w.*
- I. Sorkina – *Miasteczka Białorusi jako fenomen pogranicza narodów, kultur i religii.*
- A. Vardamatski – *Impact of Russian media*

****

W dn. **27-29/XI.2015 r.** kadra naukowa Centrum wzięła udział w Zjeździe Stypendystów Programu im. K. Kalinowskiego w Białowieży. Podczas tego wydarzenia członkowie CSB zorganizowali 3 panele dyskusyjne. Tematy, które były poruszane podczas paneli to:

1. *Tradycje białoruskiej państwowości*
moderator: A. Kraucevich, współprowadzący: S. Kul-Sialvestrava, I. Kuzminich, H. Sahanovich;

2. *Miasto „second-hand" (spuścizna radziecka w kulturze miejskiej na przykładzie Grodna)*
moderator: V. Shved, współprowadzący: T. Kasataya, I. Sorkina

3. *S. Alekseyevich – pierwsza noblistka Białorusi*
moderator: H. Semianchuk, współprowadzący: I. Cherniakevich, I. Kuzminich



****

Ostatnim elementem, który *de facto* nakreśla kierunki, w których może rozwijać się działalność Centrum jest lista zaniedbanych przez białoruską naukę tematów. Spis ten został utworzony wspólnymi siłami członków CSB:

I. Pamięć historyczna. Doświadczenie białoruskie (A. Smalianchuk);
II. Koncepcja krajowa w dobie nacjonalizmów (A. Smalianchuk);
III. Kultura Białorusi XIX – XX wieku (S. Kul-Sialvestrava);
IV. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego poł. XIII – XVI w. (A. Kraucewicz);
V. Różne aspekty problemu „Miasto i jego mieszkańcy"(I. Sorkina), w tym:

- samorząd miejski na Białorusi w okresie zaborów;
- zjawisko wielokulturowości miast i miasteczek na Białorusi;

VI. Relacje polsko-białoruskie na różnych etapach historycznych (V. Shved);
VII. Historia codzienności (V. Shved);
VIII. Historia wojskowości (przede wszystkim I i II wojny światowe) (V. Shved);
IX. Dawna Białoruś w geopolitycznym systemie Europy Środkowo-Wschodniej i Skandynawii w IX-XIII wiekach (H. Semianchuk);
X. Etniczna historia Białorusinów (od kromańjęca do człowieka współczesnego) (H. Semianchuk);
XI. Unia polsko-litewskie 1386 r. i 1569 r. wraz z cerkiewną 1596 r. jako węzłowe punkty rozwoju historycznego naszej części Europy Wschodniej oraz ich recepcję w społeczeństwie białoruskim (H. Sahanovich);
XII. Historia białoruskiej administracji państwowej (I. Kuzminich);
XIII. Historia białoruskiego parlamentaryzmu (I. Kuzminich);
XIV. Koncepcie prawne i polityczne w Białorusi w XX w. i na początku XXI w. (I. Kuzminich);
XV. Białoruski ruch narodowy w XX wieku (A. Charniakiewich).

**Maciej Wilczyński**